# ПОЛЫМЯ
# РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ і КРЫТЫКІ



**12**



1 9 3 8



# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДВАНАЦЦАТАЯ*





МЕНСК—1938



*„У рэзультаце пройдзенага шляху барацьбы і лішэнняў прыемна і радасна мець сваю Канстытуцыю, якая трактуе аб пладах нашых перамог. Прыемна і радасна ведаць, за што біліся нашы людзі і як яны дабіліся сусветна-гістарычнай перамогі. Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарэмна, што яна дала свае рэзультаты. Гэта ўзбройвае духоўна наш рабочы клас, наша сялянства, нашу працоўную інтэлігенцыю. Гэта рухае наперад і ўзнімае пачуццё законнай гордасці. Гэта ўмацоўвае веру ў свае сілы і мабілізуе на новую барацьбу для заваявання новых перамог комунізма“* **(І. Сталін)**.

# КАНСТЫТУЦЫЯ ПЕРАМОГШАГА СОЦЫЯЛІЗМА

Надзвычайны VIII з'езд Саветаў СССР 5 снежня 1936 года зацвердзіў праект новай Канстытуцыі СССР. Гэта быў велічны дзяржаўны акт, вызначыўшы палітычны паварот у жыцці краіны Саветаў і яе 170-мільёнкага народа.

Да гэтага палітычнага акта рыхтаваўся ўвесь народ нашай неабдымнай краіны. Пяць месяцаў рускія і украінцы, беларусы і грузіны, казахі і кіргізы, армяне і азербайджанцы, узбекі і таджыкі, туркмены і башкіры, татары і яўрэі—усе шэсцьдзесят нацый, нацыянальных груп і народнасцей абмяркоўвалі праект Канстытуцыі, уносілі папраўкі, дадаткі.

Пасланцы народа, дэлегаты з'езда сустрэлі тварца Канстытуцыі, правадыра сусветнага комунізма, любімца і друга народаў—таварыша Сталіна дэманстрацыяй адданасці і любві совецкага народа да комуністычнай партыі, да таварыша Сталіна, да совецкага ўрада.

„Няхай жыве таварыш Сталін! Вялікаму генію таварышу Сталіну ура! Віват! Рот фронт! Няхай жыве тварэц новай Канстытуцыі, таварыш Сталін! Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя!"—неслася з тысяч грудзей дэлегатаў з'езда і мільёнаў совецкага народа.

Праект Сталінскай Канстытуцыі быў зацверджан з'ездам аднадушна. Нідзе ў свеце сярод капіталістычных краін не было і не будзе выпадкаў, каб падобныя акты дзяржаўнай важнасці былі адобраны ўсім народам. Толькі ў нас, дзе партыя і яе кіраўнікі, совецкі ўрад жывуць кроўнымі справамі народа, існуе сапраўднае адзінства правадыроў і народа. І гэта ўпэўнена гучала ў словах таварыша Сталіна, калі ён гаварыў на VIII з'ездзе, што „маючы на ўвазе рэзультаты ўсенароднага абгаварэння, якое працягвалася амаль 5 месяцаў, можна меркаваць, што праект Канстытуцыі будзе адобран гэтым з'ездам".

Новая Сталінская Канстытуцыя СССР—гэта дакумент, роўнага якому да гэтага часу не ведала чалавецтва ўсіх эпох і пакаленняў. На зары сваёй маладосці, калі капіталізм прышоў да ўлады, калі перыяд яго гніення, перыяд імперыялізма быў яшчэ наперадзе, чалавецтва бачыла два вялікія дакументы свае эпохі:

„Дэкларацыю незалежнасці ЗША" (1776 г.) і „Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна", якая з'явілася ў свет у выніку рэволюцыі 1789 года ў Францыі.

Гэтыя дэкларацыі абвяшчалі „свабоду, роўнасць і братэрства". Але-ж гэтыя словы наскрозь былі ілжывыя і супярэчлівыя, як іл-

жывым, прадажным і супярэчлівым з'яўляецца ўвесь капіталістычны лад ад яго пачатку і да канца. Якая можа быць роўнасць, калі кучка капіталістаў і памешчыкаў заставаліся ўладарамі ўсяго багацця.

На справе капіталістычная „свабода" азначала тое, што пролетарый, батрак, селянін-бядняк, інтэлігент вымушаны былі прадаваць сваю працу капіталісту і памешчыку. „Роўнасць" азначала толькі фармальную роўнасць, а „братэрства"—саюз капіталістаў і памешчыкаў для эксплаатацыі працоўных мас. Калі раней рабы былі прыкаваны да пана свайго ланцугамі, дык цяпер капіталістычны лад прыкоўваў да сябе „свабоднага" рабочага і іншага работніка нябачанымі ніцямі.

Толькі Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя ў Расіі назаўсёды знішчыла капіталістычны лад, перадала ўладу ў рукі рабочага класа. І ў „Дэкларацыі правоў працоўнага і эксплаатуемага народа", напісанай Уладзімірам Ільічом Леніным і зацверджанай III Усерасійскім з'ездам Советаў (11 студзеня па стар. стылю 1918 г.), Расія абвяшчалася рэспублікай Советаў на аснове „свабоднага саюза свабодных нацый, як федэрацыя совецкіх нацыянальных рэспублік".

Дэкларацыяй была пастаўлена асноўная задача: „знішчэнне ўсякай эксплаатацыі чалавека чалавекам, поўнае знішчэнне дзялення грамадства на класы, бязлітаснае падаўленне супраціўлення эксплаататараў, устанаўленне соцыялістычнай арганізацыі грамадства і перамогі соцыялізма ва ўсіх краінах".

Маладая, квітнеючая совецкая краіна існуе ўжо 22-гі год. Інакшай стала наша прамысловасць, сельская гаспадарка, інакшымі сталі ў нас адносіны паміж людзьмі. Дзве сталінскія соцыялістычныя пяцігодкі ператварылі нашу радзіму. Капіталізм выгнан зусім з нашай прамысловасці, сельская гаспадарка з акіяна дробных аднаасобных гаспадарак з прымітыўнай тэхнікай і панаваннем кулака ператворана ў самую буйную ў свеце машынізаваную, узброеную новай соцыялістычнай тэхнікай калгасную гаспадарку.

Соцыялістычная сістэма перамагла ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі СССР. Соцыялістычая ўласнасць на сродкі вытворчасці зацвердзілася, як непахісная аснова совецкага грамадства.

Разам са зменамі ў эканоміцы адбыліся і змены ў класавым складзе совецкага грамадства. Услед за ліквідацыяй памешчыкаў, у рэзультаце грамадзянскай вайны, за дзве сталінскія пяцігодкі ліквідаван клас капіталістаў у прамысловасці, клас кулакоў у сельскай гаспадарцы, ліквідаваны купцы і спекулянты ў гандлі. І ў нас „застаўся рабочы клас, застаўся клас сялян, засталася інтэлігенцыя" (*І. Сталін*).

Паміж рабочым класам і класам сялян, а таксама паміж імі і інтэлігенцыяй грані сціраюцца, эканамічныя супярэчнасці паміж гэтымі соцыяльнымі групамі знікаюць, сціраюцца палітычныя супярэчнасці паміж імі. Совецкі народ пад сцягам Леніна—Сталіна пабудаваў у асноўным соцыялізм. Асноўным прынцыпам нашага жыцця з'яўляецца формула: „Ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму па яго працы".

Совецкі народ на чале з совецкай разведкай разграміў трацкісцка-бухарынскіх фашысцкіх агентаў і нацыянал-фашысцкіх мярзотнікаў.

Узбройваючыся марксізмам-ленінізмам, павышаючы сваю рэволюцыйную пільнасць, народ ачышчае сваю радзіму ад усяго ахвосця гэтых зраднікаў, у якія шчыліны яны не залазілі-б. Шлях да комунізма расчышчаецца ад апошніх капіталістычных рэштак.

„Моцна толькі тое ў рэволюцыі,—вучыў В. І. Ленін,—што зававана масамі пролетарыята. Запісваць варта толькі тое, што сапраўды моцна заваявана“ (*Ленін*, Выбраныя творы, т. 2, ст. 264).

Новая Канстытуцыя ёсць Канстытуцыя перамог соцыялізма ў нашай краіне, гэта ёсць рэзультат пройдзенага шляху, рэзультат здабытых заваёў.

СССР—соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян,—запісана ў новай Сталінскай Канстытуцыі. Канстытуцыя СССР—самая дэмакратычная ў свеце. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР, ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных з'яўляюцца ўсеагульнымі, роўнымі і прамымі пры тайным галасаванні. Усе грамадзяне СССР ад 18 год, незалежна ад расавага і нацыянальнага паходжання, веры, асветы, аседласці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць абранымі.

Эканамічную аснову Совецкага Саюза складае соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці. Усім грамадзянам СССР забяспечваецца права на працу, права на адпачынак, права на асвету, права на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці, у выпадку хваробы і страты працаздольнасці. Жанчыне прадастаўлены права нараўне з мужчынай. Раўнапраўе грамадзян СССР, у незалежнасці ад нацыянальнасці і расы, з'яўляецца непарушальным законам.

Два гады мінула з таго часу, як Сталінская Канстытуцыя стала асновай жыцця совецкіх грамадзян. За гэты час маральнае і палітычнае адзінства совецкага народа яшчэ больш умацавалася і стала вялікай сілай. Выбары ў Вярхоўны Совет СССР і вярхоўныя советы саюзных і аўтаномных рэспублік з усёй сілай паказалі гэтае адзінства.

Героі соцыялістычнай працы—стаханаўцы і ўдарнікі, слаўныя героі Арктыкі—Папанін і папанінцы, гордыя сокалы авіяцыі—Кокінакі і Громаў, лётчыцы—Грызадубава, Осіпенка і Раскова, бясстрашныя, адважныя і мужныя героі—абаронцы совецкага Прымор'я—усё гэта ёсць бліскучае сведчанне таго, што народы краіны Советаў жывуць новым, сапраўды выдатным, поўнакроўным жыццём.

Пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі, пад кіраўніцтвам слаўнай большэвіцкай партыі і правадыра сусветнага комунізма таварыша Сталіна,—народы нашай радзімы за апошнія два годы атрымалі новыя перамогі соцыялізма ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, культуры, навуцы, тэхніцы і мастацтве.

„Новая Канстытуцыя разам з тым накладвае на ўсіх грамадзян СССР сур'ёзныя абавязкі: выконваць законы, захоўваць дысцыпліну

працы, сумленна адносіцца да грамадзянскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульнажыцця, берагчы і ўмацоўваць грамадскую соцыялістычную ўласнасць, абараняць соцыялістычную бацькаўшчыну" („Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 330).

Большэвіцкая партыя, совецкі ўрад стварылі ўсе магчымасці совецкай інтэлігенцыі для яе творчага росту. Рашэнне ЦК ВКП(б) „Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам „Кароткага курса гісторыі ВКП(б)" кладзе канец „махаеўскім" адносінам у справе марксісцка-ленінскага выхавання совецкай інтэлігенцыі.

Пісьменнікі БССР—празаікі і паэты, крытыкі і драматургі, маюць вялікія абавязкі і доўг перад дзяржавай. Авалодваючы самым перадавым у свеце рэволюцыйным вучэннем—марксізмам-ленінізмам, уздымаючы сваю рэволюцыйную пільнасць, яны павінны даць совецкаму народу новыя літаратурныя творы, вартыя вялікай Сталінскай Канстытуцыі.

СССР уступіў у новую паласу развіцця, паласу завяршэння пабудовы соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу да комуністычнага грамадства. Сталінская Канстытуцыя замацавала гэты сусветна-гістарычны факт. Пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі народы Совецкага Саюза пойдуць наперад, к комунізму, дзе ў аснову жыцця будзе пакладзен комуністычны прынцып: „Ад кожнага—па яго здольнасцях, кожнаму—па яго патрэбнасцях".

*А. Марцiновiч*

## СТАЛIН

Я у Крэмлi не быў яшчэ i Сталiна не бачыў,
I не была рука мая у поцiску яго гарачым,
Ды знаю: будзе жыць заўсёды у вяках
З народам вобраз мудрага большэвiка.

Iду на поле я. Калгаснiцы працуюць.
I песню звонкую пра Сталiна я чую.
Iду на сенажаць. Касiлка там звiнiць.
Складае быль пра сталiнскiя днi.

А праз лясы iду у сонечнае ранне—
Пра Сталiна мне шэпча бор паданнi.
Або прыду на вечарынку ў карагод—
Пра юнасць i пра Сталiна пяе народ.

У кожны час, у кожную хвiлiну
За ўсiм глядзiць ён позiркам арлiным,
Прыходзiць у калгас, на фабрыку, завод—
З любоўю слухае правадыра народ...

Я Сталiна ў Крэмлi, здаецца, блiзка бачыў,
Была рука мая у поцiску яго гарачым,
Здаецца, думы я разгадваў у вачах
Празорлiвых, што значаць краю шлях.

I калi прыдзецца у бойку мне iсцi
За край совецкi супроць ордаў дзiкiх,
Мне сцяга лепшага нiколi не знайсцi,
Як iмя Сталiна—вялiкшага з вялiкiх.

1938 г. Менск.

# СЯРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ

Чатыры гады таму назад ад здрадніцкай кулі фашысцкага забойцы загінуў страсны і непахісны сталінец, адзін з слаўных кіраўнікоў большэвіцкай партыі—Сяргей Міронавіч Кіраў.

Бязмежная адданасць соцыялістычнай рэволюцыі, большэвіцкая стойкасць, глыбокая вера ў масы, велізарная любоў да народа і нянавісць да ворагаў—выдатныя рысы пролетарскага рэволюцыянера крыштальнай чыстаты, бясстрашнага байца за справу комунізма, якім быў Сяргей Міронавіч Кіраў.

Кіраў быў палітычным дзеячом ленінска-сталінскага тыпу, палкім трыбунам рэволюцыі, натхнёным прапагандыстам ідэй марксізма-ленінізма. Ён заклікаў кожнага большэвіка вывучаць рэволюцыйную тэорыю, гісторыю нашай партыі.

„Гісторыя нашай комуністычнай партыі,—гаварыў Кіраў,—ёсць гісторыя пераможнай пролетарскай рэволюцыі і будаўніцтва соцыялізма. Кожная старонка, кожны радок гісторыі нашай партыі—гэта не проста хроніка падзей, гэта велізарная глыбокая навука, не ведаючы якой нельга рабіць пролетарскай рэволюцыі“.

Марксісцка-ленінскай тэорыяй Кіраў выкрываў і біў трацкісцка-бухарынскіх бандытаў і шпіёнаў, умацоўваў адзінства і згуртаванасць большэвіцкіх радоў, ахоўваючы комуністычныя рады ад капітулянтаў і здраднікаў.

Гераічнае жыццё Кірава—яркі прыклад для кожнага комуніста, для кожнага працоўнага савецкай краіны.

Забойства Кірава совецкі народ ніколі не даруе ворагам. Вобраз палкага трыбуна рэволюцыі захоўваецца ў сэрцы мільёнаў патрыётаў соцыялістычнай радзімы.

Мы бачым вобраз Кірава ў цудоўных справах лепшых людзей нашай радзімы. Мы чуем яго голас у магутным пераможным хоры нашай радзімы. Вобраз большэвіка Кірава бяссмертны таму, што бяссмертны комунізм.

Вобраз Кірава—адданага сына большэвіцкай партыі, выдатнага вучня вялікага Сталіна, невычарпальная крыніца цудоўных тэм для совецкіх пісьменнікаў.

Высокія мастацкія творы, прасякнутыя ідэямі марксізма-ленінізма, павінны паказаць справы Сяргея Міронавіча, яго гераічнае жыццё, якога мы ніколі не забудзем, як не забудзем і не даруем ворагам іх подлай кулі, забіўшай Кірава.

Светлае імя Кірава заклікае нас да пільнасці, да ліквідацыі палітычнай бяспечнасці, да павышэння ідэйнай узброенасці нашых кадраў.

Імя Кірава, святое для партыі, кліча да канчатковага выкаранення ўсіх да адзінага ворагаў народа.

*Мікола Бажан*

# БЯССМЕРЦЕ

*(Тры аповесці пра тав. Кірава)*

АПОВЕСЦЬ ПЕРШАЯ

## СЦЯГ

Тут гаварылі шопатам.
Паволі
Гас на стале забыты самавар,—
Ён зашумеў і выдзьмухнуў дадолу
Срабрысты попел і ружовы жар.

Ссівелы, мяккі дагарацъ застаўся
Малы вугольчык...
— Хочаш чаю?—Не.
А цукар жоўты ў шклянцы рассыпаўся
І асядаў, як намаразь, на дне.

Чай астываў. У шырачэзнай грубе
Сіпела пара ад вільготных дроў,
Агеньчыкаў багата вастразубых,
Аж ціхі трэск ад іх шугання йшоў.

Яшчэ адно палена хтось падкінуў,
Яно страляла весела цяпер.
— Прайшло паўночы, чуеш, Кацярына!
Як ты не йдзеш,—ідзем мы да цябе.

Дзявочы голас з блізкага пакою
Адказваў усхвалёвана:—Іду!
Чакай хвілінку, Осіп, больш спакою!
— Ды то-ж Сяргей, а я чакаць магу!

Ачысціў стол, змёў крошкі на падлогу,
Прыпаў Сяргей да лямпачкі малой—
У пяціграины барабан бульдогу
Ніяк пагнуты не ішоў набой.

Ён зброю ўзяў, як друга дарагога,
Каб ёй абараняць сцяг родны свой.
Стаць на чале рабочых і з запалам
Са зброяй дабівацца кроўных праў—
Так большэвіцкі камітэт сказаў,
Меншавікоў адкінуўшы ухвалу,
І будзе так. І большэвік не спаў,
Да першай спробы вернай і трывалай
Нехітрую ён зброю рыхтаваў.

Аглядваў Осіп друга маладога,—
Палоска цёмных вусікаў, і рот,
Акрэслены насмешліва і строга,
Закамянеў ад схованых турбот.
Рашучы, мужны, круглы падбародак
І моцных шчок напружаны авал,—
Юнак з тае рабочае пароды,
Што паражае метка, напавал.
Яму не схібяць рукі маладыя,
Ён выпусціць пяць куль, нібы праклёнаў пяць.
Пра студзеня дзевятае, Расія,
Пра пецербургскі снег, табе не забываць!
Мінула дзевяць дзён цяжкіх. І сёння
Ўжо восемнаццатае. Ранак настае.
Сяргей—ён з тых, што смела і нястомна
Выконвае задачы ўсе свае.
— Сяргей!—ускрыкнуў Осіп:—эх, таварыш,
Як добра жыць, эх, чорт яго бяры!
От лета хутка—я пра лета мару,
Я дачакаю добрае пары,
Тады забудуся на чад друкарні,
Свінцовы пыл, пракіслы клей, смурод!
Пра даль я мару ў безграніччы хмарным,
Пра моладасць для нас на многа год,
Пра зараснік чаромхі каля Томі,
Пра іх салодка-гаркаваты дух,
Пра хмельны ў маладой, вясновай стоме
Вясёлы рогат мілых цакатух...
Мы не памрэм, Сяргей, бо мы не можам
Тады памерці, калі трэба жыць.
Мы ведаем, што мы іх пераможам,
Навучаныя нішчыць і тварыць.
Арол праклятый, злодзей двухгаловы,
У прадсмяротным крыку ты знямей!...
І Осіп устаў бялявы і вясёлы
Непераможны ў юнасці сваей.
І ў вочы друга паглядзеў Сяргей.
Ён бачыў вочы поўныя задумы—
У гэтых зрэнках зоркіх, залатых
Скакала іскарка, ішло святло ад іх,—

І стала ясна, йшлі спакойна думы,
Вось так спакойна залажыць набой
І ў цэль урэзаць мушку рэвольвера
Пятнаццаць крокаў ад сябе адмерыць
Па птушцы ўдарыць чорна-залатой.
Усё я зважу, вымеру і ўдару,
Пранозліва прыжмураны і злы...
Эх, Осіп мой, вясёлы ты, друкар мой,
Хутчэй, хутчэй світала-б на зямлі!
Развідняе, і выйдуць смела людзі,
І порахам прапахне снег і дым,
Развідняе, навокал бачна будзе,
Увесь свет і долю бачна стане ім,
Двум дружным томскім хлопцам маладым.
З суседняга пакою Кацярына
Да іх прышла, ўрачыста нясучы
Кавалак простага звычайнага саціна,
Яе рукамі вышыты ўначы.
Чырвоны сцяг уладна і ласкава
Узяў Осіп Конанаў і разгарнуў яго:
— Вось ён, наш сцяг, вось дарагое права
Ва ўсе краі зямлі нясці агонь.
Як хочацца для будучыні яснай
Нам, кожнаму, стагоддзяў сто пражыць,
Як хочацца заўжды дастойным быць
Свайго штандара, партыі і класа!
І ў гэты момант юнакам здалося,
Што то не сцяг, што грае сонца ўсход,—
Гарэць адценні, полымя ўзнялося,
Ударыла ў высокі небасвод,—
Магутныя пурпуравыя хвалі
Вялізны свет імкліва абмывалі.
Бяссмертны сцяг—узняўся над краямі
Высокі пошуг чыстага агню!
— Клянуся,—падыму цябе над намі!
— Клянуся,—я цябе жыццём абараню!
Палаў усход марозна і барвова,
Снег закруціў іскрыста кругаверць,
І дзень зацвердзіў даную на смерць
Стальную клятву—баявое слова.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яшчэ уранку ружавее лёд
Хрумстлівае, прамёрзлае Ушайкі,
А ўжо з варот паўзуць і да варот
Шпіёнскія, лабазніцкія зграйкі.
Сігнал—„Устань!“,—як кліч да барацьбы,
Сярдзіты лямант нейкай афіцэршы,
Бас прыстава, падобны да трубы,
І перакаты гулкіх песень першых.

От грузчык і заводская дзяўча,
І малады студэнт русавалосы
Становяцца плячыма да пляча,
І йдуць з ваколіц. Гучна разляглося
Рыпенне снегу. Горад іх страчаў
Маўчаннем вуліц і радамі чорных
Бяствaрых і глухіх гарадавых,
Свістком прарэзлівым з-за сцен саборных
І водгукам свісткоў няведама чыіх.

Рабочыя выходзілі у горад,
І чыстыя гучэлі галасы,
Выводзілі магутным, дружным хорам
Спеў незвычайны грознае красы.
У тым прыпеве, праспяваным тройчы
І горача падхопленым жыццём,
Выростаў кліч, ярчэй гарэлі вочы
І людзі йшлі, з іх кожны стаў байцом,
І Кананаў у міг над грамадою
Задзёрыста і хутка ўзняў свой сцяг,
Аж дрэўка зазвінела у руках
У прадчуванні агнявога бою.
Сяргей штось крыкнуў... Клятву ці праклён?
І выпраміўся ён, вымаючы бульдога.
Йшлі людзі грамадой узнятай, строгай,
Адчуўшы моц упэўненых калон.
І набіралі сілы і мацнелі
Заўзятыя з пагрозай, галасы.
І прыстаў знік, свісткі павар'яцелі,
Снег завішчэў, заскавыталі псы.
І не спыняўся віск свісткоў турботных,
Пакуль не вылецелі з-за сцяны
Касматыя сівыя скакуны
Казацкае муштраванае сотні.
На міг—заціхла, толькі і чуваць,
Як па зямлі прамерзлай часта б'юць капыты...
Хвіліна бою, ўпершыню ты перажыта,
Цябе нідзе не можна забываць!
„Агонь! Агонь!“ І стрэл адразу трэснуў суха,
Без водгуку, нястрашны, куцы гук.
Перакруціўся пяць разоў і хруснуў глуха
Злы барабан, выскокваючы з рук.
Ударыў глуха куль свінцовы россып
І казакоў змяшаўся конны лад.
Спяваючы, падняў угору Осіп
Высокі сцяг. Яны бягуць назад!
Але знянацку з двору, з падваротні,
З дзвярэй, завулкаў, збоку і з зямлі
На выручку разгубленае сотні

Страляць шпіёны ў спіну пачалі.
Сяргей, будзь пільным!.. Па ільду Ушайкі
Скрыгочуць кулі. Не бяжыць ніхто.
А на плячах барвовы след нагайкі,
Пасечана ўжо шабляй паліто.
Сяргей страляў і набіваў набоі,
Сціскаючы рэвольвер у руках,
Вучыўся ён цяжкой рабоце бою,
Суровым, спрытным звычаям стралка.
Кароткі свіст—і конь хрыпіць над вухам.
З нагайкай нахіляецца казак...
І раптам Осіп прадсмяротным рухам
Зрывае з дрэўка пурпуровы сцяг,
І ніц упаў... Паўзуць без формы плямы
На снег, на сцяг. Свіст куль. Ізноў агонь.
— Клянуся,—падыму цябе над намі!
І сціснута яшчэ мацней далонь,
І каб рука варожая не смела
Забрудзіць, выхапіць у мёртвага трафей,—
Засунуў сцяг за пазуху да цела,
Да смертным потам зрошаных грудзей.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Глыбока шэрыя запалі вочы,
Рот пачарнеў, нібы пасохла кроў!
Загаснуў дзень, і зноўку змрок прышоў,
Сібірскі змрок, павольны ўступ да ночы,
Што лёг панура у маўклівым сне
На фасфарычны, на бясконцы снег
Ад схованага крыку рот парвецца.
І закрычаць—без сіл упасці ніц!
О колькі чалавеку трэба сэрца,
Каб цераз сілу роспач прыдушыць!
Адна 'шчэ думка, крок адзін—бяздонні
Раскрыюцца, заплачуць у душы
Бязвыхадныя, ў змроку у халодным.
Тады ўжо смерць, так, смерць, таварышы!
Маўчы, Сяргей! Упершыню на свеце
Убачыў ты сяброў, забітых у баях,
Іх смерць дачасную, іх ранняе калецтва
І сцяг бяссмерця, сціснуты ў руках.

Маўчаць усе. Ніхто не запытаў
У бледнай і паніклай Кацярыны,
Што твар ад солі серабрыцца стаў—
То свежы след невыцертай слязіны.
Яна адна дазволіла сабе
Па-бабскаму павыць на адзіноце,
Шукаючы палёгкі у журбе,

З якой па свеце немажліва крочыць.
Зноў той-жа вечар, той-жа зноў пакой,
На сценах зноў стракатыя абоі,
І як раней, туляецца спакой
Па напоўцёмным, згорбленым пакоі.
Змрок гэтакі-ж блакітны, як світанне,
Ад грубкі йдзе, як і раней святло,
І перажытае здалося зданню,
Нібы таго, што стала—не было.
Спазніўся Осіп—от чакай нанова,
Калі сабраўся ўвесь падкамітэт
Для гутаркі, для полымнага слова
Над папяросным аркушам газет.
І загрукочуць боты—уварвецца
З усмешкай вінаватаю юнак,
Старую шапку й латаны армяк
Пакіне дзесьці там на табурэтцы.
Ён закрычыць: „Макушын, чортаў сын,
Зноў сёння затрымаў складаць аб'яву!
І кінецца да Кострыкава,—з ім
Ён сядзе побач на пярэдняй лаве,
З нахіленаю галавой бялявай.
Замоўкне ён на першых пяць хвілін.
Тады Сяргей пачне чытаць „Вперед",
Прывезены з Жэневы цераз Піцер,
Каб знаў усё падкамітэцкі сход
Напамяць знаў аж да заключных літар...
Не трэба, Каця, плакаць. Малады—
Ён паміраў за справу дарагую.
Мы скажам пра яго і нас пачуе
Ў Швейцарыі ў выгнанні правадыр.

„Таварыш мой, вялікі дальні друже!
Спакой магутны дум тваіх і слоў,
Іх яснасць чалавечая і дужасць,
Прадуманы, адчуты сто разоў—
О, колькі сіл уліў ты ў сэрцы нашы
Прагненнем мэты полымным, бясстрашным!
Таварыш мой, старэйшы брат мой ясны!
Ў Маскве, у Рызе й Пецербургу зноў
Праліта кроў і ў Томску кроў лілася,
Яшчэ праллецца у Расіі кроў;
Мы знаем гэта, мы, рабочы клас,—
Свабоды без ахвяр няма для нас.
І Осіп мёртвы—ведаеш, таварыш,
Але не трэба слёз, не трэба ныць,
Ён, як усе, гатоў быў на ахвяры,
Каб у баях соцыялізм здабыць.
 Няхай вянком наш успамін аб ім
 К старонкам будзе ўплецены тваім..."

Сяргей пісаў. Сябры сядзелі поплеч,
Каб зважыць кожны момант у лісце,
Знайсці каб словы простыя усе,
Каторым невядомы сум і роспач.

Сяргей пісаў. „Не плачце,—ён пісаў,—
Над трупамі байцоў забітых“—слова
З любімай песні, што яе спяваў
Заўзяты Осіп неаднаразова,
Калі на сходкі для стралецкіх спраў,
Ці дружнага чытання, ці забаў
Збіраліся мы з хваляваннем новым.
На падарожжы дальнія, прыгоды,
І на сустрэчы з слаўнымі людзьмі,
На бой і подвіг іменем свабоды
Так спадзяваліся удвох з табою мы.
Вось лета хутка... Заіскрацца воды
З глухіх ільдоў сібірскае зімы.
І ты, знавец рыбальства і прыроды,
Дыхнеш нарэшце поўнымі грудзьмі...
Сяргея вочы адліваюць сталлю,
Зірнулі на хлапцоў журботны круг
Няхай пачуе ў Жэневе дальняй
Настаўнік наш і самы большы друг,
Што бунтаром памёр юнак-таварыш
Ад кулі лютае, ад царскіх слуг.
Але не вырваць ім у нас штандара,
Не адабраць для глуму і наруг.
-- Ён сам наш сцяг, каб вораг не спаганіў,
Схаваў на грудзях, засланіў ад куль,
Яго там бачыў лекар Грацíанаў,
Але баяўся выняць ён адтуль.
— Я-б душу даў, смяротна цела зраніў
Абы штандар забраць!..
...Завеі гул
У коміне равеў, снег тарабаніў
Аб шыбку. Вецер біўся адусюль.
Па гораду гуляе завіруха,
Высвістваючы, дзіка крычучы.
Не спяць у Томску, Томск трывожна слухаў
І выбухаў чакаў ён уначы.
Прыліпшы к вокнам, настаўляюць вуха
Купцы й купчыхі, панны й панічы.
Гарадавы на змёрзлы палец дзьмухаў
І падымаў башлык свой на плячы.
— Хто з вас са мною пойдзе ўдвух да друга
Для стрэчы з ім астатняй уначы?
Пранёсся вецер над грымячым дахам,
Забразгатаў, застукаў глуха, сціх.
І толькі месяц доўгім, плаўным шляхам

Пайшоў па царскіх па дварах усіх.
Ноч пачалася цішынёй і страхам
І пераклічкай п'яных вартавых
У шапках з медным двухгаловым птахам,
Гербом казарм, турмы, шынкоў начных.

Сяргей падняўся, каб выходзіць з хаты,
Схапіў залатанае паліто,
Спыніўся, глянуў, штось хацеў спытаці,
Ды моўчкі ўстаў за ім Іван Лісоў.
Яны маўкліва выбеглі з падвор'я.
І толькі фортка грукнула ўдвары.
Марозным пылам віліся ўгары
Завостраныя, лютыя сузор'і.
Мароз лунаў без краю, без мяжы,—
Марозу акіян вялікі, ціхі.
Вятры ў зямлю ўмярзалі,—так у крыгі
Умярзаюць крыллі птахаў нежывых.
Маўчанне йшло ад поўначы. Яно
У прастор пасунулася нерухомы,
Аж у грунтах патрэскалася дно
Задаўленае, сціснутае Томі.
Крышталі жорсткія і цвёрдыя, як цвік,
Зямлю пакрылі, нібы бляску россып,
І на снягах адбітак зор узнік—
Зялёна-жоўтыя і сінія палосы.
Якая прыгнятаючая сінь!
Івана твар пакрыты сінізною.
Бязмежны свет парыпваў пад нагою,
На сотню вёрст рыпела далячынь.

Звярнуць за рог. Там ад будоў адлеглі
Муры старыя. Пахне нежывым.
Струхлела вапна; на казённай цэгле
Павіснуў іней мохам снегавым.
Апухлі сцены томскае трупярні,
І глуш вакол, і голляў чорны ўзор.
Смяяўся Осіп, выбегшы з друкарні:
„Што звёрстана,—не пойдзе у разбор.
О, так, мы з сэрцам прагным і здаровым—
Твары, руйнуй, збудоўвай і рабі!
Уваходзіш у яго, ты свет суровы,
Прыгожы свет і справы й барацьбы!
Часамі—сотні існаванняў мала,
Бывае міг—і слых не знае меж,
І чуеш людскі шопат за Уралам,
За морам сказаныя словы, спамянеш.
Усё прыходзіць—воля, позірк зоркі,
Прадбачанне гадоў, спакой душы.
Так пазнае наш хлопец шэравокі
Вялікае жаданне прагнуць, жыць.

Пара ісці. Падкрасціся найціхша.
Прайсці за мур праз чарнату імглы...
Крычыць Іван, знясілеўшы ад цішы:
— Сяргей, чакай! Як страшна на зямлі...

Любімая зямля! Так, паўставаць і славіць
Жыццё зямное, што за ўсё мацней!
Ні смерць, ні прах, ні здрадніцтва і нават
У спіну выстрал не страшыць мяне.
Няхай Іван застанецца—і так
Сягоння хлопец пераэкыў багата,
І от знясілеў змораны юнак,
А ён трымаўся мужна і заўзята.
Пайду адзін, к яму з'яўлюся сам,
Сам нахілюся к маладому другу,
Апошнюю пашану я аддам,
Ахаладзелую пацісну руку,
Вазьму штандар наш, пацалую ў лоб,
Скажу яму... Не, не скажу нічога...
Не адшукаць і слова от такога,
Што выказаць мяне ўсяго змагло-б.

У анатомцы універсітэцкай,
Яе пустой, непрыбранай мярцвецкай,
На голым, на халодным тым стале
Ляжыць таварыш з куляй у чале.
Ляжыць тут друг у пінжаку раздзертым,
А рысы ўсе скаваў навекі сон,
І змераны аршынам доўгім смерці,
Пакорна, дзіўна выпрастаўся ён.
Напнуўся цяжка горбік дуг надброўных,
Апошнюю каб думу адалець,
Расплылася па мускулах бяскроўных
Расою роўнай, мутнажоўтай смерць.
На падбародку валасінкі квола
З расчыненых павырасталі пор...
Сяргей, схіліўшыся, крануў паволі
Яго чало, прабітае ва ўпор.
Высокі лоб... Устань, устань, мой Осіп!
Нам трэба жыць, адсюль нам трэба йсці!
Да болю у мазгу ўглядаўся ён. Здалося,
Пачуў маўчанне цемры й пустаты.
І вуснаў здрыгануліся куточкі,
Схіліўся ён з дрыжаннем у руках
І хутка пальцы адшукалі сцяг
Пад палатном шурпатае сарочкі,
От у руцэ—чырвоны шмат сацiну,
Часцiначка вялiкага агню.
— Клянуся,—я цябе жыццём абараню
І, можа стацца, пад табой загіну,



І, можа быць,—цябе я панясу
Як сцяганосец, выбраны народам,
Па чорных землях ідучы паходам
Да сініх гор, за морскую красу.
Я пратапчу, каб войску шлях пракласці,
Пясок гарачы, снегу сівізну,
І перад тым, як давядзецца ўпасці,
Сваё жыццё недарма пражыву.
Я жыў бы двойчы і памёр бы двойчы,
Як дадзена было-б нам два жыцці,
Каб глянуць чалавецтву чэсна ў вочы,
Незганьбленым штандар наш пранясці.

Ён сцяг узяўшы, ўсхвалявана выйшаў
У ноч, дзе холад з цемраю спакон,
У доўгую Сібіру глуш і цішу,
Ва ўсеімперскі, прыпалярны сон.
Няспыннымі прыбоямі прасторы
Каціліся ад захаду да ног—
Паўзмор'і, стэпы, гарады і горы,
Мяцеліцы і снег, пыл і пясок.
Ён сцяг прыцісnуў к грудзям і праз змрок
Ступіў наперад, выйшаў за парог.

---

АПОВЕСЦЬ ДРУГАЯ

## НОЧ ПЕРАД БОЕМ

Каспійскі ўвесь стэп
        перапалены ў прах і гарбаты,
Сады Карталініі
        ў цвеце, ў расе і ў саку,
Цяжкія, застыглі вазёры Эйбата,
Імклівыя ветры Баку...
Той вецер у сцягу разгорнутым Кірава
Гудзеў, як прыбой і шаўкі калыхаў.
У жвір, у той скрып настарожаных траў
Ступала упарта нага камандзірава.
Спыніўся ён тут на кароткі бівак,
Сцяліў ён прапахшую порахам бурку
На сіні, на крохкі, як снег, саланчак—
Таварыш і друг,
        камандзір і кунак
Мінгрэлу, ўкраінцу, лезгіну і цюрку.

Цямнела. Прыглушаны крок патруля
Вымерваў маўклівыя змрокі і шыры.
Падняўся на ўзгорак, задумаўся Кіраў.
Грымела сцямнелае мора здаля,

І дыхала спёкай сухая зямля,
Салёная гэта, старая зямля
Нафтовых магнатаў, князёў і банкіраў.
І бачыць ён—
ад Сурахан
і праз Бургушэт
да Гянджы
Гліняныя саклі ляжаць,
і цесныя кулі і кубы,
То скрыні для ежы і сну,
прытулак прыгнёту і згубы,
Дзе родзяцца ў лямец, кізяк,
дзе гінуць у цемры, іржы,
Дзе роспаччу скквашаны сыр,
з зямлёю змяшаны каржы.
Ён новыя словы пачуў
угледзеўшых свет закануркаў,
Вякамі забітых у бруд,
вякамі зацвілых як грыб.
Ён чуе, як вучаць казаць
гартаннаю моваю цюркі
Нязвычныя словы—„совет“,
„мандат“, „большэвік“ і „рэвтрыб“.
Здалёк ён убачыў спіраль
ураганнага кругавароту,
Прастрэленага афіцэра
апошні, шалёны ўзмах,
Дашнацкага маузера ў саклі
ён чуе тут хрып прадсмяротны
І воўкам шуганне ў кусты
мусаватісцкіх папах.

Баі заціхалі над стэпам,
патрэсканым і прабітым,
Пранізаным сковытам свердзел
да тлустых яго глыбінь,
Дзе ў залежах олігоцэна
плыве і збіраецца бітум,
У шчыліны ўздутага грунту
цяжкі заганяючы клін.
То—кроў геалогіі.
Сала,
Растоплена вечнасцю.
Смолы,
Засмактаны ў літасферу.
Працэджаны нетрамі жыр.
... А свёрдлаў бракуе і зараз!
Працаваць бы цяпер, як ніколі,
Дык не-ж—бюракраты і нафту
запісалі ў ніжэйшы ранжыр!“

Тут—посвіст фарсунак, тут—націск,
Тут—подых матораў, тут—поступ,
Энергія выллецца ў працу,
энергія з тайных глыбінь.
„Эх, выцісну́ць зноў бы з цябе тут
струмень грукатлівы і просты!
Эх з звонам-бы рушыць ў цыстэрны
Тваю няўтомную плынь!“

Заўзята напружаны плечы,
ўздымаюцца мускулы.
Часам,
паскрыпвае сумка старая
з паходным прывычным дабром—
Блакнот для нататак і формул,
адзін з неадменных прыпасаў,
Такі, як пункцір астранома,
дакладны, нібы метраном;
Учэцвера складзены аркуш
маёвага нумара „Праўды“
З заклікам да закаўказцаў,
з ленінскім мудрым лістом;
Абтрэпаны том Мендзелеева
пра склад пенсільванскае нафты
І, вольнага часу удзельнік,
Некрасава выбраны том.
Прыпасы байца-камандзіра,
сябры усялякіх устрасак,
Амуніцыі баявое
звычайны і мужны цяжар...
Застыў, пад сябе падагнуўшы
прыстаўшыя ногі, падчасак,—
Маленькая чорная постаць
на фоне палаючых хмар,
Маўклівы дазорац—з наганам,
засунутым за апаясак,
З прадымленым карабінам
над грэбнем англійскіх касак,
з кулаком сіняватае бомбы
павіслай ускрай шаравар...

Напружанасць цішы. А вечар
расквечаны быў, як аздобы,
Якія ў пергаментах даўніх
скарбніцамі ўпраўлены ў вязь.
З такіх вечароў уяўленне
Іранскіх пісцоў галалобых
Збірала свае багацці,
Хімерны сплятаючы сказ.

Вароты аранжавай медзі,
Пласты першатворнае сіні,
Паміж каланад простападных
Марудлівы рух бліскавіц,
Мазаіка з яшмы й парфіру,
Уплаўлена ў бляск светлацені,—
Як Шэмахінскае царства,
Сонца схілялася ніц.
Былая зямля Ірана,
Пласты векавечных аулаў,
Дзе прадзед, і ўнук, і праўнук,
Ад голаду ледзве мог жыць,
Дзе раб—перапісчык тэкста
Свой зрок над пергаментам муляў,—
Усё Шэмахінскае царства
Над ёю схілялася ніц.
Былая зямля кумірань
Агняпаклонніка—гебры,
Хрыста, Магамета й Ормузда
Без выхаду кола бажніц.
І здрада, й пятля, і забойства,
І злое лязо пад рэбры,—
Крывавае кола Шахсею,
Шалеючы, падала ніц.
Былая зямля генералаў,
Вадзіўшых атрады пяскамі,
Дзе тысячы рук узняліся,
Вітаючы гул навальніц,
Калі забастоўцы бакінскай
„Пуцілаў“ адказваў гудкамі,—
Таўсгое імперыі сонца
Навекі кацілася ніц.
Былая зямля магнатаў,
Прашытая сотнямі вышак,
Прабітая скрозь, каб нафтай,
Запахла на біржах сталіц,
Каб Кокараў, Нобель, Шыбаеў
З перамогай да фініша выйшаў,—
Над ёю Шыбаева сонца
Бясслаўна схілілася ніц.
Былая зямля Муссавата,
Ацэнена й куплена чэкам,
Прамасленым нафтаю чэкам
Дэтэрдынгаўскіх заграніц,
Рассечаная, высцебаная
Сухім інтэрвенцкім стэкам,—
Як ханскі бунчуканосец
Сонца схілялася ніц.
—Навекі!—прамовіў Кіраў.
І раптам узнікла гордасць.

Што ён зямлю тут зацвердзіў
у вышэйшым яе рубяжы.
Захацелася крыкнуць насустрач
крутому кіпенню нордаў:
„Эх, чорт вазьмі, праўду сказаўшы,
так хочацца жыць і жыць!..“
І ён, каўнер расшпіліўшы
на выцвілай гімнасцёрцы,
Усё слухаў, як пульсам па целе
Вялікая сіла ішла
Рытмічнага рухання думкі
І шчодра адмераных порцый
Вясёлай крыві і надзейнай,
бадзёрай крыві і цяпла.

У сваіх рудапенных навалах
імчалі прастораў перыяды
І прыпадалі да ног,
распырскаўшы порах і шум.
У пясках закруцілі ветры
шыпучыя ходы і выхады.
Як яшчарка—тыя пяскі.
Маленькі, як змейка самум.
Гуляў паміж гор маладзік.
Вакол нараджаліся гоманы.
Штось белы крычаў вартавы
Над акружоным сялом.
І дзесьці паблізу аб дол,
аб грунт, як сухар надломаны,
Знянацку ударыўся птах,
зашамацеўшы крылом.
Каспійская ноч узышла,
прапахлая сернай расчынаю,
Дымячая вугляродам
і выпарэннямі нафт,
Над змучаным стэпам усім,
што ордамі біты бясчыннымі.
Дзе йшоў Тамерлан і Сельджук,
фельдфебель і аргонаўт.
Разлівы падземных смол—
плывучы, абвуглены мул.
Укованы ў конус гары,
Як золата ў шлем,—калчадан.
Гайдаюцца мерна гарбы.
Хвалісты зямлі караван.
За гарою—гара і гара.
За аулам—аул і аул.

„...Стомоўная маці-зямля!
Я чую як ты ўстаеш.

Я чую, як ты ідзеш.
Я чую—прыходзіш ты.
Для мора людзей тваіх
Замала ўзбярэжжаў старых.
Для росту тваіх людзей
Замала ужо вышыні.

Прыходзіць народ адусюль,
І літарамі ста моў
Распісваецца на лісце
    пад рубрыкаю „дэлегат“.

Прышоў Зангезур і Баку,
Карабах і Тыфліс прышоў
І поруч маскоўскіх байцоў
    стаіць урачысты тат.

Астраханскі матрос прышоў,
    з ім поплеч лезгін ля сцяны,
Алфавітам розных рас
    чытаюць адно і тое-ж.

Я чую, як ты ўстаеш,
Я чую, як ты ідзеш,
Як людзі твае растуць,
Кулямётчыкі і чабаны.
Страсаючы з ботаў пыл,
    порах мінгрэльскіх меж
З пашанай пытае грузін
Данбасаўца пра Перакоп.
Я чую, як ты ідзеш;
    я чую, як ты расцеш,
Як людзі твае ўстаюць,
    архітэктар і рудакоп.

Прыказкі родных армян
Вымаўленнем азеры
Вучыць вусаты цюрк,
Тартальшчык з Эйбатскіх веж.
Я чую, як ты расцеш,
Я чую, як ты ўстаеш,
Як людзі твае ідуць
Вінаградары і змагары.
У самы найбольшы дом,
Які толькі ў горадзе ёсць,
У горадзе рудых сцен,
Дзе хаты скупыя ўстаюць,
Збіраюцца людзі казаць
Пра будучае тваё.
Людзі, што знаюць смерць.
Людзі, што працай жывуць.
Выходзяць з палёў, з гарадоў
Батракі, чабаны, кавалі;
Выходзяць з аўлаў, садоў,

З надхмарных нагорных пуцёў,
Нясчы да высокіх трыбун
Лепшыя сэрцы зямлі
І найлепшыя словы свае
З тых, што сказаны за жыццё.
Зацесна для слоў такіх,
Зацеснаісці ім паміж
Вялізнай чаргі анфілад,
Пад купалам ззяючых зал.
Нараджаешся ты ў цішы,
ты ўваходзіш ў свет і грыміш,
Гісторыі першы такт—
наш Інтэрнацыянал.
Мы цябе спявалі перад боем,
Мы цябе спявалі ў дзень паўстання,
Перад смерцю мы цябе спявалі,
Наша песня клятва і штандар.
Ты ўздымала нашы барыкады,
з караблёў ты сходзіла астатняй,
Першай ты ўрывалася ў рэдуты,
З намі йшла
ў атаку твар-на-твар.
Ці ў пустых харомінах імперый,
ў панцыры каменныя адзетых,
Ці ў кастлявай астрыні сабораў,
Дзе крыжы рукатыя стаяць,
У сляпым каменні, алебастры,
арачных зіяючых прасветах,—
Не, не ў іх твая жывая сіла,
прастата вялікая твая.
Вось твой дом—прасторны і прыгожы,
Дом, куды ўваходзіць наша песня,
І калон гранітаступых варта
перад ёй,
грымячая ўстае.
Тысячы будаўнікоў праходзяць,
У гладзях сцен, вазёрах проставесных,
У мармуры адлюстраваны. Кажа
Кожны з іх
„От—наша. От—мае“.
Кожны з іх імя тварца ўразае
У волатныя абеліску грані,—
У крыштал гісторыі і славы
клас ідзе
імя сваё ўпісаць.
Над флагштокам, што звініць струною,
У полымі нябачанага ззяння,
Сонца чалавецтва узыходзіць,
Каб ля сцягаў
вартавым стаяць!

Імчаліся ветры ракетай агнёвай.
Прад бурай такою, у змроку такім,
У грозным Баку нарадзілася слова
І ўстала прамовай на з'ездзе другім.
Стаялі навокал лясы Сураханаў,
Ўсадзіўшы ў свой корань алмаз і карунд,
І раптам за імі, страсаючы грунт,
Ударыла полымя. Выбух фантанаў.
Прарваўшы абшары, маланка шугнула,
Як сполах раптоўны багровых камет.
І водсвет, і свіст перакатнага гула,
І рушацца горы, гайдаецца свет,
Вялізная хмара расце. Прамільгнула
Трывога, размова, хада караула;
І ўрэзаны ў цемру, ляціць у паветра
Далёка між гор над квадратам аула
Стрэл нечы, і гостры абрыс мінарэта,
І горач сухога, як дым, саксаула.
Ударылі грозныя хвалі аб бераг,
І ноч перад боем...
...—Наперад!

---

АПОВЕСЦЬ ТРЭЦЯЯ

## ДЗЕНЬ

Паслалася паціху
ялінка пухкай шыны
На ранішняй парошы,
на снезе маладым.
Ён выйшаў, па-хлапецку,
саскочыўшы з машыны,
І рыпнуў снег, адчуўшы
разгон тугой хады.
Як дыхалася чыста,
як бегла кроў па целе!
Марознае паветра,
прасторная зямля!
Прыбоем дальніх шумаў
у горадзе грымела
І звонкія трамваі
імчаліся здаля.
Зрываліся адразу
жывыя зграйкі снегу
З ялін шырокаплечых,
з расчышчаных алей.
Прыезджы заглядзеўся,
як круцяцца з разбегу

Сняжынкі ля ўваходу,
усё ўюцца весялей.
Прыезджы заглядзеўся:
палац васьмікалонны
Франтонам жоўта-белым
глядзіць у вышыню.
Семнаццаць год мінула,
калі ён неўгамонны,
ўрачыста ў дом у гэты
ўвайшоў упершыню.
Ён супакойваў сэрца,
затойваючы подых,
У змрок аркад высокіх,
у гулкі карыдор,
Байцом і дэлегатам
сюды ён уваходзіў
На з'езд другі советаў.
Семнаццаты быў год.
І той, што на граніце
падняўся тут натхнёна,
Што вылітую з бронзы
Над светам руку ўзняў,
Тады жывы і просты
і памятны штодзённа,
Па-дружнаму ўсміхаўся,
яму далонь сціскаў,
Семнаццаць год мінула...
Баі Уладзікаўказа,
Без сну даўгія ночы
на промыслах Баку,
І Ленінград з адпорам
зіноўеўскаму сказу...
Не, праўда недарэчна
старэць большэвіку!..
Ён, цераз двое сходкаў
ступаючы адразу,
Увайшоў у Смольны. Дзевяць
гадзіннік б'е ў кутку.
Ён хутка йдзе па сходках
у паліто дзяшовым,
Заціснуўшы фуражкі
шырокі казырок.
Ідзе—усюды чуюць
упэўненае слова,
Сакратара абкому
выразны, хуткі крок.
Як толькі ў твар ён гляне,
на сэрцы цёпла стане.
Над шэрымі вачамі
брывей трапеча ўзлёт,

На скронях занялося
сярэбранае ззянне,
Як водсвет навальніцы,
як бляск бурлівых год.
Ідзе такі звычайны,
насмешлівы ён трохі,
Здаровы, невысокі
і моцны чалавек,
Баец і палкаводзец
вялікае эпохі,
Радзімаю сваёю
праслаўлены навек.
Абкружаны народам,
праходзіць ён памалу,
Ідзе да кабінета
расчыненых дзвярэй.
Паэт з Петразаводску
спытаў пра Калевалу.
— Я знаю. Так, мы справім
сталетні юбілей.
Узбуджана грукочуць
калгаснікі з-пад Пскову
абуткам тым рыбальскім,
чаботамі сваймі.
— Каб не сарваць нам плана
вясновага улову,
Нас трэба забяспечыць
і соллю, і сяцьмі.
І слухаючы пільна,
на крэсле ён схіліўся
І ўсё, што мусіць ведаць,
ўвесь спіс сваіх турбот,
Запісвае руплівa
у словах простых, сцíслых,
У дзённік свой чырвоны,
прывычны свой блакнот:
Пра Пскоўскага райкому
агітработу млявую,
Пра шліфавальны камень,
пра веснавы улоў,
Падкрэслівае двойчы
важнейшую ён справу
Пра выпяканне хлеба
сто сорака сартоў.
Адсунуліся стрэлкі
з дзесятае гадзіны,
і спісаны ў блакноце
Усе старонкі ўскрай.
— У нас праверка заўтра
навейшае турбіны.

Міроныч, прыдзеш, можа?
— Праверка? Пачакай!
Мяне адзін турбіншчык
вучыў вось гэтай справе:
Як новая турбіна
на поўны ход ідзе,
Вам беражком патрэбна
пятак на ёй паставіць;
Як спраўная турбіна,
пятак ваш не ўпадзе.
Не знаю,—можа гэта
і ахінеі нават,
Аднак, прыём праверыць
не шкодзіла-б нідзе...
Кагось пытае, ўстаўшы
і выпрастаўшы плечы:
— Дазволь, табе згадаю
адну з галоўных спраў:
Як там з пячамі „Міге“?
Мы біліся за печы,
Ты-ж зноў заваліш справу
з гуртом сваіх разяў...
Ён гневаўся—то чутна
з павольнае вымовы,
Калі гучыць глыбей ‘шчэ
яго з Уржума „о“,
і халадзеюць вочы,
хаваюцца пад бровы,
І тры маршчынкі ўпарта
прарэзваюць чало.
Калі-ж вясёла раптам
куточкі губ заграюць,
Агеньчык цёплы скокне
ўраз у вачах жывых,
— Ну, здорава!—ён скажа,
і ўсе навокал знаюць,
Што выканана добра
цяпер заданне іх.
— Не дужа я прыемны
для п‘яніц з гультаямі,
Але і мне замала
прыемнасці ад іх,—
Міроныч усміхнуўся,
разводзячы рукамі;
І смех, як зайчык сонца—
на шчоках маладых.
Развітваецца, вышаў
наведвальнік астатні.
Струмені ад махоркі
павіслі угары.

Выходны дзень сягоння,
і час ужо не ранні.
Трыццатым лістападам
глядзяць календары.
Ён стаў, аж зарыпелі
паркету палавіцы,
Як гаспадар агледзіў
стала скупы квадрат,
Рупліва перасунуў
назад да попельніцы
Пуцілаўскае рэйкі
блакітна-чорны шмат,
Падняў у пляшцы россып
паўночнае пшаніцы,
На землях ленінградскіх
правераны стократ;
Ў руцэ любоўна зважыў
крышталік апатыту,
Падобны на засохлы,
нясвежы, брудны снег,
То—дар зямлі старое,
які спрадвеку скрыты
Ў глухім і мёрзлым грунце,
цудоўным скарбам лёг.
То--дарагі гасцінец,
расліны ён напоўніць,
Узбудзіць ён магутны
і слаўны ураджай,
Каб гнуўся кожны колас
заплоднены і поўны,
Каб зерне ў свірны нашы
плыло па самы край.
От злітак металёвы.
Срабрыста-шэры іней
Пакрыў яго шурпаты,
падзёўбаны авал—
То з Волхаўбуду першы
здабыты алюміній,
Лятучы, лёгкі, пругкі
і радасны метал.
Тут выкапняў кавалкі,
узор выдатнай сталі,
Зярнят хрумстлівых цельцы.
Заробкі і трафей.
На гэтыя багацці
глядзіць з партрэта Сталін,
І нібы кажа: „Праца
не скончана, Сяргей!“
Ён глянуў проста ў вочы
настаўніка і брата,

І думаў: „Колькі шчасця
адчута мною тут!
Які народ цудоўны
ў нас на зямлі багатай,
Якая радасць—праца,
Свабодная ад пут!
Вы ўдарылі у сэрца
гарачай хвалі крылы
Трывогі, неспакою
знаёмага майго!
Стары агонь ваяцкі
Не гасне. Я ‘шчэ ў сілах
Больш моцна і заўзята
Раздзьмухаці яго;
Што турмы не зламалі,
завеі не згасілі,
Што да краёў напоўніў
жывую мысль маю,—
Ніхто не пераможа
магутнай нашай сілы.
Народжанай у справе,
ўзмужнелай у баю.
Хто крыўся па абозах,
калі мы йшлі ў паходы,
Хто нас хапаў за рукі,
калі мы йшлі на бой,
Хто плутаў між нагамі,—
тых вольныя народы
Змятуць з дарогі, знішчаць
на ўсёй зямлі сваёй.
О, так! Мы знаем нораў
змяінае пароды,
Мы ўмеем вырваць жала
і з пашч падпоўзлых змей!
Умеем мы разблытаць
іх фраз і спраў сувоі,
Мы падымаць умеем
народ для барацьбы,
Ніколі ‘шчэ не знала
гісторыя такое
паскуды і злачынства,
і здрадніцтва й злабы.
Атара душ прадажных,
раз‘юшаных, бяссілых,
Што носяць пад палою
атрутлівы наган!—
Сіпіць уся іх зграя,
пачуўшы, што завыла
Гіена-падла—Троцкі,
іх банды атаман,

Дзесь тоіцца Зіноўеў...
Я й сёння памятаю,
Як круглая, таўстая,
кашлатая сава
Выпісківала, збляклшы
ад злосці і адчаю
Ўсе здрадніцкія словы,
пужлівая сама.
О, так! Я памятаю
агністы час разгрому
Майстроў каварства й здрады,
павержаных у прах,
Калі сышліся масы
у абурэнні грозным
Навекі зачыніўшы
на Ленінград ім шлях!
Яна яшчэ крадзецца,
зміяная парода,
стварэнне здрады лютай
яшчэ сіпіць з імглы...
Змагацца, жыць заўсёды
для партыі, народа,
І радасці найбольшай
не знаю на зямлі!.."

Вясёлы, пругкі вецер
уніз струменіць з дому,
Нясе з сабою шолах
сумётаў ад Нявы,
Трамваяў звонкіх рэха
і чалавечы гоман;
Шуміць знаёмы горад,
любімы і жывы.
Крыніцай горнай пахне
і хвояю густою,
Карэльскі гэты вецер,
упарты, снегавы,
Цвярозы, добры трунак
мацнейшага настою,
Завараны на голлях
іглістых верхавін.
Ён ходзіць па непышным,
па светлым і прасторным,
пакоі задумённым
сакратара ЦК,
Павольна загайдае
шнур ліній тэлефонных,
Тыркне на сценцы карту
і хоча уцякаць.

Пачуўшы шолах карты
зірне адразу Кіраў,
Заглядзіцца, нібыта
вымервае здалёк
Хаду паважных рэчак,
паспешны крок пункціраў,
І рост зямлі паўночнай—
ўсё бачыць ясны зрок.
Нарысаваны вехі
гардлівыя на схеме
Кружкамі гідрастанцый,
трыкутнікамі руд
На рэках і вазёрах,
на мёрзлай хвалі Кемі,
Ва ўсіх краях, дзе людзі
ў работу свет бяруць.
Ад Ладагі і Сесі,
ад сіняга прастора,
Туды, дзе ўгруз у тундру,
гарбун Кукісвумчор,
у берагі крутыя
Барэнцавага мора
Урысаваны вехі—
вялікіх спраў узор.
Бушуюць Нівабуду
нястомныя турбіны,
Трымаюць незгасальных,
паўночных сонц напал,
Рвуць камень пладаносны
з сваіх глыбінь Хібіны
І мурманскія хлопцы
выходзяць на аўрал.
Па штабелях каналаў
праносяць груз стракаты
з Анегі ў Бела-мора
цяжкія караблі.
Які наш люд заўзяты,
які наш край багаты,
Які цудоўны подвіг
вяршыцца на зямлі!..
І ён чытае, свежы,
яшчэ вільготнаваты
Любімай „Правды“ нумар,
што толькі прынясл.і
І з першае старонкі
вось Вячэслаў Міхалыч
ўглядаецца праз шкельцы
авальнага пенснэ...
Як вырадкі-фашысты
закружаць з лютым шалам,

Калі мы пастановай
гняздо іх страсанем!
Соўгасаў і калгасаў
да краю поўны склады
дабротлівым цяжарам,
узрастаючым штогод,
Ляглі магутных зерняў
жывыя вадаспады—
Дастойнае работы
бярэм дастойны плод.
Панагрузіць пякарні,
адкрыць шмат крамаў хлебных,
Каб справе комунізму
рубель служыў,—
А шостай заўтра зборы,
дзе загадзя патрэбна,
Прадумана, дакладна
намеціць партактыў...
І Кіраў першы ўстане,
з прамоваю агністай,
Высока рушаць лічбы
ў дзяржаўны свой палёт,
І сэрца гордым шчасцем
напоўніцца ўрачыста,
Бо нам дарога відна
на многа ўперад год.
Пра слоў яго магутнасць
яму не раз казалі,
І сам не мог пасцігнуць
агню сваіх прамоў,
Хоць бачыў, як натхнёна
ўздымаліся у зале,
Калі дагаварыўшы,
з трыбуны ён ішоў.
Ён толькі чуў, як сэрца
палае ад любові,
Калі усхвалявана
казаў: „Таварышы!",
І адчуваў і бачыў
народ ва ўсёй прамове
Вялікую сардэчнасць
вялікае душы...
— Канец. Праеду трохі
па гораду, да рэчы
Я на Лясным будынкаў
шэсць дзён не бачыў сам.
І ўзняўся, нацягнуўшы
ён паліто на плечы,
ў руцэ партфель пацёрты,
сагнуўшы папалам.



Вось там, дзе глуха гнуўся
насціл дрыжучы моху,
Дзе іржавеў заўсёды
у чорных ямах хвошч,
Дзе ўсё вакол прапахла
паветрам склепу вохкім,
І дзе крывыя сосны
і даўгасцеблы дождж,—
Там горад стаў на палях
пагнаўшы ў даль патроху
Разгон праспектаў светлых,
Кружалы людных плошч.
Стаіць ён непахісна
магутны горад, чысты,—
Заводаў велічэзных
заслужаны завод,
Дзе першы стрэл прамчаўся
Кастрычніка ўрачыста,
Ішоў у Зімні з боем
узброены народ.
О Ленінград мой, горад
імкненняў будаўнічых,
Гаспадароў метала,
мікронных мер майстроў,
Знаўцоў светабудовы
законаў таямнічых,
Даследчыкаў сузор'яў,
вялікіх спраў тварцоў!
Люблю твой лес калонны,
граніты, неба просінь,
І немае цячэнне
глыбокіх неўскіх вод,
Капрыз ігры Растрэллі,
спакой павольны Россі,
Здабытае работай
зацвярджанне тваё.
Я бачу, як наклала
галоднае прадбур'е
Свой жорсткі цень на рысы
от гэтых пабудоў,
Калі ў твае асновы,
у цяжкае падмур'е
Каменні клала праца
праклятая рабоў.
І вось угору сцены
ўзрастаюць прада мною
Палацаў небывалых
і новых прыгажосць,
Высокі, светлы, родны
дом радасці людское,

Увасабленне цудаў
і дасягненняў рост.
Шчаслівы, бачу сёння
і ўласных мар праяву.
У мяцеліцах Сібіру,
ўздымаючы кастры,
ў паходах астраханскіх
заўжды аб гэтым марыў,
Калі-ж ты марыш добра,
працуеш добра ты.
Люблю такую мару,
зямлёй уся каб пахла,
у справу йшла на пробу,
каб быў нястрашны пот,
Каб мускулаў і плоці
ўсё ненасытна прагла,
Каб, як радзін чакала,
сваіх наступных год.
Заплюшчыў вочы—жыўчык
маленькім малаточкам
Іскрыста і стогучна
пастуквае ў крыві,
І чуеш цела кожным
напоўненым куточкам
сваё ў трывозе шчасце,
жыцця разрад жывы.
Калі, сусвет, пазнаў ты,
калі адчуў са мною,
Што значыць маладая
зямных байцоў рука,
Як трэба прагна й многа
нам, дружа, жыць з табою
Найпершым, небывалым
жыццём большэвіка!
Адкрыць людскія сілы,
схаваныя пад сподам,
І раскоўлваць горы,
змяніць і рэчак рух,
Навечна й неразрыўна
становячы з народам
Адзінае і сэрца, і волю,
цела й дух!..
Ён раптам сваё слова,
што ўпісана назаўжды
У стэнаграму з'езду,
успомніў у душы
І паўтарыў бязгучна:
„Па шчырасці сказаўшы,
Так хочацца на свеце
яшчэ нам жыць і жыць!“

Машына мякка, лёгка,
кацілася па бруку
Па васьміграннных шашках
накоўзаных тарцоў.
Над вуліцаю Страйкаў
дзве аркі віадуку
Ужо свае упоры
замкнулі з двух канцоў,
Істужкі рэек звяжуць
увышыні й гатова,—
І вуліцаю людзі
пайдуць без перашкод,
І паплывуць па дугах
перагародкі-новай
Чародамі вагоны
ў Пуцілаўскі завод,
Машына па кварталах абноўленых ваколіц
Мчыць на Каменны востраў
ў рабочы гарадок.
Усе глядзяць, пачуўшы
праз звон трамвайных кольцаў
Знаёмае машыны
раскацісты гудок.
— Паехаў Кіраў!—кажа
да бацькі комсамолец.
— Паехаў наш Міроныч!—
адказвае дзядок.
Спяшаюцца знаёмцы,
саратнікі старыя,
З якімі дзеліць радасць,
турботы й працу тут.
З кіно выходзяць гуртам
і малышы таўстыя
І падымаюць рукі—
ўрачысты свой салют.
Падцягваючы хвацка
надзетыя бушлаты,
Раўняюцца направа,
ідуць прызыўнікі:
— Глядзі, Міроныч: толькі
ледзь трохі пачакай ты—
І выйдуць з нас заўзятыя
балтыйцы маракі!

Як молада на свеце!
Над горадам снег чысты
Уецца кволым зернем
мяцеліцы сівой,
Што звонка патухае
і водсветам іскрыстым

Зямлю ўсю засцілае,
хвалюецца на ёй.
Змярканне. Засвяцілі
у Выбаргскім у доме
Рады прасторных вокнаў.
Пражэктар над Нявой
Шугнуў і ўдарыў ў неба,
ў прамення пераломе
Зарухаліся хмары
грамадай снегавой.
І слухаючы гулкі
шум горада наўпроці,
Стаіць спакойнавокі
вадзіцель мас людзей,
Пазнаўшы веліч грознай
дзяржаўнае турботы,
Ўглядзеўшыся скрозь годы
ў нараджанне падзей.
— Дадому?—Так, дадому.
Выходны дзень сягоння
Закончыўся. У доме—
сінеюць сшыткі спраў ,
Лісты матэрыялаў,
калонкі лічб халодных,
Але які ўсетворчы
агонь у іх заззяў!
Да позняе гадзіны
ўсё перагортваць горкі
Газет, паведамленняў,
нататак і лістоў
І, абгарнуты дымам
нязменнае махоркі,
Шукаць для пэўных думак
як найпрасцейшых слоў.
Увасабіць у лозунг,
у пастанову мару,
Змагацца і змагацца...
і раптам—тэлефон,
І чутны родны голас:
„Яшчэ не спіш, таварыш?
Даклад рыхтуеш? Добра,
а ўспомні і пра сон...“
Знаёмы, самы любы,
у свеце самы родны,
Спакойны, ціхі голас
даносіцца здаля,
І слухае ён словы
правадыра народаў,
Праказаныя ў цішы
ўрачыстага Крэмля.

Ў Маскве, магутным месцы,
увенчаным зарою,
Не спіць яго настаўнік,
вялікі, лепшы друг.
І радасна змагацца,
і лёгка йсці зямлёю
І дзень устаў, яснее
далёкі неба круг.
Настаў дзень першы снежня.
У велічным спакоі
Падняўся Кіраў. Штору
адсунула рука:
„Сваці-жа сонца! Слаўся
дух творчасці людское!
Жыві, жыццё бяссмертнае,
жыццё большэвіка“!
Жыві, жыццё, заўсёды!
жыві, святая слава
Людзей, што нарадзіліся,
каб смерць перабароць!
Жыць у жыццях мільённых
навечнае іх права,—
Здабытае ў бяссмерці
і ўліта ў дух і плоць.
Ніщто жыцця не спыніць—
ні стрэлы і ні здрада,
Ні подступ, ні атрута
прадажнае душы.
Няшчадна змей расціснуць,
навечна знішчыць гадаў,
Забіце смерць,
і слаўце жыццё, таварышы!
Ўстаюць тварцы бяссмерця,
мысліцелі й герої,
І дзень устаў над светам,
як першы дзень вякоў.
Жыві, дух жыццёдзейны,
дух творчасці людское,
Жыві, жыццё бяссмертнае,
жыццё большэвікоў!

*Пераклад з украінскае мовы*

*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

---

# ВАЛЕРЫЙ ПАЎЛАВІЧ ЧКАЛАЎ



## УРАДАВАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Урад Саюза ССР з глыбокім жалем паведамляе аб гібелі вялікага лётчыка нашага часу Героя Савецкага Саюза тав. Валерыя Паўлавіча ЧКАЛАВА пры выпрабаванні новага самалёта 15 снежня г. г.**

---

# Спачуванне Соўнаркома Саюза ССР і ЦК ВКП (бальшэвікоў)

**СНК Саюза ССР і ЦК ВКП (бальшэвікоў) выражаюць сям'і тав. Валерыя Паўлавіча ЧКАЛАВА сваё спачуванне ў сувязі з гібеллю Героя Савецкага Саюза тав. ЧКАЛАВА.**

---

ЦК КП(б) Беларусі выражае свой глыбокі смутак з павалу гібелі слаўнага сталінскага сокала, народнага героя, выдатнейшага лётчыка краіны Советаў, **ВАЛЕРЫЯ ПАЎЛАВІЧА ЧКАЛАВА.**

**ЦК КП(б)Б.**

* * *

Прэзідыум Вярхоўнага Совета БССР ад імя беларускага народа выражае свой глыбокі смутак з павалу трагічнай смерці лепшага сталінскага сокала **ВАЛЕРЫЯ ЧКАЛАВА.**

Беларускі народ высока цэніць і ніколі не забудзе заслугі перад краінай бясстрашнага заваявальніка паветраных прастораў— Героя Савецкага Саюза **ВАЛЕРЫЯ ЧКАЛАВА.**

**ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БССР.**

* * *

Цяжка выразіць смутак і цяжар утраты, якая пасцігла нашу краіну. Загінуў на пасту цвёрды сталінскі сокал—герой, любімец народа **ВАЛЕРЫЙ ЧКАЛАЎ.**

Соўнарком БССР выражае глыбокі смутак беларускага народа з павалу гэтай беззваротнай утраты.

Соўнарком цвёрда ўпэўнен, што новыя тысячы лепшых людзей нашай краіны будуць прадаўжаць справу Героя **ЧКАЛАВА.**

**СОЎНАРКОМ БССР.**

---

## БЯССТРАШНЫ ЗАВАЯВАЛЬНІК ПАВЕТРА

Пісьменнікі Савецкай Беларусі выказваюць свой глыбокі жаль з павалу смерці дэпутата Вярхоўнага Совета СССР, Героя Савецкага Саюза—Валерыя Паўлавіча Чкалава. Не стала сярод нас гэтага лепшага сына нашай радзімы, любімага сына народа, бясстрашнага заваявальніка паветра, незабыўнага героя, выхаванца нашай магутнай авіяцыі, пітомца таварыша Сталіна, не стала Валерыя Паўлавіча. Ён загінуў на сваім баявым пасту, умацоўваючы крэпасць і абарону краіны.

Яго светлы вобраз будзе вечна жыць у нашых сэрцах, будзе натхняць кожнага савецкага грамадзяніна на новыя подзвігі, на геройствы, будзе служыць прыкладам адданасці нашай вялікай радзіме, нашай роднай партыі Леніна—Сталіна і яе правадыру. Яшчэ мацней згуртуецца сакаліная сям'я савецкіх пілотаў, увесь савецкі народ, каб прадаўжаць вялікую справу, якой жыў і за якую загінуў Валерый Паўлавіч.

Вечная памяць і вечная слава бясстрашнаму сокалу нашай радзімы!

***ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА САВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.***

---

## ВЯЛІКІ ЛЁТЧЫК НАШАГА ЧАСУ

Нечаканая смерць вырвала з радоў савецкіх лётчыкаў Героя Савецкага Саюза Валерыя Паўлавіча Чкалава, выдатнейшага пілота, бясстрашнага пакарыцеля паветраных пастораў, піонера новых трас, майстра сусветнага класа, цудоўнага чалавека і грамадзяніна.

Вялікі жыццёвы шлях прайшоў Валерый Чкалаў, сын кацельшчыка з сяла Васільева-Слабада, Горкаўскай вобласці. Самастойнае жыццё Валерый пачаў рана: падросткам ён працаваў ужо судовым качагарам на землечарпалцы і на пасажырскім параходзе, маслёншчыкам на кацеры.

Ішоў суровы 1919 год. Жалезнае кальцо блакады з усіх бакоў сціскала маладую савецкую рэспубліку. Лепшыя сыны народа ўходзілі на франты грамадзянскай вайны абараняць перамогі Вялікага Кастрычніка, сражацца за новае, лепшае і шчаслівае жыццё. І тады-та юны 15-гадовы Чкалаў уступіў добраахвотнікам у рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. У 4-м авіяпарку ў Канавіне Чкалаў атрымаў першую авіяцыйную спецыяльнасць—майстра па рамонту самалётаў. У тыя гады ўсе яго думы захапіла мара навучыцца лятаць, стаць пілотам. Хутка гэта мара юнака ператварылася ў сапраўднасць. Камандаванне авіяпарка, бачачы добрую работу тав. Чкалава, рашыла накіраваць яго на вучобу. У жніўні 1921 года ён быў прынят у Егор'еўскую школу лётчыкаў, а менш чым праз два годы ўжо самастойна кіраваў самалётам. Па сканчэнні Егор'еўскай школы тав. Чкалаў быў залічан у 1923 годзе ў Маскоўскую школу вышэйшага пілатажу па класу знішчальнікаў. Скончыўшы яе, ён перайшоў у Ваенна-Паветраныя сілы РСЧА і працаваў ваенным лётчыкам з 1924 года па 1932 год.

Бясстрашнага лётчыка цягнула да сябе кожная новая машына. Бязмежная мужнасць, памножаная на любоў да тэхнікі, вызначыла далейшы шлях Чкалава: перайшоўшы ў Навукова-выпрабавальны інстытут Ваенна-паветраных сіл РСЧА, ён стаў лётчыкам-выпрабавальнікам. Пазней ён пачаў працаваць на заводзе імя Менжынскага. Валерый Паўлавіч вывучыў і аблятаў дзесяткі машын розных канструкцый.

У час сваіх выпрабавальных палётаў тав. Чкалаў ні разу не карыстаўся парашутам. Па яго ўласных словах, ён „паважаў іх, але абыходзіўся без іх". 2 мая 1935 года на Цэнтральным аэрадроме імя Фрунзе Нарком Абароны таварыш К. Е. Варашылаў прадставіў

бясстрашнага пілота таварышу Сталіну. Распытваючы лётчыка аб яго рабоце, уважліва выслухоўваючы яго адказы, таварыш Сталін запытаў, чаму Чкалаў не карыстаецца парашутам, а стараецца выратаваць машыну. Валерый Паўлавіч адказаў, што ён лятае на вопытных, вельмі каштоўных машынах, губіць якія шкада. Іменна таму ён стараецца выратаваць машыну, а ўжо разам з ёй і сябе.

— Ваша жыццё,—сказаў лётчыку таварыш Сталін,—даражэй нам любой машыны. Трэба абавязкова карыстацца парашутам, калі ёсць у гэтым патрэба.

Праз некалькі дзён—5 мая 1935 года — урад узнагародзіў тав. Чкалава за неаднаразова праяўленую выключную смеласць і мужнасць пры выпрабаванні новых канструкцый самалётаў ордэнам Леніна.

Гэтыя дні Валерый Паўлавіч часта ўспамінаў, як адны з самых выдатных у сваім жыцці. Ён гаварыў аб іх:

„Доўгі час я быў пад уражаннем сталінскіх слоў, ясная сіла якіх мяне ўзрушыла. Жыццё лётчыка даражэй машыны!

Пасля сустрэчы з вялікім правадыром змест майго жыцця стаў багацей: я стаў лятаць больш дысцыплінавана, чым лятаў раней; у мяне, здавалася, уліліся новыя велізарныя сілы для служэння нашай цудоўнай радзіме. Рэзультатам маёй сустрэчы з таварышам Сталіным і з'явіўся наш—Байдукова, Белякова і мой—пералёт Масква—востраў Удд".

Цэлы год пасля гэтай памятнай сустрэчы тав. Чкалаў упорна працаваў па выпрабаванню новых самалётаў, папутна рыхтуючыся да далёкага беспасадачнага пералёту. Ён і яго таварышы марылі зрабіць гіганцкі прыжок праз Паўночны полюс з Масквы ў Злучаныя Штаты Амерыкі. У першых чыслах чэрвеня 1936 года слаўны экіпаж гутарыў з таварышам Сталіным, іззлажыў яму ўвесь план палёту, атрымаў падрабязныя і дакладныя ўказанні куды ляцець.

У адказ на просьбу лётчыкаў дазволіць ім палёт да Паўночнага полюса таварыш Сталін сказаў:

— Навошта ляцець абавязкова на Паўночны полюс? Лётчыкам усё здаецца не страшным—рызыкаваць прывыклі. Навошта рызыкаваць без патрэбы?..

Таварыш Сталін растлумачыў тады лётчыкам, што ўмовы палёту ля Паўночнага полюса мала вывучаны, што іх трэба добра і падрабязна вывучыць і ляцець ужо напэўна. Таварыш Сталін сам указаў гераічнаму экіпажу маршрут для палёту: Масква—Петрапаўлаўск-на-Камчатцы.

Ва ўсёй краіны ў памяці гэты выдатны пералёт тт. Чкалава, Байдукова і Белякова па сталінскаму маршруту Масква—Барэнцава мора—Зямля Франца-Іосіфа—мыс Чэлюскін—Петрапаўлаўск-на-Камчатцы. Пасля 56 гадзін 20 мінут палёту, значная частка якога праходзіла ў складанейшай метэаралагічнай абстаноўцы, чырвонакрылы самалёт зрабіў бліскучую пасадку ля Нікалаеўска-на-Амуры, на невялікім востраве Удд, які носіць цяпер імя Чкалава.

Савецкі народ з захапленнем вітаў бліскучую перамогу гордых сталінскіх сокалаў. За ажыццяўленне гэтага беспасадачнага даль-

няга пералёту ў выключна цяжкіх умовах Арктыкі і нявывучаных раёнаў крайняй Поўначы ўрад прысвоіў камандзіру самалёта Валерыю Паўлавічу Чкалаву і яго адважным спадарожнікам тт. Байдукову і Белякову званне Героя Совецкага Саюза, узнагародзіў іх ордэнам Леніна.

Валерый Паўлавіч Чкалаў заўсёды актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці. У снежні 1936 года рашэннем ЦК ВКП(б) ён быў прынят у рады вялікай партыі Леніна—Сталіна. З гэтага дня лётчык-комуніст Чкалаў яшчэ з большай настойлівасцю ўзяўся за рашэнне новых складаных і адказных задач, якія стаяць перад авіяцыяй краіны соцыялізма.

Чкалаў разам са сваімі таварышамі паставаў мару зрабіць беспасадачны пералёт з Масквы праз Паўночны полюс у Злучаныя Штаты Амерыкі, рыхтаваўся да яго старанна і сур'ёзна. Зноў як і перад першым пералётам, тав. Чкалаў быў прынят таварышам Сталіным. Таварышы Сталін і Молатаў падрабязна цікавіліся матэрыяльнай часткаю, распытвалі аб драбнейшых дэталях, ад якіх залежаў поспех пералёту.

Валерый Паўлавіч не раз успамінаў, якое глыбокае хваляванне ў яго заўсёды выклікалі сталінскія клопаты аб чалавеку. І на гэты раз камандзір экіпажа пачуў у напутствіе словы таварыша Сталіна:—спыніць палёт пры першай пагрозе небяспекі.

Раніцой 18 чэрвеня 1937 года аднаматорны самалёт, несучы на сваім фюзеляжы горды надпіс „Сталінскі маршрут", стартаваў і лёг курсам на поўнач.

Гэтым пералётам была ўпісана слаўная старонка ў гісторыю перамог сталінскай авіяцыі. Совецкія лётчыкі праклалі новую паветраную трасу з Еўропы ў Злучаныя Штаты Амерыкі праз Паўночны полюс. Усё перадавое, прагрэсіўнае чалавецтва з захапленнем сустрэла гэту перамогу совецкіх лётчыкаў-герояў.

Бясстрашны і скромны Валерый Паўлавіч Чкалаў быў гатоў да новых дзярзанняў ва славу сваёй вялікай радзімы, рыхтаваўся да новых дальніх пералётаў.

Выдатны чалавек, дастойны сын совецкага народа, ён карыстаўся гарачай любоўю працоўных. Год назад выбаршчыкі Горкаўскай выбарчай акругі па выбарах у Совет Нацыянальнасцей выбралі тав. Чкалава сваім дэпутатам у Вярхоўны Совет СССР.

Усе свае невычарпальныя творчыя сілы, вопыт і веды, усю сваю энергію аддаў Валерый Паўлавіч беззаветнаму служэнню радзіме, нястомна мацуючы Чырвоны Паветраны Флот магутнай авіяцыйнай дзяржавы.

Совецкая авіяцыя страціла аднаго з любімейшых сваіх пілотаў, але смерць Валерыя Паўлавіча Чкалава не аслабіць яе несакрушымай магутнасці. На змену герою-лётчыку прыдуць сотні і тысячы маладых людзей нашай краіны, якія, следуючы слаўным традыцыям Валерыя Чкалава, будуць мацаваць совецкую авіяцыю.

(ТАСС).

*Якуб Колас*

## ПАМЯЦІ
## ВАЛЕРЫЯ ПАЎЛАВІЧА ЧКАЛАВА

Сям'я арлоў асірацела—
Арла магутнага не стала,
І сэрца цісне боль знямелы:
Загінуў лепшы з лепшых—Чкалаў.

Замёр навек палёт арліны—
Арла магутнага не стала.
Лягло, як ноч, на твар краіны
Жалобы горкай пакрывала.

Яшчэ гарацъ, як бліскавіцы,
Сляды, дзе ён кружыў учора,
А сёння Крэмль з усёй зямліцай
Утраты цяжкай дзеліць гора.

Ды смерць бяссільна над героем—
Між намі вечна жыць ён будзе,
Як наш узлёт няспынны к зорам—
І свет героя не забудзе.

*Пятрусь Броўка*

## РАЗВІТАННЕ

Зямля мая!.. Журботны марш...
Зямля мая ў журбе...
Валерый Чкалаў! Сокал наш!
Няўжо няма цябе?

Навечна абарваны шлях,
Няўжо табе не жыць?
Няўжо над светам, па марах
Твой спеў не прагучыць?

Ты-ж вёў высока над Крэмлём
Крылатыя страі,
Ты-ж быў адважным важаком
Арлінае сям'і.

Няўжо табе не узляцець,
І шум матора змоўк?
Перад табою-ж часта смерць
Адходзіла на бок.

Няўжо смяротная пара
Палёт спыніла твой?
Я чую сум правадыра
Над свежаю труной.

Схіляе голавы народ,
Цябе праводзіць ён...
Я чую—чкалаўцаў палёт!
Іх многа!.. Іх мільён!..

*Міхась Лынькоў*

# ПРА МАЛАДОСЦЬ

*(Апавяданне)*

Аратар гаварыў аб Літве, аб Беларусі. Ён гаварыў аб ворагах, якія акружылі Беларусь і Літву, пагражалі Совецкай Расіі, неслі небяспеку Совецкай Венгрыі.

Здавалася, словы ліліся самі сабою—плаўныя, ціхія пявучыя. Але гэта толькі здавалася, яны былі рэзкія, калючыя, як ашчаціненыя штыкі, што цьмяна паблісквалі ў поўзмрочнай зале. „Рэволюцыя... контррэволюцыя... на два лагеры падзяліўся ўвесь свет і міру між імі не быць...“ Рэзкасць слоў скрадвала настарожаная цішыня зала, чэрвеньская духмень, вячэрні гоман вялікага горада, гоман, які далятаў сюды праз адкрытыя вокны. Затаіўшы дых, людзі слухалі, баючыся прапусціць хоць адно слова, свірэпа аглядваліся на кашлянуўшага, сурова моршчыліся на іржавы візг конкі, прахадзіўшай недзе там, за акном на плошчы.

Васька нават рот адкрыў—да чаго-ж харошыя словы ён чуе. Ён ведаў іх і раней. Але былі яны тады нейкімі куцымі, цьмянымі. Гаварылі іх шэптам, боязна азіраючыся па баках, уважліва прыглядаючыся да чалавека, да яго адзення, да рук. Так было яшчэ пры старой арміі і потым пры немцах.

А цяпер! Кожнае слова—наша, і рэволюцыя—наша! Паспрабуйтка слова схаваць! І ці не таму такія крылатыя словы цяпер, і ці не таму так слухаюць іх людзі, што сядзяць плячо к плячу ў гэтай цеснай і душнай зале—уздыхне адзін, і агульны ўздых ускалыхне на міг трапяткую напружанасць зала.

Людзі слухалі і ўважліва сачылі за кожным жэстам аратара, прыглядваліся да яго аблічча. Было ў ім нешта ласкавае, абаяльнае: і ў шэрым пацёртым фрэнчы, у паношанай шапцы з патрэсканым казырком, і ў гэтай мяккай ускудлачанай бародцы, і ў цёплым бляску воч. Усё аблічча было падобна на светлую радасную ўсмешку. І тут-жа яно рабілася жорсткім, калючым—вастрэй выпіналіся плечы, пальцы рук нервова камячылі шапку, што ляжала на трыбуне, холадна паблісквалі вочы. То чалавек гаварыў аб двух лагерах, аб рэволюцыі і контррэволюцыі.

І хоць Ваську і не дужа быў у галаве сэнс некаторых слоў, хаця ён і даволі цьмяна ўяўляў сабе агульнасць інтарэсаў між Совецкай Венгрыяй, скажам, і Совецкая Расіяй, Літвой і Беларуссю, але

ён добра ведаў словы аб рэволюцыі, аб свабодзе, аб ворагах. І не толькі словы. Хто, хто, а ён добра зразумеў—жыццём сваім, каркам сваім—хто за рэволюцыю, а хто супроць. І не ў яго прасіць літасці ворагам. І адчувае Васька, як дзервянеюць пальцы рук, сціскаючы вінтоўку—паспрабуй-тка, вырві яе, адымі ў яго.

Чалавек за трыбунай змоўк. Старожкая цішыня, узнікшая на міг, нібы раскалолася і рассыпалася перакатамі воплескаў, грукатам скамеек—то ўставалі людзі, каб ямчэй вітаць чалавека. Як з адзіных грудзей выбухнулі словы:

— Смерць ворагам!

— Няхай жыве рэволюцыя!

Васька прыгарнуў вінтоўку да пляча і, выцягнуўшыся на цыпачках, крыкнуў, стараючыся перакрычаць усіх у гэтым зале:

— Ура таварышу Калініну!

Яго выкрык не павіс у зале, сотні людей падхапілі ура і яно страсянула паветра, здрыгануўшы тоўстыя сцены высокай залы.

Сам Васька, спалоханы сваім голасам і позіркамі людзей, збянтэжана паправіў пояс, узяў па ўсіх правілах вінтоўку, прыставіў як след да нагі.

— Іш ты іх... раскрычаліся... парадку не ведаюць...—падкрэслена сурова паглядзеў ён на бліжэйшыя рады, імкнучыся хаця гэтым загладзіць сваю памылку. Як ніяк, ён часавы ля дзвярэй, ён не павінен забывацца на свае абавязкі.

Воплескі ўціхалі. І тады ў адкрытыя вокны ўляцелі адзін за другім зусім новыя і нечаканыя гукі. Здавалася, гэта былі прыглушаныя перакаты грома, ускалыхнуўшыя шэры змрок над ціхім засынаўшым горадам. Але перакаты дакладна чаргаваліся, нарасталі мацней і мацней, і ператвараліся ў яўную гарматную кананаду дзесьці там, далёка, за дзесяткі вёрст дарог, што заблыталіся ў змроках начы.

Твары людзей неяк адразу пасуровелі, пасцёрліся ўсмешкі. У зале наступіла цішыня. І таксама адразу неяк нечакана узніклі ціхія словы песні. Яны станавіліся гучней і гучней, песня расла, шырылася, нібы выраслі ў яе вялікія крыллі і ёй цесна рабілася ў каменным мяшку зала, яна грымела ўжо над шырокаю плошчаю за акном, дзе стаялі калоны рабочых. Здавалася, увесь горад падхапіў гэту песню: спявалі вуліцы, плошчы, панурыя грамады камяніц, бедныя хаціны акраін, трывожныя паравозы вакзалаў.

Васька задумаўся на хвіліну, прыслухоўваючыся да знаёмых слоў песні. І не вырашыўшы да канца—мае ці не мае ён права на гэтую песню, як салдат і часавы—ён неўзаметку далучыўся да яе і пеў, забыўшыся аб усім на свеце: аб сырым падвале кватэры, аб злючым гаспадары майстэрні, аб неатрыманым заробку за тры месяцы, аб чадных вуцюгах... Вуцюжыш, вуцюжыш, зялёныя іскры сыпяцца з воч, спіна разламваецца напал... Вунь пальцы ўсе паапалены вуцюгамі... Нават зірнуў на іх...

Але хіба важна ўсё гэта, цяпер, калі грыміць кананада і, заглушаючы яе, ўзлятае да самых зор вялікая песня аб іх, аб работніках сусвету, якія даб'юцца вызвалення сваёй уласнаю рукой...

Так закончыўся ўрачысты сход, на якім прысутнічаў і Васька.

Праўда, яго роля была вельмі маленькай. Ён быў усяго на ўсяго часавым ля дзвярэй. Абавязкі яго—парадак і прапускі. А хіба-ж гэта ўжо такія маленькія абавязкі, хіба гэта не пачэсная адказнасць?

Гэтае пачуццё адказнасці і радаснай усхваляванасці не пакідала Ваську да самай казармы комсамольскай роты. Там ужо ўсе спалі. Драмаўшы днявальны зірнуў на яго, прыкрыкнуў сярдзіта:

— Гэй ты, Верабей, не стучы так...

І адразу асекся:

— Ты чаго, Вася?

Злосна гарэлі Ваською вочы. Зірнуў ва ўпор на днявальнага.

— Па-першае, памятай гэта, я табе не верабей... Па-другое, я табе не Вася, а таварыш Вераб'ёў... А па-трэцяе... Па-трэцяе... Ды хіба табе ведаць... А можа я Калініна бачыў... А можа мы заўтра на фронт пойдзем...

— Ну вот... Расказвай казкі... Адкуль ты ўсё ведаеш гэта?

Завязаліся спрэчкі.

А праз якую хвіліну ўсе хлопцы згрудзіліся ля Ваські і закідалі яго пытаннямі:

— Ну, гавары... Што казаў ён? І ці строгі?

Хутка ўся казарма гудзела, як вулей. Дарэмны былі ўгаворы днявальнага класціся спаць. Ён урэшце безнадзейна махнуў на ўсё рукой, угаманіўся і ахрыплым голасам падцягваў разам з вясёлай братвой:

Мы кузнецы,
И друг наш молот—
Куем мы счастия ключи...

Неўзаметку праходзіла ноч. Яна адступала перад песняй маладосцю.

Развіднялa.

Гучней рабілася кананада.

Тады неяк усе прыціхлі, задумаліся.

---

Ужо трэці месяц, як Васька ў комсамольскай роце. Мянушка верабей цвёрда пайшла за ім яшчэ з прыймовай камісіі. Адзін з дактароў, сухлявы, тонкі, зірнуў пагардліва на яго і, не дачуўшы толкам фаміліі, буркнуў сярдзіта:

— Таксама ваяка! Ляці дамоў, верабей!

Васька паглядзеў на яго, як на буржуйскую гідру, гучна пацягнуў носам, памянуў пра нейкую клісцірную трубку, і з самым рашучым і незалежным выглядам падышоў да другога члена камісіі, чалавека ў ваенным.

— Так што жадаю ў армію... Да... І непрыменна каб кулямётчыкам... Іначай і не магу...—торапка гаварыў ён, адчуваючы, як пачынае здаваць яго рашучасць, пачынае дрыжаць голас. Спяшаючыся і хвалюючыся, даставаў ён з кішэні прамасленага пінжака даведку з комсамола.

— Вот і паперка ад ячэйкі... Вот тут сказана, што я мабілізаваны і што мне восемнаццаць год...

— А дазвол ад бацькоў?

— Бацькоў не маю...—і чамусьці густа пачырванеў.—Так што сам па сабе, а комсамол дазваляе...

Хутка выпаліўшы ўсе свае аргументы, Васька скоса зірнуў: а што калі раптам гэты чалавек возьме яго пад сумненне, ды патрабуе гэтыя ненавісныя паперкі. Бяда з імі, з паперкамі. Тут рост крыху падводзіць, а тут яшчэ колькі клопату было ў ячэйцы з недастаючым годам. Колькі давялося папрасіць у хлопцаў. Урэшце якая ім справа да гадоў, калі як ніяк, пяты год працуе ён у швачнай майстэрні, а там яго узростам не так ужо і цікавіліся. А тут яшчэ пра бацькоў пытаюць... Як-жа, скажы ім пра матку... Яна, матка, канешне яго не ўтрымае, павінна зразумець усю справу... Але-ж слёзы будуць, нідзе ад іх не дзенешся, такія ўжо нашы маткі, бяда з імі... І шкада, канешне, іх...

Васька пазіраў з-пад ілба, чакаў. Нядзея і адчай яўна свяціліся ў ваччу, змяняючы адно другое. Ільняныя віхры несуразна лезлі ва ўсе бакі, упрашальная ўсмешка змянялася панурымі маршчакамі на ілбу, пальцы нецярпліва церабілі гузік кепкі, і ўвесь Васька быў падобны на сапраўднага вераб'я, гатовага біцца з кім заўгодна, абы толькі не адступаць.

Чалавек у ваенным аглядзеў яго дапытлівым вокам, усміхнуўся, падміргнуў другому чалавеку ў штацкім, запытаў:

— Што-ж нам рабіць з ім?...—хацеў сказаць „з птушаняткам гэтым“, але не сказаў і захаваў усмешку ў вусах.

— Так... Хударлявы занадта... і ростам не вышаў...

— Ну, рост не такі ўжо страшны, хлопец яшчэ падцягнецца...

Нібы вечнасць цэлая прайшла, да таго доўгімі, доўгімі пакаваліся Ваську гэтыя размовы. І як варам ашпарыла хлопца, калі сказалі яму:

— Ну, ступай...

Ваську было не да жартаў:

— Як гэта ступай? Куды ступай?

— Ідзі ў комсамольскую роту. Залічаны. Ну, задаволены?

Тут Васька выкінуў такое антраша і так крыкнуў: „Прыняты, прыняты!“, што доктар, які аглядаў чарговага хлопца, з перапуду прыставіў сваю трубку не зусім да належнага месца, і ў прыймовай камісіі пракаціліся выбухі рогату. А сівенькі доктар, зняўшы пенснэ, натужна праціраў яго і пацінаў плячыма:

— Не разумею... Не разумею... Дваццаць год маю справу з прызыўнікамі, а гэтага ніколі не бачыў... Людзі як людзі, рост, мускулатура, дыханне—ну ўсё-ж старое, бывалае... Але прычым-жа, скажыце, гэтая радасць... Чалавек ідзе ў салдаты—рад... Гм... Не разумею...

З яго пасмейваліся. А чалавек у ваенным узяў яго за пояс халата і сказаў яму:

— Бачыце, доктар, тут справа ў тым, што вы, што ў вас, каб сказаць вашым тэрмінам, у вас кароткае яшчэ дыханне... А таму вы і не разумееце... Але ў недалёкім часе і гэта стане для вас зусім ясным.

Доктар глядзеў аднак не разумеючы і, каб выйсці з нялоўкага замяшання, ненатуральна афіцыяльным голасам заявіў:

— Я ведаю свае абавязкі...—і схамянуўшыся, дадаў:

— Наступны, на агляд! Дыхайце раз, дыхайце два...

...А Васька тым часам не азіраўся. Ён імчаў у сваю комсамольскую ячэйку. Адтуль таропка пабег у швачную майстэрню ліквідаваць свае справы. Аж упацеў, так спяшаўся. Калі падышоў да знаёмых варот, крыху апаў вясёлы настрой—аж пальцы засаднілі, то-ж давялося ім калісьці ад вуцюгоў. Ды што пальцы... Дужа не любіў гаспадара свайго Васька, ды і гаспадар гэты, не сказаць, каб залішне ўпадабаў Ваську... Калі гаварыць аб узаемнай любві, дык тут, па праўдзе кажучы, былі поўныя квіты... Але-ж грошы заставаліся грашмі, не прападаць-жа заработку. Падумаў Васька пра гэтыя справы і не так ужо рашуча пасунуў у фортку. У швачнай гудзелі машыны. На ганках распальваліся вуцюгі, некалькі дзяўчат размахвалі вуцюгамі, раздзьмухвалі іх. Заўважыўшы Ваську, яны кінуліся да яго гаманлівай стайкай, церабілі за піджак, тузалі за рукі.

— Ну што? Ну як? Дык ты і насапраўды кінуў майстэрню?

— З буржуямі не хачу мець справы...—важна адказаў Васька.— Біць буду іх... Вот...—замяшаўся ён крыху, заўважыўшы Насціны вочы—і яна тут,—а вочы ў яе смяшлівыя. Як усміхнецца, увесь твар палымнее. Можа таму што вяснянак багата, аж нос ад іх залацісты. І сярожкі ў яе, пабліскваюць каменьчыкі бірузовыя, ай як пабліскваюць, аж у чырвань Ваську уганяюць. Вот даведаюцца дзяўчаты, што Васькаў то клопат гэтыя сярожкі—падарунак сакрэтны, будзе то Ваську сораму, будзе то Ваську прыкра. Таму і сказаў сурова, аж Насця пакрыўдзілася, бровы насупіла:

— Дзе гаспадар?

— Табе гаспадар патрэбны, ну і шукай яго сам. Нам то аб ім клопат вялікі...—і адышліся ў бок.—Іш ты важны які...

А тут і гаспадар вышаў. Накінуўся з лаянкай на дзяўчат.

— А кыш у гладзільню, чаго не бачылі... Вечна ім гульні, вечна ім смешкі, а працаваць-жа хто будзе? Я?

І тут заўважыў Ваську, бародку рэдзенькую зацерабіў:

— Ну? Прышоў аднак? Напрыкучылі комсамольцы? Даўней бы так... Толькі глядзі, каб больш у мяне ў майстэрні тут не дурыць!

Васька маўчаў. Мо' пераджкаджала трохі Насця. Яна стаяла недалёчка. Яна камечыла ў пальцах пярэднік, відаць сярдзітая была. А на каго: на гаспадара ці на Ваську, здагадайся тут.

— Я па грошы прышоў, па заробак...

— Станавіся на работу, прыдзе дзень, атрымаеш усё разам...

— Я ў армію паступіў... А грошы мае зараз-жа аддайце...

З хвіліну падумаў гаспадар, потым скрывіўся і яго як прарвала.

— Ха! Ён пашоў у армію, дык ён думае, што з гэтай прычыны я адкрыю банк. Як-жа, калі ласка... Ён прышоў па грошы, а запытаць, ці павінен я табе грошы? А што ў машыне паломка, а прагулы, а комсамольская распуста праз яго, дык гэта яму хаханькі. Гм... Няма ў мяне грошай... Ніякіх грошай. Можаш ісці. Што? Вы паглядзіце на яго, ён прышоў на мой двор і яшчэ ста-

віць мне ўльтыматум! Ха! Знашоўся такі міністр, палітык... Вы-б усё забралі...

Нахмурана маўчалі дзяўчаты. Васька сціснуў кулак.

— А грошы ты аддасі. Ты на палякаў на спадзявайся, у Вільню да іх не ўцячэш... Не аддаеш так, прымусім законам...

— Закон, закон! Каму ён гэты закон, чый закон?

— Наш закон, сусветная ты...—хацеў сказаць „гідра", але пагардліва махнуў рукой, праказаў толькі:—буду я тут мітынгі разводзіць са ўсякай поскуддзю...

І пайшоў рашуча са двара.

Як ўколаны іголкай падскочыў гаспадар.

— Ха! Ён яшчэ мяне пужае! Я не гаспадар свайму прадпрыемству! Я павінен яго слухаць! Што?—і хоць ніхто не праказаў яму ніводнага слова, ён звярнуўся да дзяўчат з гэтым грозным запытаннем. Тыя панура маўчалі.

—Я вас пытаю, ці не? Чаго маўчыце? Айда, мурзатыя, на працу! Што? Яны мяне хутка абдзяруць, як ліпку, яны мяне кінуць у разор! Яны мяне сціскаюць з кожным днём... Яны не даюць размаху... Але я пакажу ім, што значыць я—купец і фабрыкант!.. Я—Абрам Хаперман і Ко!.. Я шыю бялізну... Я шыю тонкі туалет... Я шыю гардэроб на цэлы горад... Я шыю... А мне на шыю... Што?

Тут гаспадар спыніўся. Яго яўна ніхто не слухаў. Дзяўчаты былі ў майстэрні, некаторыя пайшлі з Васькай. Толькі з суседняга двара, дзе была майстэрня ўсякіх могілкавых пліт і помнікаў, раздаўся такі знаёмы і ненавісны яму голас:

— Паслухайце, гаспадзін Хаперман і Ко, слаўны купец і фабрыкант! Ці не час вам заказаць у нас харошы манумент на вашы схуднелыя прадпрыемствы? Спяшайцеся, пакуль не позна?...

— Хам!—агрызнуўся гаспадзін Хаперман і хуценька нырнуў у сваю канторку. Ах, як не любіць Абрам Хаперман Абрама Кровеля, старога камняцёса з суседняй майстэрні. Што яму трэба, гэтаму чалавеку? Заўсёды гатовы сапсуць добры настрой такому паважанаму чалавеку, якім з'яўляецца ён, туалетных тонкіх спраў майстар і купец—Абрам Хаперман і Ко. Што возьмеш з гэтага чалавека: мае з камнем справу і грубую справу, сам грубы...

---

Атрымаўшы вінтоўку і прызначэнне ў роту, Васька, як віхрам падхоплены, імчаў дахаты. Трэба было пагаварыць з маткай. У сенцах, дзе майстраваў заўсёды стыляр-сусед, ён схаваў вінтоўку пад свежыя і пахучыя істружкі—каб не здарылася чаго з аружжам, шчэ скрадзе хто—і зайшоў дахаты. Маці прышла з работы і корпалася ля печы, рыхтуючы няхітрую вячэру.

— І дзе толькі бегаеш, ніколі ў пору не прычакаешся цябе да вячэры?

— Справы, мама...

— Якія там справы, абы боты біць...

— Гм, боты...

Васька сядзеў як на іголках. Трэба-ж урэшце адпраўляцца ў роту,

а як ты пачнеш тут. Чуў Васька пра дыпламатаў, гутарку сваю павёў ён здалёк:

— Кажуць, палякі ў наступленне ідуць...

— Ну, што-ж, галаву сабе зломяць.

— Канешне, зломяць...—згадзіўся Васька і задумаўся, як быць далей, куды гэтую гутарку павесці, каб добры канец быў, каб маці не ўтрывожыць.

— Кажуць, мама, ім буржуі дапамагаюць...

— Ім тое-ж самае будзе, што і палякам...

— Канешне,—згадзіўся і тут Васька.

— Трэба, мама, біць іх, каб навек адвучыць чапаць нас...

— А што ты думаеш, пабілі сваіх буржуяў, прыдзе чарга і да іншых! Сілаў у нас хопіць усякую погань дабіць.

— Хопіць, мама...—сказаў Васька з адчаем, не бачучы, як тут бліжэй падыйсці да справы. І ўрэшце, загадзя пачырванеўшы, пашоў у рашучы наступ:

— Ведаеш, мама, цябе тут абавязкова забяспечаць...

— Ты гэта аб чым?

— Я? У нас цяпер добра забяспечваюць сем'і чырвонаармейцаў... і паёк... Ну, і ўсякая там дапамога...

— Гэта і добра, а як-жа ты думаў, каб мы пакінулі сем'і так... На тое-ж і наша рабочая дзяржава...

Вот і з'агітуй тут матку. Тады Васька кінуў усякую дыпламатыю і сказаў проста і ясна:

— Ведаеш што, мама? Я запісаўся ў чырвонаармейцы, я сягодня пайду ў казарму, буду там у комсамольскай роце... Усе нашы хлопцы там... каторыя большыя... Інача й нельга...

Сказаў Васька і замоўк. Але на сэрцы стала лягчэй. Галоўнае сказана матцы, сказана без усякіх хітрыкаў. Маўчала і маці. Яна агледзела сына доўгім уважлівым позіркам. Быў у ім адвечны матчын сум, няўлоўная трывога за чалавечае жыццё, блізкае і дарагое. І неяк неўзаметку здрыгануўся твар яе, нібы цень прашоў па ім і захаваўся дзесьці ў вачах... І каб схаваць здрадніцкія слёзы, яна прыхілілася тварам да грудзей сына, абняўшы яго аслаблымі, трапяткімі рукамі. Ціха, ціха было ў змрочным пакойчыку і чуваць было, як глуха шархацелі за падвальным акном крокі прахожых, ды зверху, са столі даносіўся звыклы гоман вялікай камяніцы— цьмяныя адрыўкі слоў, прыглушаны стук, далёкі дзіцячы плач, адгалоскі ад песні, ад крыку, ад музыкі. І нібы ўслухоўваючыся ў гэты вялікі гоман жыцця, маці сказала сыну:

— Хіба-ж я цябе буду трымаць?.. Ідзі... Хаця ты яшчэ малады, можна-б і пачакаць... Але твой-жа характар я ведаю, табе лепш відаць, як і што... У нас на заводзе таксама рабочыя каторыя запісаліся ў полк... Што-ж, такі час...

Васька пацалаваў маці і, узяўшы ў сенцах з-пад стружак вінтоўку, пабег на двор. Там ціханька пастукаў у вакно дворніцкай. І калі вышла Насця—яна жыла на адным двары з Васькам—яны пайшлі па вячэрніх вуліцах горада, туды, да казармы. Васька беражна нёс вінтоўку, расказваў, як трэба класці ў яе патроны, як трэба чысціць, як трэба надзяваць штык.

— Ты думаеш, яна цяжкая? Во паспрабуй, патрымай...

Насця беражна ўзяла вінтоўку, трымаючы яе абедзьвюма рукамі. Спыніліся. Дзесьці над імі мякка шалясцела лісце ліп і клёнаў. Непадалёчку цьмяна пабліскваў вулічны ліхтар і яго водбліскі палахліва мільгалі на Насціным твары. Быў ён задумлівы, спакойны.

— Насця?—ні то запытаў аб чым, ні то проста паклікаў Васька. І прыхіліўшыся да яе, абняўшы, ён таропка пацалаваў яе. Яна ўся страпянулася, мякка адхіліла яго, пайшла.

— Што ты? Вунь людзі...

Ішлі моўчкі. Толькі перад самай казармай Насця сказала яму:

— А нашы дзяўчаты ў санітарны атрад ідуць... Я таксама запісалася ў санітарную лятучку... Хутка паедзем на фронт... Мо‘ сустрэнемся часам... Ну, ідзі...

Развіталіся.

З казармы даносіліся гаманлівыя галасы. Насця азірнулася, каб лішні раз угледзець Васькаву постаць. Ён прамільгнуў на ганку і знік у чорным растворы дзвярэй. Уздыхнула, паволі пайшла дахаты, узіраючыся ў цёмную бездань неба, на якім так урачыста і строга пабліскваді далёкія зоркі. Недасяжныя прасторы ляглі да іх. І здавалася Насці, што ляціць душа яе на гэтых прасторах, ляціць далёка, далёка—аж захлынаецца дых ад імклівага лёта, ад велічнай далячыні. І дзесьці там, нібы не маючы да яе ніякага дачынення, засталіся ўсякія вуцюгі, пасцёртыя машынкі, назойлівы гаспадароў голас—ану, жывей, а ну паварачвайся... Што?.. я за вас працаваць буду... Хлеб зарабляй, мурзатая каманда...

---

Светлая раніца ўсміхнулася гораду. Сонечныя блёсткі ігралі з лісцем ліп і кляноў, рассыпаліся зайчыкамі на шыбах акон, залацілі цьмяныя шыльды, падфарбоўвалі дахі камяніц.

Грымелі гарачай меддзю трубы і выбухі барабана ўзляталі вышэй сонечных цен. Аднак яны не заглушалі ні песенных слоў, ні кволага шолаху шоўкавых сцягоў, ні чалавечых уздыхаў, чалавечых слоў звычайных. Гаварылі—бывай, зноў убачымся хутка... Не сумуй... толькі ворагаў вот разаб‘ем... і разбіць іх павінны...

Людзі ішлі на фронт.

Адна за другой праходзілі колоны. Людзі тоўпіліся на тратуарах, праваджалі. І большасць воч прамянілася сонцам, сонечнай радасцю, сонечным сумам. Развітваліся са сваімі, роднымі, блізкімі. Толькі дзе-ні-дзе, за прыспушчанымі фіранкамі халодна пабліскваді чужыя вочы, сутуліліся чужыя спіны.

Васька ішоў у пярэдніх калонах.

Ён старанна адбіваў крок, беражна нёс вінтоўку. На яе штыку красавалася гваздзіка. Нехта з правадзіўшых—ці то дзяўчына, ці то стары, а мо‘ і родная маці, хіба ўпомніць цяпер—надарылі яго гэтай маленькай кветкай, пахучай, свежай. Шчэ не высахла кропелька расы на яе бархатнай чырвані.

Васька ішоў і не адчуваў хады свае, да таго лёгка ісці, калі музыка, калі песні, калі сонца іскрыцца на палотнішчах сцягоў, на тварах людскіх, у думках, надзеях.

Спыніліся на вакзале. Ішла пасадка ў доўгі цягнік. Развітальна ігралі аркестры. Па вагонах па-хатняму заліліся гармоні, дзе-ні-дзе самі сабой узгараліся скокі. І калі прабілі першы званок, на хвілінку прыціхлі вагоны. Людзі развітваліся, давалі апошнія парады, перадавалі апошнія прывітанні. Васька стаяў ля самых дзвярэй вагона. Ён трымаў за руку Насцю і, нібы думаючы аб чым далёкім, глядзеў кудысьці ўздоўж цягніка, туды, дзе пабеглі бясконцыя рэйкі, куды паімчыць іх цяпер чырвоны цягнік. І калі пачуўся другі званок, неяк схамянуўся Васька, горача пацісну Насціну руку, зірнуў ёй у вочы—сур'ёзныя цяпер, спакойныя, не смяшлівыя. І раптам засмяяўся:

—Якія-ж мы з табой важныя, якія мы сур'ёзныя, проста холадна робіцца... Падумаеш, разлука, ты разлука... Хіба навек растаемся... Аднак, наведвай часцей маці... Няхай не сумуе...

Пацалаваліся горача, не саромячыся людзей.

калі садзіўся ў вагон, нібы ўспомніў яшчэ пра што важнае, неадкладнае:

— Пачакай, пачакай, Насця! Вазьмі вот, няхай будзе памяткай...

Прарэзліва загудзеў паравоз, грымнулі буферы, адзін за другім скалыхнуліся вагоны і пайшлі, пайшлі, учашчаючы перастук калёс. З некалькіх вагонаў крыкнулі ёй: „Бывай прыгожая, нас не забывай...“ Дзесьці ўзляцела песня, мільгалі часцей і часцей чырвоныя палотнішчы лозунгаў на вагонах... І людзі, што стаялі на пероне, паспявалі прачытаць іх, і над натоўпам, над прахадзіўшым цягніком словы лозунгаў узляталі баявымі, палючымі воклікамі:

— Смерць панам!

— Смерць белапалякам!

Цягнік даўно адышоў, вакзал стаў шэрым, будзённым. Людзі разыходзіліся па хатах, да звычайных сваіх спраў і заняткаў. Разам з імі ішла. Насця, задумлівая, суровая. Ля самага двара расцяла яна кулак—увесь час быў сцяты—на далоні ляжаў Васькаў падарунак, В ськава памятка, звычайны вінтовачны патрон. Ён быў новы, бліскучы. На матавым водсвеце медзі Насця прачытала маленькі надпіс: „на памяць ад Ваські“. Відаць вырэзваў яго Васька нажом, спяшаўся—літары былі няроўнымі, ішлі коса. Ды ці ў гэтым-жа справа?

---

Цягнік ішоў у глухую ноч. Патроху засыналі вагоны. Сцішыліся песні, прыціхлі гармоні, толькі дзе-ні-дзе не змаўкалі паасобныя галасы, апошнія гутаркі вялі хлопцы перад сном. Аднастайную песню вялі калёсы—цік-так-так... цік-так-так... Васька прыслухаўся да гэтых гукаў, да гарачага дыхання паравоза, драмаў і думаў. Пра буржуяў. То-ж парода людзкая, адкуль толькі напладзіліся... І чаго-ж ім урэшце трэба? Гм... чаго... гэта-ж так проста і ясна... Узяць хаця-б гаспадарчыка свайго, Хапермана, выліты буржуй... Ты на яго працуй, выматвай жылы, а ён... ён будзе сваю кішэню набіваць, а табе—горкія капейчыны... Да чаго-ж прагны гэты чалавек на грошы. І ўспомніў Васька, як хадзіў ён учора з камандзірам роты і з Насцяй па свой заробак да гаспадара. Зніціўся той,

збеднiўся, ну, проста сiрата казанская, „якiя ў яго грошы, калi вайна, разруха, ды тут яшчэ профсаюзы ды комсамол...“ І калi яму сказалi, што худа ён робiць, зацягваючы выплату рабочым, што сорамна яму, такому разумнаму чалавеку—гэта ўжо жартам—не ведаць палiтыкi, той прызнаўся адкрыта: „бачыце, я добры палiтык, калi бяру грошы, а калi мне даводзiцца даваць, то тут ўжо кепская палiтыка...“

Аднак грошы аддаў. Паспрабаваў-бы не аддаць, гад. Толькi на Насцю ўсё злаваў: „Іш, i яна ў палiтыку, там яе не ставала...“ А харошая Насця дзяўчына...

---

Некалькi месяцаў прайшло з таго часу. Рота пабывала ў шматлiкiх баях, страцiла баявога камандзiра, старога комунiста. На месца яго прыслалi новага. Трохi не падабаўся ён хлапцам, быў залiшне залiзаным—у форме, у абыходжаннi з людзьмi. Стараўся быць строгiм камандзiрам i ў той-жа час лез жыўцом у душу, падмазваўся да хлопцаў. А iм, што паўзраслелi ў баях, пасуровелi, не падабалiся яго лiпучыя нейкiя, уедлiвыя словы. Ды яшчэ хвалiўся дужа—вот ён калiсьцi камандваў батальёнам, спрытна немцаў бiў, атрымаў Георгiя ў нагароду. Праўда, уважлiвыя слухачы, колькi раз чуўшы яго ўспамiны, так i не маглi дабрацца да парадку, а колькi гэтых георгiяў перапала на долю камандзiра, ды i самыя баталii камандзiра не мелi дакладнага адраса. Часам яны адбывалiся ў Пазнанi, часам пад Лiдай, часам забiралiся ў самыя Карпаты. І калi расказчык настойваў на Карпатах, якi-небудзь неспрактыкаваны слухач задаваў недарэчы пытанне:

— Пазаўчора вы казалi, што атрымалi георгiя ў Мазурскiх балотах?

Расказчык задумваўся на якую хвiлiну i лiчыў патрэбным згадзiцца:

— Магчыма, што ў Мазурскiх... Бачыце, пасля кантузii пад Варшавай я страцiў крыху памяць... што i гаварыць, аслабла..

І адразу пераходзiў на другую, менш склiзкую тэму, на дзяўчат. Гаварыў ён з прычмокваннем, аблiзваючыся, з хiтрым падмiргваннем хлопцам. І, здаецца, уся яго сугорбленая постаць рабiлася адразу рухавай, жывой. Рабiлiся цямнейшымi яго вочы, з рэдкiмi русявымi раснiцамi, звычайна халодныя, валавяныя. Нават лысiна на галаве i тая цяплела, бо шапку знiмаў, церабiў няшчасныя рудыя валосiкi, недалужныя, успацелыя. Не да спадобы была хлопцам гэтая гутарка. Альбо песню якую ўчнуць, каб адшыць гаваруна, альбо запытае хто знецiку:

— Таварыш камандзiр! А цi не было у вас часам кантузii i на гэтым фронце?

Расказчык паглядзiць абалдзела, потым зразумее, i сярдзiта чмыхнуўшы носам—аж устапурыцца падстрыжаная шчапоцька вусаў—падымецца ад цяпла, буркне пад нос:

—Пайсцi хiба заставы праверыць...

Яму нiхто не адказваў. І калi адыходзiў трохi далей, хлопцы смяялiся ў рукавы шынеляў:

— Іш ты, ка-а-нтузiя... варшаўская..

І пачыналі гаварыць, аб другім, аб сваім, аб блізкім. Да камандзіра душа не ляжала, неяк не клеілася дружба. Прабавалі гаварыць аб гэтым на комсамольскіх сходах, што не шкодзіла-б другога камандзіра мець, шанцуе-ж другім ротам, дзе камандзіры—сапраўды камандзіры, як родныя бацькі з табой—і ў бой, і з боя, і ў кароткім баявым адпачынку. А тут проста недапека нейкая, не ўмее з людзьмі абыходзіцца. Але на гэтым гутаркі і канчаліся. Дні былі трывожныя, баявыя, некалі было разгаворы разгаварваць. І калі пазбавіліся хлопцы ад гэтага камандзіра, ніхто і не ўспамінаў аб ім ні худым ні добрым словам. Маўчалі. І знік ён трохі загадкава—ці загінуў дзе, ці ў палон трапіў, толкам не ведалі, ды і даведацца не было часу.

Было гэта тэй начы, калі загінулі некалькі таварышоў з роты, і разам з імі баявы кулямётчык Васька Вераб'ёў. Стаяла ўжо восень. Усім надакучылі прыкрыя дажджы, непралазная гразь дарог, непрытульныя начныя прывалы, калі цемрадзь кругом, пад нагамі золь, худыя шынелі не грэюць, а змакрэлыя, намоклыя сабіраюць, здаецца, усю ваду табе за каўнер, усю ветраную золь за пазуху. І што казаць, трохі рады былі хлопцы, калі пасля цяжкіх баёў роту вызначылі на колькі дзён адпачынку і вывелі ў бліжэйшы тыл. Размясціліся на ўскраіне аднаго сяла, у некалькіх гумнах. Праўда, можна было размясціцца свабодней па хатах, але камандзір выказаў думку, што ўмясцёх яно лепш, спакайней—як віяк, фронт пад рукой. Сапраўды, фронт быў блізкі, усяго ў некалькіх кілометрах, дакладна чуваць была страляніна, узнікаўшая часам, кожны паасобны стрэл. Да гэтага даўно прызвычаіліся, які-ж фронт без стральбы.

Спаць ляглі рана: і змарыліся, і даўно марылі аб утульным начлезе пад дахам. За дзвярмі хлюпаў дождж, зольны вецер шабуршэў саламянымі стрэхамі, кудлаціў салому, прабіваўся ў шчыліны сцен. А ў гумнах быў сапраўдны рай—суха, цёпла, пахла сенам мурожным, сытым пахам аржаных снапоў. І праз які час спалі хлопцы, ушыўшыся ў духмянае сена. Васька з кулямётам размясціўся ля самых дзвярэй. З кулямётных скрынак змайстраваў ён нешта падобнае на маленькі столік, запаліў агарак свечкі—прабаваў ліст пісаць. Але назойлівы вецер з дзвярэй тушыў свечку. Васька кінуў усякія намеры заняцца лістом і лёг спаць. Прыемная дрымота ахапіла ўсё цела, соладка нылі выпрастаныя ногі, плечы, не хацелася рухацца, каб не пазбавіцца ўтульнай цяплыні пакоя. Спакойныя, разважлівыя праходзілі думкі. Аб пражытым дні, апошніх баёх, аб родных і блізкіх, што засталіся ў горадзе. Вобраз маці ўставаў перад вачыма, быццам глядзела на яго ўдумлівым і ласкавым позіркам і, утуліўшы голаў на грудзі яму, казала паціху:

— Ну што-ж... ідзі... табе відней...

Так, відней. Шмат чаго новага ўбачыў Васька за гэтыя месяцы і бачыць стаў далей. Далей швачнай майстэрні, далей роднага горада, далей роты сваёй комсамольскай. Нібы свет увесь распасцёрся перад ім вялікім сваім прасторам. Яркае сонца гарыць над светам, але свеціць не ўсім. Задыхаюцца ў пыле шаўцы, каменяцёсы, шахцёры і ўся вялікая рабочая армія. Твары ў іх шарэйчым зямля, і ў сутарэнні, у шахты, у пракопчаныя фабрычныя

вокны цяжка прабіцца сонцу. Вунь сяляне ідуць па зямлі, па квяцістых лугах, па зялёных лясах. Яны сабіраюць, як пчолы, залатую пшаніцу і душацца, душацца сухім кавалкам хлеба, які цвярдзей чым зямля, у якім вострыя восці, мякіна, шэры мох лесавы. І над імі, што гнуць свае спіны, што потам сваім насычаюць зямлю, ходзяць другія людзі, якія не ведаюць мазаля, не ведаюць цяжкай чалавечай утомы, не ведаюць усёй глыбіні звычайнага чалавечага гора. І днём і ўночы яны ведаюць толькі адно—крычаць:

— Гэй, гэй, варушыся! Зарабляй хлеб, мурзатая каманда!

Аднак, не будзе гэтага... Зменіцца свет... Будзе зямля прыгожым садам для ўсіх, будзе сонца для ўсіх...

Сонца... Аднак, холадна трохі. Павярнуўся Васька лепш, падмяў зручней сена. Скрозь прыадчыненыя дзверы заглядваў да яго месік. Ён то ярка свяціў, чысты, ядраны, то раптам блекнуў—кудзелістыя хмаркі імкліва ляцелі па небу, засцілі месяц. Сціх дождж, чуваць было, як скатваюцца са страхі марудныя кроплі, звонка падаюць у капяжы. Вецер перасціх і цішыня ночы парушалася толькі ўсхрапамі людзей, ды рэдкім іржаннем ротных коней, што былі за сцяной. Дзесьці блізка на сяле пачулася лапатанне крылляў і гучнае кукарэканне прарэзала ядраную цішыню ночы. Хвіліну другую пераклікаліся па ўсяму сялу пеўні, нарэшце і яны замоўклі.

— Відаць, за поўнач ужо,—падумаў Васька і павярнуўся на другі бок.

І раптам, дзесьці на ўскраіне сяла, густым брэхам усхадзіліся сабакі. І калі сціхлі на якую хвіліну, тады даляталі да Ваські нейкія таемныя шолахі, ні то недзе хадзілі людзі, ні то чуліся ўрыўкі слоў цьмяных, далёкіх. Неясная трывога запала ў сэрца—усё-ж блізка фронт. І калі выразна ўчуў Васька, як недзе бразнула жалеза—можа кацялком хто стукнуў, мо вінтоўка трапіла аб вінтоўку—як падхоплены ўзняўся Васька, за вароты вышаў. Схаваўшыся ў цень, ён уважліва прыглядаўся да бліжэйшых хат сяла, да якіх блізка, блізка падыходзіў ускраек леса. І адразу моцна-моцна ўсхадзілася сэрца, аблілося палючай гарачынёй. Пад скупым месячным святлом ён заўважыў, як ля самага лесу зрэдку варушыліся нейкія шэрыя плямы, ні то кусты, ні то махнатыя купіны. Яны яўна набліжаліся, хаця і былі яшчэ далёка ад гумнаў. Прыгледзеўся уважлівей—людзі. І не чакаючы ні хвіліны, ён забег у гумно, хвалюючыся разбудзіў кулямётчыкаў.

— Янка, за мной, з кулямётам!.. А ты будзі людзей... Хутчэй-жа, адразу...

Паўзучы каля плоту, Васька выбраўся з другім кулямётчыкам на поле і яны залеглі пад старай разгалістай ігрушай. Заправілі ленту.

— А цяпер паўзі назад, ды хуценька к другім гумнам, каб разбудзілі ў час... Інакай...

Ён гаварыў торапка, хапаючыся і, прыхіліўшыся да кулямёта, упіваўся вачмі ў мокрае іржэўе поля.

Шэрыя рухавыя пляміны рабіліся ўсё бліжэй і бліжэй. І не пляміны, а змрочныя постаці людзей бачыў цяпер Васька. Яны нібы ўліплі ў зямлю, у баразёнкі, цяжка было адрозніць іх, паў-

зучых, ад цёмных узгоркаў, ад нязжатых дзядоўнікаў і быльнёгу на межах. Праз кудзелістыя хмаркі вынырнуў месяц, дзе-ні-дзе цьмяна бліснулі штыхі, чыркanула вінтоўка аб камень.

Васька прытаіў дыханне, азірнуўся назад—а ну, як яны там, ці паспеюць... І калі ўжо блізка, блізка, на колькі там дзесяткаў крокаў заўважыў ён пярэднія постаці людзей—цьмяна паблісквалі белапольскія шапкі—тады крыкнуў Васька, сабраўшы ў голас увесь дух, усю сілу сваю:

— Стой, хто там?

Прымоўкла ўсё на полі, толькі рэха разляцелася па ім, па лесе. Нават сцяблінкі дзядоўніка замёрлі, не зварухнуцца... У наструнёную цішыню ўварваўся новы гук, цібы качка ляцела над полем, гэтак мякка—ф'ю, ф'ю... Гэтае „ф'ю“ зацягнулася нешта надоўга. Прынік Васька да зямлі. Пальцы рук прыраслі да кулямёта. І дзесьці блізка, уперадзе, сажнях у трох, чатырох, мільгануў баграны слуп полымя і, раскалваючы цішыню, сатрасаючы зямлю і паветра, грымнуў аглушаны выбух гранаты. Пасыпаліся камякі зямлі, глуха застагнала ігруша, атрасаючы сухое веццё і завялы ліст, уцалелы ад непагоды.

Пры водсвеце выбуху бачыў Васька, як узняліся з зямлі людскія постаці і кінуліся бегчы наперад, прама на яго. Гарачымі пальцамі націснуў на спуск кулямёта.

— А ну, налятай, давай, давай...

Ён зліўся з дрыготкім целам кулямёта, ён стараўся перакрычаць кулямётны голас, каб чулі яны, каб адчулі яны, тыя што ўперадзе, як хочацца яму, Ваську, прастрачыць сваёй вострай машынкай увесь стары свет, ды так правуцюжыць яго, каб пара пайшла чырвоная, ды гладкія, ды роўныя сталі-б сцежкі людскія.

— Гэта вам за мурзатую каманду... Давай, давай... Гасцінцаў для вас не пашкадую...

Васька наводзіў сваю мудрую машынку з бока ў бок. Асляпляючым струменем захліпаўся кулямёт, дрыжэла зямля, узлятаў пыл, падскаквалі сцяблінкі перад кулямётным дулам. Азірнуўся на хвілінку назад—„ага, малайцы, паспелі!“ Рассыпаліся хлопцы ў ланцуг, успышкі стрэлаў ішлі і ад другіх гумнаў, дзе таксама былі свае хлопцы. Дзесьці за сялом пачулася грамавое „ура“, відаць суседняя часць выходзіла на падмогу... Бачыў Васька, як па ўсяму полю ўцякалі сотні людскіх постацей. Давалі звычайнага драпака паны, уцякалі, не солана хлебаўшы. Зірнуў Васька назад, камандзіра заўважыў. Той ляжаў у баразёнцы і—вот дзівак—цэліцца з нагана, нейначай з рэвольвера паляка нагоніць. Узяў-бы вінтоўку, недапечаны... Націснуў на спуск Васька, каб круцей пасаліць панам хлеб на ўцёкі. Кашлянуў кулямёт і замоўк.—„Што-ж такое выходзіць,—толькі і паспеў падумаць Васька і прынік непакорнымі віхрамі сваімі да сырой зямлі. Стала ціха, ціха Ваську... Паволі кружыўся, падаючы, блеклы ліст з ігрушы. З мяккім шолахам ён крануўся Васькавай шчакі. Не ўчуў яго Васька.

А над полем заміралі стрэлы. Яны станавіліся радзей і радзей. Белапалякаў адагналі, разбілі.

---

Толькі раніцой даведалася дакладна комсамольская рота ад узятых палонных, якой вялікай небяспекі пазбавілася яна. І не толькі яна. Некалькі воінскіх часцей павінны былі падпасці нечаканаму разгрому. Палякі намагаліся зрабіць прарыў фронта. Нейкая рука вяла іх уначы, нейкая рука дапамагала ім. І тут-жа ўспомнілі, з якой злачыннай неасцярожнасцю размясціліся яны на начлег. Проста пастку сабе ўгатавалі—прыходзь і бяры іх, як сонных курапатак. А дзе-ж камандзір быў, дзе былі яго вочы? Хапіліся камандзіра, але нідзе не знайшлі. Пашукалі сярод забітых, агледзелі раненых, камандзіраў і след прапаў.

— Можа, у палоне... Але-ж дзіўна, каб толькі камандзір у такую бяду трапіў, калі ўсе ў роце цэлы, калі не лічыць некалькіх таварышоў, якія загінулі ў бойцы.

— Добра, каб у палон...—падумалася неяк кожнаму. У іншае не верылася... Цяжка думку было дапусціць такую, каб чалавек... каб камандзір... Страшнае гэтае слова... Чорнае слова... Здрада...

---

Пахавалі Ваську. На ўскрайку лесу, дзе стаялі ў задуме суровыя сосны, дзе зямля была ўсыпана ігліцай, выкапалі Васькаў дол. Плыло над соснамі спакойнае восеньскае сонца, залаціла свежы пясок, хвойнае голле над долам. Тугою гудзелі вяршаліны хвой, адвечны шум баравы плыў над лесам, развітваўся з Васькам.

Апранулі яго ў новую адзежу. Усё, што было лепшага ў роце і пролетарскім батальёне, адшукалі хлопцы для Ваські. І ляжаў ён, святошны, урачысты. І здавалася, хітруе ён, хоча абмануць дружбакоў сваіх. Вунь хлапечая ўсмешка захавалася пад непакорнымі віхрамі. Нібы жывы, глядзіць, узіраецца ён, прыжмурыўшыся ў залатое сонцава вока, у прагаліну паміж хвой, дзе заблыталася серабрыстая павучынка... Ляжыць і марыць... А ў глыбокай бездані неба плывуць журавы, ледзь даносіцца іх развітальнае— курлы... курлы... Ціха зайграла музыка і ўсё гучней і гучней... Стайкай ластавак напалоханых збіліся дзяўчаткі-санітаркі, нехта цяжка ўздыхнуў сярод іх, пачуўся прыглушаны ўсхліп. Адразу падцягнуліся хлопцы. Не зварухнецца іх строй суровы, аж рукі ўліплі ў вінтоўкі.

Гарэлі сэрцы ад слоў палючых:

— Пралітая намі кроў не загіне дарма...

— Няма і не будзе літасці ворагу!

І сонечнае, іскрыстае агнявое:

— Слава герою!

— Слава герою!

— Слава мужным і храбрым!..

... Жоўтым пясочкам прыбралі магілку. Палажылі на яе старую прастрэленую Васькаву шапку. З пастраляных гільз вылажылі пяцікутную зорку. Дзяўчаты дзеразы назбіралі, увілі магілку верасковымі вянкамі. Аднекуль прынеслі галінку барбарыса. Васковыя ягады палымнелі пад сонцам, як кропелькі крыві, і страпянуліся разам, калі грымнуў вінтовачны залп, апошні, пачэсны, развітальны.

Высока, высока ў небе курлыкалі журавы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Так пахавалі Ваську ў далёкім тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатым годзе.

---

Сцены карпусоў злёгку дрыжэлі, фабрыка ішла сваім поўным ходам. Па шмялінаму гудзелі швейныя машыны, стракаталі ножны-аўтаматы ў закройнай, ціха шыпела пара ў прасавальным цэху.

Скрозь светлыя прасторныя шыбы вокан відаць быў агромністы фабрычны двор. Некалькі дзён былі дажджы, і намоклыя сцены карпусоў курыліся парай на сонечным угрэве. Нібы на ваччу набухалі смалістыя пупырашкі каштанаў, бледным празрыстым зяленівам апраналіся маладыя бярозкі—некалькі алей маладых дрэў працягнулася з канца ў канец, ад фабрычных варот аж да складаў. Тут-жа рыхтаваліся клумбы, па грудах чорнай пахучай зямлі скакалі вераб'і, вялі свае адважныя бойкі, аж пух ляцеў з задзірыстых забіяк. Недзе дзынкнула муха, звонка, гучна.

— Вясна!—усміхнулася жанчына і распахнула акно. Яркі сонечны дзень уварваўся ў цішыню дырэктарскага кабінета.

Жанчына стаяла ля вакна, задумлівая, радасна ўсхваляваная. Гарэлі залацінкі вяснянак на яе твары, маладым яшчэ, з вясёлым смешлівым позіркам воч. І зусім не пасавалі гэтаму твару серабрыстыя ніці валос, якія холадна пабліскваді пад сонцам у яе скромнай прычосцы. А сонца было так многа, многа. Яркага веснавога сонца...

Было радасна і спакойна на душы. Блізіліся майскія святы, ладзілася работа на фабрыцы, прышла вясна... Хацелася азірнуцца назад, агледзецца, хацелася крыху падумаць, памарыць: А як-жа, таварыш Быстрова, як работа твая, як справы твае..."

І падумалася: „добра.."

Вот трэці месяц, як яна дырэктарам на буйнай швейнай фабрыцы. Колькі то год правучылася ў інстытуце швейнай прамысловасці. Спецыяльна пасылалі па камандыроўцы. Цяпер вот прыехала ў свой родны горад, у якім даўно, даўно не была. І не пазнаць яго. Некалькі дзён абхадзіла Быстрова родную акраіну і калі знаходзіла старыя знаёмыя хаціны, стары ўцалелы топаль, тады нейкім шчымячым і разам з тым радасным болем заходзілася сэрца—кожная-ж пясчынка тут, кожны каменьчык насілі след тваёй дзіцячай нагі, гаварылі аб далёкім пражытым, аб слаўным дзяцінстве, залатым дзяцінстве... а можа мурзатым... Не, яно заўсёды залатое... Вунь там коз ганялі на пашу, вунь там могілкі былі старыя, кожнай вясной сабіралі фіялкі там і насілі ў горад, на цэнтральную, прадаваць першыя пахучыя букецікі, па тры капейкі за пару. А радам балота было, колісьці затануў там п'яны манах. Па начах на балоце вылі ваўкі зімой, заходзілі з лесу, што быў вунь тут, недалёчка. У лесе сабіраліся першыя камсамольцы, у васемнаццатым, пры немцах... Уся слабодка, што была ля балота, звалася п'янай слабодкай. Знайдзі яе цяпер, гэтую слабодку. Чыстыя вуліцы падмеценыя, забрукаваныя. І як на дражджах вырастаюць што ні месяц даміны, аграмадзіны цэлыя.

Вунь школа, гасцініца, цэлы квартал рабочых дамоў. Сама фабрыка вырасла на пустыры—колісьці капалі тут гліну і звозілі смецце сюды.

Фабрыка!

Многа працы аддадзена ёй. І ў гэтай працы па чэснаму прыкладзены і яе рукі, рукі таварыша Быстровай, як завуць яе рабочыя і работніцы, пазбягаючы халодна-афіцыяльных слоў: „таварыш дырэктар". Былі на фабрыцы і ворагі, якія падрывалі справу, шмат нашкодзілі дзяржаве, „рацыяналізавалі" некаторыя цэхі да таго, што рабочым недзе было павярнуцца, што дзень здараліся вобмаракі з работніцамі. Ворагаў прагналі, павымяталі іх жалезнай мятлой. Але відаць, карэньчыкі яшчэ засталіся. Здараліся зрэдку непаладкі і не простыя непаладкі: там паломка аўтамата, там канвеер разладзіцца без дай прычыны. Часам нехта пусціць хлуслівыя чуткі—змяінае варожае шыпенне адчувалася ў гэтых чутках, у гэтых словах. Але дарэмны былі варожыя патугі. Праца фабрыкі ішла на лад, спорылася, фабрыка вышла з былога прарыва, датэрмінова выканала абаронны заказ і атрымала гэтымі днямі падзяку.

— Добра...—задаволена падумала жанчына.

Рэзкі стук абарваў яе думкі. У пакой убегла група дзяўчат-работніц. Расчырванелыя твары былі ўсхваляваны, устрывожаны.

— Таварыш Быстрова!

— Таварыш Быстрова!

— Ты толькі падумай...

— Гэта-ж чорт ведае што, гэта здзек над рабочымі!

Усе гаварылі разам, спяшаліся, кожнай хацелася як магахутчэй давесці ўсю справу.

— Пастойце, давайце парадкам...

Дзяўчаты скардзіліся, што пры сёнешняй выплаце перадсвяточнай палучкі касір раптам вылічыў усе пазычкі, усе авансы, якія выдаваліся на працягу амаль што некалькіх месяцаў.

— Ты падумай, вунь некалькі дзяўчат засталіся зусім без капейкі, ды і каторыя старыя рабочыя злуюцца, вот, кажуць падаруначак першамайскі...

Здаецца паблеклі залацінкі вяснянак на твары Быстровай, да таго пасуровеў ён, стаў бледным. Насупіліся бровы.

— Та а-к... Відаць, яшчэ варушацца...

— Хто? Што?—не зразумелі дзяўчаты.

— Паклічце бухгальтара...

Усе настарожана чакалі. Вот з'явіўся і ён. Ціхі, спакойны, разважлівы. Чалавек яшчэ не старога веку, было яму за год пяцьдзесят. Прасторны касцюм, пацёрты, але акуратны, аблягаў яго хударлявую постаць. Блісцела лысіна з рэдкімі, залізанымі валасікамі, стандартная бухгальтарская лысіна, такая звычная да запэцканых чарнілами канцылярскіх сталоў, да мяккай цішыні бухгальтэрыі, зрэдку парушаемай глухім перастукам шчотных касцяшак.

Спакойная, ціхая лысіна. Але позірк воч быў трывожным, насцярожаным.

— Чым магу служыць?..

— Служыць?

Жанчына зірнула на яго знізу ўверх, не кінула свайго звычайнага „сядайце“—чорт з ім, няхай пастаіць бюракрат—запытала ціха:

— Што гэта значыць?

— Я вас не разумею...

Але ўгледзеўшыся ў твары дзяўчат, зразумеў, зірнуў спадлба, не праказаў, а выціснуў з сябе, да таго нязручна было яму гаварыць.

— Бачыце... Фінансавая дысцыпліна... Я бухгальтар, адказваю за правільнае скарыстанне сродкаў... за своечасовы зварот... А фінансавая дысцыпліна, як ведаеце...

Жанчына прыўстала з-за стала і, упіўшыся позіркам у яго твар, ціха прагаварыла, стрымліваючы сябе, абрубаючы словы:

— Тут не дысцыпліна, ведаеце... а тут... тут... Альбо вы тупы і безгаловы чалавек... альбо ваша дысцыпліна пахне... пахне контррэвалюцыяй... Аднак, паклічце сюды касіра, я аддам яму распараджэнні, калі самі вы не здагадаліся гэтага зрабіць...

Бухгальтар стаяў ссутуліўшыся і ўважліва разглядаў наскі сваіх наглянцаваных, акуратных камашаў. Пальцы правай рукі нерашуча церабілі рэдкія валосікі на ўспацелай адразу лысіне. Прагаварыў:

— Выбачайце... Памылка... Недаўлічыў...

Жанчына зірнула на яго яшчэ раз і нейкая непакойная думка ўзнікла раптам: „няўжо недзе бачыла гэтага чалавека, такія знаёмыя, здаецца, жэсты... „Аднак як ні сілілася ўспомніць, не магла. Ды і некалі было. У габінет увайшоў касір. Не ўвайшоў, а ўбег—да таго рухавы і вяртлявы быў гэты чалавечак, не гледзячы на свой даволі пажылы ўзрост, на сівую галаву. Да і сівізна была асаблівая, сівыя валасы завіваліся на скронях у кудзеркі і прыдавалі ўсяму чалавеку выгляд нейкай несуразіцы, лёгкадумнасці.

— Вы клікалі мяне, таварыш дырэктар?—падбег ён на сваіх кароценькіх ножках да дырэктарскага стала.

— Так, клікала, таварыш...

— Майскі...—паслужліва дадаў касір.

— Дык вот, таварыш Майскі, сягоння, заўтра трэба вярнуць рабочым усе адлікі, якія зрабілі вы...

— Ха... Харошанькае дзела! Я чуў, я чуў... Гэтыя шчабятухі,—тут зірнуў ён на дзяўчат,—яны пабеглі скардзіцца... Як-жа... Ёй вунь каторай трэба панчошкі—авансік дай... Ёй трэба носік прыпудрыць—авансік дай... Ёй трэба... Што? Я павінен, па іх міласці, псаваць цяпер усе ведамасці.. Атрымала авансік, аддай... Што-ж тут гаварыць, трэба па закону...

— Аднак, таварыш...

— Майскі...—падказаў ізноў рухавы касір.

— Дык вот, таварыш Майскі, без доўгіх слоў, ідзіце і рабіце тое, што вам загадана.

— Ха... Я, канешне, толькі служачы... Аднак, харошая палітыка—аддаваць назад грошы...

— Пра палітыку вам гаварыць не варта, ідзіце і рабіце, што вам загадана...

І раптам схамянулася, усхвалявалася. Палітыка... Звычайнае слова. Так, звычайнае. Аднак... І ўжо рэзка, неяк страпянуўшыся ўсёй постаццю, да касіра:

— Слухайце, вы...

„Таварыш Майскі"...—хацеў было падказаць ізноў касір.

— Слухайце вы, грамадзянін Хаперман, як вы апынуліся тут на фабрыцы?

Нібы грымнуў гром сярод яснага неба, так закруціўся рухавы касір.

— Вы чуеце, вы чуеце...—разгублена гаварыў ён да работніц.— Па-першае, я Майскі, гэта раз... А па-другое,—зусім разгубіўся ён і звярнуўся да дырэктара,—а па другое... адкуль вы ўсё гэта ведаеце...

Спакойны да гэтага бухгальтар раптам затрывожыўся, нэрвова дрыжачай рукой наліў шклянку вады, выпіў і торапка пайшоў з габінета, тулячыся за работніцамі. Быстрова шапнула нешта групе дзяўчат, тыя падаліся на двор, да кантрольнае будкі ля варот.

А касір усё стаяў разгублены і ўсё здзіўляўся:

— Аднак, адкуль-жа вы ўсё ведаеце...

— Гэта не так ужо і важна...

У габінет набіралася людзей. Уся справа набывала незвычайны характар і сам касір урэшце вышаў са сваёй разгубленасці. Ён паспрабаваў рашуча адбіць удар.

— Ну што з таго? Падумаеш, вялікая справа... Насіў чалавек адну фамілію, захацеў другую... І правільна захацеў... Зачым чалавеку старая фамілія? Я заплаціў грошы, савецкія грошы... Я атрымаў дакумент, савецкі дакумент... Я цяпер Майскі... Савецкая ўлада не забараняе мне насіць гэтую фамілію. Вот мае законныя дакументы...

— А рабочым вы сказалі аб перамене сваёй фаміліі?

— Ха... рабочым... Дужа ім трэба ведаць такую дробязь... нечую старую фамілію... У іх няма другіх клопатаў...

У габінеце было поўна народу. Некаторыя падсмейваліся над касірам, жартавалі,—„вот дык фрукт", большасць была сур'ёзна, нахмурана. Сама Быстрова была ў радасным, прыўзнятым настроі. Усё, што непакоіла яе амаль дваццаць год, усё што было незразумелым, няясным калісьці, даўным даўно,—стала ясным цяпер. І сёе-тое, што было няясным для яе ў гэтыя дні, стала зразумелым, калі ўзгадала далёкія дні, далёкія годы.

І весела яна сказала гэтаму вяртляваму, кучараваму сівізнай сваёй чалавеку:

— Ну ідзі, ідзі... Потым мы пагаворым яшчэ... пагаворым аб усіх дробязях...

Чалавек ішоў, яму давалі дарогу. Ён ішоў і ўсё здзіўляўся:

— Аднак... Харошанькае дзела... Як яна даведалася аб усім...

---

Калі вылучалі яе кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета рэспублікі, да яе на кватэру сабралася моладзь, прышлі і пажылыя рабочыя з некалькіх заводаў горада—прасілі даць згоду на галасаванне. Быў ціхі чэрвеньскі вечар. У вокны кватэры далятаў прыглушаны гоман вялікага горада—дзесьці звінеў трамвай, перакліваліся паравозныя гудкі на вакзалах, улятала звонкая песня „ад краю і да краю...“—шлі, відаць, людзі на прадвыбарныя сходы.

— Та-а-ак... Жыццё пайшло ў нас шырокае, як мора-акіян. Сапраўды, ад краю і да краю...—задумліва прагаварыў стары рабочы.— І для старых, і для маладых, абы ахвота была, дарогі цяпер сталі торныя, светлыя... Вот, да слова, таварыш Быстрова, вя-а-лікую чалавек дарогу прашоў... франты, комсамол, партыя... Аднак, вы не дасказалі яшчэ, таварыш Быстрова, усёй гэтай гісторыі на фабрыцы, з бухгальтарам, ды касірам.

— Ды што-ж казаць пра іх... Справа звычайная... Касір быў калісьці гаспадарчыкам, павучком... Вы ведаеце, гэтыя павучкі былі самыя прагныя, куслівыя... Разам з бухгальтарам шкодзілі на фабрыцы, дзе маглі, кусалі ўпотайку... Дапамагалі ўсёй погані, што была вылаўлена раней... Бухгальтар быў старым заўзятым шпіёнам, які акапаўся быў на фабрыцы... Ён яшчэ ў дзевятнаццатым годзе шныпарыў па нашых франтах, нават у камандзіры пралез быў...

Замоўкла. Позірк яе спыніўся на стале, дзе ляжалі кнігі, газеты. Сярод іх, сярод некалькіх фатаграфій, цьмяна пабліскваючы гарачаю меддзю, стаяў патрон, звычайны вінтовачны патрон.

І абвёўшы позіркам людзей—быў ён нейкі асаблівы, глыбокі, асяроджаны—таварыш Быстрова, Анастасся Пятроўна, ці як сталі называць яе госці—Насця, наша Насця—расказала ім аб усёй гэтай гісторыі, аб якой і напісана наша апавяданне.

Позна ўначы разыходзіліся госці.

Над горадам плыло электрычнае зарава. Яно зацьмявала далёкія зоры, млечны шлях губляўся ў ім. Некалькі дзяўчат і хлопцаў, якія апошнімі развіталіся з Насцяй, заклапочана зірнулі на гэтыя цьмяныя зоры і потым весела загаварылі:

— А заўтра няйначай лётная пагода! Паляцім... Ну, бывайце...

Шчаслівым позіркам правяла іх і доўга глядзела ўслед ім Насця. У яе вачах свяцілася радасць. Радасць за іх, за маладосць, за жыццё.

Кастрычнік 1938 г.

---

*Якуб Колас*

# ВУСЦЯНСКІ ГРУД

Грудок удалы я сабе абраў
І часта ў вольныя часіны
Саджуся там каля хваіны,
Гляджу ды слухаю навіны,
П'ючы мяды лясоў і запах траў.

Не славіцца багаццем мой грудок,
Але ён просты і адкрыты,
Сіўцом, чаборыкам спавіты,
Дзе пчолкі звоняць самавіта,
Збіраючы па кропельцы мядок.

Гваздзічка белая рассыпана вакол,—
Нібы махрыстыя сняжынкі
Ляглі на тонкія націнкі,
Прыгнуўшы кволыя раслінкі,
Аздобіўшы пясчаны гэты дол.

З грудка відаць прыгожы краявід,
У ткань атулены сінечы.
Унь гурт дубоў шырокаплечых.
Стаяць, нібы на нейкім вечы
І сонейка узносяць на свой шчыт.

А там лугі па Свіслачы ляглі
З іх купамі лазы, алешын,
І астраўкі і пустак плешы,
Дзе сіняваты шоўк развешан,
Што выткалі ім подыхі зямлі.

А па лугах паходжваюць буслы,
Сурдут надзеўшы чорнапёры.
Агледзяць ніз і касагоры,
Як землямеры—рэвізоры
Ці нейкія важнецкія паслы.

Брыллянтамі паблісквае раса,
Сляды, дзе пройдзе паляўнічы,
Шукаючы ў тым лузе дзічы.
І колькі радасці ў абліччы,
Калі ён спойме часам бакаса!

З грудка мне ўсё відаць і ўсё чутно:
І трактар дзесь з-за Балачанкі,
І гром сталёвае крыланкі,
І спеў дзявочы з Беразянкі,
А неба ўсцяж—блакітнае акно.

З свайго-ж грудка ў заслушлівыя дні
Гляджу ў акно гэта, на хмары
І падпадаю пад іх чары,
Вачэй не зводжу з іх гушчары,
Дзе гром грыміць і ўспыхваюць агні.

Цяпер жыву ад Вусця я ўдалі,
Сяджу між кніг, чарніл, паперы.
На думкі прыдуць лес і зверы,
Грыбы і рыба на вячэру,
Прастор і скарб калгаснае зямлі.

А з думак тых звіваецца вянок.
У ім—цяплынь і голас лета,
І дол, праменнямі сагрэты,
І мары мірныя паэта—
То дар табе, Вусцянскі мой грудок!

18/X-1938 г.

*Пімен Панчанка*

## НА ЗАРЫ

Я устаў на зары,
Цьмяна росы блішчэлі на мяце,
Туманы адплывалі,
Радзелі і падалі ніц...
Вось такою парой
Пачынаю заўжды хваляваццца,
Мне здаецца—прастор
Набухае агнём навальніц.

Я люблю гэты час:
У цішы нараджаюцца промні,
І ўспаміны былога
Прыходзяць са светлай зарой.
Пагляджу на усход
І маленства свайго дні успомню,
І вайну,
І пажар,
І знясілены край родны мой.

... Мы не спалі ўсю ноч.
Адступалі на захад палякі.
Глуха грукалі далі,
Рагатала у цемры сава...
Хтось бога маліў,
Хтось працяжна і роспачна плакаў,
Хтось прытулку шукаў,
Дзе-б свой скарб пагарэльца схаваць.

Я тады быў малы,
Я не ведаў нянавісці сілу—
Людзі ў змрок пасылалі
Праклёны на банду звяруг.
Цемра помстай набракла
І гнеўныя крыкі насіла.
Мы не спалі ўсю ноч...
Мы з надзеяй чакалі зару...

Ї калі першы промень
Прабіў цёмнай ночы завесу—
Хлынуў свет малады
На астанкі абвугленых хат,
К нам імчаўся галопам
Пад сцягам чырвоным з-за лес
Загартованы ў бітвах
Будзёнаўцаў мужных атрад.

Мы глядзелі на ўсход:
Сонца яркае ўзяла на піках,
Дзень шчаслівы радзіўся
Над спаленым нашым сялом.
Ї спявалі таполі
Аб радасці нашай вялікай...
Малады камандзір
Узяў мяне да сябе у сядло.

Пад яго гімнасцёркай,
Апаленай сонцам і ветрам,
Гулка білася сэрца
У струменях гарачай крыві.
Ён сказаў мне на ростань
З усмешкаю ветлай:
„Вырастай, хлапчанё,
Вырастай і шчасліва жыві!"

Ї паехалі сокалы
Шляхам бярозавым простым
Біць уланаў за здзекі,
За кроў,
За маю Беларусь.
Доўга ўслед ім махалі
Хусцінкамі маткі і сёстры...
. . . . . . . . . . . . . .
З той пары я люблю
Сустракаць маладую зару.

---

*Сяргей Дзяргай*

# ПРОВАДЫ

У дарогу выпраўляла маці сына,
Восень клёны залаціла каля тыну
І чупрынамі схіліўшыся уважна,
Клёны слухалі, што сыну маці кажа.
Падарункаў поўна кайстра бела:
„Ледзь з мядовымі каржамі я паспела!
Ўжо як будзеш ў роднай Арміі Чырвонай—
Пачастуй і перадай мае паклоны.
Ўзгадавала вас для славы я сямёра,
Мой старэйшы недзе плавае на моры,
Дасылае часта вестачкі дадому,
Піша—вольгатна жывецца маладому.
Серадольшы, светлавокі ясны сокал—
Хутка лётае, далёка і высока,
Месяц цэлы быў на радасць, разам з намі,
Ўзнагароджаны за храбрасць ордэнамі;
Сустракалі яго вёскаю ўсёй чыста,
Хаты ўкрашаны бярозкай урачыста,
Праз яго вось немалая мне пашана—
Колькі раз, сынок, была я віншавана.
Аб адным я толькі мару ў дні і ночы,
Каб і ты быў гэткім, сыне мой малодшы!"
Рукавочкі сарафана закасала,
На пісяг зарубцаваны паказала:
Падарунак з панскай ласкі, з ласкі звера,
Знак шляхецкай „кволай" ласкі афіцэра:
„Не запамятай, казала, мой сыночак,—
Я нянавісць гадавала цемрай ночак,
Над калыскаю табе аб ёй спявала,
Ды мінула незваротная навала
І цяпер ужо заможна ў нашай хаце.
Шмат дабра ў ёй, рознага багацця.
Калі вораг ткнецца ў чорную часіну
Ў крыўду, у знявагу не давай Радзіму".
Сёння дзень святочны выдаўся, не будні,
Красна дзеўчына выходзіла да студні,
З калаўротам упраўляючыся ўвішна,

Заірдзела красна дзеўчына бы вішня.
І сказала яна, бразнуўшы маністам:
„Як-жа мы цяпер! Калгас без гарманіста!“
Конь іржэ і капытамі моцна рые.
Час... развітваюцца моладзь і старыя.
Красна дзеўчына дае каню вадзіцы,
Едзе маці свайго сына правадзіці.
Каля могілак каня яна спыніла.
На магіле партызана крыж пахілы.
„Бацькавай магіле, сыне, пакланіся,
Бараніць айчыну ‘шчэ раз пакляніся!“
І ў адказ пачула: „Маці, мая маці!
Нашу дужасць-сілу ўвек ім не зламаці
Ад сям‘і адзінай, ад сям‘і вялікай
Напаткае вораг сабе смерці ліха.
Шмат у нас ёсць мужных і неўстрашымых.
На нязменнай варце маршал Варашылаў,
Рулявы надзейны сам Іосіф Сталін
Пільна выглядае хмарныя аддалі.
Кім-бы быў я, маці, батраком-бадзякай,
Дык ці-ж заплачу я чорнаю няўдзякай?!
Трактары вадзіў я ў поле росным ранкам,
Надышла часіна авалодаць танкам.
Кроў сваю па кроплі я аддаць клянуся.
Не, не ўбачыць вораг край мой пад прымусам“ —
Прагучалі словы як перасцярога,
Ўперадзе абрусам слалася дарога.

---

*Мікола Сямашка*

## ЦЁПЛАЙ РАННЯЙ ВЯСНОЙ

Ў светлы ранішні час, цёплай, ранняй вясной
Я сасонку садзіў на магіле тваёй.
Я паіў яе шчодра сцюдзёнай вадой—
Хай пад сонца цяплом піць не хочацца ёй.
Ведаў я: паліюць яе густа дажджы
І яна ажыве, пойдзе ў рост, будзе жыць,
Жыватворчыя сокі вясновай зямлі
Праймуць сілай вялікаю жылы галін.
І раскіне яна свой зялёны шацёр
Над табой, над пражытым табою жыццём...
Пасадзіў. Пакланіўся жыццю і вясне
І табе, нарадзіўшаму ў горы мяне.
... Бацька мой!... Затужыўся тады я душой
Над табой, над бядацкай нядоляй тваёй.
Прыгадаў я: зіма, ветры золкія дзьмуць,
Два жандары цябе, арыштанта, вядуць,—
За палена адзінае з панскіх лясоў
Дзевяноста кілометраў пешкам ты йшоў.
І прайшло ўсё жыццё так пад вартай бяды,
І дачасна састарылі злыя гады.
І на самай зары светлых, сонечных дзён
Палажыў ты жыццю свой апошні паклон.
Крыўдна мне: ты не бачыш шчаслівы мой шлях—
Лёс вялікі і добры у сына ў руках.
Нам бары маладыя прыветна шумяць
І жыты на калгасных палях каласяць.
Ты-ж не бачыш... Таму затужыў я душой,
Як сасонку садзіў на магіле тваёй.

**Кастрычнік, 1938 г. м. Ветрына.**

*Алесь Бачыла*

## БРАТУ

Мой родны брат, калі ў страю
Ляціш ты ў высі паднябеснай,
Я самалёт твой пазнаю,
Нібы дзяўчыны мілай песню.

І я гляджу тады з зямлі,
Як вецер крыллі нахіляе;
А ты глядзіш: у даль палі
Адходзяць з рэкамі па краю.

І вёскі ў летняй цішыні
Бягуць назад хадой нястрымнай.
Табе там добра з вышыні
Відаць вялікая радзіма.

Відаць калгасны ў цвеце сад
З сваёй прыметаю знаёмай,
Адтуль дай знак вітання, брат,
І праляці над родным домам.

Суседзі выйдуць, каб са мной
У шлях праводзіць цябе зрокам
І сэрцам цешыцца табой
Пакуль не зьнікнеш ты далёка.

А я ўсё буду пазіраць
У сінь любімае радзімы...
— Хай будзе бой, хай—паміраць...
Але за край, брат, пастаім мы.

Верасень, 1938 г.

*Г. Няхай*

*Лірычныя эскізы*

## ВЕЧАР

Красуе сад даспеўшымі пладамі,
Над ім плывуць да сонца журавы.
Кідае клён пажоўклымі лістамі
Ўздагон вятрам, пахучым, баравым.

Маўчаць палі. У сэрцы адчуваю
Асенніх дзён прыемнае цяпло.
Пайду адзін за новае сяло,
Багата фарб для песень назбіраю.

Цвітуць лясы. Далёка па-над гаем
Палае небасхілу цьмяны шоўк.
Кудзёры вечар ясны закідае,
Дзе сіні дзень, стаміўшыся, замоўк.

## ВЯСЕЛЛЕ

Ах, чые-та коні на дарозе,
Ах, чые-та бомамі звіняць?
Выйшлі з хлебам-соллю на парозе,
Выйшлі маладую сустракаць.

Па дарозе буйны вецер шастаў,
І каса вясёлкаю цвіла.
Сонечную радасць бачу часта
У дамах калгаснага сяла.

Свеціць сонца. Свежая пагода,
І пяе вяселле да начы.
Для такога часу мне не шкода
Самых лепшых песень зберагчы.

## РУЧЭЙ

Цвітуць рамашкі. Сочная трава
Па берагах крушына маладая,
Як ветразь, у зялёных паплавах
Да ручая сцяжынку адзначае.

Крушына п'е сцюдзёную ваду.
Я сяду тут на беразе вільготным.
Наведаюць мяне вясёлкі дум,
І знікне непатрэбная самотнасць.

А восенню крушына адцвіце,
І жоўты ліст закружыць над вадою.
Прыду на луг халодны паглядзець,
Палюбавацца свежаю красою.

Яе так шмат і вечарам і днём,
Багата ты, любімая радзіма!
Ты сілаю і сонцам, і жыццём
Нас, як ручэй крушыну, напаіла.

Кастрычнік, 1938 г.



*В. Рагуцкі*

## НЕЗАБУДКІ

Я цяпер не ведаю спакою:
Усхвалёван раннем залатым,
Калі спудзіў качак над вадою,
Бег да кветак берагам крутым.

Доўга думкі роіліся: Цуда!
Ты згубіла вочы між травы...
Гэтых воч ніколі не забуду,
Бо яны глыбокія, як вір.

Бо часамі мроіцца усюды
Прамяністы погляд малады...
А тым больш ніколі не забуду
Цягніка знікаючага дым.

Не забыць, як вольнымі часамі
Маляваць любіла кожны раз,—
Вырасталі кошыкі з грыбамі,
Караблі і сонечны гараж.

Як на плошчы воінам жалезным
Пасылала з песняю прывет.
Як на свята стужкамі і бэзам
Убірала Сталіна партрэт.

Як вясною часта з захапленнем
Праз акно на белыя сады
Ты глядзела ў лёгкім задуменні...
Ну, аб чым ты думала тады?

Мы аб гэтым гутаркі не мелі,
Ды было не цяжка адгадаць:
—Дзе знайсці такія акварэлі,
Каб такую радасць перадаць!

Вось мяне на золаку румяным
Сёння сцежка ціхая вядзе:
Я цяпер прыходжу кожны ранак—
Светлых незабудак паглядзець.

*Мікола Аўрамчык*

## РАЗВІТАННЕ

Змрок за акном... Імчыць цягнік...
Ляціць стралой, імчыцца ў далеч...
Вакзала яркія агні
Даўно за дрэвамі прапалі.
У шэрым змроку за акном
Палёў асеннія прасторы,
А ў вышыні над цягніком
Дрыжаць у небе сінім зоры.
Цягнік, здаецца, не спыніць...
Дрыжыць вагон—і безупынна
Грукочуць колы ў цішыні:
„Бывай!.. бывай!.. бывай, дзяўчына!..
А заўтра прыдуць да цябе
Твае сяброўкі раніцою.
І на калгаснай малацьбе
Яны ізноў будуць з табою.
Калі-ж вячэрняю парой
Прасторы шэры змрок агорне,—
Ты прывядзеш дзяўчат з сабой
У клуб ваш светлы і прасторны.
Я сёння ўспомніў вечары,
Калі з гармонікам ля хаты
Гуляе моладзь да зары,
Спяваюць песні там дзяўчаты.
А як прыеду я зімой
З вучобы зноў на адпачынак,
Тады сустрэнемся з табой,
Светлавалосая дзяўчына.
Халодным ранкам, у мароз,
Я знаю—так, як ты сказала—
Шчэ' іней не спадзе з бяроз,
А ты падыйдзеш да вакзала.
Сустрэнеш, скажаш мне тады:
Ну, добры дзень! Ты сёння госцем!."

. . . . . . . . . . . . . . . .

Не згасяць снег і халады
Агня шчаслівай маладосці!

*Усевалод Краўчанка*

# ДВА АПАВЯДАННІ

## Дарагое пісьмо

Сцяпан Заруба стаяў на высокім мосціку і падаваў снапы ў барабан малацілкі. Шырокаплечы, барадаты, ён працаваў з такім выглядам, нібы з'яўляўся капітанам якога-небудзь вялізнага марскога карабля. Кругом бушуе мора, залліваючы палубу, грахочуць хвалі, а стары Заруба стаіць сабе на мосціку і спакойна запраўляе ў барабан калгаснае жыта. Падабенства дзядзькі да капітана ўзмацнялася яшчэ і тым, што барада ў яго была пакрыта белым налётам, нібы ад пырскаў салёных марскіх хваль, тады як пасівела яна ад звычайнага пылу, што стаяў сцяною ў гумне.

Калі-б маладосць нельга было пазнаць па бліскучых вачах, па вясёлых усмешках, па галасах звонкіх і моцных, то можна было-б падумаць, што ў гумне працуюць адны сівыя бабулькі ды нейкія запыленыя дзядкі, а не вясёлыя калгасныя хлапцы і дзяўчаты. Але маладосці не схаваеш—то пачуецца раптам каля малацілкі звонкі смех дзявочы ў адказ на дасціпны жарт па адрасу хлапцоў, то дружную песню на ўвесь голас падхопяць хорам. А для жартаў моладзі вялікай прычыны не трэба. Скажам, застрала ў пышнай барадзе ў дзядзькі Сцяпана з дзесятак каласкоў, то трэба-ж зразумець, што ў разгар работы ў Сцяпана бракавала часу займацца барадой. Малацілка гірчыць як раз'юшаны звер,—спраўляйся толькі падаваць у барабан жыта. А дзяўчатам-сакатухам толькі таго і трэба. Пачалі смяяцца з дзядзькавай барады. А званчэй за ўсіх смяялася канцавая ваструшка, кучаравая Маруся, што адграбала салому з-пад барабана. Вымушан быў Сцяпан адной рукой пасоўваць у малацілку жыта, а другой—скінуць з барады тыя каласкі.

Жартаваць любіла моладзь, але работа ішла сваім чарадом. Старэнькі рухавічок, які прыводзіў у рух малацілку, час ад часу, нібы жывая істота, моцна чыхаў—чш!—і механік Грышка кожны раз голасна крычаў яму ў адказ—„будзь здароў!“ Вымазаны ў мазуту, Грышка хадзіў кругом рухавічка, як доктар ходзіць каля безнадзейна хворага, але як-бы там ні было, а рухавічок пакуль што не даваў перадышкі малацьбітам.

Раптам у расчыненых бакавых варотах гумна паказаўся новы чалавек—віхрасты і шустры калгасны пісьманосец Андрэйка, з вя-

домай сваёй паштальёнскай сумкай цераз плячо. Можа-б яго і не прыкмецілі адразу ў гэтым пылу і грукаце, калі-б ён не ўляцеў у гумно як шалёны і не крыкнуў на ўвесь свой сакавіты голас:

— Дзядзька Сцяпан, вам пісьмо!

Заруба ўздрыгнуў, азірнуўся і на нейкі момант яго рукі нават перасталі жвава снаваць па палку.

— Якое пісьмо? Ад каго?—хвалюючыся запытаў ён.

— Напісана—„з фронта“. Значыць ад Піліпа вашага.

— Ад Піліпа?—перапытаў Заруба і зусім захваляваўся. Забыўшыся на работу, ён хацеў проста скочыць з мосціка на ток і кінуцца да Андрэйкі. Але Андрэйка папярэдзіў яго, падбег да малацілкі, працёг Сцяпану сіні канверт.

— Гэта ад Піліпа, з Далёкага Усходу,—яшчэ раз растлумачыў Андрэйка.

Сцяпан усхвалявана выхапіў з андрэйкавых рук канверт. Доўгачаканае, дарагое пісьмо...

Пусты барабан, які цяпер круціўся на халастую, узвыў высокім і тонкім голасам. На мосцік ускочыў гуменнік Мікіта Даўгун, каб часова замяніць старога Зарубу, хаця ніхто не ўмеў так спрытна хутка працаваць на падачы снапоў, як ён.

— Злазь, чытай пісьмо, дзядзька Сцяпан,—гукнуў Мікіта і пачаў рассцілаць снапы. Заруба павольна злез з мосціка і, нібы зачараваны радасцю, ціха, ні на каго не азіраючыся, пайшоў з гумна. Сеўшы каля сцяны, на калоду, Сцяпан хутка разарваў канверт і пачаў чытаць пісьмо.

А тым часам у гумне дзяўчаты абкружылі Андрэйку з роспытамі пра гэтае самае пісьмо, і ён з усімі падрабязнасцямі вымушан быў расказаць і як напісан адрас, і які на канверце штэмпель і ўсё іншае. Вестка аб тым, што стары Заруба атрымаў пісьмо ад свайго сына, чырвонаармейца-далёкаўсходніка з фронта баёў каля возера Хасан—ураз абляцела ўсіх малацьбітоў. І яшчэ раней чым Заруба скончыў чытаць сынава пісьмо, моладзь прыняла пэўнае рашэнне. Хутка з гумна паляцелі два ганцы: адзін да механіка Грышкі з патрабаваннем, каб ён па такому важнаму выпадку на некаторы час спыніў свой рухавічок, а другі—да Зарубы з просьбай пачытаць ім усім пісьмо ад Піліпа.

Заруба ўжо быў кончыў чытаць і моўчкі сядзеў на калодзе, не кратаючыся з месца. То радасць і бязмежная бацькоўская гордасць паяўлялася на яго загарэлым твары, то раптам трывога і непакой ахоплівалі яго, і Сцяпан у хваляванні церабіў сваю бараду, уставаў і зноў хутка садзіўся, перачытваў некаторыя мясціны ў пісьме.

Калектыўны ганец, кучаравая Маруська сарамліва выкладыла дзядзьку Зарубу просьбу хлапцоў і дзяўчат, сяброў Піліпа. Сцяпан устаў, выпрастаўся ўвесь ад гордасці і працягнуў Марусі пісьмо.

— Чытайце. Не сорам мне за сына...

Праз хвіліну рухавічок змоўк. З гумна, пакідаўшы вілы, граблі, адзін за адным збягаліся да дзядзькі Сцяпана ўсе малацьбіты. Абтрэсваючыся нахаду ад пылу і саломы, моладзь хутка абкру-

жыла Маруську і старога Зарубу. Бег, пакінуўшы мосцік, гуменнік Мікіта, спяшаўся, выціраючы анучкаю рукі, ад свайго рухавіка механік Грышка, нават Андрэйка-паштальён не падаўся з сваёй сумкай у „кругасветны" рух па сялу, а падбег паслухаць пісьмо.

— Чытай!—загадаў Заруба Марусі і тая, забраўшыся на калоду, пачала чытаць.

„Дарагія мае бацькі, Сцяпан Захаравіч, Ефрасіння Андрэеўна, брат Коля і сёстры! Так што, перш за ўсё хачу заспакоіць вас усіх у тым, што паранены я самурайцамі лёгка, у левую руку, усяго дзве кулі ўвагналі, а больш увагнаць ім, гадам, не ўдалося, паколькі знішчылі мы іх усіх да звання і прагналі з нашай зямлі. З шпіталя я хутка выпішуся, рука ўжо зажывае, а маё здароўе моцнае, чаго жадаю і вам.

Мы ўступілі ў бой уначы на шостае жніўня. Дан быў нам загад прагнаць японцаў з нашай тэрыторыі каля возера Хасан і з вышыні Заазёрнай. Падпаўзлі мы да ўзгорка і пачалі чакаць досвітка, парашылі збіць самураяў на горкае яблыка, ледзь узыйдзе сонца. Скажу я вам адно, сэрца ў мяне дрыжэла, цярплівасці не хапала ляжаць спакойна, толькі загад быў чакаць досвітка, а так-бы я з сваім таварышам Змітраком папоўз-бы да іх уночы, хоць гранатамі-б пачаставаў.

А толькі, хоць і няхутка, але настаў і досвітак. Ну, і пайшлі мы ў атаку, адкрылі агонь па самураях, што заселі на вышыні. Ісці нам не было страшна, хаця і стрэлі нас японцы шалёным агнём—артылерыя наша біла іх няшчадна, зноў-жа танкі нашы імчаліся на вышыню, знішчаючы ворага кулямётамі. Парашылі тады японцы псіхічнай атакай нас узяць. Напіўшыся для смеласці, пабраліся яны за рукі і крычучы „банзай", пайшлі на нас. То кулямётчыкі нашы слаўна тут сябе паказалі—як бывае ўлетку пракосы на лузе касар кладзе, так лажылі яны п'яных японцаў. Укрылі мы поле варожымі целамі, але не так лёгка было прагнаць іх з вышыні. Камісар парашыў даць ворагу рашучы бой—усе мы былі вельмі рады гэтаму, такой нянавісцю гарэлі мы да японцаў за забітых і параненых нашых таварышоў.

Кінуліся мы ў штыхавую атаку, а наперадзе ўсіх нас бег камісар з крыкам: „За радзіму! За Сталіна!". Мой таварыш Змітрок смерць знайшоў на полі гэтым. Наскачыла на мяне два самураі, пакалоў я іх, як сабак, і не пачуў нават як куляй прастрэліла мне левую руку. Азірнуўся я, бачу камісара абкружылі японцы, але не такія, тата, у нас камісары, каб здавацца ў баю! Храбра адбіваўся камісар ад іх, страляў з нагана, а я падбег на дапамогу і мы разам знішчылі ворагаў. Тут мяне паранілі ў другі раз у тую-ж левую руку і яна павісла і я не мог яе падняць. Камісар загадаў мне пакінуць бой, але я на гэты раз не паслухаў нават камісара і біўся адною праваю рукой. З радасцю, не зважаючы на страшэнны боль, біўся я разам з усімі да канца.

Нядоўга пратрымаліся ворагі на нашай савецкай зямлі. На вышыні Заазёрнай умацавалі мы наш савецкі сцяг, пасля чаго папра-

сілі японцы міру. Так што, дарагія, як ачуняю поўнасцю, загаю тыя раны на руцэ, дык можа прыеду ў адпачынак.

Тата, чаму вы не пішаце як там у вас, у калгасе, справы, ці багаты ўраджай сёлета. А яшчэ прашу перадаць прывітанне ўсім маім таварышам ад байцоў нашага чырвонага фронта і ад мяне, а таксама прашу сястрыцу Вольку асаблівае прывітанне ад мяне перадаць...

Як дачытала Маруська да гэтага месца, спынілася, засаромілася, твар яе загарэўся агнём.

— Нечытэльна нешта,—сарамліва сказала яна, але ўсе засмяяліся, бо ведалі каму Піліп адрасаваў асаблівае сваё прывітанне.

... І яшчэ скажу напаследак, што хоць і паранены я, а калі-б прышлося, заўтра зноў пайшоў-бы ў бой за радзіму. Ваш сын Піліп Сцяпанавіч Заруба".

Скончыла Маруся чытаць пісьмо, але некаторы час ніхто не смеў парушыць цішыню—так урачыста гучэлі апошнія піліпавы словы. Стары Заруба, паглядаючы некуды ўдаль, поверх галоў абступіўшай яго моладзі, неўпрыкмет змахнуў рукавом набегшую слязу. Але хутка ўсе ажылі, выйшлі з ачаравання, у якім знаходзіліся пад уплывам піліпавага пісьма. Да старога Зарубы працягнуліся дзесяткі рук, комсамольцы віталі Сцяпана з сынам героям.

— Эх, шчаслівец Піліп, — з зайздрасцю уздыхнуў механік Грышка,—і трымаючы дзядзьку Зарубу за руку, сказаў:—не спалшаў ваш сын, ёсць кім сялу нашаму ганарыцца!

Шчаслівы і ўсхваляваны Заруба абняў за плечы Грышку.

— Кожнаму свой чарод... Прыдзе час, усім народам пойдзем ваяваць за нашу совецкую зямлю.

Заруба падняў галаву і строга акінуў поглядам моладзь.

— А цяпер па мясцах... Заводзьце рухавік. Сораму няма— зіма надыходзіць, а ў нас хлеб яшчэ немалочаны ляжыць.

І хутка, не азіраючыся, стары Заруба пайшоў у гумно.

---

## Провады

Хто ў Вялікіх Вуглах не ведае найпершага ў сяле хлопца—комсамольца Ляксея Базылёнка? Хто не чуў вяснянымі надвячоркамі яго голаса над сялом, голаса першага запявалы? У каго не калола ў баку ад смеху, калі ён глядзеў Ляксея на калгаснай сцэне ў ролі якога-небудзь дзівака? Сказаць праўду, яшчэ не так даўно Ляксея ў сяле звалі проста Лёшкай, і ён бегаў па вуліцах віхрастым падлеткам з рагаткаю ў руцэ. Такім яго асабліва добра памятае дзед Аўдзей, якому ён уеўся ў пячонкі, калі на чале няскоўай дзетвары, бывала, рабіў налёты на дзедавы вішні. Але непрыкметна прабеглі годы, Алёшка з падлетка вырас у статнага здаровага хлапца, адмысловага дружбака і першага работніка. Дзед Аўдзей цяпер вартаваў калгасны гарох, то Ляксей часам па старой памяці зазірне на яго „плантацыю", зойдзе да дзеда ў курэнь, пакурыць, паесць сакавітага гароху і пойдзе куды яму трэба. А дзед ужо і

забыўся на колішнія Лёшкавы прадзелкі, бачачы перад сабой статнага малайца.

Дык вось гэты самы Ляксей, у ліку другіх шасці хлопцаў, сёння быў героем дня: вёска праваджала іх у Чырвоную армію. Прызыўнікі яшчэ былі на палове дарогі да вёскі, як вярталіся з раёна, а тут ужо ведалі, што з шасці чалавек збракавалі толькі аднаго Івана Пракапёнка. Нават ведалі ўжо і чаму—у Івана не хапала на левай назе аднаго пальца. Астатніх-жа прынялі, як мае быць, каго у кавалерыю, каго куды, а комсамолец Ляксей трапіў нават у пагранічнікі на Далёкі Усход.

Сяло з радасцю сустракала прызыўнікоў яшчэ на шляху. Каля тапаляў, што ў рад выстраіліся за сялом, рыпаў гармонік, і хаця справа была ў будзёны дзень, дзетвара, моладзь і нават старыя чакалі хлопцаў. Прызыўнікі падкацілі да сяла на пары гладкіх выяздных коней. Пад дугою звінелі бомы—гэта ўжо пастараўся так старшы калгасны конюх, Ляксееў бацька, Пілїп. Як толькі прызыўнікі пад'ехалі, воз адразу-ж абкружылі з усіх бакоў: „як, што, калі?—адусюль сыпаліся пытанні. Хлопцы прымушаны былі пазлазіць з воза, каб адказаць на прывітанне родных і блізкіх. Тымчасам дзетвара, карыстаючыся агульным замяшаннем, як тая стайка канаплянікаў зляцелася на воз і праехала аж на двор калгаснай стайні. „Другі такі выпадак падкатацца на вараных не хутка можа трапіцца“,—думалі яны.

Усе былі задаволены, асабліва радаваліся прынятыя ў армію. Толькі адзін збракаваны Пракапёнак Іван адчуваў сябе зусім непрыемна. Але ўсім кінулася ў вочы, што і Ляксей, заўсёды такі весяльчак і балагур, таксама быў чамусьці незадаволены. Ён і ўсміхаўся, але ўсмешка нейк не пасавала да яго заклапочанага твару, ён спрабаваў жартаваць, але жарты выходзілі не такімі сакавітымі, як заўсёды. І гэта дзівіла ўсіх. У чым справа? Ляксея-ж прынялі якраз туды, куды ён і хацеў—пагранічнікам на Далёкі Усход. А што ён больш за ўсё хацеў трапіць іменна туды, не было ніякага сумнення. Увесь калгас памятае мінулагодняе здарэнне з Ляксеем. Якраз перад прыпіскай у мінулым годзе Ляксею моцна параніла малацілкай руку. На камісіі па прыёму ў армію сказалі, што без ампутацыі двух пальцаў яму не абыйсціся і таму прыняць яго ў армію не могуць. То Ляксей у Маскву да прафесара паехаў, сядзеў там месяц, каб толькі загаілі яму руку, не здрэзваючы пальцаў. А цапер вось прынялі і ён нібыта нечым незадаволены.

І толькі два чалавекі ў натоўпе здагадваліся, чаму такі невясёлы Ляксей: збракаваны Пракапёнак, ды яшчэ белавалосая Надзька. Што гэта за такая Надзька, што ёй вядомы прычыны ляксеявага смутку? Вось таксама заўсёды здараецца ў жыцці, што белавалосыя дзяўчаты многа ведаюць пра прычыны хлапцоўскага смутку...

Дадому Ляксей прышоў зусім расхваляваны. Стары Пілїп расправіў вусы і падышоў да сына ўсміхаючыся.

— Ну прынялі цябе, лайдака!—сказаў ён і пацісnуў руку Ляксею,—то глядзі-ж, там табе спуску не дадуць.

Маленькая ляксеява сястрычка ўплялася за крысо ягонага він-

жака і з смехам скакала вакол яго. Але Ляксей, выслухаўшы вітанні сям'і, спаслаўся на стому і лёг спаць.

Але хіба мог ён заснуць, калі цэлы рой розных думак насіўся ў яго галаве. Тры дні... Тры дні ён прабудзе яшчэ ў сяле. Гэта яму далі тэрмін для ўладжання ўласных сямейных спраў. А якія ў яго сямейныя справы? Зайсці развітацца з дзедам Аўдзеем? Перадаць справы драмгуртка? Праспяваць на развітанні песню са сваімі сябрамі? Усё гэта ён можа і не рабіць. Ён можа ехаць хоць сёння, вось зараз устаць і ехаць. Але калі Ляксей успомніў пра Івана Пракапёнка, незадавальненне яго аднавілася—цяпер ніхто не будзе перашкаджаць Івану гуляць з белавалосай Надзькай. Ляксей пойдзе і ў Івана не будзе супернікаў. А Надзька?.. Хто ведае, як наставіцца яна да Івана, калі з часам забудзе на Ляксея. Паслужлівае выбражэнне малявала яму цэлыя карціны: то ён бачыў як пасля яго ад'езда Іван падручку гуляў з Надзяй, цалаваў яе каля таполяў, то наадварот, ён бачыў як з гордасцю Надзя адхіляе Івана і на ўсе яго прыставанні захоўвае на твары грэблівую грымасу.

„Трэба абавязкова з Надзяй пагаварыць",—парашыў ён і калі прыняў гэта рашэнне, усхапіўся з ложка. Больш ляжаць не выпадала. Што яна скажа? А можа паабяцае кахаць?

... Бацька ўвайшоў у хату з гладышом мёду ў руцэ.

— Апошнія дні частаваць цябе будзем... Не хутка ты зноў пасвытаеш матчыных аладак.

І, паставіўшы на акно мёд, дадаў:—Дзед Аўдзей прыслаў.

У хату ўбеглі сястрычкі, увайшла маці. Яна любоўна пазірала на сына, стараючыся ўвабраць у свядомасць і запомніць вобраз любімага дзіцяці. Бацька сеў на лаву каля стала і разгладзіў вусы. Яму хацелася пагаманіць з сынам, паслухаць яшчэ раз ад яго самога, як там іх прымалі, што казаў камісар, ці не ўспаміналі пра руку. Горды, ён не ўцярпеў, каб не падзяліцца з жонкаю сваёю радасцю і цёпла павітаў з сынам—пагранічнікам. Як ні стараўся бацька схаваць пры гэтым усмешку гордасці ў пышныя вусы, яму гэта не ўдавалася.

Ляксей падсеў за стол, расказаў бацькам усё, што іх цікавіла, але думкі пра Надзю з галавы не выходзілі. Ледзь на зямлю спусціўся вечар, Ляксей павячэраў і пайшоў у клуб, дзе ўжо граў гармонік і весела выстукваў бубен з бразгаткамі. Людзей у клубе было многа, як у выходны дзень. Адставіўшы да сцен лаўкі, у цэнтры зала танцавала моладзь. Падвыпіўшы расчырванелы Пракапёнак Іван круціўся з нейкай дзяўчынай і пры гэтым аддаваў загады на ўвесь зал: „общчы вальс", „кавалеры, шаг упярод"...

Ляксей хуценька акінуў поглядам залу і ўбачыў Надзю. Яна стаяла збоку ў кругу сяброўак-дзяўчат. Тут-жа ля дзвярэй стаялі хлапцы, і Ляксей накіраваўся да іх. Стрэлі яго хлопцы, жартаўліва выстраіўшыся ў два рады і прыняўшы пад казырок. Ляксей таксама жартам надзьмуўся, падкруціў вусы, якіх у яго яшчэ не было і знаку, і прыдзірліва агледзеўшы строй, скамандваў:—„Вольна". І тады ўсе далі волю стрыманаму смеху.

Але сёння нешта перашкаджала яму адразу-ж выканаць свой намер—пагаварыць з Надзяй. У звычайны вечар ён проста пады-

ходзіў да яе, запрашаў на танец, ішоў з ёю на пагулянку і нікому гэта не было цікава. А цяпер яму чамусьці хацелася захаваць свае пачуцці, не ставіць іх на абгаварэнне сяброў.

Ляксей парашыў, што ў час танцаў, калі будуць мяняцца пары, яму давядзецца скакаць з Надзяй, і ён запрасіў на танец Надзіну сяброўку Вольгу. Нарачыта ён уліўся ў круг танцуючых каля самай Надзі. Але, нібы на злосць, па камандзе Пракапёнка пары абменьваліся ў працілеглы бок і ён усё аддаляўся і аддаляўся ад Надзі. З болем ён паглядаў, як, нахабна навязаўшыся, Пракапёнак па сканчэнні вечара праводзіў Надзю дахаты.

А назаўтра назойлівы асенні дождж зусім сапсаваў вечар. Вуліца пакрылася калюжынамі, скрозь абрыўкі хмар ледзь бачан быў бледны месяц.

Надзеўшы юхтавыя бацькавы боты, Ляксей пайшоў гразкай вуліцай да клуба, але там было цёмна. Дамоў вяртацца не хацелася і Ляксей пайшоў далей—проста так, без мэты. Ён ачнуўся толькі, калі ўбачыў, што стаіць каля акна Надзінай хаты. Спачатку Ляксей хацеў кінуцца зараз-жа ўцякаць, але яму захацелася зазірнуць у акно, што кідала на вуліцу сноп яяркага свету. Ён стуліўся за вушак і паглядзеў у хату. І першаю-ж ён убачыў Надзю. Яна сядзела, падпёршы рукамі галаву і задумена пазірала на агонь комінка. Міжвольна, забыўшыся на ўсё, Ляксей аклікнуў яе. Надзя ўздрыгнула і паглядзела ў акно. А Ляксей... ён нават забыўся схавацца, а так і застаўся стаяць. Надзя хуценька ўскочыла з лавы, накінула хустку на галаву і выбегла з хаты ў цемень. Яны сустрэліся ў веснічках варот, абодва радасныя, усхвалёваныя, бо Надзя не менш за Ляксея жадала гэтай сустрэчы.

— Я буду чакаць цябе, Ляксей. Ты харошы, лепшы за Івана,— на развітанне ціхенька праказала Надзя,—і Ляксей, ідучы дадому, нёс у сэрцы гэтыя словы, як які-небудзь дарагі дар. Усё ясна. Надзя любіць яго і толькі яго. Ён спакойна можа ехаць на Далёкі Ўсход...

Раніцой назаўтра Ляксей, як-бы яго хто аднавіў, радасны і бадзёры пайшоў развітвацца з сялом, з сябрамі. Заўсёдная вясёласць вярнулася да яго. Ён ішоў па вуліцы, жартаваў з стрэчнымі і напяваў нейкую вясёлую мелодыю. Перш за ўсё ён зазірнуў на канюшню. Грамабой заіржаў, яшчэ здалёк пазнаўшы Ляксея. Гладкі, высокі, ён гарцаваў па калгаснаму двару, расходуючы лішкі маладой энергіі. Ляксей ласкава пагладзіў яго па шыі, пацалаваў у вільготную морду і пайшоў на гумно, дзе малацілі жыта. Развітаўшыся з малацьбітамі, ён на самакаце паехаў на калгасныя палі, аб'ехаў усе азімыя, убачыў і прагнаў з жыта свіней і заехаў аж на край палёў іхняга калгаса. На ўзлеску араў на папар эмтээсаўскі трактар. Ляксей пад'ехаў туды і раскурыў па цыгарцы з сваім сябрам трактарыстам Толікам. Адсюль ён вярнуўся ў сяло, заехаў да сяброў у кузню, з кузні пакаціў на пасеку, потым загуменнаю сцежкаю заехаў да дзеда Аўдзея.

Развітаўшыся з усімі, Ляксей змораны вярнуўся дахаты. Але адпачнуць яму не ўдалося. Увечары бацька падрыхтаваў багаты стол і, запрасіўшы поўную хату гасцей, парашыў справіць провады

сыну. Калі ўсе сабраліся і расселіся за сталамі, стары Пілíп, урачысты і памаладзелы, узняўся з лавы і папрасіў гасцей першую чарку выпіць за чырвонага маршала Варашылава.

Колькі было гасцей у Пілíпавай хаце, столькі і чарак паднялося над галовамі. Нават белавалосая Надзька, хоць яна і зроду не піла гарэлкі, прыгубіла свой келіх.

— Едзь, сынок! Чэсна паслужы совецкаму народу,—даў наказ сыну Пілíп і цёпла, па-бацькоўску, пацалаваў яго ў лоб.

* * *

Па дарозе імчаліся коні. Звонкая песня трапятала над вазамі, заліваўся гармонік, звінелі калакольчыкі. Усё сяло, ад мала да вяліка, выйшла на шлях праважаць у армію калгасных хлопцаў. Насунуўшы на вочы казырок шапкі, прышоў разам з усімі і Пракапёнак Іван. Толькі Надзя нават і не глядзела ў яго бок. Стоячы каля прыдарожнага тапаля, яна махала ўслед Ляксею хустачкай і ціха шаптала сама сабе:

— Хто знае, можа вернецца Ляксейка мой героем усесаюзным. Ён-жа такі харошы...

І толькі калі далёка-далёка за пылам схаваліся вазы і ўжо не стала чутна ні песні, ні гармоніка,—Надзя заткнула за пояс белую хусцінку і паціханьку пайшла ў сяло...

1938.

*М. Ільінскі*

# ТЭЛЕФОН

Закалыхаўся жоўты туман, затым яго прарэзалі чорна-бурыя расколіны і Алесь убачыў над сабой бурую, габляваную столь хаты. Ён паспрабаваў павярнуць галаву ў бок, дзе чуліся крокі і нейкае шамаценне, але войстры боль прарэзаў шыю ад патыліцы і да лапаткі.

— Ляжыце спакойна!—набегаліся—хопіць!

Алесь зірнуў скоса і ўбачыў спагадны твар маленькага чалавечка ў акулярах і белым халаце. А побач з гэтым тварам быў другі—заплаканы, але вясёлы твар Марынкі.

— А тэлефон!?—стогнам вырвалася з вуснаў Алеся.

— Пісульку вашу прачыталі. Ляжыце спакойна...

Алесь павольна ўздыхнуў і заплюшчыў вочы. Загад быў выкананы.

І хаця шыя бесперапынна ныла, але ўсё цела было лёгкае, лёгкае, нібы нічога і не важыла, а перад вачмі, нібы на экране, праходзілі малюнкі падзей апошніх дзён.

Уздоўж па гасцінцу, праз вёску, бесперапынным ланцугом ужо другі дзень цягнуцца коні, людзі, гарматы, абозы. Час ад часу ад гэтай тысячагаловай гадзюкі адлучаецца шэрая постаць у шапцы з акованым брылем і тады ў вёсцы з'яўляўся белапольскі марадзёр;—скавыталі парасяты, квахталі куры, ляцеў гусіны пух; плакалі жонкі і дзеці гаспадароў, якіх шомпаламі прымушалі знайсці захованага ў хмызняку ля рэчкі каня і ехаць у абоз.

З лямантам раздзірае сухія грудзі Алесява маці, кідаецца цалаваць рукі ката з жоўтымі кантамі на шапцы і пятліцах... А ён—Алесь, выціраючы скрываўлены твар, закладае ў старыя калёсы нядужага, крывога каняку...

Стрэлы... Алесь бяжыць, пераскакваючы цераз карчы і ламачча далёкага, але знаёмага, уздоўж-упоперак сходжанага лесу...

Вось і родная рэчка. Абавітая начным туманом, яна нібы спіць пад пульхнай коўдрай і толькі цурчэнне струменьчыкаў пад крутым берагам гаворыць аб яе няспынным бегу...

Прыемная цёплая вільгаць начной вады агортвае стомленае цела і Алесь першы раз за дзень усміхаецца.

— Недалёка паедуць яны на маёй каняччыне...

Вось ужо і хмызняк застаўся ззаду; Алесь бяжыць паміж двух сцен залатога збожжа. Сухое, запыленае, паныла стаіць яно—

маўклівае, пераспелае, нахіліўшы каласы, апускаючы долу буйнае зерне. Пакуль не прыдуць чырвоныя, ніхто яго жаць не будзе. Хлебам хоча сустрэць вёска ўладу працоўных.

Доўга бразгаюць клямкі, засаўкі, завалы прыціхшай, пад авалай белапольскага адступлення вёскі...

Грукаюць гарматы, час ад часу ляскоча кулямёт, часта-густа, як сухі ядловец у печы, трашчаць стрэлы...

Аграмаднае, чырвонае, ранішняй расой умытае, сонца павольна ўздымаецца над усходам... Мільганулі на гасцінцы рухавыя конныя постаці ў шапках-будзёнаўках, весела праскакалі праз вёску, задыміліся пылам у спелым збожжы, зніклі ў хмызняку, азваліся кулямётным лёскатам ля рэчкі, зноў з'явіліся, хапілі з сядла па конаўцы пададзенай спагаднай рукою вады і зніклі...

Радасна ўсхваляваныя людзі мітусяцца на вуліцах; вітаюць адзін аднаго. І толькі дзе-ні-дзе затоена спалоханыя ці недаверлівыя вочы;—панскай уладзе канцы. А сцежкамі між збожжа, прыгнуўшыся бягуць шэра-зялёныя людзі;—сярод іх і Алесь—сувязіст, чырвонаармеец-добраахвотнік; а на гумнішчы ўслед яму махае хусткай сястрычка Марынка...

Неба чыстае, блакітнае, а распаленае паўдзённае сонца здаецца яшчэ больш палымнее ад таго, што адбываецца на зямлі.

Палякі ўмацаваліся на другім беразе ракі і няспынным гарматным і кулямётным агнём паліваюць луг, хмызняк, на ўскраіне якога залёг полк, і шырокае поле, што разляглося паміж хмызняком і вёскай. Паветра распаленае і, здаецца, яго не хопіць на адзін уздых на поўныя грудзі.

Алесь ляжыць на ўзгорачку, час-ад-часу выцірае рукавом буйныя кроплі поту і слухае спакойны і роўны голас камандзіра, які аддае загады ў трубку палявога тэлефона.

Ён глядзіць на шырокія, абцягнутыя зялёнай тканінай гімнасцёркі плечы камандзіра і мозг напружваецца ўспомніць бацьку. Той напэўна быў такі самы мужны, дужы і спакойны. Але ўспаміны дзяцінства блытаюцца, вобраз бацькі тане, знікае—і перад вачамі Алеся зноў шырокія зялёныя плечы.

Раптам тэлефон жаласна дзвынкнуў і змоўк. Прабіты куляй апарат больш не працаваў.

Камандзір моцна вылаяўся і да Алеся павярнуўся яго потны чырвоны твар:

— Бяжы ў вёску, у штаб і прынясі другі апарат.

— Ёсць! Зараз будзе!—адказаў Алесь, спаўзаючы з узгорка.

Апынуўшыся ўнізе, ён стаў на ногі, прыгнуўся і шпарка пабег, лавіруючы паміж кустоў і карчэўніку.

Калі Алесь выбег з зарасніка, блакітныя яго вочы шырока раскрыліся ад жахлівага малюнка. Усё поле пераспелага збожжа, падпаленае, відаць, варожымі снарадамі, ці варожай рукой,—палала. З трэскам і сіпеннем неслася на хмызняк залатая пад сонцам, вогненная сцяна, акантаваная зверху трапяткімі языкамі і лёгкім чорным дымам;—шлях да вёскі быў адрэзаны.

На момант Алесь разгубіўся, але зараз-жа ўспомніў, як надоечы

ўночы бег паміж збожжа па добра ўтаптанай шырокай пагонцы. Да яе ён і падаўся.

Прабегшы крокаў дзвесце паўз хмызняк, Алесь ступіў у шырокі калідор паміж двумя сценкамі палаючага збожжа.

Полымя шпарка бегла насустрач Алесю.

І калі яно шуганула зусім блізка, Алесь затуліў левай рукой вочы і, захлынаючыся ад жару і едкага дыму, рынуўся ў вузкі праход, перавіты гібкімі языкамі агню.

Не чуючы як агонь асмаліў русыя валасы, як лузнула скура на апечаным вуху і руцэ, амаль трацячы прытомнасць, вырваўся Алесь з агню.

Яшчэ крокаў пяцьсот і вёска—Алесь не чуе болю,—ён дабяжыць, камандзір атрымае тэлефон.

Алесю робіцца нават весела.

Вось ужо засталося крокаў дзвесце; відаць родная хата.

— Але хто гэта там узбіўся на паркан?.. Ці не Марынка? Вось дурная дзяўчынка!.. Куды вылезла!.. Тут-жа кулі!..

Алесь махае Марынцы рукамі, каб уцякала... Марынка адказвае тым-жа...

— Няўжо пазнала?.. От нягодніца!—радасна ўсміхаецца Алесь і раптам чуе, як нешта апякае яму шыю...

Паркан з Марынкай скачуць некуды ў вышыню, а проста ў твар кідаецца засыпаная чорным дробненькім попелам пагонка.

— Ранены!—мільгае ў Алеся ў галаве; перад вачамі на чырвоным фоне мітусяцца чорна-зялёныя кругі; млявасць агортвае ўсё цела і... раптам:—А тэлефон!?

Апошняя думка раздзірае чорную заслону непрытомнасці: Алесь зноў бачыць пад сабой чорную у попелу пагонку.

Перамагаючы бязмежную млявасць і боль, Алесь паварочваецца на бок і, сцяўшы зубы і трасучыся ўсім целам, выдзірае з нагруднай кішэнькі блакнот, аловак і піша:

— У камандзіра разбіла апарат, даст...

Ён яшчэ бачыць, нібы скрозь туман, як, уздымаючы на распаленай пажарышчам зямлі босымі нагамі чорна-шэры пыл, да яго бяжыць Марынка і... чорная апона зноў насоўваецца на вочы...

— Дзе нашы?— адкрывае Алесь вочы.

— Маці ў хаце, а я вось тут,—адказвае Марынка, паказваючы на свае папяканыя ногі, адна з якіх забінтаваная. Алесь касавурыцца на чалавека ў халаце:

— Полк наш дзе?

— Праз гадзіну пасля таго, як вас паднялі, перайшоў рэчку і пагнаў палякаў далей.

Алесь радасна ўсміхаецца і, перавёўшы вочы на здзіўлены марынчын твар, гаворыць:

— Скажаш маці, што мне цяпер вельмі, вельмі добра.

---

*Антон Алешка*

# АНАТОМІЯ

Я вытрымаў іспыты ў інстытут.

Пагуляў дома дзён дзесяць і з Аркадзем, які вучыўся ў гэтым-жа інстытуце, дамовіўся ехаць на некалькі дзён раней. Разлік быў просты—зараней заехаць і пасяліцца ў самым лепшым пакоі інтарната, адпачыць. Так і зрабілі.

Прайшла ноч у дарозе, а на другую ў самую поўнач дайшлі мы да студэнцкага гарадка. У поцемках шумеў дождж і дзьмуў цёплы парывісты вецер.

Пастукалі ў дзверы заспанага інтэрната. Выглянуў вартаўнік. Ён пазнаў Аркадзя, хутка надзеў шапку і дапамог ўнесці клумкі.

Быў позні час і начаваць парашылі ў пакоі адпачынку, куды прынёс вартаўнік два сяннікі. Ён крыху пагутарыў з Аркадзем, выключыў святло. Я знябыўся ў дарозе і, калі толькі накрыўся коўдраю, мяне адразу змарыў сон. Раніцою з клумкамі пайшлі на другі паверх, дзе выбралі сабе пакой. Тут было чатыры ложкі і тры сцяны, старанна выбеленыя. Чацвертая, амаль што цалкам шкляная, выходзіла на шырокі пляц гарадка. На тумбачках схіліліся два фікусы, лапушыста пусцілі густа-зялёнае лісце. Вось і ўсё, што было ў нашым пакоі. Размясціліся, расставілі мэблю і Аркадзь пайшоў у інстытут па сваіх справах. Я застаўся з новымі суседзямі. Прыглядаўся, слухаў, што гавораць і гартаў тоўстыя кніжкі, што ляжалі цэлай кучай на стале. Каля акна стаяў нявысокі ў клетчатай кепцы і такім-жа пінжаку смуглявы, з худым тварам і маленькімі, як булаўка вочкамі—Пятрусь, ці як яго называў Аркадзь—Пека. Каля дзвярэй у чамадане нечага шукаў другі—Алег. Ён—доўгі, неаформлены, з крываватымі нагамі. Твар чырвоны, ну так, як гавораць у нас, проста вылізаны. Лоб блішчэў. Шчокі ўздуваліся, а тонкую шыю абвіваў сіні ў чырвоную палоску гальштук. Алег не спадабаўся мне, не ведаю чаму.

— Закусім, Пека,—звярнуўся ён да Пятруся.

Той бліснуў белымі зубамі, буркнуў, глянуўшы ў акно яшчэ раз.

— Не пашкодзіць...

Яны селі есці. Я тым часам лёг на ложак адпачыць. Глядзеў праз шырокія шыбы акна на двор, дзе шэрань хмар клубілася на ветры і ледзь не заснуў. Нехта пастукаў у дзверы. Алег крыкнуў:

— Можна!..

Калі скрыпнулі дзверы, я ўбачыў, што Алег прыкметна пачырванеў, апусціў вочы і перастаў есці памідоры. Я павярнуўся на другі бок. У пакой зайшла дзяўчына. Яе я не бачыў, а чуў толькі голас. Дзяліліся яны паміж сабою ўражаннем аб адпачынку, шмат аб кім гаварылі, але я нікога не ведаў. Дзяўчына часта смяялася звонкім гарлавым голасам, і мне думалася, што яны вельмі шчыра сябруюць. Крэсла заскрыпела і да ложака нехта ступіў.

— А гэта хто?—пачуўся голас дзяўчыны.

Я павярнуўся і расплюшчыў вочы. Насупраць стаяла стройная, у сіняй сукенцы студэнтка. Нос тонкі, губы чырвоныя; і танклявая белая шыя хавалася пад каўняром, перавязаным наперадзе бантам. Вочы чорныя, гарача-неспакойныя, нібы прыкалолі мяне да пасцелі. Я не варухнуў ні адной часткай свайго цела, любаваўся ёю ўкрадкай. Коратка абстрыжаныя валасы звіліся ў адзін клубок. Была яна струкаватая, як баранчык.

— Будзь знаёма... Брат Аркадзя...—прыплюшчыў і да таго малыя кропкі вачэй Пека, размашыста адвёў руку ў мой бок. Я нічога не сказаў на тое, што Пека схлусіў і паспешна ўстаў. Яна пільна паглядзела мне ў твар і, зразумела, я не вытрымаў. Пачуў толькі, што сказала, працягнуўшы мне руку.

— Нэя...

Я адышоўся да акна.

— Які нявэтлівы. А Лёня яшчэ. У мяне так брат завецца,—з усмешкаю закончыла яна.

У той-жа вечар мы сядзелі з Аркадзем у кіно і я распытваў у яго пра Нэю. Аркадзь гаварыў аб ёй, як аб чулым сябру і актыўнай комсамолцы. Даруйце, не сказаў я, што Аркадзь у інстытуце быў сакратаром комсамольскай арганізацыі факультэта і безумоўна работу яе ведаў. Прыемна было слухаць, што такая прыгожая дзяўчына, як Нэя, і ў вучобе, і на грамадскай рабоце—амаль першая ў інстытуце. Шмат чаго мне сказаў Аркадзь. Мы выходзілі з кіно і ён між іншым паведаміў, што ўжо амаль два гады, як за ёю ходзіць наш Алег. Я не даходзіў, як яна на гэта рэагуе. Адразу знікла ахвота гаварыць аб Нэі і яе асляпляючая прыгажосць зрабілася прыкрай. Адбылося гэта ў момант. Усё, што вырасла за цэлы дзень і тое, што было афарбавана ў думках ружовым колерам, як кажу, вылецела і мне стала нядобра.

Ужо пад'язджалі да свайго гарадка. На стыках вагон гойдаўся і вельмі гудзеў. Я пазіраў на потную шыбу, думаў: „Няўжо яна гуляе з такім хлапчуком?“.. Усё яшчэ здавалася, што гэта не так. Глянуў на Аркадзя, стаяўшага побач. „Не хлусіць ён. Ведае як было. А я ўсякае магу ў думках гадаць пра чалавека.“ Шкада было толькі аднаго: які я ўсё-ж чалавек? Толькі ўбачыў Нэю і ў адзін момант у лятуценнях намаляваў яе як найчысцейшую істоту, ідэал, да якога павінен цягнуцца. Ды памыліўся. У другі момант быў я задаволены, што гэта так. Супакоіўся і сказаў сабе, што, перш чым зрабіць той альбо іншы вывад аб кім-небудзь, трэба быць больш уважлівым, умецьназіраць.

Праз тыдзень-другі ў інстытуце, на практычных занятках, нас пачалі асістэнты выклікаць і ў свае запісныя кніжачкі ставіць ней-

кія адзнакі. Па адказах студэнтаў мы хутка здагадаліся, што азначаюць кручкі, коскі...

За вучобу ўзяліся дружна, з агнём. Асноўным у нас была анатомія. У анатамічны інстытут ішлі пасля лекцыі, праводзілі там увесь час, амаль да позняе ночы. Я паволі прывыкаў да наўкольнага. Бывала выйду на вуліцу, здаецца і пад зялёнымі дрэвамі сквера пахне фармалінам.

Нараджаліся розныя думкі і здавалася, што я не вытрымаю. Увечары гаварыў з Аркадзем. Ён з захапленнем расказваў аб медыцыне і раіў не думаць нават пра пераход у другую навучальную ўстанову. Так і прывыклася. Аднойчы вышаў я з секцыйнай залы і спыніўся ў файе. Пазнавата ўжо было. Люстры ярка асвятлялі вітыя сходцы ўніз. Паўз сцяну, так у рост чалавека, прыбіты быў абшлаг і насаджаны кветкі. Рознакаляровы шнур кветак спускаўся ўніз да парадных дзвярэй. Крыху вышэй віселі партрэты ў адзін рад, пачынаючы ад міфічных лекараў, ад аснавапаложнікаў медыцыны—Гіпакрата, Арыстотэля, цягнуўся шэраг сусветных свяцілаж на другі паверх і канчаўся сучаснымі. Некаторыя з іх памерлі нядаўна. Вунь самы апошні партрэт акадэміка Іосіфава—буйнейшага анатома і знатака лімфатычнай сістэмы. Толькі два гады, як яго голас замоўк на гэтай кафедры. А яшчэ вышэй, уваходзячага вітаў плакат, напісаны па латыні: „mortui docent vivat“,—„мёртвы вучыць жывога“. Студэнты разумелі плакат гэты інакш і перакладалі пасвойму: „Мёртвы вучыць дацэнта“.

Пускаў дымок цыгаркі і думаў я, ці за сваю справу ўзяўся, прышоўшы ў гэты анатамічны корпус, ці выйдзе што з мяне? Вастрыня гэтых пытанняў згладзілася пад уплывам на мяне з боку Аркадзя, але, калі заставаўся адзін, яны пачыналі пакрысе зноў паўставаць. У гэты час я перажываў такі момант, калі перад чалавекам адчыняць усе таямніцы і пакажуць, што ён значыць. Чалавек не паверыць сваім вачам. Напрыклад, я раней думаў зусім іншае аб уласнай руцэ, а гэта, калі паглядзеў яе анатомію—усё жеяк упрасцілася, а можа нават і складаней стала.

Гэта неясна яшчэ акрэслілася ў маёй свядомасці. Пачуў, як унізе нехта ішоў наверх. Ходзіць людзей тут многа і я не звярнуў увагі. Азірнуўся тады, як да мяне звярнулася дзяўчына. Гэта была Нэя. Яна ціснула маю руку, пыталася, ці бачыў я яе таварышку і прозвішча сказала, а я не ведаў. Не цікавіўся больш. Я зараз мог лепш разгледзець Нэю, таму што яна спынілася насупроць і нечага пазірала ўніз.

Бровы ўзмахнуліся двума тонкімі палоскамі.

Яна гібкая, як каліна, павярнулася перада мною, паглядзела пільна, не маргнуўшы. Для мяне гэта нічога не значыла. Я спакойна пазіраў на яе. Мне хацелася ледзь-ледзь дакрануцца да кучаравых валасоў, прыхіліць яе да сябе. Чаму было такое жаданне—я не ведаю. Скажу: да Нэі я нічога не меў. Глядзеў на яе гэтак, як глядзіць экскурсант на мрамарную Венеру. Ён дзівіўся мастацтву чалавека, які здолеў сабраць усё прыгожае ў адну асобу, не больш.

Нэя не вытрымала майго погляда, апусціла вочы.

— Анатомію вучыш?—запыталася яна.
— Вучу пакрыху.
— Адзін вучыш?
— Яшчэ не прыбіўся да кампаніі, так што адзін.

Нэя казала, што анатомію вучыць аднаму цяжка, што трэба гуртком, у тры-чатыры чалавекі разабраць тэму, пасля давучваць кожнаму асобна. Я адказваў, як мог:

— Што зробіш—адзін. Я ўсё адзін. Нарадзіўся таксама адзін.

Яна ўсміхнулася на мой не вельмі ўдалы жарт, паглядзела яшчэ раз уніз.

— А цяжка?
— Бывае і цяжка...
— М-м...—стуліла тонкія губы.—Калі цяжка, я ахвотна дапамагу. Згодзен?—пыталася яна.

Я згадзіўся. Нэя пастаяла крыху і зайшла ў залу. На сярэднім стале ляжалі мае кніжкі. Яна глянула і сказала, што даўно гэта вучыла, але яшчэ добра памятае. Так я і дамоў пайшоў з ёю. Трамваем ехаць не захацела, і мы спачатку люднымі вуліцамі, а потым нейкімі безымяннымі завулкамі дашлі да інтэрната. Нэя ўсю дарогу гаварыла. Шмат пра яе ведаў я, праўда, грунтуючыся на тым, што яна апавядала. Развіталіся цёпла. Дома сказаў Аркадзю што ішоў з Нэяй. Ён ужо клаўся спаць, усміхнуўся і сказаў таварышам:

— Глядзіце, як ён пачаў ахмураць Нэю. Цяпер зразумела, чаму яна часта бегае сюды.

Я пагледзеў на Алега. Ён надзьмуўся і загарнуў кніжку. Я гаварыў Аркадзю:

— Нэя казала, што сэрца запаліў другі з нашага пакою. Таму і ходзіць...

— Гэта праўда?—узняў галаву ад кніжкі Пека.

Алег нічога не сказаў. Пастаяў нахмурана каля фікуса і, папраўіўшы гальштук, выйшаў.

Так мы і жылі. Аркадзь прыходзіў позна і тады я з ім мог гаварыць. Астатнія прыязджалі дамоў адразу пасля занятак. А я—як выпадала: альбо зарань, альбо зусім позна. Калі збіраліся усе, Аркадзь знарок пытаўся пра Нэю. Вядома было ўсім, што такая гутарка на па сэрцу Алегу, але ці ўсё быць сур'ёзнымі? Звычайна было так. Пека скідаў кашулю, складаў старанна на табурэце і лажыўся на ложак. Ад яго можна было ўвесь вечар не чуць ні аднаго слова. Вельмі заўзята чытаў. Алег рабіў інакш. Любіў ісці да хлапцоў у кампанію, альбо да дзяўчат, і там спяваць. Прыходзіў у пакой і галасіста канчаў:

... лель моль,
лель моль...

Пека варушыўся на ложку і ўстаўляў у яго канец песні кожны раз амаль што адно.

— Не па спецыяльнасці пайшоў. Вяртайся, пакуль не позна.

Такая рэпліка не падабалася Алегу.

— Манах. Табе усё-б маўчаць. Ведай, не засталося нідзе для цябе і драхлага манастыра.

Мінула два месяцы. Я бачыў, што Нэя сваё абяцанне—дапамагаць мне старанна выконвае. Амаль кожны вечар яна прыходзіла ў анатамічку, знаходзіла мяне. Я спачатку глядзеў на гэта, як на забаву. Калі, думаю, ахвота дзяўчыне, дык няхай забаўляецца. А ў гэты час было ўжо мусіць іншае. Нават студэнты з маёй групы на занятках сталі прыкмячаць, а дзяўчаты шушукацца. Адзін раз на перапынку стаяў я на калідоры—лекцыя была ў нас—і пачуў, як нехта ўзяў мяне за локаць. Азірнуўся і не паверыў вачам—гэта была Нэя. З чацвертага паверху прышла. Адвёўшы да акна, сказала з дакорай:

— Хлус ты... Я ўсё думала—і праўда...

Я азірнуўся. Не ведаў чаму так абзывае мяне і, прызнацца, крыху пачырванеў.

— Брат, казаў. Сёння Аркадзь мне пасмяяўся.

Уздыхнуў вальней, зразумеў у чым справа.

— Кінь... Па-першае, гэта сказаў не я. Наколькі памятаю, табе схлусіў Пека. Па-другое, не ўсё роўна, хто я Аркадзю: брат ці сват? Праўда?

Нэя нічога не адказала, доўгім поглядам правяла мяне ў аудыторыю. Хлопцы пыталіся ў мяне, якія адносіны я маю да яе. Давялося сказаць нешта заблытанае і перавесці размову на другое.

Хутка ў нас здарыўся такі выпадак. Аркадзь узяў статаскоп і пачаў аўскульціраваць Алега. Хударлявы ў целе Алег стаяў згорблена, дробна моргаў вачыма. У дзверы пастукалі.

Пека крыкнуў з ложка:

— Можна!

На парозе паказалася Нэя і, убачыўшы Алега ў такім выглядзе, выйшла. Ён нездаволена махнуў рукою і выбіў у Аркадзя статаскоп. Чорная галоўка зляцела і, стукнуўшыся аб радзіатар, разляцелася. Алег раззлаваўся. Статаскоп быў яго. Спачатку гаманіў сам сабе, а потым надзеў кашулю, сказаў у бок Пекі:

— Чалавеку нельга зайсці—разлёгся...

Пека ўстаў.

— Думаеш, яна не зайшла таму, што я ляжаў? Не хацела глядзець на твой габітус. Грудзі ў цябе, як у старога зайца, а ты яшчэ кавалера строіш.

Алег пачырванеў, выпучыў вочы.

— Хто-б я не быў, табе ўсё роўна. У інтымныя справы не суйся, калі ласка...—кіпеў Алег.

Пека пазіраў на яго, не моргаючы, і на ім нішто не варухнулася. Да чаго-ж спакойная натура!

— Калі будзеш крычаць, праз дугу ўмываць павядзём... Падабрэеш тады,—сказаў Пека і вышаў.

Вышаў і Алег.

У гэты вечар ад Пекі я даведаўся, што Алег—сын буйнага доктара з аднаго паўднёвага горада. У бацькі ён адзін, такі адпешчаны, што нічога не скажы.

— Каб ён гадаваўся ў нас на фабрыцы, а то што...—Пека ўзяў

мандаліну і крануў струны медзіатарам. Любіў іграць штосьці такое працяглае, меладычнае, проста без канца.

Было гэта перад днём адпачынку. На пляцы каля інтэрната гулялі студэнты. Туды пайшоў і Пека. Я адчуваў сябе дрэнна і лёг на ложак. Праз адчыненую фортку чуліся вясёлыя галасы. Зноў зайшла Нэя. Зірнула на мяне, апусціўшы бровы.

— Што з табой здарылася?

— Мусіць, захварэў.

Яна знайшла пад коўдрай маю руку і, нахіліўшыся, мацала пульс. Зноў адчуў дотык яе рукі і ўспомніў, як знаёміўся ўвосень.

Яна пастаяла, ціха сказала:

— Нічога, усё ў норме.

Сядзела каля стала, нешта смешнае гаварыла. Убачыўшы асколкі статаскопа, звярнула ўвагу.

— Гэта Алегаў статаскоп.

Слова за слова—гаворка зайшла пра Алега. Я сказаў тое, што чуў ад Аркадзя ў кіно. Яна звяла бровы, ускрыкнула.

— І ты ведаеш?! Не думала. Не падабаюцца мне такія рамантычныя асобы. Больш не кажы мне...

— Чаму?.. У нас так і гавораць, што ты заходзіш да Алега. Мо' не праўда?

Я чакаў, што яна скажа.

Нэя з хвіліну думала. Лёгка ўстала з табурэткі і спынілася каля дзвярэй.

— Хаджу, ды не да Алега.

Я доўга ляжаў і ніяк не мог знайсці і на макавае зерне ў сабе якое-небудзь цягі да яе, пачуцця, якое магло-б вырасці ў штонебудзь большае, акрамя простага знаёмства. Словы Нэі прымусілі задумацца. Разважаў я сам з сабою і так для мяне і засталося незразумелым, што хацела сказаць Нэя.

Мусіць з шасцідзёнку да нас не заходзіла і Аркадзь пацікавіўся.

— Нешта Нэя не заходзіць. Мо' чым пакрыўдзілі?

Думалі, што-б магло адштурхнуць таварыша? Я чытаў газету і чуў, аб чым гаварылі. Хацеў сказаць. Падумаў, што гэта пакрыўдзіць Алега і прамаўчаў.

— Я і так не ведаю чаго яна хадзіла да нас? Прыдзе, пасмяецца і на гэтым канец... Каб, скажам...

— Пачнеш разважаць,—перабіў Пеку Алег.—Табе здаецца, калі хто заходзіць да нас, дык павінен абавязкова гаварыць на вучэбную тэму: аб індурацыі лёгкіх, ці аб якой небудзь дзістрафіі...

— Пайшоў, пайшоў,—пазіраў Пека, узняўшы камячкі брывей.

Алег уставіўся на нахіленыя над сталом плечы Пекі.

— Аб гэтым і на лекцыях многа гавораць. Не буду-ж я ў кіно паўтараць эндакардзіты. Так і тут.

Хто з іх казаў праўду, мяне мала цікавіла. Прычыну ведаў толькі я ды Нэя. Запамяталася адна гісторыя, якую расказаў Алег у бурнай гутарцы з Пекай.

У сярэдняй школе Алег быў знаёмы з адной дзяўчынай. Калі хто-небудзь з хлапцоў з ёю гаварыў, яна адразу пачынала весці

гутарку пра гаспадарку свайго бацькі, пыталася колькі кароў, коней мае яго бацька. У другі вечар яе ўжо цікавілі авечкі, свінні...

— Не інакш, нейкі кулацкі вырадак была гэтая твая знаёмая,— усміхаўся Пека.

— І ў цябе не лепш. Кожны вечар толькі і гутарыш: ампулеццікі, кумуляцыя, таблеткі, болюсы... Не кожнаму гэта цікава.

Пека адказаў на гэта ціхім голасам, удумліва так.

— Філосафам мне не быць... Зачым? Мая мэта—стаць участковым доктарам. Зразумеў? І ведаць для гэтага што-небудзь трэба.

Міналі тыдні. Я не прыкмячаў, як хутка бег час. Дні праходзілі ў вучобе і к поўначы хацелася, каб суткі мелі, ну, хаця-б на адну гадзіну больш часу, чым яны маюць звычайна.

Аднойчы, пасля лекцыі застаўся я ў аудыторыі. Праз гадзіну павінен быў быць комсамольскі сход. Дамоў ехаць не выпадала. Мінуў я апошнія рады лавак і спыніўся каля вуглавога вакна. Наш будынак стаяў на ўзгорку. Дамоў у гэтым баку было мала. Сіняй стужкай завівалася рака Варона, падмывала высокі бераг. За рэчкай віднеліся трубы і мноства будынкаў—гэта авіяцыйны завод. Крыху бліжэй бялелі карпусы завода сінтэтычнага каучука. Гэтыя гмахі гігантаў выраслі за гады сталінскіх пяцігодак, і цяпер дымяць над стэпавай раўнінай прыгарада. Мне відна далеч стэпаў, калі зірну лявей. Халоднае шкло шыбы студзіць прытулены гарачы лоб, думкі плывуць і робіцца прыемна, што адчуваеш сябе грамадзянінам грамаднага калектыва краіны.

Нельга без гонару і захаплення глядзець на чорныя кропкі самалётаў, што кружацца над заводам. Яны толькі што выпархнулі з варот цэха і праходзяць іспыты ў паветры.

— Задумаўся?—ледзь чутна даляцела да мяне пытанне. Я думаў, здалося мне гэта, ці хто-небудзь сапраўды пытаецца. Азірнуўся. Нэя голасна засмяялася. Яе грудзі высока ўздымаліся,ірваліся на волю з-пад тонкай белай блузкі. Відаць, яна стамілася.

— Стометроўку брала... Вунь—яна прытулілася да акна, паказала ўніз. На спартыўным пляцу беглі групкамі, стаялі гуртам студэнты каля фініша. Я стаяў з Нэяй. Мяне ўбачыў Аркадзь і надміргнуў з кафедры. Я кіўнуў яму і пазіраў на кучаравыя пасмы валасоў.

А калі пачаўся сход, мы селі поруч на апошняй парце. Потым Нэя захацела пералезці на край, адклала партфель, устала, зачапіўшыся туфлем спатыкнулася, і села мне на калені. Хутка ссунулася на край і закрыла твар далонямі. У гэтым нічога асаблівага я не бачыў. Мала што можа здарыцца, мы-ж сябры. Я ўважліва слухаў дакладчыка. У думках перакінуўся ў далёкую ад нас краіну, дзе сёння трашчаць кулямёты, б'юць гарматы і залітыя крывёю іспанскі народ адстойвае сваю незалежнасць ад германа-італьянскіх фашыстаў. Аудыторыя комсамольцаў інстытута наэлектрызавана дакладчыкам. Нэя горача шэпча на вуха.

— Прабачай.

Я сціскаю яе руку вышэй локця і ківаю ў бок прэзідыума.

Нэя разумее мяне.

Едучы дамоў, я думаў аб ёй. Нават здзівіўся, калі зразумеў,

што ў апошні час я сам хачу часцей бачыць яе, слухаць лапатлівы голас, глядзець у строгую глыбіню вачэй. Як выйшлі з вагона, у мяне Аркадзь адразу запытаўся:

— Нешта ты з Нэяй часта сядзіш, а-а?

— А што тут дрэннага?

— Ты і скажы, што дрэнна, а што добра...—не пакідаў ён мяне.

— Покуль ні добра, ні дрэнна.

Больш Аркадзь не пытаўся. Былі мы раз на паравозным заводзе. Я рабіў даклад рабочым першай змены механічнага цэха. Нэя выступала судакладчыкам. Мне здавалася, што яна лепш за мяне гаварыла. Падаў пухкі снег, калі мы ішлі ціхай вуліцай каля станцыі, нячутна чапляўся на паліто Нэі, пабліскаваў дыяментам. Яна хваліла мяне за даклад.

— Ты ўмееш гаварыць.

Я нічога не адказаў. Нутро поўнілася другім. Калі яна запыталася, чаму я ў апошні час вельмі задуманы, я ёй выказаў усё, што сабралася за гэтыя дні.

— Мяне трывожыць і некалькі не здавальняе, што я на тры гады пазней за цябе пачаў займацца. Пры тым у цябе... Я мажа і не магу гладка сказаць... Я з далёкай вёскі прыехаў, не бачыў жыцця, ведаю ўсяго мала, а ты...

Нэя ўсё зразумела.

Пад нагамі хрусцеў сняжок, матылямі кружыўся ў паветры. Вочы яе гарэлі незразумелымі для мяне аганькамі. Я глядзеў на гладкую сцяжынку каля гарадка, глыбока ўдыхаў халоднае паветра.

Нэя ўзяла мяне за руку, зменшыла крок.

— Надумаў нямаведама чаго—і гаворыць. Усё гэта не так, бачу па вачах. Сяброўства? Гэта вялікая і ў той-жа час надзвычай кволая рэч. Павернеш крышку не так і ўсё пойдзе па другому. Табе ўсё здаецца, жыцця і я не бачыла. Будзем глядзець і абдумваць яго ўдваіх. Будзе не кепска... А ты такі магутны, характар маеш і светлую галаву. Не кіслы рамантык з трэцяга курса...

Я пазіраў на пачырванеўшыя ад марозу шчокі і верыў таму, што гаварыла Нэя. Мы доўга хадзілі па двару каля інтэрната. Не хацелася ісці ў пакой.

— Чаму не заходзіш да нас?

Яна спынілася.

— Ведаеш, а пытаешся.

Нэя апавядала пра Севастопаль і другія гарады Крыма. Між іншым сказала, што бацька яе пераведзены зараз на работу зноў у Крым. Ён партыйны працаўнік. Я апавядаў ёй пра месячныя ночы Случчыны, пра ціш палёў. Адным словам, гаварыў усё, што толькі траплялася, як кажуць, пад руку.

Хутка надышлі зімовыя экзамены. Я здаў так, як і не думалася. Вышла надзвычай добра. Пасля адпачынку заняткі ішлі павольней. Я шмат чытаў літаратуры, хадзіў часта ў тэатр. Нэя наведвала анатамічны інстытут і прызналася, што ходзіць дапамагаць мне і пагутарыць. Апошняму я больш паверыў, бо ў штодзённай дапамозе, аб якой яна казала, я не вельмі меў патрэбу. Частку анатоміі ў зімовы перыяд, як залік, я здаў адным з першых у групе.

Мы сядзелі ў музеі. На стале стаяў прэпарат сэрца. Я пазіраў на каранарныя артэрыі і заўважыў Нэі:

— Такі орган і ў такой банцы. Яму прастора неабсяжная патрэбна, гарачыня і сіла, каб рухаць чалавека,—хваціў я вельмі ўжо рамантычна.

Нэя ўсміхнулася.

— Паняцці ў цябе пераблыталіся, хлопча. Гэта-ж анатомія, а ты аб чым гаворыш! Май на ўвазе, што ў цябе так нічога не выйдзе.

Яна казала праўду.

Час, між іншым, непрыкметна ішоў. Мінуў красавік, адсвяткавалі май і гарачыня чэрвеня давала сябе адчуваць.

Падаспеў канец навучальнага года.

Я здаў хімію і вышаў на ганак. Быў вечар. Выпадкова сустрэў Нэю.

— Як у цябе экзамены?—пытаўся я, сумуючы па ёй. Відаць, што і яна не менш мяне сумавала. Я загаварыў, што мне засталося яшчэ толькі здаць анатомію. Нэя упэўняла:

— Каб ты, ды не здаў.

— А калі дамоў ідзеш?

— Магу зараз.

Першы раз я вёў Нэю пад руку. Яна здавалася такой лёгкай. Ад яе валасоў прыемна пахла, калі яна туліла галаву да майго пляча. Усё навакольнае нібы не існавала. Тэлеграфныя слупы адбеглі далёка, шырока расцягнулася вуліца, а перад вачыма мільгала маленькая галоўка Нэі. Хацелася, каб так было да канца. Сіняя ноч накрылася зорнай коўдрай, прытулілася каля студэнцкага гарадка. Навакол ціха. Нэя спынілася.

— А ты казаў, што жыцця не ведаеш. Вось бачыш.

Перад апошнім экзаменам я хадзіў на рэчку і не ўгадаў,—вельмі абпаліў на сонцы плечы. Горача зрабілася, калі зайшоў у кабінет прафесара. Не мог без болю крануць рукой. Пазіраў на рэдкую сівую бародку строгага чалавечка, добра ведаючага і галоўнае, любячага свой прадмет—анатомію. Цяпер было усё роўна, як я адкажу на пытанні. Прафесар працёр акуляры, бліснуў імі на мяне.

— Чаго вы моршчыцеся?

Я прызнаўся.

Пасля апросу ён расказаў, што таксама ходзіць на рэчку і любіць быць на сонцы.

— Ідзеце хутчэй у прыёмны пакой... Вам выдатна.

Тры дні ляжаў на жываце, хадзіў адзін па калідоры і не ведаў, калі прыдзе канец маім пакутам. З Аркадзем сустракаўся позна уночы. Мазаў мне плечы і супакойваў.

Праз тыдзень усё прайшло. Я паехаў у горад і купіў сабе новую кашулю. Толькі прысеў да стала, як дзверы шырока адчыніліся і зайшла Нэя.

— Ты жывы?

— Табе ўжо думалася...

— Я здала ўсё ужо і зайшла да Аркадзя, ён папрасіў, каб я табе перадала.

Нэя выняла з партфеля канверт, надпісаны Аркадзем на маё імя.

— Што за перапіска? Раніцою я яго бачыў.

У канверце была пуцёўка на паўднёвы бераг Крыма.

Аркадзь пісаў, што дырэкцыя прэміравала мяне як выдатніка і ён атрымаў для мяне гэтую пуцёўку. Побач нахілілася Нэя. Я адчуваў блізкасць яе гарачых губ. Яна зразумела, што пісаў Аркадзь.

— Гэта-ж у мой горад. Паедзем разам? Там мае бацькі. Вось добра...

Яе губы дакрануліся да маіх, зліліся ў пацалунак. У гэты момант зайшоў Алег.

— Што тут у вас?—маргаў ён блакітнымі вачыма.

— А што?... У нас... анатомія,—Нэя зірнула на Алега і перагарнула на стале падручнік па анатоміі.

Кастрычнік, 1938 г.

*В. Змітрэнка*

# ЛЕТНІМ ДНЕМ

Стомлены вялікаю дарогаю, я сышоў убок і сеў адпачыць на купіне ля канавы, якая акружала сельскія могілкі. Стаяў гарачы летні поўдзень, на яснай сіняве неба не было ні адной хмурынкі. У траве па абодвух баках канавы бесперапынна стракаталі конікі, звінелі пчолкі, лятаючы над дробнымі кветкамі белай канюшыны, і басам уторылі ім камланогія шмялі. Вось шустры матыль замільгаў перад вачыма і спусціўся на тонканогую жоўтую кветачку. Яна загойдалася, нахілілася да самай зямлі—матылёк хуценька замахаў яркачырвонымі крыльцамі, а потым, супакоіўшыся, распасцёр іх і сцішыўся, п'ючы салодкі сок з пахучай кветкі.

Ад самай канавы пачыналася жоўтае мора спелай пшаніцы. Яно цягнулася далёка-далёка, аж да пескавога ўзгорку, на якім застылі дзве хвалінкі. Каля таго ўзгорку павольна, як карабель, плыў камбайн; гул ад яго не даходзіў да мяне.

Вакол было поле. Толькі за могілкамі, у тым баку, дзе была вёска, зеляпеў малады сад. Разглядаючы гэтыя мясціны, я заўважыў у супроцьлеглым вуглу могілак жалезны слуп з надпісам і пяцікантовай зоркай наверсе. Недалёка ад магілы, на якой стаяў гэты слуп, на пяньку сядзеў дзядок. Ён падпёр сівую галаву рукамі і доўга не рухаўся; яго сагнутая фігура, здавалася, была высечана з каменя. Нарэшце, стары падняў галаву і цяжка і глыбока ўздыхнуў.

Усё зацікавіла мяне. Я ўзяў свой чамадан і пакрочыў паміж крыжоў у той бок могілак. Тут раслі старыя, з абвіслымі голлямі бярозы, сустракаліся вішні, стаялі сухія кусты бэзу. Пад дрэвамі чарнела леташняе лісце, кучкамі тырчэла жоўтая, выпаленая сонцам, жорсткая трава. Стары заўважыў мяне, калі я ўжо быў не больш, як за пяць крокаў ад яго.

— Добры дзень.

Ён выпрастаўся і, адказаўшы на прывітанне, акінуў мяне сваімі вачыма з ног да галавы.

— Скуль ты, хлапчына?

— Са станцыі іду я—вучыўся ў горадзе. Сеў адпачыць на канаве—вас убачыў. Вось, думаю, пайду пагутару з дзедам,— і я прысеў недалёка ад яго.

— Вучыўся, кажаш?

— Ага.

— Вось добра,—ён уздыхнуў.—Люблю людзей, што з кнігамі справу маюць.

Мне хацелася хутчэй даведацца пра магілу, каля якой ён сядзеў, і, улучыўшы часіну, я спытаў:

— А што вы, дзедка, тут робіце?

— Я? Сад вось гэты пільную,—стары павярнуўся назад і паказаў сукаватай палачкай на сад.—Калгас мяне вылучыў. Вунь, каля гэтай яблынькі і шалаш мой. Тут ён, нібы нешта ўспомніўшы, павярнуўся да мяне і ласкавым голасам працягваў:

— Ты, тут, унучак, пасядзі, пачакай, а я схаджу ў шалаш,— і дзед хуценька закрочыў пад сад.

Я устаў і падышоў да магілы з жалезным слупам. Па слупу і агарожы было відаць, што стаяць яны ўжо некалькі год. Надпіс на жалезнай дошчачцы пакрыўся іржаўчынай, сцёрся, і я мог толькі разабраць:

„... Рубан Антон..."

і ў канцы:

„... тысяча дзевяцьсот трыццатым годзе..."

Я пацёр жалеза рукою, але прачытаць больш нічога не ўдалося. Хутка я пачуў крокі і павярнуўся: да мяне ішоў вартаўнік калгаснага саду. У руках ён трымаў вялікі паласаты кавун.

— Хадзі, унучак, пакаштуй дзедавага гасцінца.

Я спачатку думаў адмовіцца, але не хацеў крыўдзіць старога і падышоў да яго, каб паспрабаваць кавуна.

— У мяне на агародзе шмат іх, кожны год саджу. Сам люблю і людзей частую,—разразаючы кавун, гаварыў ён.—Бывала, сяджу сабе каля градак, а сусед ідзе і кажа: „Дай, дзед Даніла, кавуна пакаштаваць". Заходзь, кажу, каштуй. Вось яно як. Табе таксама не шкада даць.

Мне не аставалася больш нічога, як есці даспелы, чырвоны, як ягада, кавун і дзякаваць добраму дзеду.

А дзед у гэты час пытаўся ў мяне, з якой я вёскі, чый, за каго вучуся, колькі гадоў маю. Я ахвотна адказваў. Гэтак мы і пазнаёміліся.

— Дзедка,—праказаў я.

— Што?

— Скажыце, чыя гэта магіла?

Стары ўздыхнуў.

— Тут ляжыць мой сын... мой Антон...

— Ваш сын?

Дзед прыжмурыўшыся, глядзеў перад сабою, мусіць, нешта ўспамінаў.

— Ад чаго ён памёр?

— Яго забілі...

Апошнія словы дзеда здзівілі мяне.

— Цяжка, унучак, гаварыць мне пра Антона, цяжка ўспамінаць беднаму бацьку пра смерць адзінага свайго сына. Сем год стаіць гэты жалезны слуп. А было, здаецца, нядаўна. І не хацелася верыць, што Антона больш не будзе: не хварэў ён, у бальніцы не ляжаў, а раптоўна... Эх, ды, што казаць? Працу сын любіў,

без яе жыць не мог. За ўвесь дзень, бывала, прыдзе толькі на вячэру, ды і то спяшаецца. Дзень цэлы на полі праводзіў—з маладымі калгаснікамі новае жыццё будаваў. „Ці справіцеся, сынку?—гаварыў я часам.—Ворагаў у вас шмат“. „Нічога, бацька. Ваўкоў баяцца—у лес не хадзіць,—кажа ён мне і вясёлы такі—вось, як зараз, помню—хутка вылазіць з-за стала, паглядзіцца ў люстра, пояс падцягне, папраўіць кашулю. „Справімся, кажа, нашае возьме. А пра ворагаў, гэта ты правільна—шмат іх у нас. Страшаць, бацька. Але не, не на баязлівага наскочылі“.

А я яму і адказваю: „Засцерагайся, сынку. Кулакі злейшыя за звера сталі. Па загуменнямі ходзяць, з людзьмі не хочуць сустракацца—затойваюць нешта.

Здарылася ўсё гэта ў адну цёмную асеннюю ноч. У школе сабралася многа народу. У вёску прывезлі кіно. Было свята—дзень Кастрычніцкай рэволюцыі. Днём мы хадзілі па вуліцы з чырвонымі сцягамі, каля трыбуны слухалі прамоўцаў, а ўвечары сышліся ў школу. Прышлі настаўнікі і Антон з‘явіўся. Вось аб‘яўляюць нам, што будзе спачатку сход, а пасля пусцяць кіно. На сцэну стол паставілі, чырвонай скацеркай заслалі яго. А за стол сеў Антон. І яшчэ туды выбралі сакратара—настаўніцу маладую, прыгожую такую, устаў Антон з-за стала, пагладзіў валасы рукою і пачаў гаварыць. Ён расказваў аб тым, як большэвікі, значыць, рэволюцыю рабілі, як стварылі ўладу советскую і пра калгасы гаварыў. Я тады проста не мог налюбавацца сынам. Такім разумным ды разважлівым ён зрабіўся і так многа стаў ведаць. Харошы, думаю, у мяне сын.

А на двару вецер аж дах зрывае—раве, свішча. Пад акном школы бярозы раслі, дык голыя галінкі па шыбах стукаюць, быццам дзяруцца нехта ў акно. А Антон гаворыць. Ён ужо пра свой калгас распачаў гутарку, пра тое, што багацеі, якіх яшчэ не раскулачылі, поўна шкоды прыносяць калектыву. Маладая настаўніца ўвесь час пісала—пратакол, значыць, вяла. Усё ішло сваім парадкам. І вось тут, унучак, здарылася тое нечаканае і страшнае. Дзверы каля самай сцэны раптам з трэскам ва ўсю шырыню расчыніліся, і адтуль як паляціць нейкае палена. Лямпа ўпала і патухла. Зрабілася цёмна, шум пачаўся вялікі. А на сцэне раптам страляць пачалі, аж агні, як маланкі, бліскалі. Усе кінуліся да вокан, крык падняўся. „Ох, унучак, такі перапалох пайшоў, што было, мусіць, страшней, чым той канец свету. Кругом трашчала ўсё, і шыбы ў вокнах звінелі. Я да поўсмерці напалохаўся і доўга не мог вылезці з-за скамейкі. Калі-ж сяк-так выкарабкаўся, то мяне таўханулі, што я не стрымаўся на нагах і ўпаў. Па мне людзі бягуць, падняцца нельга, і крык нічога не дапамагае. Ну, думаю, прапаў—дзе мне старому вытрымаць? Ляжаць так, унучак, усё-такі не хацелася. Вось я ўчапіўся неяк за сцяну рукамі, на ногі ўстаў і разам з усімі на двор выскачыў.

А на двару цямната, хоць вока выкалі. Я прытуліўся да плоту і стаю: ногі не нясуць далей, стаміўся, толькі дыхаю на ўсе грудзі. Вецер халодны дзьме—ну, я крыху апамятаўся. Людзі ўсё бягуць, бабы галосяць: „Што, што такое робіцца?—крычу я і, як п‘яны,

бягу ўслед за ўсімі. Гразь, вада. Ніхто нічога перад сабою не бачыць. А тут яшчэ „пажар“ пачалі крычаць. Спыніўся, бачу—сапраўды з-за хат полымя вялікае і іскры ляцяць у неба. „На калгасным двары, так і ёсць“,—падумаў я.

Бягу, пад сабой ног не чуючы. Прыбег, гляджу—канюшня калгасная гарыць. Людзі бегаюць, бочкі грымяць.

... А канюшня, унучак, уся згарэла, і коней многа загінула. Мне чамусьці доўга стаяў у вачах калгасны жарабок. „Шэрым“ зваўся. Ён разбіў вароты і з дыму на двор выскачыў. Грыва, як у казцы, па ветру развейваецца, ноздры раздутыя, вялікія. Заіржаў моцна ды зноў у канюшню, у агонь. Так і згарэў. І яшчэ запомніў, як вецер кідаў цэлыя агнявыя хмары іскраў у чорнае неба і як запылала суседняя хата.

Потым прыляцеў на кані старшыня сельсовета (ён ездзіў той вечар у мястэчка). Рыгор, сусед мой, схапіў за повад старшынёвага каня і крычыць нешта. Рукі ў Рыгора дрыжаць, сам напалоханы, белы, як мярцвяк. Я пачуў, што пра школу гавораць і да іх кінуўся. „Рыгор,—крычу суседу,—што там такое? Хто страляў?“ А ён мне:„ Не ведаю. Табе, дзед Даніла, дамоў ісці трэба.“

Старшыня рвануў каня і паляцеў па вуліцы, у той бок, дзе школа была. З ім Рыгор пабег. Я ўслед. Спатыкаюся, у гразь падаю. Цяжка мне бегчы. А думка трывожная не выходзіць з галавы: „Хаця б чаго з Антонам не здарылася: штосьці не чутна яго...“

Так да школы дабег. Гляджу—у вокнах ужо відно, людзі бегаюць. Я на ганак, у калідор ускочыў. А насустрач мне старшыня. Як я спалохаўся, унучак, калі зірнуў на яго твар!

Ён плакаў і буйныя слёзы цяклі па яго шчаках. Я ад страху і здзіўлення, мабыць, крыкнуў, бо старшыня падскочыў да мяне і схапіў за руку. „Няможна хадзіць туды... Хадзем дамоў...“—ён гаварыў і задыхаўся. З гэтага я толькі зразумеў, што здарылася нешта страшнае.

Далей добра не памятаю, што было са мною. Казалі, я вырываўся і хацеў бегчы ў памяшканне, дзе быў сход. Мяне трымалі. І тады стомлены я ўпаў і ўсё крычаў: „Што з ім? Скажыце, што з ім?..“

Апамятаўся я ўжо дома. Бачу—ляжу на ложку. Каля мяне сядзіць Пятро—комсамолец наш. Мне тады здалося, што ён плача. Я схапіў яго за рукі. „Пецька, прашу,—скажы праўду, не мані што здарылася? Чаго ты плачаш? Дзе мой Антон? Скажы...“ Ён і адказвае: „Не хвалюйся, дзед. Нічога не здарылася такога, ну... асаблівага. Вось з Антонам дрэнна: ранілі яго. Але рана невялікая. Ужо ў мястэчка павезлі яго. Вы сабе нічога не думайце, адпачывайце. А пра тое, што я плачу, дык гэта вам здалося“. Я паверыў Пятру і крыху супакоіўся, але трывожныя думкі адна страшнейшая за другую праз усю ноч лезлі мне ў галаву.

Хутка развіднела.

Пятро сказаў мне не ўставаць і пайшоў з хаты. Тады я паспрабаваў хадзіць. У мяне балела ўсё, у галаве, як у млыне, шумела. Цяжка было рухацца. Сеў я каля акна і гляджу на двор. Вецер

крыху сціх, і дожджык пачаў крапаць. Так і прасядзеў гадзіны са тры.

Далей бачу—нешта людзі каля маёй хаты збіраюцца. Я хацеў на двор ісці, да дзвярэй ужо дабраўся, а тут Пятро раптам убег.

„Дзед Даніла, кажа,—сядзьце, не палохайцеся. Зараз... Я вам уночы няпраўду сказаў... Не трэба крычаць... Антона вашага забілі..."—і слёзы ў самога: кап, кап, кап. Мяне гэта, як нажом па сэрцу. Я быццам адзервянеў, павярухнуцца не магу, хачу крыкнуць—голасу няма. І тут, унучак, у маю хату прынеслі сына. Ногі пада мной падагнуліся. Я нема крыкнуў і паваліўся. Навек мне запомніцца гэты момант. Ох, унучак, якое мне гора было. Не мог я вытрываць—злёг.

Пахавалі сына назаўтра. Я нічога не бачыў: у гарачцы ляжаў. Цэлы месяц не ўставаў з пасцелі. Толькі як ачуняў, прыходзіў на магілу, вось сюды. Тут ужо стаяў гэты жалезны слуп і надпіс быў. Я падаў на магілу і доўга-доўга не ўставаў.

У тую ноч загінулі яшчэ двое: трактарыст Сцёпка і маладая настаўніца, тая, што пратакол пісала.

А далей, унучак, было вось што: прыязджаў доктар следчы. Сякеру паказвалі ўсім людзям, знайшлі яе ля школы. Нехта даведаў, што гэта сякера Рыжага Кандрата. Яго забралі. Справа цягнулася доўга.

Кандрат усё такі прызнаўся, што сякера яго і што ён удзельнічаў у гэтым бандыцкім налёце на калгасны сход. І яшчэ ён выказаў, што з ім быў яго сябра—кулак Сідар, якога выслалі ў Котлас, але ён уцёк адтуль і хаваўся па лясах. А кіраваў усім белагвардзейскі афіцэр—стары Сідараў знаёмы. Сідара злавілі, афіцэр уцёк. Яго след міліцыя знайшла толькі праз год у другім раёне.

Вось як, унучак, было гэта. Перадумаю я гэта ўсё, а потым стану на ўзгорку і любуюся на поле калгаснае, на сад, на ўсё навакольнае. Гляджу, а слёзы так і коцяцца з воч. „—Эх, Антоне, Антоне,—кажу я тады.—Устань, сын. Палюбуйся на нашае жыццё. Паглядзі—вунь камбайн плыве, аўтобусы ходзяць па дарогах. Твае сябры-калгаснікі працуюць—сумленна вядуць справу, правільную і добрую, за якую загінуў ты. Ох, толькі не ўстанеш. Не падзеліш з намі нашага шчасця. Не прышлося табе пажыць у нашыя светлыя дні. Рана, Антоне, рана сынку..."

Дзед скончыў апавядаць, але не зварухнуўся. Ён глядзеў добрымі вачыма туды, дзе па жоўтаму моры спелай пшаніцы ішоў камбайн, гул якога мы выразна чулі, дзе калгаснікі дружна адвозілі зярно і салому. Па яго маршчыністым твары цяклі мутнаватыя слязінкі. Цяклі па вусах, жаўтаватых ад махорачнага дыму, па сівых валасках доўгай тоненькай барады.

— А табе, унучак, дзякую за тое, што зайшоў к дзеду пагутарыць. Ты малады—тваё жыццё наперадзе. Вучыся, чытай кнігі. Будзь добрым нашым чалавекам. Калі-ж яшчэ раз сюдою ісці будзеш—мяне, старога Данілу, наведай. Ву-унь мая хата стаіць, другая ад калодзежа.

Я таксама па дзякаваў дзеду заапавяданне пра сына, за кавун, за дабрату, абяцаў зайсці да яго яшчэ раз.

А праз некалькі хвілін я вышаў з могілак і пакрочыў сваёю дарогаю, ступаючы босымі нагамі ў гарачы пясок. Было па-ранейшаму душна, хаця на небе сям-там з'явіліся хмары, белыя і пушыстыя, як кавалачкі ваты.

Я яшчэ раз спыніўся і азірнуўся назад.

Дзед Даніла павольна ішоў у сад, да свайго шалаша.

---

*Алесь Жаўрук, Андрэй Ушакоў*

## ПРА СЛАЎНЫХ ПАПАНІНЦАЎ НАШАГА ДЗЕТСАДА

*(Паэма для дзяцей)*

— А чаму сягоння хмары
Над Масквою не імжаць,
І чаму гэта штандары
На ўсіх вуліцах вісяць,
Серабрыстыя фанфары
Гэтак радасна гучаць?

А на вуліцы Садовай
Вечна строгі і суровы
Дзядзя міліцыянер
Усміхаецца цяпер?

Папытайце ў любога
У старога,
У малога—
Будзьце пэўны, ў той-жа час
Атрымаеце адказ.

Вам адкажа на пытанне
Нават Вася—брацік Танін,
Самы лепшы з малышоў,
Што прыехалі:
Папанін,
Крэнкель,
Фёдараў,
Шыршоў.
І пагэтаму—ні хмары,
І пагэтаму—штандары!
... Мы таксама на вакзале
Усім дзетсадам іх спаткалі;
Толькі шмат было народу,
Мы-ж стаялі ў баку
І разгледзілі мы ў далі
І адразу угадалі
Толькі крэнкелеву шапку
Ды Папаніна руку.

Гэта нам яна махала—
Цёця Валя так сказала,
І не ведаю, чаму
Шофер кажа, што яму.

А пасля на мяккіх шынах
За машынаю машына
Па расквечанай зямлі,
Быццам крыгі, паплылі.

Ў дзве сцяны жывыя сталі
Масквічы каля дамоў,
І герояў прывіталі,
І хусцінкамі махалі
І „ура!" крычалі зноў.

Моцна-моцна бацька Сталін
У Крэмлі абняў сыноў.

---

Пасля стрэчы адвячоркам
Толькі ў нас было размоў,
Што пра слаўную чацвёрку,
Пра жыццё сярод ільдоў.

Мы ўначы герояў снілі,
Нават плавалі мы з імі,
І ў дзетсадзе раніцой
Кожны
Сон расказваў свой.

А ў апошнюю адлігу
Гэтай слаўнае зімы
У папанінскую крыгу
Усім дваром гулялі мы.

Лёша быў Іван Папанін,
Таня—Крэнкель,
Я—Ширшоў,
А за Фёдарава—
Таніն
Меншы брат у нас сышоў.

Толькі „Жук"—шчанюк Міколы
Усё здзіўляўся ад таго
Што не „Жукам", а „Вясёлым"
Называлі ўсе яго.

Па двару, нібы па полю,
Шмат блукалі мы тады.
Мы шукалі,—дзе тут полюс,
Прызямліцца нам куды?

Толькі бачым вось—драбіны,
Дрэвы, дошкі. Лёша горд:
— Чым не льдзіна?
— Праўда, льдзіна?
— Як-жа, льдзіна—першы сорт!

Мы ўзыйшлі.
І першым чынам
Я чырвоны гальштук свой,
Як славуты сцяг айчыны
Горда ўзняў над крыгай той.

Снежнай цэглы накаталі
Сорак штук—
за комам ком.
Спрытна склалі,
Падраўнялі—
Збудавалі снежны дом.

Тут сказаў нам хлопчык Федзя:
— Што-ж за полюс без мядзведзя?!—
Шубу белую ў бабкі
Зараз я вазьму пайду.
А тады, як зарыкаю—
Усіх на смерць перапужаю,
За мядзведзя, кажа Федзя,
Першасортнага сайду".

Першай Таня тэлеграму
Пачала перадаваць:
„Можна мне, таварыш мама,
Йшчэ з гадзінку пагуляць?"

Шле адказ у фортку мама:
„Папа згодзен. Я таксама".

Праз хвіліну хлопчык Федзя
Усім падобны да мядзведзя
У шубе, белай, быццам снег
З дому ў лагер наш прыбег.

Ад дзяўчынкі хворай Тамы
Нам прывёз вітанне ён...
Толькі бачым мы—
ад брамы
Дворнік наш бяжыць, Сымон.

Натапырыў злосна вусы,
Сцяў сурова кулакі:
— Ну-ж да вас я дабяруся,
Непаседы блазнюкі!

Гэта што тут за навіны?
Вы, ці я тут гаспадар?!—
Параскідалі драбіны,
Начапілі, бач, штандар!

Гэй, каціцеся хутчэй,
Прэч,—кажу з маіх вачэй!
Напалохаліся дзеці,
Страх вялікі ўзяў дзяцей!

Толькі Лёша непакорны
Стаў журыць таварышоў:
— Не палохаліся штормаў,
Ні Папанін, ні Ширшоў.

Нам таксама не да твару
Перад штормам адступаць.
Нам патрэбна толькі пару
Цёплых слоў яму сказаць.

— Нам каціцца не гадзіцца,—
Растлумачыў дзеду ён:
— Як-жа можна нам каціцца?—
Мы-ж—папанінцы, Сымон!

Ты-ж падумай толькі сам:
Ці да твару гэта нам!

— А! Дык вось у чым тут справа!
Падхапіўся дзед рухава:
— Хто-ж Папанін тут у вас?—
Лёша кажа: я як раз.

Я і ёсць Іван Папанін,
Таня—Крэнкель,
Ён—Ширшоў,
А за Фёдарава—
Танін
Брацік Вася ў нас сышоў.

Ну, а гэта-ж не драбіны,
А дрэйфуючая льдзіна.
Можаш сам-жа паглядзець:
Вось вятрак,
А вунь—мядзведзь.

— Я-ж не знаў, кажу вам зноў я,—
Усміхаецца Сымон.
— Ну, дрэйфуйце на здароўе,
Я не супраць,—кажа ён.

Дворнік люльку закурыў,
Быццам комін задыміў,
Акіянскім ледаколам
Да варот назад паплыў.

Лёша-ж стаў на нас крычаць:
— Хто-ж хацеў тут уцякаць?!
Нам загадана не дрэйфіць,
Нам-жа трэба дрэйфаваць.

Крэнкель, што чутно з зямлі?
У Маскву прывет пашлі,
Ды спытайся, ці не едуць
К нам насустрач караблі...

... У гэты момант мы пачулі
Стогалосае „ура!"
У гэты момант распахнулі
Браму нашага двара.

Юры,
Толі,
Вовы,
Пеці—
Жакта нашага ўсё дзеці.
За сабой яны вялі
На аборках караблі.
Першым „Мурманец" з „Таймырам",
Потым „Мурман" плыў услед.
Ад радзімы камандзіры
Перадалі нам прывет.

І ў наступную хвіліну
Усе уз'ехалі на льдзіну,
А здалёку даў нам знак
Шапкай Юрынай „Ермак".

Ехаў Шмідт на ім сюды,
Толькі вельмі малады,
Бо спяшаўся дужа Юра—
Не прыладзіў барады.

Юра крыкнуў:
— Вас, героі,
Гэтай слаўнаю парою
Я вітаю! Вам не страшны
Ні Сымон і ні мароз!
А цяпер паведамляюць,
Што вячэраць нас чакаюць—
Трэба курс трымаць дадому—
Я загад такі прывёз.

Тут мы селі ўсе на санкі
Без разбору хто куды,
І ад нашай ад стаянкі
Мы адчалілі тады.

Зарыпеў па снегу полаз,—
Паімчалі караблі...
— Ну, бывай, паўночны полюс!
— Не сумуй, вясёлы полюс,
— Наш маршрут, старэча полюс,
Да вялікае зямлі!

Дваццаць пап
І дваццаць мам
Нас даўно чакаюць там.
У дзіцячы сад спазніцца
Немагчыма заўтра нам.

А на крызе нашай слаўнай,
Дзе гасцілі мы нядаўна
І не ведалі бяды—
У касматай шубе
Федзю
Замест белага мядзведзя
Мы пакінулі тады;

— Павартуй наш домік крышку,
Будзь свядомы ты мядзведзь!

Толькі хутка бачым:
Мішку
Надакучыла сядзець.
У самотным гэтым доме
На заснежанай саломе—
Вылез Мішка цераз комін,
З крыгі скочыў ён у снег
І махаючы рукамі,
Наўздагон за караблямі,
За вясёлымі санямі,
Быццам заяц той, пабег...

* * *

І на гэтым слове, дзеці,
Свой расказ нам скончыў Пеця
Пра вясёлую гульню,
Што гулялі ўпяршыню.

А пасля ад цёці Валі
Мы пачулі, што сябры
У папанінцаў гулялі
Кожны вечар в той пары;

Што—Сымона „Штормам“ звала
Уся дзятва у тыя дні;
Толькі бабка не давала
Федзю шубы для гульні.

„Шторм“ над Федзяй рагатаў;
— Дзе-ж ты скуру прамаргаў?!
Нават „Жук“ і той мядзведзю
Больш праходу не даваў.

А нядаўна у дзетсад,
Што пры фабрыцы „Дукат“,
Кто-б, вы думалі, прыходзіў
Да маскоўскіх акцябрат?—

Адгадайце, дзеці, самі
Як тых зваць таварышоў...
Ну, вядома, што:
Папанін,
Крэнкель,
Фёдараў,
Ширшоў.

Іх спаткалі урачыста;
І папанінцы тады
Расказалі ўсё дачыста
Пра арктычныя ільды;

Пра палярныя таросы,
Пра сіберныя марозы,
Пра сваё жыццё-быццё,
Пра навукі развіццё.

І адразу
Стала ўсім
Зразумела—
што пры чым.
А пасля яшчэ пытанні
Задавалі вусна ім.

Першай Таня папытала:
— Ну, а крыга, што, растала,
І зрабілася вада—
Дома снежнага шкада!

— Не,—сказаў Папанін Тані,—
Ў гэты домік на растанні
Мы ўсялілі мядзвежат—
Там цяпер мядзвежы сад.

І тады спытаўся Федзя:
— А прывезлі вы мядзведзя?
І спытаўся Толя:
— Там
Вы не плакалі без мам?
І да гэтага пытання
Дадала пытанне Таня:
— І наогул, ці не страшна?—
Ўсё-ткі—поўнач, снег, ільды!
Тут не вытрымала Ліна:
— А падтрымка ўсёй краіны?—
Папа кажа, гэты фактар
Быў рашаючым заўжды.
Толькі „фактар", што за слова
Я не ведаю талкова.

Так праходзіла сардэчна
Таварыская сустрэча,
Толькі раптам: тук-тук, тук!—
У пакой данёсся стук.

І, густой марознай парай
Апавіты, быццам хмарай,
У пакой заходзіць госць—
Ўвесь у інеі, як ёсць:

Шуба, шапка і валёнкі
І пушыстыя вязёнкі—
Ўсё сузор'ямі мігціць.
Ўсё на сонейку гарыць.

Як павернецца кругом
Чалавек перад акном—
Барада у чалавека
Адлівае серабром.

Дзеці разам:
— Дзед-мароз,
Што-ж ты ёлкі не прынёс?!—
Чалавек аж узлаваўся:
— А які я Дзед-Мароз?!

Трэба ўсё спаткаць цвяроза,
Падыход крытычны мець,
Трэба Шмідта ад Мароза
Вам адрозніваць умець.

— Што такое?
— Што такое?—
Закрычалі у пакоі,—
— Што ён кажа?
— Не, браткі,
Мы нядаўна малявалі—
Папытайце ў цёці Валі—
Шмідт зусім і не такі.

І тады з гурбы да дзядзі
Смела робяць пяць шагоў
Самы спрытны у дзетсадзе
Хлопчык Юра Казакоў.

— Хоць дашкольнага мы ўзроста,—
Кажа Юра Казакоў,—
Ды правесці нас не проста!—
Кажа Юра Казакоў.

— Вы з усмешкай не глядзіце,
А на справе давядзіце!
Госць смяецца:
— Давяду.—
На, патрогай бараду!

Юра кажа:
— Гэта можна!—
Ручку цягне ён тады
І спрабуе асцярожна
Левы кончык барады.

Барада-ж ужо адтала,
Барада тым часам стала
Не сівой
І не рудой—
Проста чорнай барадой.

— Што за дзіўнае здарэнне?!
Шэпча Юра у здзіўленні
І крычыць сябрам тады:
— Дзеці! Так, няма сумнення,—
Шмідт стопроцантны. Сюды!

— Гэй, зважай, дзіцячы сад
Слаўнай фабрыкі „Дукат“,—
Стройся ў шэрагі па пары—
Пачынаецца парад.

Раз—два—тры—
У ногу! Ну-ж,
Мой атрад, наперад руш!
Цёця Валя,
На раялі
Нам хутчэй іграйце туш!

І перад гасцямі
Маршам
Ён вядзе увесь дзетсад,—
Сам наперадзе, як маршал
Усіх дукацкіх акцябрат.

І ляціць
у славу Шмідта
І чацвёркі знамянітай
Акцябрацкае „ура“
Аж да сёмага двара.

Мы таксама, хоць і дзядзі,
У тым былі дзіцячым садзе,
І пра ўсё, што чулі там
Напісалі кніжку вам.

*Шолам-Алейхем*

# ЗАПІСКІ КОМІВАЯЖОРА

*Апавяданні ў вагоне чыгункі*

## ДА ЧЫТАЧОЎ

Я—падарожнік. Бадай адзінаццаць месяцаў у годзе знаходжуся ў дарозе. Галоўным чынам—у цягніку, у большасці—у вагоне трэцяга класа. Вандрую па яўрэйскіх гарадах і мястэчках; бо там, дзе яўрэям забаронена жыць, мне няма чаго рабіць.

Чаго-чаго не нагледзішся ў падарожжы. Шкада, што я не пісьменнік. Хаця, уласна кажучы, чаму-ж гэта я не пісьменнік? Ці-ж пісьменнік нейкае незвычайнае стварэнне? Кожны чалавек можа быць пісьменнікам. Падумаеш, работа! Бярэш пяро ў рукі ды пішаш.

А калі хочам зноў-жа меркаваць, наадварот, дык не кожны павінен брацца за пісаніну. Кожнаму чалавеку трэба прытрымлівацца свайго заробку. Кожны свярчок ведае свой шастох. Так я думаю. А калі чалавек вольны ад заняткаў, тады і пісьменніцтва занятак.

Мне, як падарожніку, прыходзіцца часта ў дарове сіднем сядзець цэлымі днямі, пальцам не кранеш, хоць бі галавой аб сцяну. Дык вось я натрапіў на ўдалую думку. Купіў спецыяльна чыстую кнігу, аловак, і ўсенька-усё, што нагледжуся, і ўсенька-усё, што наслухаюся ў дарозе, я бяру ды ўношу, занатоўваю ў сваю кнігу. Дык вось, як бачыце, набралося ў мяне, не ўрокам кажучы, даволі шмат матэрыялу. Чыткі хопіць мо' на год з коптарам. Я памазгаваў туды і сюды: што з гэтым рабіць? Выкінуць?—Грэх перад богам і сорам перад людзьмі. Чаму-ж гэта не выпусціць паасобнай кнігай, або надрукаваць у газеце? Каб я гэтулькі шчаслівых год меў, колькі друкуюць кулы горшых твораў.

І я прыняўся за раскладку тавара на сарты, „брак" вышвыргнуў к чорту, пакінуў толькі самае найлепшае, прыма над прымай, падзяліў на паасобныя гісторыі, гісторыя нумар першы, гісторыя нумар другі, і гэтак далей. Кожнай гісторыі я даў іншую назву, любата, як належыць—па-купецку. Не ручаюся, ці зараблю на гэтай справе, ці карак скручу. Дай бог, каб хаця з асноўным капіталам чысцютка выкарабкацца...

Дык запытаемся: на якое ліха мне ўвесь гэты тарарам?— Сам адказаць не магу. Хто яго ведае. Можа быць, што гэта з майго боку недарэчнасць, але зроблена—дык прапала! Адным толькі я сябе забяспечыў: крытыкамі. Я ўтоіў сваё гандлёвае імя. Лопнуць яны і не здагадаюцца, як мяне завуць. Няхай крытыкуюць, няхай выкпіваюць, няхай драпаюцца па гладкіх сценах—я імі цікаўлюся, як леташнім снегам. Я не пісака, не выдумшчык, не інтэлігент, не абібок—я комерцыйны чалавек.

*Коміваяжор.*

ГІСТОРЫЯ НУМАР ПЕРШЫ

### Канкурэнты

Заўсёды, у самую сумяціцу, калі людзі штурхаюцца, хто тудыхто сюды, і наладжваюць у вагоне бойкі за месцы, як, не раўнуючы, у сінагозе перад торай—якраз тады яны мазоляць вочы. Яны абодвы: „ён“ і „яна“.

Ён—чорны, тоўсты, ускалмачаны, з бяльмістым вокам. Яна—чырвоная, худая і васпаватая. Абодвы абадраныя, абшарпаныя, абодвы у латаных чаравіках і абодвы маюць адзін і той самы тавар: у яго кош, у яе кош; у яго булачкі-пляцёнкі, крутыя яйкі, бутэлькі з сельцарскай і апельсіны, і ў яе такія-ж булачкі-пляцёнкі, крутыя яйкі, бутэлькі сельцарскай і апельсіны.

Часам бывае, што ў яго кашы ёсць чарэшні, вішні, альбо зялёны вельмі кіслы вінаград. Тады і яна прыходзіць з такімі-ж чарэшнямі, і вішнямі, альбо зялёным вельмі кіслым вінаградам.

Абодвы з'яўляюцца яны заўсёды ў адзін і той самы час, разам праціскваюцца праз адны і тыя самыя дзверы вагона і абодвы гавораць адны і тыя самыя словы, але з рознымі вымаўленнямі. Ён картавіць літару „р“, гаворыць мякка, расплыўчата, нібы без языка. А яна—шапярлявіць, нібы рот замалы для языка.

Можа думаеце, што яны збіваюць адзін аднаму цэны, канкурыруюць, псуюць торг? Крый божа! Цана цаной—яна ў іх аднолькавая. Яны канкурыруюць толькі на чалавечых пачуццях: х т о з іх в ы к л і ч а б о л ь ш ж а л ю д а с я б е. Абодвы моляць вас, абодвы просяць вас, каб вы зміласаваліся над іхнімі пяццю сірацінкамі (у яго пяток асірацелых дзетак, у яе пяток асірацелых дзетак). Абодвы зазіраюць вам у самыя вочы, тыцкаюць вам тавар у самы нос і да таго над вамі настойліва гавораць і ўгаварваюць, ажна вы—хоцькі, не хоцькі—а што кальвечы ды купіце.

Але бяда ў тым, што ад іхняй гаворкі з галашэннем, з упрошваннем вы крыху збянтэжаны. Не ведаеце, у каго купляць: у яго, ці ў яе. Вы знаходзіце ўдалы выхад са становішча і хочаце даць утаргаваць абодвым. Дык дзе там:

— Калі купляеце, пане ягамосце, дык трэба толькі ў аднаго. У адзін час на двух вяселлях не танцуюць!

Вы стараецеся быць сумленным, ды купляеце адзін раз у яго, другі раз у яе. Тады вас бяруць на цыгундар з абодвух бакоў:

— Дзядзенька! Чаму-ж гэта вам сёння не да спадобы мой нос?

Альбо так:

— Дзядзенька! Толькі на тым тыдні вы ў мяне куплялі і, здаецца, не атруціліся і не падавіліся...

Вы пускаецеся ў „моралы“ і пачынаеце казанне пра тое, што і ў бліжняга ёсць душа і яму таксама трэба жыць, як той немец кажа: „Лебен унд лебен ласен“—самаму жыць і другому даць жыць. Дык вам на гэта адказваюць не па-нямецку, а на простай мове, праўда, з маленькім намёкам, але даволі празрыстым:

— Дзядзенька! Адной сядзібай на двух кірмашах не сядзяць!..

Так яно заўсёды, міль: прыяцель! Не думайце сядзець між двух крэслаў—гэта вам не ўдасца, і не прабуйце стаць міратворцам—гэта вам вылезе бокам. Я ведаю гэта са сваёй уласнай практыкі. Я расказаў-бы вам пра гэта вельмі цікавае здарэнне, як я калісьці быў дурнем і няпрошаны ўлез паміж мужам і жонкай. Я хацеў наладзіць паміж імі згоду-лагоду, а скончылася—тры дзіркі ў носе: мне папалася і на перац і на соль ад сваёй уласнай жонкі. Але баюся ўкліньваць адну гісторыю ў другую, каб не збочыць і не стукнуць аглоблямі ў плот. Праўда, у гандлёвых справах часам здараецца, што прапануеш пакупцу тавар, а зюзюкаеш з ім пра дзівы дзіўныя; камар з дуба зваліўся... Словам, вяртаемся да нашай гісторыі.

Аднаго разу, увосені, у дажджлівы дзень, неба было заплаканае, зямля—змрочная пустэча, а станцыя—біткам набіта народам. Пасажыры ўваходзяць, пасажыры выходзяць. Беганіна, штурханіна. А яўрэі, як заўсёды, бегаюць і штурхаюцца больш за іншых.

Пускаюцца ў перагонкі, лезуць адзін праз аднаго, з чамаданамі, кашулкамі, пакункамі, падушкамі. Лямант, галас, гвалт. А ў самай гушчы „ён“ і „яна“. Абодвы нагружаны таварам, як заўсёды. Абодвы штурхаюцца ў адны і тыя самыя дзверы, як заўсёды. Раптам... у чым справа? Абодвы кашы кульгікаюцца на зямлю. І булачкі і яйкі і бутэлькі з сельцарскай і апельсіны валяюцца ў гразі. Мешаніна крыкаў, візгатаў, праклёнаў і плачу зліваецца ў адно з рогатам кандуктароў і галасам і шумам пасажыраў.

Званок і свісток. Яшчэ хвіліна—і мы едзем.

У вагоне перагіркванне. Нашы родныя сыны Ізраіля вядуць гутаркі, праветрываюць языкі. І якраз усе разам, як жанчыны ў сінагозе, альбо як тыя гусі на рынку. Нельга ўцяміць сэнс, улавіць змест. Хіба толькі паасобныя сказы.

— Ураджай на пшанічныя пляцёначкі.

— Пагром на яйкі.

— Што ён меў да апельсінаў?

— Чаго пытаецеся?—Гад!

— Наколькі-ж нашкодзілі?

— Яны шчыра зарабілі! Няхай не лезуць, няхай не ўгрызаюцца ў самыя косці!

— А што-ж ім, бедным, рабіць? Яўрэй заработкаў шукае.

— Ха-ха-ха!—адказвае нейчы густы бас.—Яўрэйскія заработкі!

— Яўрэйскія заработкі?—пачуўся пісклявы малады галасок.— У вас ёсць больш прыстойныя заработкі? Давайце іх сюды!

— Маладый чалавек! Не да вас кажуць „дзень добры“!—грыміць басавы голас.

— Не да мяне гаворыце? Але я да вас гавару—у вас больш прыстойныя заработкі? Што, змоўклі? Чаму не адказваеце?

— Чаго прычапіўся да мяне гэты малады чалавек?

— Чаго я прычапіўся? Вы кажаце: яўрэйскія заработкі—дык я кажу: вельмі добра! У вас больш прыстойныя? Давайце іх сюды!

— Як вам падабаецца такая прычэпа?!.

— Ша! Няхай будзе ціха, вось яна сама тут.

— Хто?

— Яна сама. Цётка з закускамі.

— Дзе яна, красуня-прыгажуня, дзе?

— Вось яна, во!

Васпаватая, чырвоная, з забраклымі ад плачу вачыма, яна праціскваецца з пустым кашом між натоўпу, шукае месца, дзе сесці, садзіцца на падлозе на перавернутым кашы, тульгае забраклыя вочы ў дзіравую хусціну і ціха ўсхліпвае.

У вагоне раптам запанавала дзіўная цішыня. Спынілася гамонка. Усе як-бы анямелі. Раптам адзін ускопліваецца з месца і звяртаецца да ўсіх густым басавым голасам:

— Людзі! Нельга маўчаць!

— Чаго-ж нам крычаць?

— Трэба ёй дапамагчы.

Дзіўная справа! А ведаеце, хто гэты „адзін“. Якраз той самы, які толькі што смяяўся: „ха ха-ха, яўрэйскія заработкі!“ Дзівацкі нейкі чалавек з дзівацкай нейкай шапкай на галаве. Нешта накшталт кепачкі з роўным бліскучым брылікам. Да таго ён яшчэ носіць такія сінія акуляры, што і вачэй не відаць. Няма вачэй, затое нос у яго мясісты, бульбяны.

Не доўга думаючы, ён зрывае шапку з галавы, першы кідае туды пару саракоўак, і ходзіць ад аднаго да другога і грыміць басавым голасам:

— Сыпце, родныя, хто колькі можа. Як бог каму на душу паложыць: хто больш, хто менш, бо яшчэ цар Саламон сказаў: „Дараванаму каню ў зубы не глядзяць“.

Народ узяўся за свае кішэні. Усе даставалі кашалькі. Пачалі дзынкаць манеты, рознастайныя манеты, сярэбраныя і медныя. Сярод пасажыраў быў і адзін рускі, стараабрадзец у халявых ботах, з сярэбраным ланцугом на шыі. Ён пазяхаў, перахрысціўся ды таксама кінуў у шапку дробязь. Адмовіўся толькі адзін пасажыр. Нічога даць не хацеў. А якраз той самы, што абараняў гонар „яўрэйскіх заработкаў“. Інтэлігентны малады чалавек з пухлымі шчокамі і рыжай завостранай бародкай і з залатым пэнснэ. Адзін з той „залатой моладзі“, у якіх бацька і матка багатыя, цесць і цёшча багатыя, маюць багатых бацькоў, ды ў іх саміх кішэні бітком набіты золатам, а едуць яны ў трэцім класе, бо,-скваліжнікі, грошы шкадуюць.

— Малады чалавек, кіньце што-небудзь у шапку!—звяртаецца да яго чалавек у сініх акулярах, з бульбяным носам.

— Я не даю,—кажа малады чалавек інтэлігентнага выгляду.
— Чаму?
— Так. У мяне такі прынцып.
— Я пра гэта і раней здагадваўся.
— Адкуль?
— Відаць па ахапку—якая храпка. Альбо, як кажа цар Саламон: „Відаць пана па халяве"...

Малады чалавек інтэлігентнага фасона ўскіпеў, успеніўся да таго, аж пэнснэ згубіў і накінуўся на бульбяны нос з візгатам:

— Вы ігнарант, хам, прасцюга, нахабны чалавек. А к таму-ж яшчэ дзёрзкі!

— Дзякаваць богу! Абы толькі не скацінка з чыстымі капытцамі і брудным лычам.

Так яму адказвае, не трацячы добрага гумару, бульбяны нос з басавым голасам і падыходзіць да плачучай жанчыны з набраклымі вачыма.

— Ці не годзе плакаць, цётухна. Вы дарэмна псуеце свае чароўныя вочкі. Падстаўляйце сюды абедзве жменькі, мая мілая цнотка, і я насыплю вам срэбра-злотка.

Дзіўная кабеціна! Я думаў, што як толькі яна пабачыць гэтулькі грошы, дык расплывецца і разальецца ў падзякаваннях ды віншаваннях. Дзе там! Замест падзякаванняў з яе вусначкаў пасыпаліся страшныя слоўцы. Пырснуў каляровы фантан нечуваных праклёнаў:

— А ўсё ён вінататы—каб ён галаву і карак зламаў, каб ён выкруціў ногі на роўнай дарозе, божанька мілы! Усялякае ліха ён, дурны, прыносіць—каб яго зямля не насіла, бацюхна нябесны! Каб ён не дажыў дамоў прысці. Каб прышоў паморак на яго падворак, немач і халера, трасца без вагі і меры! Паляруш і хіндзя! Пагібель і дрындзя! Каб яго і скручвала і раскручвала—каб яго!

Бог Абраама, Ісаака і Якава! Адкуль у чалавека бяруцца гэтулькі кляцьбаў? На шчасце асоба ў сініх акулярах перапыняе яе ў самым цікавым месцы:

— Хопіць бласлаўляць, маладуха! Лепш кажаце, за што напалі на вас кандуктары?

Жанчына ўзнімае на яго забраклыя вочы.

— Гэта ён вінават, каб яму чатыры чвэрці да смерці! Ён баяўся, каб я не адбіла ад яго пакупцоў, і пачаў штурхацца ў вагон, дык я перабіла яму дарогу. Ён тады ўрэпіўся ззаду ў мой кош. Я ўзняла гвалт. Вось жандар і міргнуў кандуктарам. Тады кандуктары перакульгіцнулі нашыя кашы ў гразь. Каб яго косці ў пясок рассыпаліся, божанька салодкі! Паверце мне, каб я так гаварыла з кім мне міла, што з тых пор, як гандлюю гэтым таварам і езджу па гэтай лініі, ніхто мяне не зачапіў ні на волас! А думаеце чаму? Ад дабраты сэрца? Каб яму гэтулькі скул і балячак, колькі булачак, яечак я раздаю па станцыі! Кожнаму ад малога да старога, трэба заткнуць глотку. Як толькі божая раніца—адразу пачынаецца дзяльба: таму хвароба, таму трасца, таму скулле. Старэйшы кандуктар сам бярэ на снеданне, што яму да смаку. А ўсёй чортавай камандзе даю каму што: каму булачку, каму яйцо і каму

апельсін. Чаго вам яшчэ? Нават той лапцяваты, што печы топіць, халера яму ў бок, думаеце, ахвоты не мае на дармовае снеданне? Скула яму ў зубы! Ён пагражае, што калі не дам, дык данясе жандару. Ён ведае, немач яму ў косці, што жандар ужо таксама падмазаны. Жандара прыходзіцца залабуньваць у кожную нядзелю цэлай порцыяй апельсінаў. Мала таго—ён сам выбірае самыя вялікія, самыя прыгожыя, самыя лепшыя, апельсіны...

— Цётухна!—перапыняе яе чалавек у сініх акулярах.—Відаць з вашага размаху, што вы золата граблямі заграбаеце.

— Што вы гаворыце!—апраўдваецца жанчына.—Ледзь-ледзь зводзім канцы з канцамі. А часам здараецца, што і скуру з сябе здзярэш. Хоць ты з торбай хадзі!

— Дык навошта вам уся гэта музыка?

— А мне красці ісці, ці што?—Пяць сіротак у мяне, пяць халер яму ў жывот. А сама я хворая, каб ён хварэў ды качаўся з боку на бок у больніцы на падлозе, мілы божа, дзень-у-дзень хаця-б да будучага вялікадня! Ён узяў ды загубіў увесь мой гешэфт, навекі закапаў, каб я закапала яго! Гэткі гешэфт, удалы гешэфт, добры гешэфт!

— Добры гешэфт?

— Залаты гешэфт. Заработкі сыплюцца, як пшаніца з дзіравага мяшка. Як гэта кажуць, з вакон і дзвярэй.

— А вы толькі што, цётухна, гаварылі, што з торбай па свеце...

— А то што-ж! Дзе тут заробіш, калі больш палавіны раздаеш на хабар кандуктару і старшаму кандуктару і ў кожную нядзелю жандару? Што ў мяне—невычэрпная крыніца? Студня? Крадзеныя грошы!

Чалавек у сініх акулярах і з бульбяным носам пачынае траціць цярплівасць:

— Цётухна, у адзін і той самы час вы мне робіце і зіму і лета?..

— Я раблю? Бяда і гора маё робяць. Каб я яму загубу зрабіла, як ён мяне зарэзаў. Божы нож яму ў сэрца! А ён усяго-наўсяго краўчуком быў, латутнікам, іголкай кляваў, і бокам-скокам зарабляў, як гэта кажуць, ваду да крупніка. Дык яго зайздросныя бельмы, каб яны яму павылазілі, угледзелі, што я ем хлеб, каб яго чэрві елі, і гэтым кошам, не ўрокам кажучы, пяцёрку дзяцей-сіротак кармлю, соль яму ў вочы, галавешкі яму ў сэрца. Дык ён ідзе, каб з яго дух вышаў, і таксама кош купляе, каб яму саван куплялі, божа міласэрдны! Вось я ў яго пытаюся: „Што гэта?“ „Кош!“—ён кажа. „Што рабіць будзеш, кажу я, з гэтым кашом?“ „Тое самае, кажа ён, што і ты“. „Што гэта значыць?“—пытаюся я. „А гэта і значыць...—адказвае ён.—І ў мяне, кажа ён, пяцёра дзяцей, якім гамаць трэба... Не ты, кажа ён, хлебам карміць іх будзеш“... Дык што вы да яго можаце мець? І вось, як бачыце, ён цягнецца следам за мною з сваім кашом ды адбівае ад мяне ўсіх пакупцоў, каб яму ўсе зубы павыбівалі! Ён вырывае ад мяне апошні кавалачак хлеба, каб яго на кавалачкі рвалі, бацюхна нябесны, міласэрдны, літасцівы!

Тады чалавек у сініх акулярах выказаў трапную думку, якая, уласна кажучы, мільгнула ў кожнага з нас:

— Навошта вам абодвым, у такім выпадку, тупацца ў адным месцы?

Жанчына ўтаропіла ў яго свае набраклыя вочы:

— А што іншае нам рабіць?

— Знайдзіце сабе іншую станцыю. Лінія вялікая.

— Ну, а ён?

— Хто?

— Мой муж.

— Які муж?

— Мой другі муж.

— Які другі муж?

Чырвоны васпаваты твар жанчыны яшчэ больш чырванее.

— Што значыць—які другі муж? Гэта-ж ён, недарэка, мой другі муж, удавой за яго вышла, авохці мне

Усе ўскокваюць са сваіх месц:

— Ён, вось гэты ваш канкурэнт—ваш другі муж?

— А вы што думалі? Мой першы муж? Эх-эх-эх! Каб мой першы муж, мір праху яго, цяпер жыў!

Так жанчына гаворыць нараспеў і, мабыць, хоча пачаць апавяданне пра тое, кім быў яе першы муж і што ён рабіў. Але ніхто яе не слухае. Усе гутараць, усе жартуюць, усе шуткуюць і смяюцца, смяюцца, смяюцца!

Ці не ведаеце, з чаго гэта так хіхочуць?..

*Канец гісторыі нумар першы.*

1909

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ДВА

### Самы шчаслівы ў Кодні.

Ведаеце, калі найлепшы час для язды цягніком?—Увосені, пасля ўсіх свят.

І не горача і не холадна. Вы не маеце справы ні з заплаканым небам, ні з каламутнай тужлівай зямлёй. Кроплі дажджа хвошчуць у вокны. Нібы слёзы, коцяцца яны па ўспацелым шклу. А вы сабе сядзіцё, як пан, у вагоне трэцяга класа з многімі такімі дабрадзеямі, як вы, і паглядваеце час-ад-часу на ваколіцу. Вы бачыце, як недзе далёка ледзь рухаецца вазок, утапаючы ў гразі. На вазку сядзіць, скурчанае ў тры пагібелі, нейкае божае стварэнне, пакрытае мяшком і спаганяе сваю злосць на другім божым стварэнні—на бедным коніку. А вы дзякуеце богу, што знаходзіцеся пад дахам, у людской кампаніі. Не ведаю, як вы—але я вельмі люблю ездзіць цягніком увосені, пасля ўсіх свят.

Самае галоўнае для мяне—месца. Калі мне ўдалося захапіць месца, ды што й казаць, калі яшчэ з правага боку, ля вакна,—тады я цар над царамі. Дастаю портсігар, пачынаю смаліць папіросу за папіросай ды азірацца па баках, хто твае спадарожнікі і з кім можна перакінуцца парай слоў аб справах. Пасажыраў,

дзякаваць богу, паўнютка-поўна, акурат—селядцы ў бочцы. Бароды, насы, шапкі, жываты, воблікі людзей. А чалавека?—Ніводнага. Аднак-жа вунь сядзіць сабе ў кутку нейкі дзіўны падарожнік, не такі, як усе. У мяне вострае вока. Незвычайнага чалавека вывуджу сярод сотні.

На першы выгляд, значыцца, ён нават самы звычайны чалавечак. Яўрэй з тых яўрэяў, якіх мераюць гарцамі ды лічаць на копы, альбо як у нас кажуць: „адзін з многіх“. Аднак апрануты ён нейк дзіўна: капота—не капота, халат—не халат. На галаве шапка—не шапка, ярмолка—не ярмолка. У руках парасон—не парасон, венік—не венік. Дзіўнае ўбранне.

Але не ўбранне галоўнае, а сам чалавечак: яго жвавасць, яго зазіранне ва ўсе бакі, яго ёрзанне на скамейцы. А самае цікавае ў ім—яго зззяючы, вясёлы бадзёры твар з выразам асаблівага незвычайнага шчасця.

Нйайначай, як гэты чалавек альбо выйграў у латарэі, альбо ў добрую гадзіну выдаў дачку замуж, альбо сына прынялі ў гімназію. Кожную хвіліну ён ускоквае з месца, зазірае ў вакно і кажа да самога сябе: „Станцыя? Яшчэ не даехалі?“ І зноў садзіцца,—з кожным разам бліжэй да мяне, зззяючы, вясёлы, шчаслівы.

Я па сваёй натуры, ведайце раз назаўсёды, чалавек, які не любіць, як некаторыя, залязаць другому ў самае нутро, намацваць, выпытваць, хто і што і як. У мяне сваё правіла, калі чалавек што колечы мае на душы, дык сам раскрые перад вамі свае пілюсткі.

Так яно і было. Пасля другой станцыі мой жвавенькі чалавечак падсунуўся ка мне яшчэ крыху бліжэй, гэта значыць, нават зусім блізка, так што яго рот апынуўся акурат каля самага майго носа.

— Куды гэта едзем?

Але паводле яго тона, аглядвання і чухання пад шапкай, я ўцяміў, што тут справа не ідзе так аб тое, куды я еду, як яму хочацца апавядаць, куды ён едзе. Я яму ў гэтым дагадзіў, гэта значыць, я нічога яму не адказаў, на яго запытанне, ды сам запытаўся: „А вы куды?“ І пашло, як па маслу.

— Я куды? У Кодню. Чулі калі-небудзь пра Кодню. Я тамтэйшы—коднеўскі я. Адгэтуль недалёка. Трэцяя станцыя. Ясней кажучы, адгэтуль мы яшчэ маем ні больш, ні менш, як тры станцыі. А адтуль у Кодню трэба яшчэ ехаць фурманкай каля паўтары гадзіны. Ясней кажучы, толькі гутарка такая: паўтары. А сапраўды—поўныя дзве гадзіны, моцныя дзве гадзіны, яшчэ з гакам. Ды і то з умовай—калі добрая дарога і калі едзеш у фаэтоне. Я ўладзіў фаэтон праз дэпешу. Ясней кажучы, я даў тэлеграму, каб мне выслалі на станцыю фаэтон. Думаеце, можа быць, што для сябе? Не палохайцеся. Мне дазволена перапраўляцца туды на звычайным балагуле, шостым пасажырам, ці яшчэ лепш, узяць парасон у адну руку, а клунак у другую руку і гайда на сваіх уласных скараходах у самы гарадок, вельмі прыстойна пехтурою. Ясней кажучы, капіталы мае лопнуць, калі дазволю сабе катацца на фа-

этончыках. Паводле маіх залатых спраў майстэрства, магу спакойненька з месца не рухацца—сядзі дома ды не рыпайся. Га? Што вы на гэта скажаце?

Тут мой герой робіць перапынак, уздыхае і пачынае да мяне гаварыць ціхутка ў самае вуха, азіраючыся раней ва ўсе бакі, ці не падслухоўвае хто.

— Еду не адзін. Еду з прафесарам... Як гэта я дарос да такой прафесарскай кумпаніі? Вось як яно было: пра Кашавараўку чулі? Мястэчка такое ёсць, дык завецца яно Кашавараўкай. Пражывае там адзін яўрэй багацюга. Выскачка. Грошы ў яго і куры не клююць. Разбагацеўшы свінтух. Мо' чулі пра яго? Барадэнка завецца. Іцка Барадэнка. Падабаецца вам гэта прозвішча? Праўда, не яўрэйскае прозвішча. Не кіем—паленам. Яўрэйскае, не яўрэйскае, а, ясней кажучы, грошы ў яго. І шмат грошай, вельмі шмат. Ёсць чутка, што ў нас у Кодні ацэньваюць яго капіталы ў поўмільёна. А можа быць, калі вы мяне далікатна папросіце, я адважуся згадзіцца на тое, што ён мае цэлы мільён. Ясней кажучы, выходзячы з таго меркавання, што ён, перапрашаю ваш гонар, стварэнне свінскай пароды, можна сказаць, што ён мае два мільёны. Вось вам такі доказ: хаця бачу вас упершыню, аднак добра разумею, што ездзіце на свеце, куды больш, чым я. Скажыце шчырую праўду: ці шмат калі чулі, каб імя Барадэнка дзе кольвечы было змешана з грамадскімі справамі, з грашовымі ахвяраваннямі ці што? У нас у Кодні яшчэ да апошніх дзён пра гэта і слыхам не слыхаць. Але зноў-ткі, я не аблакат пана бога і не раскішэньваю дзеля дабрачыннасцей кішэні свайго бліжняга. Я не кажу пра грашовыя дабрачыннасці ды грашовыя ахвяры. Я кажу пра чалавечнасць знакам тым. Бог табе дапамог, ты калматы і багаты, што можаш сабе нават дазволіць прыемнасць выпісваць прафесароў,—дык ці-ж залатая шчэць выпадзе з твайго хрыбта, калі праз цябе і другі чалавек пакарыстаецца гэтым выпадкам? Грошай у цябе не просяць, спагаднага слова сказаць цябе просяць. Які д'ябал у цябе за гэта язык вырве? Дык вось, паслухайце, што далей было.

Здарылася такое здарэнне, што ў нас у Кодні даведаліся (у нас у Кодні ведаюць усё), што ў Кашавараўскага багача, у гэтага самага Іцкі Барадэнка, пра якога вяду сваю гутарку, знакам тым, занядужыла, не тут кажучы, дачка. А думаеце, якая ў яе была хвароба? Панская хвароба. У любошчы граць ўздумала. Закахалася ў рускага дзяцюка, а той яе праз законы не прыняў. Вось яна прыняла атруту (у нас у Кодні ведаюць усё). Толькі ўчора гэта адбылося. Адразу паімчаліся і даставілі сюды, як „га" сказаць, прафесара, найбольшага прафесара. Ці ў такога мільёншчыка гэта адыгрывала ролю? Вось тады мне і стукнула думка ў галаву: прафесар там не застанецца век векаваць. Сёння-заўтра ён едзе назад. А ехаць едзе ён усё роўна праз нашу станцыю, ясней кажучы, праз Кодню. Такім чынам можна запланаваць такі план, каб ён, прафесар, знакам тым, зваротным шляхам скокнуў ад цягніка да цягніка да нас, ясней кажучы, да мяне.

Ляжыць у мяне дома дзіцянё, не пры вас кажучы. А што, на-

прыклад, мяркуеце ў яго за хвароба? Я сам не ведаю, што ў яго за хвароба. Нешта ўнутры ў яго не ідзе ладам. Ясней кажучы, кашляць, дзякаваць богу, ён не кашляе. А каб адчуваў нейкі боль у сэрцы, дык так сама не адчувае. Дык у чым-жа тут закавычка? Ні кроплі крыві няма ў ім. Слабы ён, слабы, вось як тая муха. Дзьмухнеш—і ўпадзе. Усё гэта адтаго, што ён не есць. Нічагуткі, знакам тым, не есць. Як гэта вы думаеце, нічагуткі? Абсолютна нічога! Праўда, часам шклянку малака вып'е. Ды і то—праз сілу. Трэба яго прасіць, трэба яго маліць. Трэба над ім плакаць ды і годзе. А больш ані-ні: ні лыжкі бульёна, ні кавалачка хлеба. Пра мяса і гаварыць не прыходзіцца. На мяса ён глядзець не можа, адкідвае галаву. Усё гэта з таго часу, як ён горлам крывавіў. Улетку ён, не ў благі час кажучы, горлам крывавіў. Хоць усяго адзін раз, але затое моцна. Цяпер, дзякаваць богу, перастала ісці кроў. Дай бог так надалей. Аднак аслабеў—і сказаць не магу як аслабеў. Ледзь-ледзь на нагах трымаецца. Жартачкі—чалавека заўсёды калоціць ліхаманка. Гарыць увесь, як у воспе гарыць! Ад самай сёмухі. Трыццаць дзевяць з паловай, ці трыццаць дзевяць без паловы. Ніякія лекі не памагаюць. Ужо не раз і не два быў з ім у доктара. Але што ведаюць нашыя дактары?—толькі выймаюць душу без пары. Есці, кажуць яны, яму трэба, шмат есці. Паветра, кажуць, яны, яму трэба, шмат паветра. Дзе там? Пра ежу лепш не гавары яму. Паветра? Адкуль можа быць у нас гэтага паветра? У Кодні—паветра! Ха-ха-ха! Слаўнае мястэчка—Кодня. Яўрэйскае мястэчка. Ёсць, у нас каб не ўрачыць, не мала яўрэяў. Ёсць у нас, знакам тым, і сінагога, і малельны дом, рабін,—усяго хапае. Толькі ад двух рэчаў збавіла нас неба: ад паветра і ад хлеба. Глупства! Пра хлеб не варта і языка мазоліць. Дзякаваць імя святому, адны ў адных вырываем і гэтым сыты бываем. Паветра? Калі хочам паветра, ходзім у панскі „двор". У „двары" бачыце, паветра якраз хапае. Даўней, калі Кодня належала польскім панам, дык і нашай нагі не было ў „двары". Паны не дазвалялі. Нават не так паны, як паняты і панскія шчаняты. Але з таго часу, як Кодненскі двор апынуўся ў яўрэйскіх руках, не стала сабак. „Двор" зрабіўся зусім іншым „дваром". Цяпер пагуляць у „дваре"—адна любата. Праўда, там жывуць паны; праўда, там жывуць памешчыкі, аднак гэта яўрэйскія памешчыкі. Гавораць па-яўрэйску, вось як мы з вамі. І прытрымліваюцца яўрэйскіх звычаяў, і любяць яўрэяў. Калі кажу, яўрэі, дык разумееце-ж! Ясней кажучы, не буду вас запэўніваць, што яны вялікія праведнікі. Грэх гаварыць, у сінагогу памаліцца іх не вельмі цягне, і, не раўнуючы, у наш дом амавення—у лазню—ні за што не пойдуць. Шабасавых законаў таксама не вельмі прытрымліваюцца. Ну, кураня ў масле—трэфа значыцца—яны таксама не вельмі баяцца. Ну, бародку падстрыгаюць, ходзяць без шапкі ды яшчэ такія рэчы, забароненыя яўрэям,—пра гэта лішняе і гаварыць. На гэта ў нас ужо мода настала, як на лапці па вёсках. І ў нас, у Кодні, ёсць, дзякаваць богу, такія блазны, якім шапка на галаве тое самае, што жорны...

— Праўда, Кодня не мае чаго скардзіцца на сваіх памешчыкаў. Нашы яўрэйскія памешчыкі не забываюць местачкоўцаў. Як толькі

восень—з „двара“ прывозяць да ста мяшкоў бульбы для бедных. Зімой—салому для апала. Напярэдадні пасхі—грошы для бедных на мацу. Нядаўна падарылі цэглу на сінагогу. Што і казаць! Усё прыстойна, далікатна, па-людску—як належыцца... Каб не трэфная курачка ў масле, усё было-б добра! Ох, гэта курачка-дурачка!.. Толькі не падумайце, што я хачу на іх плёткі плясці! Што я да іх маю? Наадварот! Яны за мяне і мяшка мякіны не аддадуць. Рэб Алтар (завуць мяне Алтар, знакам тым) у іх найлепшая падмазка для скаварады. Калі ім што-небудзь патрэбна ў справах яўрэйства, напрыклад: новы каляндар, на рош-гашона*, маца на пасху, ды іншыя такія святыя рэчы,—тады запрашаюць рэб Алтара.

— А маёй жонцы ў крамцы (мая жонка мае крамку—мае яна) яны даюць утаргаваць нішто сабе капеечку. За соль і за перац і за запалкі і за ўсенька-ўсё. Вось якія ў нас памешчыкі! А іхнія дзеці аскубенты—гатовы галаву аддаць за майго сына. Прыдзе, бывала, лета і яны ўсе злятаюцца з Пейтарбарга, дык тады вучаць яго чаму толькі хочаце. І днююць і начуюць з ім над кніжкамі. А ў майго кніжка, ведаеце, жыццё за яе аддаць гатоў! Даражэй за татку, за матку. Баюся сказаць, але думаць думаю, што якраз кніжкі і нагубілі яго. Усё ліха пачалося ў яго ад кніжак... Праўда, яна мне даводзіць, што гэта ў яго ад прызыва. Пры чым тут прызыў? Які тут прызыў? Ён ужо даўно забыў пра прызыў. Але ўсёроўна, як-бы там ні было, ці кніжкі, ці прызыў—пакуль што ляжыць у мяне дзіцянё, ні пра маіх прыяцелей кажучы, і сохне, сохне, бедны. Тае, як свечка. Адзін бог няхай над ім злітуецца...

На хвілінку на ззяючым твары майго чалавечка з'явілася нешта падобнае да хмаркі. Але не даўжэй, як на хвілінку. Хутка зноў паказалася сонца, сагнала хмару, і твар яго зноў заззяў, вочы засвяціліся, рот пачаў усміхацца. І ён працягваў сваё апавяданне:

Словам, на чым мы спыніліся? Ага, я вырашыў махнуць у Кашавараўку да Іцкі Барадэнка, знакам тым, да мільёншчыка. Зразумела, я не пусціўся ў дарогу так сабе, як гэта кажуць з пустымі рукамі. Я ўзяў з сабою пісьмо, знакам тым. Ад нашага рабіна (Коднеўскі рабін славіцца на ўвесь свет!). Прыгожае было пісьмо, на дзіва разумнае: „Карыстаючыся тым выпадкам, што бог Вам дапамог, і Вы ўсастаянні вытрабаваць у свой дом прафесара, калі ў Вас толькі ёсць у гэтым патрэбнасць, і так, як у нашага Алтара ляжыць, ні пры Вас кажучы, сын на одры смерці, дык можа ўзбудзіцца ў Вашым сэрцы іскра міласердзя, і вы знізіцеся з вышынь богам дадзенага Вам дабрабыту і ўвойдзеце ў яго палажэнне і зробіце ўплыў на прафесара, каб на зваротным пуці, ён-жа ўсёроўна праязджае міма Кодні, заехаў да нас ад цягніка да цягніка толькі на чвертку гадзіны, паглядзець на хворага. А за гэтую божую паслугу...“ Ну, і гэтак далей. Прыгожае пісьмо.

Раптам пачуўся свісток. Цягнік спыніўся. Мой спадарожнік ускочыў з месца.

---

* Навагодняе свята ў рэлігійных яўрэяў.

— Ага! Станцыя? Вось толькі скокну ў першы клас на хвілінку. Толькі зірну на свайго прафесара і зараз-жа назад—і закончу вам сваю гісторыю.

Назад/вярнуўся мой герой з яшчэ больш чым раней прасветленым тварам. Каб я ведаў, што можна так выразіцца, я сказаў-бы: яго лоб азарала нябеснае зззяне. Ён прыхіліўся да майго вуха і шапярнуў ціханька, нібы баючыся каго-небудзь разбудзіць:

— Ён спіць, мой прафесар. Няхай бог дасць, каб ён хацяў добра выспаўся. Калі прыедзе, дык прыедзе са свежай галавой... Коратка кажучы, дзе мы спыніліся? У Кашавараўцы!

Прыязджаю я, знакам тым, у Кашавараўку і адразу накіроўваюся ў дом. Ля дзвярэй націскаю званок раз і два і тры. Да мяне выскоквае тыпус з парай тоўстых пампушак, з голенай мордай, аблізваецца, нібы кот, і звяртаецца да мяне на рускай мове: „Что надо?.“ А я адказваю яму наўмысна па-яўрэйску: „мабыць „надо“, бо калі-б не было „надо“, я не гоцкаўся-б сюды аж з Кодні“...

Ен слухае маё тлумачэнне, жуе жвачку, аблізваецца і круціць галавой: „Няма цяпер ніякага доступу да нашых. У нас сядзіць прафесар“. „Якраз і добра, што прафесар сядзіць,—кажу я.— Дзеля прафесара я сюды і прыехаў“. А ён мне на гэта: „Якія справы маеце да прафесара?“ Вось і расказвай яму ўсю гісторыю! Я дастаю пісьмо рабіна і падаю яму: „Добра табе, кажу я, валаводы валаводзіць, калі ты стаіш за дзвярыма, а на мяне, кажу, льецца дождж. На табе, кажу, вось гэты дакумент, і перадай гэта, будзь ласкаў, гаспадару, кажу я, проста ў рукі перадай“. Пайшоў ён, а я застаюся на вуліцы, на гэтым баку клямкі, і чакаю пакуль мяне паклічуць. Чакаю паўгадзіны. Чакаю гадзіну. Чакаю дзве. Дождж ллё—патоп. А мяне не клічуць. Гэта ўжо крыўдзіць мяне. Крыўдна ўжо не так за сябе, як за нашага рабіна. Піша, бачыш, не хлапчук, не абы хто, а рабін! (Коднеўскі рабін славіцца на ўвесь свет!). Я яшчэ раз дзвын за званок і яшчэ раз дзвын. Як выскачыць той самы тыпус з чырвонымі пампушкамі з крыкам і злосцю: „Нахабства якое, кажа ён, мае чалавек—у званок званіць!“ „Нахабства, кажу я, пакідаць чалавека пад дажджом на дзве гадзіны!“ і шусь да дзвярэй: усунуцца хачу—не туды трапіў. Тыпус замкнуў дзверы і я зноў нюхаю клямку! Што-ж далей рабіць? Не важнецкая справа. Непрыемна ехаць назад ні з чым. Па-першае, сорамна перад самім сабою. І я-ж не абы хто ў нас у Кодні. Не шлімазарнік які... А па-другое, душа баліць: маё беднае дзіцянё...

Аднак ёсць, як гэта кажуць, вялікі бог на свеце. Раптам—пад'язджае карэта, запражоная чацвёркай, і спыняецца ля самага ганка. Я тады да фурмана: „Што за карэта? Чые коні? Я даведваюся, што гэта якраз карэта Барадзэнкі і коні Барадзэнкі. Для прафесара. Гэта пасадзяць яго, прафесара, знакам тым, у карэту, і павязуць на станцыю. Калі так, думаю, дык зноў добра. Дасканала!

Не паспеў я агледзіцца, як адчыніліся дзверы і з'явіўся ён сам, прафесар, знакам тым. Дробненькі, старэнькі, з тварам—што

вам доўга калатырыць? Анёл, анёл з неба! За ім ступае без шапкі сам багач, Іцка Барздэнка. А ззаду ідзе той самы тыпус з тоўстымі пампушкамі. Ён нясе прафесарскі чамаданчык. Каб вы толькі пабачылі гэтага мільёншчыка! Не пакарай, божанька, за грэшныя словы. На ім пінжачок з простага сукна „дыягонель". Такія носяць у нас у Кодні. Рукі трымае ён у кішэнях. Глядзець глядзіць ён кудысьці ў старану, крыху па-касавокаму. Я стаю і думаю: „Уладар усемагутны! Вось гэтая рапуха мае мільёны?" Але спрабуй перагіркавацца з богам!..

Заўважыў мяне мільёншчык і пранізвае наскрозь касавокім позіркам. Пасля пытаецца ў мяне: „Што вам трэба?" Я падыходжу бліжэй і тлумачу: „Так і так, кажу. Гэта я вам прывёс, кажу, пісьмо ад нашага рабіна, знакам тым"... А ён да мяне: „Ад якога рабіна?" Чуеце? Ён ужо нібыта не ведае ад якога рабіна! „Ад Кодненскага рабіна, кажу. Я тамтэйшы—кодненскі я. Я спецыяльна прыехаў, кажу, з Кодні да пана прафесара, каб яны патурбаваліся, кажу і ў Кодню ад цягніка да цягніка на чвертку гадзіны да майго дзіцёнка, кажу. У мяне, кажу, не пры вас гаворачы, дзіцё пры смерці..." Вось так, слова ў слова і сказаў яму. Я вам ні кроплькі не пераўвялічваю. Ні на волас! Што я меркаваў? Я меркаваў вось што: у чалавека няшчасце. У яго, не тут кажучы, дачка атруцілася. Можа ён мне сэрцам спачувае? Можа ён злітуецца над бедным бацькам? Аказваецца: трапіў пальцам у вока! І поўслова ад яго не пачуў. Толькі—зірк ён злым касавокім позіркам на тыпуса з рыжымі пампушкамі, як той кажа: „Выкінь гэту кузурку з майго мёду!" А тым часам мой прафесар увайшоў з чамаданчыкам у карэту, знакам тым. Яшчэ адно вокамгненне—і няма прафесара! Што тады рабіць?

— Пабачыўшы, што тут табе не пераліўкі, а гульня з чортам, я рашыў: адно з двух! Што будзе дык будзе! Трэба ратаваць дзіцянё! Набіраюся адвагі і—кульгіць пад самыя ногі коням!.. Сказаць вам, што мне вельмі добра было ляжаць пад коньмі?—гэта будзе не зусім праўда. Я нават не памятаю, колькі часу я ляжаў, і ці я, наогул, ляжаў. Можа быць, што я і не ляжаў. Ведаю адно, што не прайшло і гэтулькі часу, колькі я вам цяпер гавару, як старэнькі прафесар, знакам тым, ужо стаяў каля мяне: „Что такое?" і „голубчик" і „дорогой". Ён хоча, каб я яму ўсё расказаў, каб гаварыў чаго мне трэба, каб я ані не баяўся. А мільёншчык стаіць воддаль і пранізвае мяне касавокім позіркам. А я гавару! Вы павінны ведаць, што я не вялікі гаварун па-руску. Аднак на гэты раз бог у мяне ўсяліў такую сілу, ажно само гаварылася. Я расказаў яму ўсенька-усё, што было ў мяне на душы. Я сказаў яму:

— Так і так, пан прафесар. Можа гэта суджана, каб вы былі пасланцом божым і вярнулі мне майго дзіцёнка, майго адзінага сына, што астаўся ў мяне ад шасці дзяцей, гэтаму на доўгі век. А калі, кажу, за гэта трэба плаціць, дык маю цэленькую чацвяртную, ясней кажучы, дваццаць пяць рублёў. Не думайце, што мае ўласныя, кажу. Адкуль у мяне гэтулькі грошай? Гэта жончына дваццацьпятка, кажу. Нарыхтавана для закупкі тавараў. Дык я да-

рую вам, кажу, гэту дваццацьпятку. Ну яе к богу, кажу, жончыну крамку, абы выратаваць дзіцё!..

— Так гаворачы, я расшпільваю капоту і хачу дастаць дваццаціпяцірублёвую асігнацыю. Тады старэнькі, ясней кажучы, прафесар, кладзе ручку на маё плячо: „Ничего!“—не трэба, значыцца і загадвае мне лезці ў карэту. Каб я так дажыў бачыць сына здаровым, як я вам не маню! Ну, пытаюся ў вас, ці не трэба, каб яго, Іцкі Барадэнкі, галава не скацілася з плеч за адзін прафесарскі пазурок? Гэта-ж мільёншчык ледзь не зарэзаў мяне без нажа, знакам тым! Усявышні так накіраваў справу, што мне пашанцавала. А што было-б, напрыклад, каб крый божа, наадварот здарылася?.. Га? Што вы скажаце?..

У вагоне пачынаецца суматоха. Мой спадарожнік кідаецца да кандуктара:

— Кодня?

— Кодня.

— Бывайце здаровы! Едзьце на здароўе далей і нікому не кажыце, з кім я еду. Не хачу, каб у нас у Кодні даведаліся, што я прыехаў з прафесарам. Збягуцца з усіх канцоў!

Так сказаў мне чалавечак на развітанне, паціснуў маю руку— і няма яго.

Толькі праз пару хвілін, калі цягнік павінен быў крануцца з месца, я ўгледзеў праз вакно, як трасецца кульгавы тарантас, запрэжаны парай змораных, заезджаных буланых конікаў. У тарантасе сядзеў дробненькі дзядок, у акулярах, з маладымі чырвонымі шчокамі і з сівой бародкай. Насупраць яго сядзеў бачком мой герой, не сядзеў, а як-бы на нітцы вісеў. Ён зазіраў старэнькаму дзядку ў самыя вочы і гойдаўся. Твар ягоззяў, а вочы—во-во выскачуць з радасці.

Шкада, што я не фатограф і не маю з сабой фатаграфічнага апарата. Было-б вельмі добрай справай сфатаграфаваць майго героя ў гэтую хвіліну. Тады ўвесь свет угледзеў-бы, што значыць быць шчаслівым чалавекам—самым шчаслівым чалавекам у Кодні.

*Канец гісторыі нумар два.*

1909

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ТРЫ

### Станцыя Баранавічы

На гэты раз нас было не больш двух дзесяткаў яўрэяў і мы сядзелі ў вагоне трэцяга класа, можна сказаць, раскошна. Гэта значыць, сядзелі, уласна кажучы, толькі тыя, якія своечасова паруліліся захапіць месца. Рэшта стаялі, прысланіўшыся да прасценак, аднак, прымалі ўдзел у гутарцы роўна з тымі, хто сядзеў. А гутарка была вельмі ажыўленая. Усе гаварылі. Усе разам. Як заўсёды. Гэта было раніцой. Людзі выспаліся, памаліліся, так-сяк перакусілі, дасыта накурыліся і былі ў добрым гуморы. Усіх цягам цягнула да гутаркі. Пра што? Пра што хочаце. Кожнаму хаце-

лася расказаць нешта свежае, зусім навюткае, якое прыцягнула-б да сябе пільную зацікаўленасць усіх.

Але нікому не ўдавалася затрымліваць ўвагу слухачоў на доўгі час на адным пытанні. У кожную хвіліну пераскоквалі з тэмы на тэму. Вось гавораць, здаецца, пра ўраджай, пра ўдалы ўраджай пшаніцы і аўса, а вось перайшлі (ні к сялу ні к гораду) на вайну. Не трымаліся вайны і пяці хвілін, і скокнулі з аднаго маху ў рэволюцыю. Ад рэволюцыі кінуліся на канстытуцыю, а ад канстытуцыі ўжо само сабою трапілі да пагромаў, жудасцяў, здзекаў, да новых законаў аб яўрэях, да высялення з вёсак, уцёкаў у Амерыку і да іншых пакут і прыгнечанняў. Чаго толькі не наслухаешся ў гэтыя прыемныя часы: банкруцтва, экспрапрыяцыі, ваеннае палажэнне, шыбеніцы, голад, халера, Пурышкевіч, Азеф...

„А-з-е-ф?"

Хтосьці ўспомніў і прагаварыў гэтае слова, гэтае подлае імя— і ўвесь вагон ўскіпяціўся: Азеф і яшчэ раз Азеф, і зноў Азеф. На ўсе лады, без канца-меры паўтараўся—Азеф...

— Прабачайце мяне, але вы ўсе, будзьце ўпэўнены, ёлапы божыя! Якую сумяціцу паднялі—Ажэф! Пхе! Падумаеш, якая фігура—Ажэф! Што ўяўляе сабою Ажэф? Нікчэмнасць, лайдак, свалата даносчык, нуль, паршывец першай маркі. Вось калі вы мяне папросіце, дык я раскажу вам гісторыю пра даносчыка, якраз з нашай ваколіцы, з Каменкі, дык вы, тады, будзьце ўпэўнены, самі скажаце, што Ажэф сабака супроць яго!

З такімі словамі звярнуўся да нас адзін з тых пасажыраў, што не мелі месца на ніжняй лаўцы і віселі над намі між прасценкаў. Я адварачваю галаву і ўзнімаю вочы ў гару. Бачу добра адкормленага чалавека ў шоўкавай святочнай шапцы, з чырвоным тварам у рабаціннi, смехатлівымі вачыма і без пярэдніх зубоў, гэта значыць, не хапае самых пярэдніх зубоў. Відаць таму, што самых пярэдніх зубоў не хапае, ён вымаўляе „з", „с", і „ц" з нейкім свістам, вось чаму ў яго атрымліваецца не „Азеф", а „Ажэф".

Мне гэта асоба адразу спадабалася. Мне да спадобы была яго развязнасць, яго гутарка, і тое, што ён усіх нас празваў ёлапамі. Люблю такіх людзей і зайздрошчу ім.

Раптоўна атрымаўшы ад жыхара Каменкі атэстат на ёлапа, усе пасажыры былі як-бы аглушаны, нібы хтосьці аплюхаў іх вядром халоднай вады. Але хутка ўсе прышлі да сябе, пераглянуліся між сабою і звярнуліся да чалавека з Каменкі:

— Вы хочаце, каб мы вас прасілі? У чым справа? Просім вас! Будзьце ласкавы, раскажыце нам... Паслухаем, што такое здарылася ў вас у Каменцы. Але чаму стаіцё? Чаму не сядзіцё? Няма, кажаце, дзе? Давайце, людцы добрыя, крыху пацiснемся! Дадзімо месца! Будзьце добры!

І вось пасажыры, якім і так было цесна сядзець, яшчэ больш пацясніліся і вызвалілі месца для чалавека з Каменкі. А каменковец рассеўся даволі шырока (як тая квактуха над куранятамі),— адсунуў шапку на патыліцу і пачаў са сваёй своеасаблівай вымовай вось так—слова ў слова:

— Слухайце-ж, мае мілыя браты. Тое, што я вам буду апавядаць, каб вы ведалі, не выдуманая дрындушка, якую чытаюць у кніжцы з пустых кніжак, і не бабулькіна казка з тысячы адной ночы. Гэта, разумееце, гісторыя, якая сапраўды адбылася, будзьце ўпэўнены, якраз у нас у Каменцы. Мой бацька, мір праху яго, мне гэта сам апавядаў. Ён чуў гэтую гісторыю шмат разоў ад свайго бацькі. Мяркуюць, што гэтае здарэнне было запісана ў нас у нейкім старым летапісе, які даўно згарэў. Можаце смяяцца, але кажу вам, вельмі шкадую, што згарэў летапіс. Там, кажуць, былі запісаны вельмі цікавыя падзеі, куды прыгажэйшыя за тыя, што друкуюцца ў цяперашніх пустых кніжках і газетах.

Коратка кажучы, гэта было ў дні царавання Мікалая першага, у часы вялікага гнёту. Чаго ўсміхаецеся? Не ведаеце, што такое гнёт? Гнёт значыць—угнятаць, гнаць „калістрой“. Што такое „калістрой“? Зноў не ведаеце? Трэба вам, значыцца, растлумачыць падрабязна. Уявеце сабе—па абодвух баках стаяць выстраеныя салдаты з жалезнымі прутамі ў руках, а вы прагульваецеся, будзьце ўпэўнены, праз строй разоў дваццаць і больш туды і назад, перапрашаю ваш гонар, голы, як маці вас нарадзіла, і над вамі ўчыняюць тое, што рэбэ над вамі ўчыняў у хедары, калі вы кепска вучыліся... Цяпер ужо ведаеце, што гэта за яно, што за смак—„гнаць калістрой?“ Дык вось слухайце далей.

У адзін прыгожы дзянёк—у нядзелю раніцою адбыўся такі выпадак. Атрымалі загад ад губернатара—тады губернатарам быў Васільчыкаў—пакараць розгамі аднаго яўрэя пад імем Кіўка. Хто такі быў гэты Кіўка, і чым ён так цяжка зграшыў—не магу вам дакладна сказаць. Некаторыя мяркуюць, што быў ён усяго-наўсяго шынкар. Чалавек не вельмі значны і выдатны. Да гэтага-ж яшчэ пераспелы бахур—стары кавалер. І трэба-ж было богу кінуць яму дурную думку ў дурны розум. Аднаго разу ў нядзелю разгутарыўся ён у шынку з сялянамі пра божыя справы. „Наш бог, ваш бог“. Слова за слова... Паклікалі старасту з прыставам і награмзолілі, будзьце ўпэўнены, пратакол.

Вазьмі-ж ты, шынкар тупагаловы, ахвяруй начальству вядро гарэлкі, і пратакол пойдзе да чортавай бабулі! Дык дзе там: „Не! Кіўка ад сваіх слоў не адступаецца!“ Ён яшчэ, на бяду, быў упарты як слуп. Што ён меркаваў? Ён меркаваў, што яго мабыць аштрафуюць на траячку, і—бывай здароў. Хто-ж гэта мог чакаць такога прысуду, каб за адно нейкае дурное слова пагналі чалавека „калістрой“. Коратка кажучы, цапнулі хлопчыка сарака год і, будзьце ўпэўнены, засадзілі яго на „пакуль што“ ў кутузку. Няхай сіднем сядзіць ды чакае, пакуль адлічуць яму, перапрашаю ваш гонар, дваццаць пяць розаг, пры пышным парадзе, паводле закона божага.

Ну, што-ж... Вы, канешне, самі разумееце, якая шура бура паднялася ў Каменцы, калі дачуліся пра такое ліха. А калі, думаеце, павінна было здарыцца гэткае няшчасце? Якраз уночы, і якраз на суботу! І вось, калі раніцою прышлі ў сінагогу—там узнялі крык і лямант: „Кіўку пасадзілі“. „Гнёт прысудзілі!“ „Гнёт?“ „За што? За якое?“... „За слова дурное“... „Гэта выдумка“... „Якая

там выдумка? У чалавека доўгі язык!“... „Няхай сабе восемнаццаць разоў доўгі язык, але падумайце — гнёт? Як гэта можна? Гнёт!... Ці-ж мы дазволім, каб лупцавалі розгамі яўрэя? Нашага, каменца?!.“

У мястэчку кіпела, як у катле, усю суботу, аж да вечара. Увечары, калі запалілі святло, кінуліся гвалтам да майго дзеда (звалі яго рэб Нісан Шапіра): „Чаму маўчыцё, рэб Нісан? Як вы можаце дапусціць такую ганьбу, каб каталі яўрэя—нашага каменца?“

Вы напэўна запытаецеся, чаму-ж гэта кінуліся іменна да майго дзеда? Дык я павінен вам сказаць, што мой дзед (светлы яму рай) быў—не таму, што я пахваліцца хачу—самым большым, самым паважаным, самым багатым, самым прыстойным гаспадаром у гарадку. Быў ён і за панібрата з начальствам. А яшчэ ў дадатак—чалавек з вялікім розумам. Выслухаўшы ўвесь гэты крык і лямант, ён паволі пахадзіў туды і сюды па пакоі (такую звычку ён меў: калі пра што-небудзь думаў—расказваў бацька, мір праху яго,—ён любіў прахаджвацца колькі разоў туды і сюды па пакоі). Урэшце ён спыніўся і сказаў: „Дзеці! Ідзіце дамоў. Не бядуйце! З божай ласкі, усё наладзіцца. У Каменцы, дзякаваць богу, мы яшчэ не мелі да гэтага часу лупцаваных, і, з божай дапамогай, надалей таксама не будзем мець...“

Вось якія словы праказаў ім мой дзед, мір праху яго. А ў мястэчку ўжо ведалі: калі рэб Нісан Шапіра сказаў, дык сказана не на ўзвей-вецер. Распытваць яго: як, што і калі—гэтага ён не любіў. Чалавек ён быў, разумееце, багаты, і свой у начальства, а яшчэ ў дадатак вялікі разумнік—такога чалавека і баяцца і шануюць. І што-ж вы думаеце?—як сказаў дзед, так яно і было. А што-ж было? Вось зараз паслухаеце...

Заўважыўшы, што народ у вагоне ўжо даволі наспружынены і хочацца пачуць, што далей будзе, пасажыр з Каменкі змоўк, выняў з кішэні вялікі партабак і паволі, не спяшаючыся, скруціў папіроску. Адразу кінулася некалькі чалавек падаць яму агню. Вось якім паважаным зрабіўся ён раптам у вагоне. Закурыўшы і зацягнуўшыся папіроскай, ён прыступіў да апавядання са свежымі сіламі.

— Цяпер паслухаеце, што мудры чалавек можа ўчыніць. Гэта я кажу пра свайго дзеда, светлай памяці. Ён памазгаваў і прыдумаў нішто сабе штуковінку. Напрыклад: ён умовіўся з начальствам, каб асуджаны Кіўка, значыцца, задраў на адну мінутачку капыткі, і каб памёр, будзьце ўпэўнены, там-жа, у турме седзячы... Чаго вы так утаропіліся ў мяне? Не разумееце? Ці мо' баіцёся, што яго, крый божа, атруцілі? Не бойцеся! У нас людзей не атручваюць. У чым-жа справа? Справа была адштукавана куды лаўчэй. Умовіліся з начальствам так: асуджаны павінен легчы спаць жывенькі і здаровенькі, а раніцою павінен быў прачнуцца нябожчыкам... Вы ўжо раскумекалі? Ці вам яшчэ трэба пакласці палец у рот, каб вы яго адкусілі?

Будзьце ўпэўнены, так і зрабілі. Аднаго разу раніцою прыходзіць з турмы да майго дзеда пасланец з паперай: „В виду того“,

„так, как“ у гэту ноч памёр у турме яўрэй пад імем Кіўка, і „так, как“ мой дзед старэйшы з старэйшых і стараста ў пахавальным брацтве, „поэтому и потому“ трэба, значыцца, пастарацца забраць нябожчыка і пахаваць яго, значыцца, па звычаю сыноў Ізраіля...

Што вы скажаце на такую чыстую работку? Вельмі ўдала?

Пачакайце-ж. Не радуйцеся. Не так хутка ўсё гэта робіцца, як гаворыцца. Не забывайцеся, што гэта не так проста—памёр нейкі яўрэй... Тут-жа ўблытаны і бліскучыя гузікі вялікіх начальнікаў... Губернатар... Гнёт. Жартачкі!... На першы стрэл, трэба было пастарацца, каб нябожчыка не ўскрывалі нажамі. Тут, разумееццa, патрэбна была дапамога доктара. Доктар, значыцца, павінен выдаць паперу, падпісаную і запячатаную, што ён зрабіў агляд нябожчыка адразу пасля таго, як той сканаў і ён знаходзіць, што нябожчык скончыўся ад нейкага там біцця сэрца, такога роду апаплексіі, не пра нас кажучы... Таксама лоўка накруцілі круцёлку і з іншым начальствам. Дамовіліся, каб кожны начальнік чырык-чырыкнуў свой подпіс на гэтай паперы. І гатова. Няма Кіўкі. Памёр Кіўка.

Ясна, што гэта каштавала гораду нішто сабе капеечку. Жадаю ўсім вам разам, хто сядзіць у вагоне, зарабляць гэтулькі ў кожны месяц. Можа баіцёся, дык і я далучаюся да вашай кумпаніі. А хто ўсю гэту скрыпку наладзіў? Мой дзед, мір праху яго. На майго дзеда можна было пакладацца. Ён гэту справу адграбляваў, разумееце, разумна і лоўка, і кругла, і гладка—без сучка і без задорынкі. У той-жа самы дзень, пад вечар, прышлі служкі пахавальнага брацтва з насілкамі і далікатна яго ўзялі, святога нябожчыка, і панеслі, перапрашаю, з турмы на святое месца з вялікай пашанай. Гэта значыць, пара салдат ішлі за нас лкамі, а за імі—увесь горад. Чаго-чаго, а такога слаўнага пахавання Кіўка, безумоўна, ніколі і ў ва сне не сніў. А калі падышлі да варот святога месца, салдат пачаставалі, будзьце ўпэўнены, гарачым трункам, а нябожчыка панеслі на двор. Там ужо стаяў напагатове балагула Шыман (называю яго па імені, як мой бацька, мір праху яго, мне апавядаў) з чацвёркай стаеннікаў-жарабцоў. Яшчэ і певень не паспеў крыкнуць, наш нябожчык ужо быў, будзьце ўпэўнены, далёка-далёка, на тым баку рагаткі, і накіраваўся ў добрую шчаслівую гадзіну проста ў Радзівіл, а адтуль—праз граніцу, цю-цю, у Броды.

Вы, мабыць, самі разумееце, што пакуль балагула Шыман не вярнуўся з Радзівіла, увесь горад не спаў. Усе хадзілі ўстрывожаныя, занепакоеныя. А больш за ўсіх непакоіўся мой дзед, мір праху яго. Бо на двое бабка варажыла. А можа на граніцы пападзецца гэты святы нябожчычак, Кіўка, значыцца... і даставяць яго назад у Каменку жывенькім і здаровенькім... Вось тады ўвесь горад сашлюць не так блізка і не так далёка, а ў самую Сібір... Затое, калі бог дапамог, і балагула Шыман спакойна вярнуўся назад з Радзівіла на сваёй гарачай чацвёрцы і прывёз ад Кіўкі ліст, напісаны яго ўласнай рукой: „Маю гонар паведаміць, што знаходжуся ў Бродах“,—у мястэчку пачалася радасць і вяселле. У дзедавым доме наладзілі пір гарой. Запрасілі на выпіўку сматрыцеля турмы, прыстава, доктара і ўсё іншае начальства. Пача-

лася гулянка. Усе гулялі. Музыкі гралі. Так напіліся, аж смотрыцель турмы, будзьце ўпэўнены, гучна цмокаўся з маім дзедам і з усёй сям'ёй мо' разоў дзесяць. А прыстаў, вылупіўшы п'яныя вочы, танцаваў, пад раніцу, перапрашаю, без падштанікаў, у дзеда на даху. Жартачкі—вызваленне нявольніка з астрога! Выратавалі чалавека ад розаг!

Здаецца ўсё добра? Га? Пачакайце, мае мілыя браты! Тут толькі пачынаецца сапраўднае гоцаца. Калі цікавіцеся слухаць далей, дык папрашу вас пацярпець адну хвіліначку. Вось тут на гэтай станцыі мне трэба саскочыць на мінутку, пагутарыць з начальнікам станцыі. Хачу даведацца дакладна, колькі мы яшчэ маем да Баранавіч. Гэта значыць, ехаць еду далей, але ў Баранавічах мне трэба спыніцца, каб перасесці на другі цягнік.

Нічога не зробіш! Хочаш не хочаш, а прыходзіцца чакаць. Пасажыр з Каменкі выправіўся пагаварыць з начальнікам станцыі аб Баранавічах, а наш брат тым часам перакідваецца між сабою слоўцамі пра апавядальніка-каменца, і пра каменскую гісторыю:

— Як вам падабаецца гэты чалавечак?

— Слаўны чалавечак!

— Ядраны.

— Гутарлівы.

— Гладкі, мазаны язык.

— А гісторыя?

— Цікавая гісторыя.

— Але кароткая.

Тут знайшліся і такія дабрадзеі, якія запэўнівалі, нібы і ў іх адбываліся падобныя гісторыі. Гэта значыць, не абавязкова кропка ў кропку як каменская гісторыя, але нешта-нейкае накшталт гэтага. А таму, што ў кожнага вельмі свярбеў язык, каб расказаць сваю ўласную гісторыю, у вагоне пачаўся не малы гармідар. Затое, калі вярнуўся каменскі яўрэй, усе як-бы знямелі. Грамадой абступілі яго навакол шчытнай сцяной і давай слухаць каменскую гісторыю на ўсе вушы, усім нутром.

— На чым-жа мы спыніліся? Мы ўжо пакончылі, хай будзе блаславёна імя святое, з яўрэем, якога завуць Кіўка. Так? Вы ўсе гэтак мяркуеце? Памыляецеся, мае мілыя браты. Мінула паўгода, а можа і год—дакладна не ведаю—і яўрэй, якога завуць Кіўка, раздумаўся, і прыслаў, будзьце упэўнены, ліст, якраз на імя майго дзеда: „У першых радках хачу паведаміць вас, што я, дзякаваць святому імені, жывы і здаровы, дай бог тое самае ад вас пачуць. Па-другое, я застаўся без капейкі пры душы і без аніякіх заняткаў у чужой краіне, сярод немцаў. Яны не разумеюць маёй мовы, а я не цямлю іхняй гутаркі. А дзе зарабіць няма. Хоць лажыся ды памірай. Таму і пагэтаму прашу выслаць...“

Гіш, які разумнік! Каб яму, ясней кажучы, выслалі грошай! Разумеецца, над ім добра пасмяяліся. Парвалі, будзьце ўпэўнены, ліст на дзесяць частак і аддалі забыццю гэтую мілую справу. Ажна не праходзіць і трох тыдняў, як атрымалі новы ліст. Зноў ад нябожчыка, ад Кіўкі значыцца, зноў на імя дзеда, зноў „хачу паведаміць“, і зноў „прашу выслаць“. Затое на гэты раз „прашу

выслаць“ замацавана гарачай прыпіскай: „Што вы мелі да мяне? Няхай-бы мяне лепш адсцёбалі. Гэтыя дваццаць пяць udaraў даўным-даўно загаіліся-б, а я астаўся-б пры сваім шынку, як раней, і не валэндаўся-б сярод немцаў пустапасам і не пух-бы з голаду...“

Атрымаўшы пісаніну такога роду, дзед, мір праху яго, запрасіў да сябе на параду людзей: „Што рабіць. Чалавек з голаду памірае, трэба яму колькі-небудзь паслаць...“ А калі рэб Нісан Шапіра кажа „трэба“, нельга быць упартым... Наладзілі добрую складанку (больш за ўсіх даў сам дзед, хіба вам не зразумела?) і яму, будзьце ўпэўнены, былі высланы грошы—і зноў забыліся пра тое, што быў калісьці яўрэй, якога звалі Кіўка.

Затое сам Кіўка не забыў, разумееце, што ёсць на свеце горад пад назвай Каменка. Мінула яшчэ паўгода, можа год—не скажу дакладна—і, думаеце, зноў не атрымалі ад яго ліст? І зноў на імя дзеда. І зноў „хачу паведаміць“ і зноў „прашу выслаць“. Затое на гэты раз, дзякаваць богу, з павіншаваннем.

„Пастольку паколькy, так як я нядаўна стаў жаніхом, бяру вельмі прыстойную дзяўчыну, дачку вельмі прыстойных бацькоў з парадачнай сям‘і, таму і пагэтаму „прашу выслаць“...

Ясней кажучы, ён хоча, каб яму выслалі дзвесці крон, якія ён абяцаўся дадаць да пасага са свайго боку. У праціўным выпадку, кажа ён, вяселле разладзіцца... „Што вы скажаце на такую бяду? Кіўка, не дай бог, застанецца без нявесты...“ Словам, з гэтым пісьмом доўга насіліся на Каменцы, як з нечым вельмі смешным. Людзі смяяліся, проста за бакі трымаліся ад нестрыманага смеху. Увесь горад рагатаў, кепікі строіў: „Віншуйце нас!“ „Кіўка жэніцца.“ „Чулі? Дзвесці крон пасагу...“ „Дачка прыстойных бацькоў“... „Ха-ха-ха!..“

Аднак гэтае „ха-ха-ха“ не доўга цягнулася. Праз пару тыдняў прышоў, будзьце ўпэўнены, новы ліст і зноў ад Кіўкі, і зноў да дзеда. У гэтым лісце ўжо не было напісана: „хачу паведаміць“, а толькі „прашу выслаць“.

„Вельмі дзівіць яго,—піша ён,—што яшчэ не выслалі яму двухсот крон, якія ён абяцаўся даць у пасаг са свайго боку. А калі яму не вышлюць, кажа ён, зараз-жа дзвесці крон, не адбудзецца вяселле, і ад сораму і ганьбы, кажа ён, яму астаецца толькі адно: альбо ўтапіцца ў рэчцы, альбо вярнуцца з кійком дамоў, у Каменку“...

Ад гэтых апошніх слоў, будзьце ўпэўнены, людзі ачухаліся. Яны перасталі смяяцца. У той-жа самы вечар у дзеда адбылося зборышча самых відных жыхароў горада. Спыніліся на такім рашэнні, каб некалькі паважаных дзядоў, на чале з маім дзедам, узялі ў рукі хусціны ды каб, перапрашаю, пусціліся па вуліцах горада ад хаты да хаты збіраць для Кіўкі пасаг. А што ім заставалася рабіць? Але, будзьце ўпэўнены, яшчэ прышлося напісаць жаніху, як заўсёды пішуць у такіх выпадках, гарачае віншаванне з пажаданнем, каб урачыстасць адбылася ў шчаслівую гадзіну, каб ён з маладухай жыў у дабры ды ў пашане доўга-доўга, аж да пра-праўнукаў. Што, уласна кажучы, яны мелі на ўвазе? Яны меркавалі так: „Чалавек ажэніцца. Гэта яму заблытае мазгі і ён зусім лёганька забудзе, што існуе недзе на свеце Каменка“.

Але не скажы „гоп“, пакуль не пераскок. Не мінула і поўгода, ці года—не скажу вам дакладна,—як ад нашага „нябожчыка“ „з таго свету“, прыбыў яшчэ адзін ліст. Якія-ж навіны цяпер?

„Пастольку-пакольку, так як я ажаніўся, піша ён, ды якраз трапна, бог даў мне, кажа ён, маладуху, каб усім прыяцелям не горшых маладух. Але... каб ва ўсім добра было, дык гэта рэч нябывалая на свеце. Яна, жонка, мае бацьку—дык няхай ён лепш галаву скруціць. Манюка, шэльма, жулік, бандыт ды і годзе. Ён выманіў у мяне гэтыя дзвесці крон і выгнаў і мяне і жонку на вуліцу. Таму, пагэтаму, піша ён, прашу выслаць...“ Ясней кажучы, няхай яму вышлюць адразу другія дзвесці крон. А ежэлі не, кажа ён, прыдзецца альбо кінуцца жывым у рэчку, альбо вярнуцца назад дамоў з кійком...“

Тут ужо горад ўз'ерапеніўся на Кіўку не на жарт. Два разы пасаг?—Гэта ўжо зусім не па-чалавечаму! Парашылі на гэты яго ліст не адказаць яму ні аднаго слова.

Але ў Кіўкі так сама мазгі не высахлі. Не прайшло двух, ці трох тыдняў, і ад яго прышоў, будзьце ўпэўнены, новы ліст. І гэты на імя дзеда: „Так і так. Што гэта сабе каменцы думаюць? Чаму так марудзяць з высылкай яму двухсот крон? Ён пачакае, піша ён, яшчэ не больш за паўтары тыдні. А калі не вышлюць яму, кажа ён, да таго часу грошай, дык Каменка, з ласкі божай, будзе мець вялікую прыемнасць бачыць яго гасцём, зусім хутка“. Ды яшчэ канчае ліст святым словам: „амінь“. Вось лайдак!..

Можаце сабе ўявіць, як гарэла і кіпела ўнутры кожнага каменца? Але дзе ты дзенешся? Вышэй ілба не падскочыш! Зноў склікалі нараду ў дзедавай хаце. Зноў паважаныя старэйшыны горада валюхалі па вуліцах з хусцінамі ў руках. Праўда, народ, будзьце ўпэўнены, вельмі моршчыўся. Не было ніякай ахвоты даваць новыя грошы для гэтага старога паганца. Але як тут не дасі? Калі рэб Нісан Шапіра сказаў: „Трэба!“—нельга быць упартым. Далі з той умовай, што гэта ў апошні раз. І сам дзед інакш не думаў, што гэта ў апошні раз. Так і напісалі яму, ясней кажучы, Кіўку, строгімі словамі, што гэта ў апошні раз. Каб ён больш пра грошы ніколі не заікнуўся. Вельмі перапалохаўся зладзюга гэтых слоў? Як вам здаецца? Аднаго разу, пад свята прыбыў ад гэтай цацы (зразумела, на імя дзеда) новы ліст. У чым рэч?

„Пакольку-пастольку,—піша ён,—так як я цяпер сустрэўся ў Бродах з адным немцам, вельмі прыстойным і чэсным чалавекам, ды адкрыў з ім, кажа ён, у хаўрусе, гандаль фаянсавай пасудай, а гэта справа, кажа ён, вельмі добрая справа і грутоўная, можна, кажа ён разлічваць на вельмі прыстойны прыбытак, дык вось... пагэтаму: „прашу выслаць“, каб яму, значыцца, выслалі, без аніякіх адгавораў, чатырыста і пяцьдзесят крон. Выслаць зараз-жа і каб не марудзілі, кажа ён, з прысылкай. Бо хаўруснік, піша ён, не хоча чакаць. У яго, кажа ён, ёсць шмат іншых хаўруснікаў, дзесяць за аднаго. А калі, не дай бог, ён не прыме ўдзелу ў гэтай справе, дык астанецца ні з чым. Тады яму прыдзецца, кажа ён, ці кінуцца ў рэчку, ці вярнуцца дамоў у Каменку з кійком“,—знаёмыя словы.

А канчаць ён канчае страшункамі, што калі на працягу двух тыдняў яму не вышлюць чатырох сот пяцідзесяці крон, тады гэта ім абыйдзецца шмат даражэй. Бо ім прыдзецца вярнуць яму ўсе выдаткі па паездцы з Бродаў у Каменку і назад з Каменкі ў Броды. Ах, які гіцаль!

Ці яшчэ вам трэба расказваць, як збянтэжыліся каменцы? Свята было каламутнае і горкае. Больш за ўсіх пакутваў дзед мой! Ён, мір яго праху, меў гаротнік, будзьце ўпэўнены, і ў хвост і ў грыву. Таму што, пасля свята на нарадзе лепшых людзей горада народ пачаў наракаць і скардзіцца: „Годзе! Пакуль ён будзе з нас грошы смактаць? На ўсё ёсць мера! Клёцкі вечна есці і то надакучае. У свет з торбамі выправіць нас ваш Кіўка!.. Так наракаў народ. Дзед абараняўся: „Чаму гэта мой Кіўка?“ Дык яны на гэта: „А чый-жа ён, калі не ваш? А хто-ж гэта тады прыдумаў такі фокус-покус, каб гэты галаварэз Кіўка схапіў раптам апаплексію ў турме?“...

З гэтых слоў дзед зрабіў вывад (быў вельмі разумны чалавек) што скончыўся баль. Ад горада дастанеш гэтулькі грошай, як ад казла малака. Тады дзед кінуўся да начальства. Гэта-ж і начальства роўна з усімі папалася, як мыш у саладуху. Можа і яно цяпер прыме ўдзел у выдатках? Дзе там! Дулі, дулі дудкі ў пустапарожнія будкі! Начальства—не наш брат. Яго на такі кручок не возьмеш. Але вы не бядуйце. Мой бедны дзед вымушан быў, перапрашаю яго гонар, сам на сам расперазацца, патрасці калітою і пасляць свае ўласныя грошыкі гэтаму гаду, каб яго зямля не прымала! А затое ліст яму дзед напісаў... дык будзьце ўпэўнены! (Мой дзед, святой памяці, мог напісаць, калі хацеў). У гэтым лісце дзед яму, будзьце ўпэўнены, усыпаў, колькі ўлезла. Дзед абзываў яго гадам над гадамі, гультаём, прасцюгай і здраднікам Ізраіля, і крывапійцам, і п'яўкай, і злодзеем над злодзеямі, і выхрастам над выхрастамі і чаго толькі хочаце! У дадатак дзед папярэдзіў яго раз-назаўсёды, каб ён больш не адважыўся пісулічкі пісаць і каб больш не смеў намякаць аб грошах. І прыгадаў яму, што ёсць бог на свеце, які ўсё бачыць ды ўсё ведае і плаціць за ўсё ў сто крат. А кончыў ён ліст сардэчнай просьбай, ўпрошваннем, значыцца, каб той злітаваўся над яго старымі гадамі і каб не абяздоліў свайго роднага горада. За гэту паслугу ўсявышні яму дапаможа ад шчодрай рукі. Яму будзе шанцаваць там, куды ён толькі павернецца ва ўсіх яго справах. Вось які ліст дзед, святой памяці, напісаў яму і падпісаўся чотка поўным імем: „Нісан Шапіра“. А гэта было з дзедавага боку, каб ён мне прабачыў, найвялікшай памылкай, у чым вы далей самі пераканаецеся.

Тут каменец зноў спыніў сваё апавяданне: дастаў партабак, павольна скруціў папяроску, закурыў і смачна зацягнуўся, і раз і два і тры, зусім не звяртаючы ўвагі на тое, што слухачы напружаны да таго, што проста млеюць. Кожнаму да зарэзу хочацца ведаць як найхутчэй канцовачку гэтай забаўнай гісторыі. Калі каменскі жыхар крыху накурыўся і выкашляўся, ён добра высмаркаўся, закасаў рукавы і давай расказваць далей тым самым тонам:

— Можа падумаеце, мае мілыя браты, што гэты пёс над псамі

вельмі спалохаўся дзедаўскага ліста? Не туды трапілі! Не мінула і поўгода ці года, як ад гэтага вырадка прыбыла, будзьце ўпэўнены, новая пісаніна вось якога зместу:

„У першых радках хачу паведаміць, што мой хаўруснік немец, каб на яго немач, абшустаў мяне, абрабаваў з галавы да ног і выкінуў з хаўруса. Я думаў было падаць на яго ў суд, пачаць працэс. Аднак я раздумаў. Нічога з гэтага не будзе. Пачнеш валаводзіцца з прайдохай, дык пакуль з багатага пух, у цябе вылезе дух. Ён такі ошуст, што лепш да яго блізка не падыходзіць. Я пайшоў і наняў магазін, якраз супроць яго магазіна. Мае дзверы супроць яго дзвярэй. Я адкрываю свой уласны гандаль, таксама фаянсавы. Я, з божай дапамогай, гэтага немца ў магілу палажу. Ён у мяне будзе каменне грызці. Да гэтага патрэбна толькі адно: тое, што ў руках часам шастае, а часам звініць... Самае меншае тысяча крон. Таму і пагэтаму прашу выслаць...“ Кіўка канчае свой ліст, такімі далікатнымі словамі: „Калі не вышліце мне ў працягу васьмі дзён тысячу крон, я адашлю, кажа ён, ваш апошні ліст, падпісаны вамі ўласнаручна „Нісан Шапіра“, у губерню і раскажу ім усю вашу махінацыю падрабязна ад пачатку да канца: як мяне ў турме схапіла апаплексія, як я пасля гэтага на могільніку з мёртвых уваскрос, як балагула Шыман завёз мяне без перашкоды ў Броды, і як вы мне пасылалі некалькі разоў хапу ў лапу, каб заткнуць мне глотку. Усё я ім раскажу. Няхай ведаюць, што мы маем вялікага бога і што яшчэ жыве Кіўка“...

Як вам да спадобы такое алялюя? Як толькі дзед, светлы яму рай, прачытаў гэты ліст, яму адразу зрабілася дрэнна. Не палохайцеся. У яго, не пры вас кажучы, аднялася... Людцы, мы стаім? Дзе мы?

— Станцыя Баранавічы... Станцыя Баранавічы...

Так выкрыкваюць кандуктары, бягучы адзін за адным міма вакон нашага вагона.

Пачуўшы назву „Баранавічы“, наш пасажыр з Каменкі ўскочыў са свайго месца, схапіў свой клунак, нейкі мяшок, напханы бог ведае чым, пацягнуў яго з усіх сіл і накіраваўся да дзвярэй. Хвіліна—і ён ужо абедзвюма нагамі на платформе. Пацее і праціскваецца з мяшком між натоўпа, зазіраючы кожнаму ў твар:

— Баранавічы?

— Баранавічы!

— Баранавічы?

— Баранавічы!

Шмат хто з нашага вагона (і я таксама) гонімся за ім ззаду і хапаем за крысо капоты:

— Дзядзька! Нічога вам не паможа! Мы вас не адпусцім! Вы павінны нам сказаць—чым кончылася ваша гісторыя.

— Якое там кончылася? Гэта толькі пачатак! Адчапіцеся! Чаго вам ад мяне трэба? Каб я дзеля вас спазніўся ва цягнік? Дзіўныя людзі! Вы ж чуеце: Баранавічы! Станцыя Баранавічы!

І мы не паспелі азірнуцца, а ўжо каменца і след прастыў.

Згінь ты, прападзі, станцыя Баранавічы!

1909 *Канец гісторыі нумар тры.*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ЧАТЫРЫ

### Прынят

— Гэта глупства! Вось я вам раскажу лепшую гісторыю. Ёсць у нас адзін чалавек, нейкі Фінкельштэйн, пры грашах, пры вялікіх грашах. Мае ён двух сыноў. На мой дурны розум, каб у мяне былі яго грошы, я плюнуў-бы на ўсю гэту музыку. Колькі, думаеце, яму гэта справа каштавала? Дай бог нам абодвум зарабіць хоць палову гэтага!..

— Ну яго к чорту! Я гаварыў тое самае яшчэ летась. Вось пабачыце, сказаў я, што больш палавіны стануць выхрастамі.

— Тое самае і я кажу. Быў у нас нейкі Маршак. Ён аб'ездзіў усю Расію з канца ў канец. Нідзе не дапусцілі. Вось ён узяў ды атруціўся...

— Лепш няхай гэта будзе маною,—сказаў я. Вось пабачыце, што ўсе нашыя прымуць праваслаўе. Ніводнага яўрэя і на насенне не застанецца, ну яго к чорту!.. А дзе-ж ты дзенешся? Ці-ж можна перанесці ўсе гэтыя здзекі, працанты, цыркуляры? Што ні дзень, што ні дзень—новы цыркуляр! Колькі дзяцей яўрэйскіх—гэтулькі цыркуляраў. Вось пабачыце, сказаў я, дайграюцца да таго, што зусім спыняць прыём. Прыкладам можа служыць Шпола. Шпола—яўрэйскі горад? Праўда?

— А Неміраў? Вось у мяне ліст з Немірава. Адтуль мне пішуць вельмі прыкрыя навіны!..

— А ў Лубнах, думаеце, лепш?

— А што ў Лубнах?

— Ці, скажам, у Ананьеве. У Ананьеве кожны год прыймалі не менш чым трох яўрэяў.

— Навошта вам Ананьеў? Вазьміце лепш Тамашполь. У Тамашполі, кажуць, ніводнага яўрэя сёлета не прынялі, хоць-бы на лякарства!

— А ў нас сёлета прынялі восемнаццаць яўрэяў.

Гэта быў голас зверху.

Мае два субяседнікі (і я таксама) узнялі галовы ўгару, і паглядзелі на верхнюю паліцу. З верхняй паліцы звешваецца ўніз дзве нагі ў глыбокіх гумовых калошах. Гэтыя дзве нагі ў глыбокіх гумовых калошах нясуць на сябе яўрэя з чорнай калматай галавой з заспанай, азызлай фізіяноміяй.

Абодвы мае субяседнікі проста вачыма ядуць заспанага чалавека з азызлай фізіяноміяй. Нібы ўпершыню ўгледзілі новае стварэнне, нябачанае ў тутэйшых мясцінах. Абодвы яны раптоўна ачухаліся, узрадаваліся, і з бліскучымі прагнымі позіркамі запыталіся ў верхняга пасажыра:

— У вас, кажаце, прынялі восемнаццаць яўрэяў?

— Восемнаццаць штук, як дубы. Майго таксама.

— І вашага таксама прынялі?

— Яшчэ як прынялі!

— Дзе? Дзе?

— У нас-жа, у Малых Перашчэпенях.

— У якіх Перашчэпенях? Дзе-ж яны, гэтыя Перашчэпені?

Абодвы ўскочылі з месц, таропяцца адзін у аднаго, і разам— на пасажыра з верхняй паліцы. Пасажыр з верхняй паліцы з азызлым тварам паглядае на іх уніз:

— Малых Перашчэпін не чулі? Мястэчка такое ёсць. Ці-ж вы не ведаеце? Ёсць два Перашчэпені: Вялікія Перашчэпені і Малыя Перашчэпені. Я з Малых Перашчэпін.

— Калі так, дык дзеньдобры вам! Палязайце сюды ўніз. Чаго сядзіцё там адзін адным пад самым небам?

Уладар двух ног у глыбокіх гумовых калошах, стогнучы злазіць да двух пасажыраў уніз. А гэтыя два рассоўваюцца, даюць месца трэцяму і накідваюцца на яго, як галодная саранча.

— Вашага, значыць, прынялі?

— Яшчэ як прынялі!

— Скажыце, дарагі прыяцель, як-жа гэта. У вас, мабыць, памагаюць хабары?

— Хабары? Ні за што якое! І ўспомніць аб гэтым нельга. Справа ў тым, што раней грошы былі ў нас якраз у модзе. А яшчэ якія грошы! О-го-го! Прыязджалі да нас з усіх гарадоў навакол. Ведалі ўжо, што Перашчэпені такое месца, дзе бяруць. Але вось ужо каля двух год, з таго часу як быў данос—на маё шчасце— перасталі ў нас браць грошы.

— А як-жа? Пратэкцыя?

— Якая пратэкцыя? Яны ўмовіліся між сабой раз назаўсёды, калі яўрэй, дык—прымаць! Прымаць і ніякіх!

— Вы сур'ёзна? Што вы кажаце? Вы, мабыць, жартуеце з нас?

— Жартую? Я?! Жартаўніка знайшлі!

Усе трое пераглядваюцца, нібы кожны з іх хоча прачытаць, што на тварах суседзей напісана. А таму, што на іх тварах нічога не напісана, тыя двое зноў дапытваюць трэцяга:

— Пачакайце! Як вы сказалі? Адкуль вы самі?

Трэці крыху крыўдзіцца:

— З Перашчэпін, сказаў я вам ужо тры разы—з Малых Перашчэпін.

— Прабачайце. Упершыню чуем пра такі горад.

— Ха-ха-ха! Перашчэпені горад. Такі горад—раз зяўнуць і глынуць. Перашчэпені не горад, а гарадок. Бадай што вёска... мястэчка!

— А ўсё-ж ткі, кажаце, што там ёсць у вас... Як завецца яно—ваша мястэчка. Пер... Пера...

Чалавек з Малых Перашчэпін цяпер ужо ўвайшоў у вялікую злосць.

— Дзіўныя людзі. Слова гэтага прагаварыць не можаце, ці што? Пе-ра-шчэ-пе-ні! Пе-ра-шчэ-пе-ні!

— Ну, добра, добра! Перашчэпені дык Перашчэпені. А навошта яшчэ так злавацца?

— Я зусім не злуюся. Але я не люблю, калі ў мяне адно і тое самае перапытваюцца дзевяноста дзевяць разоў.

— Прабачайце. У нас тая самая хвароба, што і ў вас. Мы пачулі, ад вас, што вашага прынялі, дык гэта нас, што называецца,

узяло за жывое. Таму мы вас так распытваем. Скажам вам шчырую праўду: мы-б ніколі і не падумалі, што ў вас, як яно, у Перапера-шчэпенях ёсць гімназія.

Перашчэпенскі яўрэй вылупіў на іх вочы і злосна накасавурыўся:

— Хто гэта вам сказаў, што ў нас у Перашчэпенях ёсць гімназія?

Тыя два пасажыры ў сваю чаргу касавурацца на трэцяга:

— Вы-ж гаворыце, што вашага прынялі якраз у Перашчэпенях.

Перашчэпенец пазірае на іх па-разбойніцку. Узнімаецца з месца і крычыць ім у самы твар:

— У салдаты яго прынялі! У салдаты! У салдаты!

---

Ужо зусім развіднелася. Праз вокны пракрадваецца сіне шэрае святло. Пасажыры пакрысе прачынаюцца. Хто пацягваецца. Хто пракашляваецца. А хто ўжо бярэ лахі пад пахі ды рыхтуецца ў дарогу.

Нашы тры пасажыры спынілі гутарку. Іх прыязнь скончылася. Адзін адвярнуўся ў куток і ціханька закурыў папіросіну. Другі разгарнуў маленькі малітвеннік і пачаў маліцца. Адно вока прыжмурыўшы, ён ціха чытаў. Трэці, злосны, з Малых Перашчэпін, прыняўся за снеданне.

Можна было заўважыць, як гэтыя трое раптам зрабіліся чужымі між сабою. Яны не толькі не гавораць між сабою, але нават адзін на аднаго не глядзяць. Нібы ўсе яны разам учынілі нешта нейкае паскуднае, прымалі ўдзел у нейкай брыдкай справе.

*Канец гісторыі нумар чатыры.*

1909 г.

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ПЯТЫ

### Чалавек з Буэнос-Айрэса

Ездзіць чыгункай зусім не так нудна, як некаторыя думаюць. Абы натрапіць на добрую кампанію. Часам здараецца вам ехаць з купцом, ці наогул з камерцыйным чалавекам. Тады і не агледзіцеся, як праходзіць час. А бывае, што перад вамі не купец, а проста бывалы чалавек, разумны, прайдзісвет, „пракураная люлька“, што ўсю зямлю ведае, як свае пяць пальцаў. З такім чалавекам спадарожнічаць—адна асалода. Ад яго што кольвечы і табе перападзе. А часам бог прысылае табе наогул прыемнага чалавека, жывога і вясёлага балакіра. Ён гаворыць, гаворыць і гаворыць. Рот у яго не закрываецца ні на хвіліну. І толькі аб сабе, і толькі аб сабе.

Вось якраз з такой асобай мне аднаго разу прышлося праехаць не малы кавалак падарожжа.

Наша знаёмства пачалося з таго, з чаго заўсёды пачынаецца знаёмства ў вагоне—з дробязі: „Ці не ведаеце, як завецца гэта станцыя?“ альбо: „Колькі цяпер часу?“ альбо: „Ці маеце запалку?“

Але хутка, з аднаго маху, мы зрабіліся з ім за панібрата. Нібы мы з ім былі знаёмы ўжо нямаведама з якіх часоў. На першай станцыі, дзе мы спыніліся на некалькі хвілін, ён ужо мяне падхапіў пад руку, падвёў да буфета, і, не пытаючыся, п'ю ці не, загадаў наліць дзве чаркі каньяку. Зараз-жа пасля гэтага ён міргнуў да мяне, каб я ўзброіўся відкай. А калі мы пакончылі з рознага гатунку вострымі закускамі, якія звычайна бываюць у буфеце, ён загадаў падаць два куфлі піва. Дастаў сабе цыгару, мне цыгару. Мы закурылі—і наша дружба была канчаткова замацавана.

— Я павінен вам сказаць шчыра, без кампліментаў,—звярнуўся да мяне мой новы знаёмы, калі мы ўжо сядзелі ў вагоне,—вы мне падабаецеся. Паверыце мне ці не? З першай-жа хвіліны. калі пабачыў вас. Як толькі зірнуў на вас, я сабе падумаў: „вось чалавек, з якім можна будзе перакінуцца слоўцам". Цярпець не магу, бачыце, сядзець, як пудзіла, ды маўчаць. Я люблю пазюзюкаць з жывым чалавекам. Якраз таму я і ўзяў білет трэцяга класа, каб мець з кім ад душы паталкаваць. А звычайна езджу другім класам. А першым класам, думаеце, не здолею? Здолею і першым класам. Мо' падазраецё, што выхваляюся перад вамі? Наце, зірніце.

І з гэтымі словамі мой абаяльны знаёмец выхватвае з задняй кішэні штаноў і расчыняе партманэ, напханы грашмі, ляскае па ім зверху далонню, нібы па мяккай падушцы, і зноў хавае на ранейшае месца.

— Можаце не беспакоіцца, яшчэ тое сёе знойдзецца.

Я аглядаю яго твар і ні за якія каўрыжкі не магу вызначыць колькі яму год. Можна яму даць каля сарака, і можна даць—дваццаць з гакам. Фізіяномія гладкая і круглая, крыху праз меру загарэлая. Без аніякіх слядоў барады і вусоў. Вочкі—дробныя, масляныя і смехатлівыя. А сам ён таксама дробненькі, кругленькі, жвавенькі. Апрануты ён зверху данізу ва ўсё чысцютка-новенькае. У маім гусце: беласнежная кашуля з залатымі запанкамі. Пышны плястронавы галстух з шыкознай шпількай. Новы элегантны сіні гарнітур з дабротнага ангельскага шэвіёта. Лакіраваныя бацінкі—дасканалыя бацінкі. Тоўсты залаты персцень з брыльянтам, які зіхаціцца на сонцы ў тысячу колераў (персцень, калі ён толькі не фальшывы, павінен каштаваць не менш за чатырыста-пяцьсот рублёў, калі не больш).

Апранацца па-людску—гэта, як мне здаецца, самае галоўнае ў чалавека. Я сам люблю апранацца па-людску, і люблю, калі і другія добра апрануты. Па вопратцы я пазнаю, хто прыстойны чалавек, а хто не. Ёсць, праўда, такія людзі, якія даводзяць вам, што вопратка не доказ прыстойнасці. Зверху, кажуць яны, шоўк і золата блішчыць, а знізу чартоўскі хвост тырчыць. А я скажу: „Прыбяры пня—і пень прыгожы!" Я ў вас шчыра запытаюся. Адкажыце мне вось на што: чаму-ж гэта стараецца хораша апранацца ўвесь свет? Чаму-ж гэта адзін апранаецца ў такую тройку, а другі ў гэткі касцюм. Чаму-ж гэта адзін купляе сабе „галстух-дыпламат", атласны, гладкі, бірузова-зялёнага колеру, а другі шу-

кае абавязкова „рэгат“, толькі чырвоны і толькі з белымі крапінкамі?

Я мог-бы вам прывесці яшчэ поўны мяшок такіх прыкладаў, але мне здаецца, што гэта будзе залішне. Шкада часу. Лепш вернемся да майго новага знаёмага і паслухаем, што ён нам раскажа.

— Так, так, мілы прыяцель. Як бачыце, магу сабе дазволіць нават першы клас. Думаеце, што я грошы шкадую? Грошы—пясок і трава. Аднак—вы мне паверыце, ці не?—я люблю трэці клас. Бо я сам чалавек просты і люблю простых людзей. Я, бачыце, дэмакрат. Сваю кар'еру я пачаў дробненькім чалавекам, зусім-зусім малюсенькім. Вось гэткім во! (мой новы знаёмы паказвае мне рукой нізка над падлогай, якім дробненькім ён быў, калі пачаў сваю кар'еру). Я рос вышэй і вышэй (мой новы знаёмы паказвае мне рукой угару, да столі, як высока ён рос). Не адразу, канешне. Не спяшайцеся. А марудненька, памаленечку. Па кропельцы. Па кропельцы.

Спачатку быў я „чалавекам“ у другіх. Не хаханькі сказаць „чалавекам“! Ха-ха-ха! Пакуль я дабраўся да такой высокай ступені, каб стаць „чалавекам“—шмат-шмат вады пацякло! Чуеце? Калі часам падумаю, як я жыў у маленстве, дык у мяне,—вы мне паверыце, ці не?—у мяне валасы дыбам становяцца! Не магу ўспамінаць і не хачу ўспамінаць пра той час. Мо' думаеце, што сорамна мне, што гонар мне не дазваляе? Наадварот! Сустрэчнаму-папярэчнаму гавару, хто я. Калі ў мяне запытваюцца: адкуль вы?—Я не саромлюся ды і кажу, што я родам з вялікага сусветнага горада—з Сошмакена. Ведаеце, дзе ён знаходзіцца гэты вялікі стольны град Сошмакен? У Курляндыі! Там ёсць такое мястэчка, недалёка ад Мітавы, дык завецца яно С о ш м а к е н. Гарадок гэты такі аграмадны, што, пры сваім цяперашнім становішчы, я мог-бы яго адкупіць з усімі яго патрахамі. Зусім магчыма, што гарадок за гэты час змяніўся, вырас—вось гэтага не магу вам сказаць. Але ў тыя старыя годы ў гэтым знамянітым Сошмакене—вы мне паверыце, ці не?—быў толькі адзін адзінюткі апельсін, які перадаваўся з рук у рукі, ад адной гаспадыні да другой, як аздоба на стале пры частаванні гасцей у суботу пасля абеда.

Вось у гэтым Сошмакене я нарадзіўся. Гадаваўся там на гучных аплявухах, сухіх тумаках, здаравенных штурханцах, на чырвоных іскрах з вачэй, сіняках на целе. Жывот у мяне вечна быў зведзены з голаду. Нічога, чуеце, так не асталося ў маёй памяці, як гэты пракляты голад. Галодным я нарадзіўся на божы свет, і голаду я нацярпеўся з тых часоў, як сябе памятаю. Голад, крыўду-галечу і страшэнную нудзьгу... Пачакайце!.. Жывіца... Вы ведаеце, што гэта за яна жывіца? Расце яна на дрэвах, а музыканты гэта ўжываюць замест каніфолі. Вось гэтай самай жывіцай я харчаваўся—вы мне паверыце, ці не?—бадай усенькае лета. Гэта было тое самае лета, калі мой вотчым, курносы краўчук, вывіхнуў мне руку і выгнаў з матчынай хаты. Я тады ўцёк з Сошмакена ў Мітаву. Вось гэту самую руку, бачыце? На ёй напэўна астаўся след і на сёнешні дзень.

І мой новы знаёмы закасвае рукаво і паказвае мне мяккую здаровую пухкую руку, пасля чаго апавядае далей:

— Блукаўся я ў Мітаве галодны, абшарпаны, босы. Доўгі час праваляўся на ўсіх сметніках, пакуль, дзякаваць богу, дастаў урэшце службу. Першую маю службу. Я наняўся павадыром старога кантара. Кантар быў недзе, калісьці, вельмі знакамітым. На старасці ён аслеп на абодва вочы і вымушан быў пабірацца па хатах. Вось я і стаў у яго павадыром. Служба сама па сабе была даволі гультайская, лёгкая, але трэба было наядацца жалезнага бобу, каб перанесці капрызы старога кантара. Ніколі, чуеце, ён не быў мною задаволены. Ніколі. Ён вечна бурчэў, шчыпаўся, кавалкі мяса ў мяне з цела вырываў. Ён усё скардзіўся, што я ваджу яго не туды, куды трэба. Куды, хацелася яму, каб я вадзіў яго—не ведаю і па сёнешні дзень. Вельмі капрызны быў кантар! У дадатак ён яшчэ распаўсюджваў аба мне неўміручую славу. Ён выхваляўся перад усімі,—вы мне паверыце, ці не?—што мае бацькі нібыта хрысціліся і мяне таксама хацелі ахрысціць, але ён з вялікімі цяжкасцямі і пакутамі вырваў мяне з іхніх рук. Мне часта прыходзілася выслухваць такія байкі і стрымліваццa, каб не лопнуць са смеху! Яшчэ горш! Ён нават вымагаў ад мяне, каб я пры гэтым корчыў кіслыя богабаязныя міны.

Коратка кажучы, я ўбачыў, што век-векаваць з кантарам мне не зручна. Я адкарэскаўся ад сваёй „службы" і пусціўся пехатой з Мітавы ў Лібаву. Ладны кавалак часу я швендаўся галодны па Лібаве, пакуль выпадкова не натрапіў на цэлую халястру галодных эмігрантаў. Эміграты збіраліся паехаць параходам кудысьці далёка, аж у Буэнос-Айрэс. Я пачаў упрошваць іх, каб яны мяне ўзялі ў Буэнос-Айрэс. Дзе там? Немагчымая рэч. Гэта, кажуць яны, не залежыць ад іх. Гэта залежыць ад камітэта. Як скажа камітэт. Я пайшоў у камітэт. Плакаў, маліў, прасіў. Ледзь упрасіў іх, каб і мяне выправілі ў Буэнос-Айрэс.

Ліха яго ведае, што за горад Буэнос-Айрэс? Што там за людзі, і дзе ён знаходзіцца—гэты Буэнос-Айрэс? Усе туды едуць, дык і я еду. Ужо, калі прыехаў у Буэнос Айрэс, я дазнаўся, што едзем, уласна кажучы, далей, і што Буэнос-Айрэс ні больш, ні менш, як этапны пункт, адкуль нас разашлюць у розныя мясціны. Так яно і сапраўды было. Толькі паспелі мы прыехаць у Буэнос-Айрэс, як нас усіх перапісалі і паасобна разаслалі ў такія бязлюдныя месцы, дзе наш прабацька Адам, безумоўна, нават у сне не быў. Нас прыставілі да работы. Вас пэўна цікавіць, да якой работы? Лепш і не пытайцеся! Нашы дзіда-дзеды ў Егіпце напэўна не рабілі таго, што мы рабілі. А пакуты, што яны выцярпелі як нам баяць байкі ў „Агадзе"*, не складаюць нават дзесятай долі, чуеце, таго, што нам прыходзілася выцярпець. Кажуць, што нашы дзяды мясілі гліну, рабілі цэглу і будавалі „Пісом" і „Рамсес". Падумаеш, страхоцце якое. А каб яны спрабавалі, як мы, абрабляць голымі рукамі бяскрайнія, дзікія стэпы, абросшыя калючымі хмыз-

* Агада—кніга, у якой апавядаецца пра легендарны выхад ізраільцаў з Егіпта.

мякамі, мець справу з аграмаднымі дзікімі буйваламі, што адным рухам могуць стаптаць чалавека, з дзікімі мустангамі, за якімі прыходзілася гнацца сотні міль з арканам, пакуль іх зловіш, хоць адзін раз паспытаць ім укусы начных маскітаў, якія вырываюць у цябе кавалкі мяса, пакаштавалі-б старых сухароў, маючых смак каменняў, альбо жывых чарвякоў у заплеснявелай вадзе,—сказалі-б яны тады, што праца ў Егіпце была раем. Аднаго разу—вы мне паверыце, ці не?—я зірнуў у рэчку і ўгледзеў свой уласны воблік, дык самога сябе спужаўся. Уся скура аблуплена. Вочы набухлі. Рукі—у верадах. Ногі акрываўленыя. Зверхуданізу аброс я валасамі.

— Гэта ты? Мотка з Сошмакена?! Так я запытаўся ў самога сябе і зарагатаў. У той-жа дзень я плюнуў на буйвалаў, на дзікіх коней, на пустыя стэпы з чарвівай вадой і мой Мотка даў лататы назад у Буэнос-Айрэс.

— Але я мяркую, што на станцыі, дзе мы цяпер стаім, павінен быць не кепскі буфет. Зірнеце ў даведнік. Ці не знаходзіце, што нам пара ўжо чым-колечы пасілкавацца? Між іншым перакусім і набярэмся сілы расказваць далей.

Перакусіўшы як належыць, мы запілі півам, зноў задымілі па цыгары—па слаўнай, араматнай, сапраўднай гавайскай цыгары з Буэнос-Айрэса—і зноў селі ў вагоне на свае ранейшыя месцы, і мой новы знаёмы з Буэнос-Айрэса працягваў сваю гісторыю далей:

— Буэнос-Айрэс—гэта такі куток, чуеце, што з таго часу, як бог гаспод стварыў свет... Пачакайце! Вы былі хоць раз у Амерыцы? У Нью-Ерку? Ніколі? А ў Лондане? Не? У Мадрыдзе? Канстантынопалі? Парыжы? Таксама не? Ну, дык мне цяжка вам абмаляваць, што такое Буэнос-Айрэс. Магу вам толькі адно сказаць, што гэта—процьма. Пекла. Пекла і рай. Гэта значыць, каму—пекла, каму—рай. Не трэба толькі спаць у шапку, а лавіць трапны момант, тады можна набыць багацце. Там золата—вы мне верыце, ці не?—валяецца на вуліцах. Вы ходзіце, ступаеце па золаце. Нагніцеся, працягніце руку і бярыце колькі ўлезе. Толькі асцерагайцеся, каб вас пры гэтым не затапталі нагамі. Галоўнае—не спыняцца, не вароніць, не разважаць: што прыстойна, а што непрыстойна? Усё прыстойна. Быць швейцарам у рэстаране—добра. Пасыльным у магазіне—добра. Мыць бутэлькі ў шынку—добра. Падпіхваць вазок—добра. Імчацца па вуліцах і выкрыкваць газетныя навіны—добра. Мыць сабак—добра. Карміць катоў—добра. Лавіць мышэй—добра. Лупіць з іх скуркі—таксама добра. Адным словам—усё добра, і ўсё гэта я выпрабаваў і ўсюды прыходзіў к аднаму, бачыце, вываду: працаваць на другіх—прыдатна толькі для сабак. У тысячу разоў лепш, калі другі працуе на мяне. Што-ж ты зробіш, калі бог ужо так раз назаўсёды пабудаваў свет, што адзін абліваецца потам і варыць піва, а я з прыемнасцю яго п'ю. Другі абліваецца потам і круціць цыгары, а я з прыемнасцю іх куру. Няхай машыніст цягніка вядзе паравоз, няхай качагар нясе вугалле, няхай змазчык мажа колы, а я з вамі, чуеце, будзем во з прыемнасцю сядзець у вагоне і расказваць гісторыі. Ім гэта не падабаецца? Няхай сабе ідуць ды нанава пераробяць свет.

Я гляджу на свайго субяседніка і думаю: Хто-ж ён такі, гэты ягомасць? Узбагацелы прадавец семячак? Былы кравец, які мае цяпер у Амерыцы магазін гатовай вопраткі? А можа ён якраз фабрыкант? Альбо домаўласнік? Ці можа так сабе чалавек з вялікім капіталам, які жыве процантамі? Але не будзем яму перашкаджаць. Хай лепш сам пра гэта раскажа.

— Як бачыце, свет у нас і разумны, і прыгожы, і мілы. Вельмі прыемна жыць на такім цікавым свеце! Трэба толькі пільна сачыць за тым, каб ніхто не пляваў у тваю кашу. Я кідаўся, бачыце, як рыба аб лёд, ва ўсе бакі. Маліўся, як кажуць, усім багам. Ніякая праца для мяне не была непрыстойнай і цяжкай. Ніякіх заняткаў я не саромеўся. Калі хочаце ведаць, дык непрыстойных заняткаў на свеце наогул не існуе. Усе заняткі добрыя і прыстойныя. Абы толькі чэсна сябе весці, абы толькі каб чэснае слова тваё было сапраўды чэсным словам. Я гэта ведаю са свайго ўласнага жыцця. Я, чуеце, не стану выхваляцца перад вамі, што я—знакаміты рабін з Лемберга. Аднак можаце мне паверыць на слова гонару, што я не злодзей. Ды ўжо напэўна і не разбойнік. Каб мне такая шчаслівая і чэсная доля, чуеце, як я чэсна вяду свае справы. Вяду свой гандаль надзвычай шчыра. Нікога не абманваю. Прадаю тое, што маю. Арэхі на бярозе ў мяне не растуць. Словам, хочаце ведаць—хто я такі? Я не больш, як ліферант—пастаўшчык, альбо як у вас называецца „падрадчык". Я дастаўляю свету тавар. Тавар, пра які ўсе ведаюць, толькі ніхто пра яго не гаворыць... Чаму? Таму, што свет ужо занадта разумны свет, а людзі ўжо праз меру спрытныя. Не любяць, калі чорнае называюць чорным, а белае—белым. Яны куды больш любяць наадварот: калі чорнае называюць белым, а белае—чорным... Ну, што-ж вы з імі зробіце?..

Паглядаю на чалавека з Буэнос-Айрэса і думаю сабе: „Божанька мілы! Што гэта за чалавек? Які-ж гэта неабходны тавар пастаўляе ён свету—вось гэты „падрадчык"? А што гэта ў яго за такія дзівосныя выразы: „белае—чорнае, чорнае—белае?" Перапыніць яго і проста запытацца: „Дзядзька, чым вы гандлюеце?"—неяк няёмка. Няхай лепш сам расказвае—можа і пра гэта скажа.

— Словам, на чым-жа мы спыніліся? На маіх цяперашніх справах у Буэнос-Айрэсе. Мае справы, уласна кажучы, знаходзяцца не ў Буэнос-Айрэсе. Мае справы, калі хочаце ведаць, знаходзяцца паўсюды, на ўсім свеце: у Парыжы, у Лондане, у Будапешце, у Канстантынопалі, у Бастоне. Толькі галоўная кантора, галоўнае бюро, знаходзіцца ў Буэнос-Айрэсе. Шкада, што мы цяпер не ў Буэнос-Айрэсе. Я павёў бы вас у сваё бюро, паказаў-бы вам кантору, „людзей", якія там працуюць. У мяне „людзі" жывуць— вы мне паверыце, ці не?—як сапраўдныя Ротшыльды. Восем гадзін у дзень—больш ні хвіліны, ніхто не працуе. „Чалавека" я лічу сапраўдным чалавекам. Ведаеце, чаму? Бо я раней сам быў „чалавекам". Якраз у маіх цяперашніх кампаньёнаў. Нас цяпер тры кампаньёны. Раней было толькі два. Я ў іх быў „чалавекам". Я ў іх быў „правай рукой". Усе справы, можна сказаць, былі ўзва-

лены на мяне. Пакупка тавара, продаж тавара, ацэнка тавара, сартыроўка тавара—усё гэта было ў маіх руках. У мяне вока—вы мне паверыце, ці не?—калі толькі кіну вокам на тавар, дык зараз-жа скажу, колькі ён варты і куды яго трэба накіраваць... Але гэта яшчэ не ўсё. Аднаго вока ў нашай справе мала. Яшчэ трэба, бачыце, мець і нос, добры, тонкі нюх... За мілю трэба ўмець лавіць нюхам, дзе што ляжыць. Трэба ўмець адчуваць, дзе можна выгадна справу наладзіць, і дзе можна карак зламаць, дый яшчэ залезці ў балота, бачыце, па вушы, каб потым чухацца ды не адчухвацца... Замнога ўжо „добрачынцаў“, бачыце, ёсць на свеце. Замнога вачэй таропяцца на нашу справу—а нашай справе якраз шкодзіць злое вока, ха-ха!.. Адзін неасцярожны крок, дык пасля ў дзесяці водах не абмыешся... Адразу ўзнімаецца гу-га, лямант, пачканіна ў газетах. Газетам, дык больш і не трэба. Газеты проста ажываюць, ім ёсць аб чым трызвоніць. Яны раскладваюць справу на сямідзесяці сямі талерачках, раздзьмухваюць небяспечны агонь і ставяць на ногі ўсю паліцыю... Хаця—павінен вам сказаць па сакрэту—паліцыя ўсяго свету ў нас, ха-ха, вось тут у кішэні... Калі-б назваць вам, напрыклад, толькі тую суму, у якую абыходзіцца нам у год адна толькі паліцыя, дык вы спалохаліся-б... У нас—вы мне паверыце, ці не?—лапоўка ў дзесяць тысяч, пятнаццаць тысяч, дваццаць тысяч—адно „цьфу“!

Пры гэтых словах мой субяседнік махнуў рукой так, як чалавек, які шпурляецца тысячамі, нібы шкарлупінкамі ад арэхаў. Пры гэтым зіхацеўся ў паветры яго брыльянтавы пярсцень. Чалавек з Буэнос-Айрэса на хвіліну змоўк, паглядзеў, якое ўражанне ён на мяне зрабіў сваімі тысячамі і пачаў расказваць далей:

— А калі прыходзіцца часам даць больш, думаеце, што мы доўга валаводы валаводзім? У гэтым мы цалкам давяраем адзін аднаму. Маю на ўвазе якраз саміх сябе, усіх нашых трох кампаньёнаў. Колькі тысяч мы не вырасходвалі-б на хабары паліцыі—верым адзін аднаму на слова... Усе выдаткі ідуць у нас на слова гонару. Адзін ад аднаго не ўтоіць, бачыце, ні на столечкі... Наадварот, няхай хто-небудзь толькі спрабуе ўтоіць,—дык яму мала не будзе, дзесятаму закажа... Мы, бачыце, добра ведаем адзін аднаго, добра ведаем цэны. Перад намі ўвесь свет празрысты, як шкло—ніякіх таямніц! Кожны з нас паўсюды мае сваіх агентаў і сваіх шпіёнаў... А вы што думаеце? У такой справе, што вядзецца выключна на веру, без такіх строгасцей ніяк нельга...

— А ці не знаходзіце, што было-б лепш чым добра, каб на гэтай станцыі прапаласкаць горла?—звяртаецца да мяне мой субяседнік, бярэ мяне за руку і зазірае ў самыя вочы.

Само сабой зразумела, што я супроць гэтага нічога не маю. Мы саскакваем на станцыю і прапаласкваем горла. Адна за адной хлопаюць бутэлькі ліманаду, і мой лаўкач п'е з такой прагнасцю, што зайздрасць бярэ. Але ўвесь час мае мазгі драпае адна неадчэпная думка: „Таварам якога гатунку вядзе гандаль гэты чалавек

з Буэнос-Айрэса? Чаму ён так шпурляецца тысячамі? І як гэта паліцыя ўсяго свету ляжыць у яго кішэні? І навошта ім агенты і шпіёны?.. Ці не гандлюе ён кантрабандай? Фальшывымі брыльянтамі?.. Крадзенымі таварамі?.. А мо' ён проста заядлы лапатун, бразджотка і хвалько, з таго гатунку брахуноў, у якіх усё пад языком неспадзявана буйна разрастаецца ў шырку і ў доўжку?.. Да нас, комівояжораў, калі часам прыклеіцца такі фокус-покуснік, павялічальнік, дык маем для яго сваю ўласную мянушку... „ангросіст". Гэта значыць, чалавек, што ўсё ў яго „Ан-гро"—оптам... На простай мове гэта завецца: хлуслівы чалавек, які ў сабакі вочы пазычае... Мы зноў закурываем цыгары, займаем свае месцы, і чалавек з Буэнос-Айрэса сыпле далей:

— Дзе-ж мы, на цікавасць, спыніліся? У маіх кампаньёнаў. Гэта значыць, у маіх цяперашніх кампаньёнаў. Раней яны былі маімі гаспадарамі, а я быў, як ужо гаварыў вам, іхнім „чалавекам". Не буду на іх плётак плясці, што яны былі благімі гаспадарамі. Як-жа маглі яны быць да мяне благімі, калі я служыў ім аддана, як сабака? Іхні цэнт, чуеце, быў у мяне не менш каштоўны за свой уласны. А ворагаў я сабе набыў, дзякуючы ім,—смяртэльных ворагаў! Бывала так,—вы мне паверыце, ці не?—што мяне за маю адданасць атруціць хацелі. Ну проста смяротнай атрутай атруціць... Магу пахваліцца, чуеце, што я ім служыў так чэсна, што часней і быць не можа. Праўда, я не забываў і самога сябе... Чалавек ніколі не павінен забываць самога сябе. Чалавеку трэба памятаць, што ён толькі чалавек. Сягоння ён жыве, а заўтра?.. Ха-ха! Вечна служыць камусьці—работа для адпетых дурняў. Што я—бязрукі? бязногі? без языка?.. Апрача таго я яшчэ ведаў, што без мяне яны не абыйдуцца і аднаго дня. Яны гэтага не могуць ды не адважацца... Бо ёсць у нашай справе сакрэты, чуеце, сакрэты над сакрэтамі... Як у любой справе... Вось я аднаго разу, чуеце, і наважыўся. Заходжу я ў адзін прыгожы дзянёк да сваіх гаспадароў і кажу ім: „Ад'ю, мае паночкі!" Дзівяцца яны: „Што значыць ад'ю?" „Ад'ю, кажу, значыць: бывайце здаровы". „У чым справа?"—пытаюцца яны. „Дакуль—кажу—мне служыць"... Яны пераглянуліся між сабой і запыталіся ў мяне: „Колькі ў вас капіталу?" „Колькі-б не меў, кажу, на пачатак хопіць, кажу. А калі, кажу, будзе мала, дык бяда не вялікая. Бог, кажу, добры бацька, а Буэнос-Айрэс—добры горад..."

Яны адразу ўцямілі... Чаму ім не ўцяміць—мазгі ў іх высахлі, ці што? Дык вось, якім чынам мы з таго часу сталі хаўруснікамі. Тры хаўруснікі, тры гаспадары на роўных правах. У нас няма—аднаму больш, аднаму менш. Што бог дае—пароўна. Сварыцца не сварымся. Навошта сварыцца, калі зарабляць зарабляем, дзякаваць богу, даволі прыстойна, а справа з кожным днём расце... Свет таксама расце і тавар з кожным разам даражэе... Кожны з нас бярэ з агульнага катла, колькі яму трэба на выдаткі. Кожны з нас мае вялікія выдаткі. У мяне самога, хоць няма ў мяне ні жонкі, ні дзяцей, расходуецца—вы мне паверыце, ці не?—утройчы, чым у іншага з жонкай ды з дзецьмі. А колькі я ахвяроўваю год-у-год на адны дабрачынныя справы, дык іншыя маглі-б сабе пажадаць

гэтулькі зарабляць у год. Няма, чуеце, ніводнай грамадскай справы, якая-б мне не каштавала грошай. На ўсё даю шчодра: сінагогі, шпіталі, эміграцкая каса, канцэрты. Буэнос-Айрэс, дзякаваць богу, вялікі горад! А дзе яшчэ і іншыя гарады? Палестына—вы мне паверыце, ці не?—мне ўжо таксама немалыя грошы каштуе. Зусім нядаўна я атрымаў ліст з нейкага ерусалімскага ешыбота*. Прыгожы ліст, з намаляваным шчытам Давіда, за пячаткай і подпісамі рабінаў. Ліст напісаны непасрэдна мне, а тытул такі далікатны „Нашаму славутаму багачу-дабрачынцу рэб Мордуху...“ Э-э-э!—думаю.—Калі яны, ерусалімскія рабіны, такія прыстойныя людзі і велічаюць ды іменуюць мяне як след, нельга быць свіннёй. Трэба пасляць ім соценьку...

Гэта, канешне, выпадковыя дабрачыннасці. А дзе ўжо мой родны горад? Сошмакен? Сошмакен бярэ ў мяне—вы мне паверыце, ці не?—год у-год вось такі чамадан грошай! Кожны раз атрымліваю з Сошмакена лісты з рознастайным горам і з адной і той-самай просьбай—грошы. То на такую бяду, то на гэткае ліхалецце... Пра сродкі для бедных на мацу няма чаго і казаць. На кожную пасху—сотня! Гэта ўжо ў мяне „закон“... Вось еду цяпер у Сошмакен... Я наперад ведаю, што не адбуду паездку і цэлай тысячай. Ды што я кажу—тысячу? Дай бог, каб хапіла дзве. А то пойдуць усе тры... Жартачкі, чалавек не быў дома гэтулькі часу! З самага маленства, ха-ха! А Сошмакен—мая-ж радзіма! Раней ведаю, што ўвесь горад з радасці аж закіпіць. Збяруцца людзі. Гэта-ж ім усім вялікі гонар: „Мотак прыехаў! Наш Мотак з Буэнос-Айрэса!..“ Урачыстасць! Вялікая ўрачыстасць... Паверце мне, што там чакаюць мяне, як збаўцу, як Месыяша. Там ужо праз меру бедны народ жыве. З кожнай станцыі паведамляю, што еду. Кожны дзень пасылаю ім дэпешу: „Прыязджаю, Мотак“. Я сам—вы мне паверыце, ці не?—хацеў-бы як найхутчэй прыехаць у Сошмакен. Паглядзець уласнымі вачыма на Сошмакен, пацалаваць сошмакенскую зямлю, сошмакенскі пясок. Згінь ты, прападзі, Буэнос-Айрэс! Няхай ліха возьме Нью-Ёрк! Да ўсіх чарцей няхай ідзе Лондан! Няхай скрозь зямлю праваліцца Парыж! Ха-ха! Бо Сошмакен—мая бацькаўшчына!..

Твар майго субяседніка змяніўся пры гэтых апошніх словах. Зусім іншы выгляд. Як-бы памаладзеў чалавек. Памаладзеў і папрыгажэў. А дробныя масляныя вочкі яго набылі зусім іншы бляск—новы бляск радасці, гонару і замілавання, шчырага, не штучнага замілавання... Аднаго шкадую: яшчэ да гэтага часу я не ведаю, чым ён займаецца...

Але ён не дае мне доўга думаць і рэжа далей:

— Вы ведаеце, чаго, уласна кажучы, еду ў Сошмакен? Папершае, сумую па гэтым горадзе. Па-другое, хочацца паглядзець магілкі бацькоў. У мяне-ж у Сошмакене на святым месцы бацька і маці, браты і сёстры—уся сям'я. Апрача таго я задумаў ажаніцца. Дакуль-жа быць кавалерам? А жонку мець хачу абавязкова з Сошмакена. З майго роднага горада. З маёй раўні. З майго

* Ешыбот—яўрэйская духоўная семінарыя.

роду-племені. Аб гэтым я ўжо вёў перапіску са сваімі прыяцелямі з Сошмакена. Я іх прасіў, каб яны нагледзілі для мяне нешта накшталт таго, разумееце, паводле майго густу... Яны пішуць, каб я толькі ў шчаслівую гадзіну прыехаў. Тады само сабой знойдзецца паводле майго густу... Вось які я!.. Прапанавалі мне ў Буэнос-Айрэсе—вы мне паверыце, ці не?—знакамітых сусветных красунь. Я мог-бы, чуеце, такую дастаць, якой і турэцкаму султану не дастаць... Але я сам сабе даў слова раз назаўсёды: Не! Выбяру сабе жонку толькі ў Сошмакене. Хачу мець прыстойную дзяўчыну-яўрэйку. Няхай сабе бедную. Гэта для мяне не бяда. Я азалачу яе. Абсыплю золатам яе бацькоў. Усю радню ашчаеліўлю. А яе, жонку, павязу да сябе ў Буэнос-Айрэс. Абстаноўлю ёй, чуеце, палац, як для прынцэсы. Не дазволю, каб на яе і пыліначка ўпала. Шчаслівa будзе жыць яна ў мяне—вы мне паверыце, ці не?—як іводная жанчына ў свеце! Ні аб чым яна ў мяне клапаціцца не будзе, апрача сваёй гаспадаркі, свайго мужа і сваіх дзяцей. Дзяцей аддам у навуку. Каго на доктара, каго на інжынера, каго на юрыста. Дачок адашлю ў закрыты яўрэйскі пансіён. Ведаеце куды?—у Франкфурт...

Пры гэтых словах прышоў кандуктар адбіраць білеты. Заўсёды (ужо каторы раз так здараецца) чорт прыносіць кандуктара якраз тады, калі ён не патрэбен. У вагоне пачынаецца шум, важданіна. Усе хватаюцца за свае чамаданы. Я—таксама. Я павінен вылезці з вагона. На гэтай станцыі ў мяне перасадка. Чалавек з Буэнос-Айрэса памагае мне ўвязваць мае рэчы. Пры гэтым мы працягваем нашу гутарку, якую перадаю тут дакладна, слова ў слова:

Чалавек з Буэнос-Айрэса:

— Ой, як шкада, што вы не едзеце далей. Не будзе з кім і слова сказаць.

Я:

— Што-ж рабіць! Справы важней за ўсё.

Чалавек з Буэнос-Айрэса:

— Добра сказана. Справы важней за ўсё. Баюся, што мне прыдзецца даплаціць да білета і ператарабаніцца ў другі клас. Я, дзякаваць богу, здолею і першым класам. У мяне, калі еду цягніком...

Я:

— Прабачайце мяне, што я вас перабіваю. У нас асталося ўсяго толькі поўхвіліны часу. Хацеў-бы я ў вас пра штосьці запытацца.

Чалавек з Буэнос-Айрэса:

— Напрыклад?

Я:

— Напрыклад? Я хацеў у вас запытацца... О, ужо свісток... Што ў вас, уласна кажучы, за справа? Чым вы гандлюеце?

Чалавек з Буэнос-Айрэса:

— Чым я гандлюю? Ха-ха-ха! Не малітвеннікамі, мой прыяцель, гандлюю, не малітвеннікамі!..

Я са сваім багажом ужо даўно выбраўся з вагона. Але перад маімі вачыма яшчэ стаяў чалавек з Буэнос-Айрэса з яго гладкай

задаволенай фізіяноміяй, з араматнай цыгарай у зубах, а ў маіх вушах усё яшчэ гучэла яго: „ха-ха“.

— Не малітвеннікамі, мой прыяцель, гандлюю, не малітвеннікамі!..

1909 *Канец гісторыі нумар пяць*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ШЭСЦЬ

### У першы дзень месяца элал

— Вы едзеце на „кірмаш“, а мы едзем з „кірмаша“. Я паплакаў ужо, а вы яшчэ толькі збіраецеся плакаць, дык трэба вам даць месца. Патурбуйцеся, будзьце ласкавенькі, падсуньцеся крыху бліжэй сюды. Вам нязручна сядзець.

— Так!

Гэтак за маёй спіной перагаварваліся два пасажыры. Адзін, значыцца, гаварыў, а другі час ад часу гумкаў яму без слоў.

— Удвух едзем. Дзед і баба. Вось гэта во—мая старая. На падлозе. Заснула. Наплакалася, бедная, і настагналася за ўсіх яўрэяў. Ні за што не хацела ўхадзіць з святога месца—з могільніка. Прыпала яна да магілы—не адарваць! Я ўмаляю яе—„Даволі, кажу. Сваімі слязамі, кажу, яе не ўваскрэсіш!“ Як да сцяны! Чаго тут дзівіцца? Такое няшчасце! Адзінай была. Зяніца вока. І ўдалася якая! Гожая—як малюнак! Разумніца. Прагімназію кончыла.. Ужо два гады, як памёрла. Вы, напэўна, думаеце, ад сухот? Здаровая была, моцная! Сама, сама на сябе рукі налажыла!

— Няўжо?

З гэтай гутаркі я разумею, пра які гэта „кірмаш“ ён апавядае. Мне прыходзіць на памяць, што цяпер пачатак месяца элал. Задумёны, восеньскі мілы месяц элал. Яўрэі едуць з аднаго горада ў другі да даўно памёршых бацькоў, да сясцёр і братоў, да родных дзяцей і да сваякоў—„пабачыцца“ і „пагутарыць“ з імі. Засмучаныя маткі, асірацелыя дочкі, адзінокія сёстры і наогул няшчасныя жанчыны прыпадаюць да дарагіх і любых магіл—да грудзей зямлі—плачуць, выліваюць гора з глыбінь сэрца, палягчаюць журбу пакутлівай, змучанай душы.

І неяк дзіўна! Я ўжо, дзякаваць богу, раз'язджаю не першы год і магу сказаць, што даўно ўжо не было ў нас такога багатага ўраджаю на магілы, як у сёлетні элал... Чыгунка, дзякаваць богу, бойка таргуе. Вагоны біткам набіты. Едуць яўрэі з пахмурнымі тварамі. Едуць яўрэйкі з чырвонымі набраклымі вачыма ды з бліскучымі насамі. Хто едзе на „кірмаш“, а хто—з „кірмаша“... На дварэ пахне восенню. На душы—завялая восень... Цябе агортвае нейкая туга, сумуеш па дому... Паміма волі прыслухоўваюся да гутаркі тых двух, што за маёй спіной:

— Можа думаеце, што гэта бяда з цяперашніх бед? Чорныя рубашкі, чырвоныя сцягі? Турма?.. Ані блізка! Ад гэтага мяне бог перасцярог. Шчыра кажучы, я сам сябе перасцярог. Як зяніцу вока! Жартачкі—адна-адзіная дачка, адна-адзіная мая ўцеха. А ўда-

-лася якая! Гожая—як намаляваная. Кончыла прагімназію! Я рабіў усё, што было ў маёй сіле: сачыў за ёй, куды яна ходзіць, з кім яна гаворыць, аб чым яна гаворыць, якія кніжкі чытае. „Дачушка,—кажу, — хочаш чытаць кніжкі? Чытай на здароўе! Толькі,—кажу,—хачу ведаць і я, што ты чытаеш“... Праўда, я ў гэтых справах, не вялікі майстар, але нюх у мяне, дзякаваць богу, ёсць. Я, калі зірну ў любую кнігу, нават у французскую, дык адразу скажу, чым яна пахне.

— Ну?!

— Я не хацеў, каб мая дачка забаўлялася з агнём—ці-ж я ў гэтым вінаваты? Можа думаеце, што я ёй у чым колечы перашкаджаў? Уздзейнічаў пагрозамі? Якраз, наадварот—добрым слаўцом і жартам: „Дачушка, кажу, няхай сабе калясо верціцца, як яно вярцелася. Ні я і ні ты, кажу, яго не спынім...“ Вось так, бывала, я ёй гавару. А яна, думаеце, што? Маўчыць! Ціхая галубка, залатое дзіцё! Злітаваўся бог святы: мінуў цяжкі час, адбылі, дзякаваць богу, усялякія гэтыя рэволюцыі і канстытуцыі. Няма больш чорных кашуль, чырвоных сцягоў, стрыжаных валос, бомб, ды іншага ліхалеცця. Зубы са страху ў мяне ледзь цэлымі засталіся. Жартачкі—такое страхоцце! Адзіная дачка, зяніца вока, удалая, кончыла прагімназію!

— Ага!

— Адным словам, адбылі, хвала госпаду, цяжкі час. Цяпер можна будзе падбаць і пра жаніха для яе. Пасаг?—Абы толькі літаслівы бог надаслаў добрага чалавека. І пачалася сумятня: сваты і жаніхі парог абіваюць. Прыкмячаю—з маёй дачкой нешта не ладнае дзееца. Думаеце, што? Нічога. Нельга сказаць, што яна была супроць замужніцтва—не. У чым-жа справа? А вось паслухайце. Пачынаю прыглядвацца, прынюхвацца—і даведваюся: чытаюць употайку нейкую кніжку. Не адна яна чытае, а ўтрох. Яна, і яе падружка, дачка нашага кантара, таксама ўдалая і таксама кончыла прагімназію, ды яшчэ трэці—нейкі хлапец з Навагарадка. Хочаце ведаць, што гэта за Навагарадоцкі хлапец? Зусім нецікавы хлапец. Нейкі нікчэмнік! Твар увесь у прышчыках, вочы хворыя, без расніц, хоць з залатымі акулярамі на носе. А сам ён брыдкі, гідкі—акурат жаба нейкая! Пры гэтым ён яшчэ надакучлівы, прапыра, чарвяк. Ведаеце, што азначае чалавек-чарвяк? Вось я вам растлумачу. Бываюць розныя людзі на свеце: бываюць людзі—быкі, людзі—аслы, людзі—сабакі, людзі—свінні. І бываюць людзі—чарвякі. Зразумелі?

— Угум!

— Як унадзіўся ў мой дом гэты чарвяк? Дзеля дачкі кантара. Ён—яе стрыечны брат. Адукоўваецца на аптэкарскага правізара, ці на юрыста, ці на „дантыраста“—чорт яго бацьку ведае! Я ведаю адно, што ён—мая загуба! Мне гэты хлапец у акулярах не спадабаўся з першага стрэла. Я пра гэта гаварыў сваёй жонцы. А жонка мяне супакойвае: „Мала, што табе здаецца!“ Я прыглядаюся, прыслухоўваюся—падазроным мне здаецца іхняе чытанне, што чытаюць яны ўтрох і іхняе зюзюканне, што зюзюкаюць яны ўтрох. Шчокі агнём успыхваюць. Вочы гараць... Вось я аднаго

разу і звярнуўся да сваёй дачкі: „Скажы мне, дачушка, што вы гэта чытаеце, з такім захапленнем утраіх?“ „Нічога, кажа, кніжку чытаем“. „Бачу, кажу, што кніжку, але якую кніжку?“ „А калі я табе скажу, дык ты зразумееш?—кажа яна. „Чаму, кажу не зразумею?“ Засмяялася яна, ды і кажа: „Гэта не тое, што ты думаеш... Гэта кніга называецца „Сані, роман Арці Башэс“. „Арці Башэс, кажу, быў калісьці ў нас сляпым меламедам. Ён даўно памёр“. Яе зноў бярэ смех. А я сабе думаю: „Ты дачушка, смяешся, а ў бацькі сэрца крывёй абліваецца!..“ Што я думаў? Ліханька яго ведае! А можа зноў пачаліся ранейшыя справуначкі?.. А, як вам здаецца? Я не заахвоціўся прачытаць гэту кнігу?

— І не дзіва!

— Не сам, канешне, а з дапамогай свайго чалавека. Майго прыказчыка. Дзяцюк—спрытны на ўсе рукі. Чытае па-руску—як ваду п'е. Аднаго разу ўначы сцягнуў я кніжку ў дачкі і аддаў яе прыказчыку: „На, Берл, пачытай, кажу, гэту кніжку, а заўтра раніцой ты мне раскажаш, пра што сказана ў гэтай кніжцы“. Ледзь я дачакаўся раніцы. З'явіўся Берл. Я—да яго: „Ну, Берл, што гэта за кніжыца?“ Мой Берл аж аблізваецца: „Ай, кніга!“—і шчэрыць зубы: „Усенькую ноч, кажа ён, не спаў, не мог, кажа ён, адарвацца“. „Вось як?“ А ну, і мне, кажу, раскажы. І я хачу дзівы дзіўныя паслухаць і патыліцу пачухаць“..

І мой Берл пачынае мне расказваць гісторыю... Што я вам скажу? Несур'ёзная дрындушка! Аж вушы вянуць ад гэтай ерундовіны: „Жыў-быў,—гаворыць ён,—нейкі малады чалавек. Звалі яго Сані. І быў ён не дурань на выпіўку і закуску... І сястру ён меў, па імені Ліда. Дык яна страшна любіла нейкага доктара, але зацяжарыла ад ахвіцэра... І студэнт яшчэ быў, звалі яго Юрай, той моцна закахаўся ў адну дзяўчыну-настаўніцу, па імені Красавіца. Дык вось аднаго разу ўночы катаецца гэта Красавіца ў чаўне, думаеце, са сваім жаніхом? Не! А з гэтым лотрай, што завецца Сані... „Вось гэта ўсё?“ „Пачакайце,—кажа ён,—гэта яшчэ не ўсё. Быў там і настаўнік Іван, дык ён пайшоў з п'янчугай Сані глядзець, як купаюцца голыя дзяўчаты...“ „Карацей,—кажу,—што гэтым усім хоча сказаць кніга?“ „Кніга,—кажа ён,—хоча сказаць, што п'янчуга Сані меў звычку іржаць, як жарабец, і нават да сваёй роднай сястры Ліды, калі вярнуўся аднаго разу ўночы, ён па...“ „Цьфу, кажу, на цябе! Годзе, кажу плявузгаць пра гэтага п'янчугу! Ты мне лепш кажы, у чым тут закавычка? У чым тут музыка?“ „Музыка, кажа ён, у тым, што Сані, хістаючыся, п'яны, накіраваўся з пустым чамаданам к сонцу. Ахвіцэр застрэліўся, і студэнт застрэліўся, і Красавіца атруцілася, а яўрэй Салавейчык там ёсцьтакі, дык той таксама павесіўся“. „Каб цябе, кажу, павесілі за кампанію на яловым суку!“ „За што вы мяне кляніцё?—пытаецца Берл.—Чым я тут вінават?“ „Не цябе, кажу, а Арцю Башэс“.., Але і Арці Башэс тут богу душой вінават. Я гэта кляну Новагарадоцкага чарвяка, каб ён галаву скруціў! Думаеце, што я не адважыўся аднаго разу пагаварыць на чатыры вочы з гэтай жабай з Новагарадка?

— Не можа быць!

— „Дзе ты, кажу, выкапаў такую чапуху?“ А ён наставіў на мяне акуляры: „Якую чапуху?“ А вось, кажу, байку Арці Башэс пра п'яніцу, кажу, які завецца Сані...“ „Сані, кажа ён, не п'яніца...“ „А хто-ж ён такі?“ „Ён,—кажа ён,—герой!“ „Чаму ён,—кажу,—герой? Ці-ж таму, што ён п'е гарэлку чайнымі шклянкамі, закусвае кажу, агурком ды іржэ, як конь?“ Як уз'ерапеніцца мой дзяцюк з Навагарадка! Аж акуляры зняў і таропіць у мяне чырвоныя вочы без расніц: „Вы, дзядзька,—кажа ён,—чулі звон ды не ведаеце адкуль ён. Сані,—кажа ён,—чалавек прыроды, чалавек свабоды. Сані,—кажа ён,—што думае, тое і гаворыць, а што хоча, тое і робіць!..“ І пайшоў, і пайшоў—чорт яго ведае куды: свабода, любоў. І яшчэ раз свабода. І зноў любоў... А пры гэтым ён выстаўляе наперад свае птушыныя грудзі, размахвае рукамі ды кіпяціцца, як прапаведнік на амбоне. Я сабе стаю, гляджу на яго ды думаю: „Божа літасцівы! Нейкая агідная жаба гаворыць пра такія справы?!.. А што было-б, калі-б я схапіў яго за чуб ды выкінуў за дзверы так, каб ён і касцей сваіх не сабраў?“ Але тут-жа у мяне мільганула новая думка: „Навошта? Ён дурны, як бот! Ці-ж было-б лепш каб ён гаварыў пра бомбы?..“

Хто гэта мог ведаць, што ёсць на свеце рэчы яшчэ горшыя за бомбы? Толькі куды пазней я ўцяміў, што дзеля нейкай чапухі я страціў такую слаўную дачушку, адзіную, зяніцу вока, а мая жонка ад гэтага ледзь не звар'яцела. Мне-ж самому ад сораму і згрызот прышлося распрадаць краму, і ўжо зараз два гады, як я ўцёк у іншы горад... Але я хапаю пятае праз дзесятае. Я вам лепш раскажу ўсё па парадку:

Пачалося ўсё гэта з аграрных хваляванняў...

Калі ў нашых мясцінах пачалася аграрная завіруха, мы зноў пачалі апасацца, каб гэта не кончылася яўрэйскім пагромам. І мы жылі ў несупынным страху. Але, калі бог хоча, дык зло ператвараецца на дабро. Напрыклад? Прыслалі нам з губерні полк салдат. Адразу стала ціха—адна любата! А горад тым часам ажыў праз гэты полк. Бо што можа быць лепш для нашага брата, як цэлы полк з фельдфебелямі, з фельчарамі, з афіцэрамі, з ротнымі і з камандзірамі?

— Што і казаць!

— Дык хто-ж мог ўгадаць, што дачка кантара раптам утаялюкаецца ў афіцэра ды заявіць, што пryме праваслаўную веру і выйдзе замуж за гэтага афіцэра! Што тады ў нашым гарадку дзеялася! Але будзьце спакойны. Дачка кантара не прыняла праваслаўнай веры і не выйшла замуж за афіцэра. Бо як толькі аграрная завіруха скончылася, полк пайшоў, а афіцэр, мабыць, ад вялікай спешкі забыўся развітацца са сваёй каханкай... Затое яна не забыла афіцэра, на гора сваім бацькам! Колькі-ж гэта яны, бедныя бацькі, нацярпеліся. Увесь горад кіпеў! На кожным кроку, паўсюды, толькі і гутаркі было, што пра дачку кантара. Пустазвоны малацілі языкамі. Хтосьці паслаў у дом кантара акушорку... У кантара запыталіся, якое імя ён думае даць свайму ўнуку?.. Хаця зу-

сім магчыма, што ўся гэта гісторыя была хлуснёй. Плеткары ў нашых гарадках могуць выдумаць куды горшае...

— О-го-го!..

— Пакуты іх абодвух, кантара і кантарыхі, кажу вам, былі вельмі цяжкія! Бо, сапраўды, чым яны, бедныя, былі вінаваты? Усё-ж ткі я строга-настрога загадаў сваёй дочцы, каб яна, раз-назаўсёды з гэтага часу—больш не вадзілася з іх дочкаю! А ў мяне калі сказана, дык сказана. Хоць яна ў мяне адзіная, але дачка павінна слухацца бацьку. А хто гэта мог западозрыць, што мая дачушка будзе з ёю сустракацца тайком, каб ніхто не ведаў! А калі я пра гэта даведаўся? Ужо тады, калі нельга было выправіць памылку!..

Раптам за маёй спіной пачуўся кашаль і крэхт спячай жанчыны. Чалавек, які расказваў гісторыю, змоўк, крыху пачакаў, пакуль яна супакоілася, і давай апавядаць тонам ніжэй, чым дагэтуль:

— Гэта было ў першую ранічную „малітву пра дараванне грахоў“. Памятаю як сягоння, як наш кантар заспяваў, бедны, гэту малітву—ва ўсіх нас дыханне стрымлівалася! Калі ён заспяваў: „Душа твая і цела—тварэнне тваё“, каменні павінны былі заплакаць. Ніхто-ніхто так не спачуваў яго бядзе, як я... Цяперашнія дзеці—толькі пакута для бацькоў!.. Кончыўшы малітвы, прыходжу дамоў, перакусіў я таго-сяго, узяў ключы, пайшоў на базар ды адчыніў свой склад. Прыказчыка няма. Чакаю поўгадзіны. Чакаю гадзіну. Няма прыказчыка. Урэшце, бачу—ідзе. „Берл, чаму так позна?“ „Быў у кантара“,—кажа ён. „Чаму гэта раптам у кантара?“—пытаюся. „Ці-ж вы не ведаеце, кажа ён, што здарылася з Хайкай?“... (Так звалі дачку кантара). „Што з ёю здарылася, з Хайкай?“—пытаюся. „Як жа, кажа ён, яна атруцілася!“

— Няўжо?..

— Як пачуў я гэта, дык адразу кінуўся дамоў. Маёй першай думкай было: „Што-ж цяпер скажа Этка?“ (Этка—мая дачка). Прыходжу дамоў да сваёй старэнькай: „Дзе Этка?..“ „Этка яшчэ спіць. А што?..“ „Як-жа гэта, кажу, ці-ж ты не чула, што Хайка атруцілася?..“ Не паспеў я гэта сказаць, як мая жонка абодвума рукамі схапілася за галаву: „О, гора мне! Разбойніца! Пякельніца!“ „За што? Хто? Каго?“ „Гэта ж, кажа яна, яшчэ ўчора Этка з ёй гуляла можа да двух гадзін ночы“... „Этка, кажу, з Хайкай? Што ты пляцеш? Як гэта можа быць?“ „Ой, кажа яна, лепш не пытайся! Я павінна была ёй уступіць. Яна мяне так умаляла, каб ты не ведаў, што яны сустракаюцца кожны дзень. Няшчасце здарылася! . Сэрца маё чуе бяду!..“ Так кажа мая старэнькая, ды кідаецца да Эткі ў каморку. Я за ёю. Бачу: мая старэнькая ўпала. Я—да ложка—„Этка, Этка!“ Дзе там? Крычы не крычы—яна ўжо не чуе! Эткі няма.

— Няма?

— Памёрла. Ляжыць на ложку мёртвая. На стале—бутэлечка і пры гэтым запісачка, напісаная яе рукой па-яўрэйску. Вельмі добра ўмела пісаць па-яўрэйску. „Мілыя і дарагія тата і мама,—піша яна ў запісцы,—прабачце мяне, за боль і ганьбу, што я

вам учыніла. Сто разоў прашу—прабачце мне,—піша яна. Мы далі слова адна адной—я і Хайка,—што мы памрэм у адзін дзень, у адну гадзіну, адной смерцю. Бо жыць адна без адной не можам... Я знаю, мае мілыя і дарагія бацькі, што я ўчыняю супроць вас вялікі злачынак. Я доўга хісталася. Але гэта суджана, і быць інакш не магло!.. Адну просьбу маю да вас, мае мілыя: пахавайце мяне побач з Хайкай. Бывайце здаровы, і забудзьце, што ў вас была дачка Этка"... Чуеце? Каб мы забылі, што у нас была дачка Этка!..

За маёй спіной пачуўся шолах, стогн і крэхт, а пасля—асіплы заспаны голас жанчыны:

— Аўрэмл! Аўрэмл?..

— Га, што Гітка? Выспалася? Будзеш піць чаю? Зараз будзе станцыя. Дзе чайнік? Дзе чай і цукар?

1909 *Канец гісторыі нумар шэсць.*

## ГІСТОРЫЯ НУМАР СЕМ

### Пустапашнік

Ведаеце, дзе самая найлепшая язда? Самая лепшая, самая ціхая і самая спакойная язда?

У „Пустапашніку".

Так багапольскія яўрэі празвалі цягнік вузкакалейнай дарогі, якая прарэзвае цэлы рад мястэчак: Багаполь, Гайсін, Тэплік, Неміраў, Хашчавата ды ім падобныя блаславёныя мясціны, па якіх нага прабацькі Адама ніколі не ступала.

Багапольскія жыхары, якія паўсюды карыстаюцца славай найлепшых жартаўнікоў, хваляць свайго „пустапашніка" перад усімі стрэчнымі-папярэчнымі.

Па-першае, вы не баіцёся, кажуць яны, што спозніцеся к цягніку. Калі-б вы не прыходзілі на станцыю, вы ўсё яшчэ застанеце цягнік. Па-другое, кажуць яны, чаго варта ўжо адно тое, што вам няма ніякай патрэбы біцца за месца. Вы можаце праехаць, кажуць яны, аграмадныя адлегласці адзін-адным, ляжаць расцягнуўшыся па-княжаску і высыпацца на ўсіх баках на любой лаўцы.

Усё гэта—чыстая праўда. Вось ужо каля трох тыдняў, як я езджу па гэтай лініі ў „пустапашніку". Еду, еду і еду, а ўсё стаю на адным месцы. Няйначай—нейкія чары! Але не думайце, бронь божа, што я вельмі шкадую. Наадварот. Я вельмі рады. Бо я там з'яўляюся відавочнікам такіх цікавых рэчаў, і слухачом такога мноства цікавых гісторый і падзей, ажна не ведаю, калі я ўсё гэта паспею ўпісаць у сваю памятную кнігу?

Вось хаця-б, калі, напрыклад, возьмем гісторыю пабудовы гэтай чыгункі. Гэта, бясспрэчна, дастойна апісання.

Калі з Пецербурга прыбыла вестка аб тым, што ў гэтай ваколіцы будзе праведзена чыгунка (Вітта быў тады міністрам)

яўрэі сказалі: „Хлусня! Навошта Тэпліку, Голцы, або Гайсіну запатрэбілася раптам чыгунка? Няўжо яны гадаваліся выключна на цягніках?..“ Так дзіву даваліся тамтэйшыя яўрэі. А што тычыцца багапольцаў—дык гэтыя, як заўсёды, сыпалі жартамі, як гарохам, кепікі строілі, паказвалі на далонь: „Калі вось тут вырастуць валасы“.

Крыху пазней, калі прыехаў інжынер і пачаў планаваць і вымерваць поле, людзі супакоіліся, змоўклі, а багапольскія брахунцы схавалі далоні. (У багапольцаў ёсць адна добрая рыса: калі выходзіць не па іхняму, яны блізка да сэрца не прымаюць: „Каляндар, кажуць яны, таксама не заўсёды ўгадвае...“). І народ з усёй ваколіцы валам валіў да інжынера з рэкамендацыямі і пратэкцыямі, лістамі і прашэннямі—каб ён ім даў работу. Яўрэям патрэбны заработкі. Тэпліцкія, Баршацкія, Гайсінскія і Багапольскія жыхары даведаліся, дачуліся, што пры пабудове чыгункі людзі багацеюць на падрадах. Доказам можа служыць хоць-бы Палякоў...*

Яўрэі-купцы, не толькі лесапрамыслоўцы і пастаўшчыкі каменняў, але нават скупшчыкі пшаніцы і скуры—кінуліся на чыгунку, як пчолы на мёд. Усе яўрэі сталі канцэсіянерамі, падрадчыкамі, „строіцелямі“ чыгункі .. „Нашыя Палякові“—такую мянушку ім далі багапольцы, і заўчас пачалі вылічваць, колькі ў каго вырасце кішэнь...

Словам, у той ваколіцы пачалася, можна сказаць, будаўнічая завіруха, свайго роду чыгуначная ліхаманка, якая ніводнага не мінавала. Спакуса на вялікія заработкі запаланіла людзей. Каму-ж гэта не хочацца стаць Паляковым у адно вокамгненне?

Змаганне і канкурэнцыя паміж канцэсіянерамі, падрадчыкамі і будаўнікамі чыгункі да таго ўзраслі, што работу, кажуць, вымушаны былі размяркоўваць па жрэб'ю. Хто меў ласку ў бога і сімпатыю ў інжынера, таму пападалася работа, а каму не пападалася работа, задавольваўся хоць доляй у чужых работах. А долю даць такому, хочаш-не хочаш, прыходзілася, бо ў праціўным выпадку пакрыўджаны тонка намякаў на тое, што і ён ведае, дзе знаходзіцца „Пейтарбарг“ і ведае адрас праўлення... Людзі закладвалі ліхвяру жончыны бранзалеты і свае шабасовыя сурдуты і прыняліся за праводку чыгункі. Было пушчана на ўзвей-вецер усё да апошняй капейкі. Усе пацярпеўшыя заказалі ўнукам і праўнукам сваім, каб асцерагаліся чыгунак, як агня...

Аднак, адно другога не тычыцца. Хоць жыхары гарадкоў сапраўды дайшлі да торбы і кія—але яны дабіліся свайго, кажуць яны: чыгунка ўсё-ж ткі была пабудавана. А хаця багапольцы, як нам ужо вядома, каранавалі свой цягнік пад імем „Пустапашнік“, аднак яны не могуць ім нахваліцца, і апавядаюць пра яго цікавейшыя гісторыі, дзівы дзіўныя.

Напрыклад, яны выхваляюцца, што за ўвесь час, як „пустапашнік“ стаў пустапашнікам, з ім не здарылася ніводнай катастрофы, якія здараюцца, скажам, на іншых чыгунках. У чым тут закавыка?

---

* Палякоў—яўрэй мільянер пры царскай Расіі, які разбагацеў ад падрадаў на пабудове чыгунак.

Закавыка, кажуць яны, тут зусім простая: хто едзе ціха, не ведае ліха. . А „пустапашнік“ сапраўды едзе ціха.

Багапольскія мудрацы, у чых вуснах муха вырастае ў пеўня, апавядаюць пра адну прыгоду, што адбылася якраз з іхнім родным багапольцам. Прыстойны багаполец, кажуць яны, выехаў на „пустапашніку“ з Багаполля да аднаго сваяка ў Хашчавату на свята абразання і прыехаў ужо на вяселле навароджанага.

І яшчэ, расказваюць яны, пра адну падзею: аднаго разу сваты назначылі агледзіны між бершацкай дзяўчынай і неміраўскім жаніхом. Іхняя сустрэча павінна была адбыцца на поўдарогі між гэтымі гарадамі. Але пакуль цягнікі даставілі іх на ўмоўнае месца, жаніх пасівеў як голуб, а дзяўчына паразгубляла па дарозе ўсе зубы. Сватанне дзеля гэтага не адбылося.

Але ведаеце, што я вам скажу? Не люблю богапольскіх пустамалотаў і цярпець не магу іхніх небыліц і выдумак. У мяне, калі апісваю падзею, дык толькі тое, што бачу сваімі вачыма, ці прынамсі, тое, што чую ад салідных камерцыйных людзей.

Між іншым, я сваімі вушамі чуў ад аднаго гайсінскага купца, што зусім нядаўна, усяго некалькі год назад, у восені ў вербны дзень, з „пустапашнікам“ адбылося няшчасце, можна сказаць, катастрофа, якая выклікала паніку па ўсёй лініі ды раскатурхала ўсю тамтэйшую ваколіцу. Катастрофа адбылася праз яўрэя і нейкага свяшчэнніка. Я вам зараз яе перадам асобнай гісторыяй тымі-ж самымі словамі, якімі я чуў яе сваімі вушамі ад гайсінскага купца. Люблю перадаваць тое, што сам чуў. Калі будзеце чытаць, самі пабачыце, што ўсё гэта чысцюткая праўда.

Гайсінскі купец не стане выдумляць.

*Канец гісторыі нумар сем*

1909

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ВОСЕМ

### Цуд вербнага дня

„Цудам вербнага дня“ імянуецца ў нас чыгуначная катастрофа, якая адбылася якраз у вербны дзень—у гошайна-раба, калі на небе раздаюцца падпісаныя панам богам цэтлікі пра лёс кожнага чалавека на зямлі на ўвесь год. Адбылася гэта гісторыя, уявіце сабе, як наўмысна, у нас у Гайсіне. Гэта значыць, не ў самым Гайсіне, а не даязджаючы пару станцый да Гайсіна. Тая станцыя завецца Собалеўка...

Вось такімі словамі гайсінскі купец, па ўсім відаць, вельмі прыстойны чалавек пачаў шырока разгортваць хроніку пра катастрофу на вузкакалейцы, дзе цягнік славіцца пад імем „пустапашнік“ (пра гэта напісана мною ў папярэднім уступе). А якраз таму, што гайсінскі купец апавядаў мне гэту гісторыю, едучы ў гэтым-жа спаквольным „пустапашніку“, а былі мы з ім у вагоне ўсяго толькі два пасажыры,—купец расшпіліўся, разлёгся, нібы ў дзеда пад яблыняй, і павольна сыпаў бліскучымі бісернымі словамі, песціў пры гэтым жываток, усміхаўся і відаць было, што ён меў вялікую

асалоду ад свайго ўласнага жывата і ад свайго ўласнага красамоўства.

— Вы ўжо едзеце, з божай славай, другі тыдзень у нашым „пустапашніку“. Дык напэўна паспелі ўжо выведаць усе яго норавы і капрызы? У яго такая натура: калі ўжо прыедзе на станцыю і спыніцца, дык забывае і пра „бывай здароў!“ Яму цяжка з ёй развітацца. Калі меркаваць паводле „расписания“, ён не мае права адпачываць больш, чым яму прызначана. Скажам, на станцыі Затковічы паводле падліку ён павінен стаяць акурат гадзіну і пяцьдзясят восем мінут. На станцыі Собалеўка, пра якую я вам расказваю, яму забаронена стаяць хоць на адну секунду больш за гадзіну і трыццаць дзве мінуты. Але дай бог яму гэтулькі барадавак, колькі лішняга часу ён прастойвае акамянелы і ў Затковічы і ў Собалеўцы. Ён стаіць там больш за дзве, а часамі больш за тры гадзіны. Усё залежыць ад таго, колькі часу адбіраюць у яго „манеўры“. А што ў нашага „пустапашніка“ называецца „манеўрамі“—вам таксама вядома. Распрагуць паравоз і ўся брыгада, кандуктар, машыніст і качагар усаджваюцца разам з начальнікам станцыі, з жандарам і тэлеграфістам жлактаць піва бутэльку за бутэлькай...

А што, скажам, робіць публіка, пасажыры, значыцца, пры такіх „манеўрах“? Вы ўжо бачылі, што яны робяць: мух ловяць, ледзь не вар'яцеюць. Хто пазяхае, а хто забіваецца ў кут і дрэмле, а хто прагульваецца па „пляцформе“, заклаўшы назад рукі і спяваючы ўпсўголаса.

Дык вось павінна-ж было адбыцца цікавае здарэнне на станцыі Собалеўка ў часе такіх манеўраў. Аднаго разу ў „гошайнараба“—у вербны дзень раніцой ля распрэжанага паравоза, заклаўшы рукі на спіну тупаецца нейкі ягомасць. Гэта быў якраз не пасажыр, а тутэйшы яўрэй, уявіце сабе, собалеўскі жыхар. Яму цікава—і ён дзівіцца на паравоз. Навошта, скажам, тупаецца тут собалеўскі жыхар? Ад няма чаго рабіць. У вербны дзень собалеўскі жыхар як след памаліўся, пахвастаў аб стол вярбой, як належыць, пайшоў дадому, пад'еў. На душы ні то свята, ні то будні. Яго цэтлік на небе ўжо богам усёроўна падпісаны на ўвесь будучы год, а работы дома няма—напярэдадні новага свята. Вось ён узяў лясачку ў рукі і павалюхаў сабе на вакзал—„встречать поезд“.

„Встречать поезд“, трэба вам ведаць, распаўсюджаны звычай па нашых мястэчках. Як толькі надыходзіць час прыбыцця поезда, вас як бы цягам цягне на вакзал. А можа каго-небудзь пабачыш. Каго пабачыць? Тэпліцкага яўрэя? Обадаўскую яўрэйку? Галаванеўскага папа? Падумаеш, якое гэта вялікае шчасце! Аднак-жа, ходзяць. Апрача таго, на той час цягнік быў у нас навіною. „Пустапашнік“ толькі што пачаў красавацца на нашых абшарах. Яшчэ было на што паглядзець і што паслухаць. Але як-бы сабе ні было, ці так, ці сяк—ля распрэжанага паравоза раніцою ў вербны дзень, пасля падпісання на небе цэтліка, стаяў ні то святочны, ні то будзённы, собалеўскі яўрэй з лясачкай у руках і дзівіўся на машыну.

У чым-жа тут справа? Мне здаецца, калі собалеўскі яўрэй стаіць і дзівіцца на распрэжаны паравоз, дык няхай сабе стаіць і дзівіцца на здароўе! Але, дзе там? Павінна-ж было здарыцца, як наўмысне, што сярод пасажыраў быў і поп. Уявіце сабе, галаванеўскі поп. З Галаванеўска, значыцца. Мястэчка такое ёсць— недалёка ад Гайсіна. Ад няма чаго рабіць і поп разгульвае па гэтай-жа пляцформе, таксама заклаўшы рукі. І ён спыніўся ля распрэжанага паравоза. І вось поп гэты звяртаецца да яўрэя:

— Паслухай жа ты, Юдка! Што ты тут такое дзіўнае ўгледзеў?

Яўрэй адказвае яму крыху накасавурана:

— Чаму-ж гэта Юдка? Я не Юдка, а Берка!

Поп не адстае:

— Няхай сабе Берка. Што ты тут робіш, Берка?

Яўрэй яму адказвае, не спускаючы вока з паравоза:

— Стаю вось і дзіўлюся цуду божаму. Гэта-ж з-за адной нейкай дробязі, з-за таго, што павернеш адзін нікчэмны шрубок сюды, другі шрубок туды—пачынае рухацца такая гвалтоўная махіна!

Тады поп задае яму запытанне:

— Адкуль-жа ты ведаеш, што калі пакруціць гэты шрубок сюды, а той туды, пачынае ісці машына?

Яўрэй яму на гэта ўпэўнена адказвае:

— Ці я гаварыў-бы, каб не ведаў?

Тут поп сыпнуў яму такія слоўцы:

— Ведаеш, як есці кугель. Во што ты ведаеш!

Гэта ўжо яўрэю запякло (Собалеўскія яўрэі хвараюць на амбіцыю). Ён ледзь стрымліваецца і звяртаецца да папа:

— А ну, бацюхна, можа патурбуешся на хвілінку ўлезці са мною на паравоз. Тады я табе ўсё як належыцца пакажу: чаму паравоз рухаецца і чаму спыняецца.

Тут ужо і поп уз'ерапеніўся не на жарт: як-жа гэта? Нейкі там яўрэйчык адважыцца растлумачваць яму прычыну, чаму паравоз ідзе і чаму спыняецца?! І поп крыкнуў да яго строгім голасам:

— Лезь, Гершка, на паравоз!

І яўрэй яго зноў папраўляе:

— Я не Гершка, я Берка!

Поп ад яго не адстае:

— Няхай сабе Берка. Палязай, Берка, на паравоз!

Яйрэй за словам у кішэнь не лезе:

— Што значыць, „палязай“? Навошта мне першаму лезці? Раней, бацюхна, ты сам палязай.

Тады кажа да яго поп з вялікай пампезай:

— Ты-ж мяне бярэшся вучыць, а не я цябе! Дык раней, сам палязай...

Слова за слова—абодвы, уявіце сабе, палезлі на паравоз. І собалеўскі яўрэй пачаў выкладаць папу „законы машынэрыі“. Асцярожненька крутануў адзін крант сюды, другі—туды, і не паспелі яны абодва слова прамовіць, як з жудасцю заўважылі, што паравоз крануўся з месца і—гайда!

Але цяпер, здаецца мне, ёсць магчымасць пакінуць на пару хвілін яўрэя з папом на раскілзаным паравозе. Няхай сабе катаюцца на добрае здароўечка! Мы тым часам пазнаёмім вас з гэтым вялікім адважнікам: хто-ж ён такі—гэты собалеўскі яўрэй, які меў такую мужнасць і адважыўся пацягнуць за сабою папа на распрэжаны паравоз?

Берл воцатароб—так, уявіце сабе, завуць собалеўскага яўрэя, пра якога я вам расказваю. Чаму воцатароб? Бо ён займаецца вырабам воцату. Ён выраблае найлепшы воцат у нашай ваколіцы. Гэта рукамесла яму перайшло, бачыце, у спадчыну ад нябожчыка бацькі. Але ён прыдумаў—так сам пра сябе Берл расказвае—такую ўдасканаленую машыну, якая дае першагатунковую эсенцыю. Каб меў час, кажа ён, дык мог-бы забяспечыць воцатам тры губерні. У чым-жа справа? Ён не адчувае ў гэтым патрэбы, кажа ён, не спяшаецца лезці няпрошана ў багачы. Такі ўжо чалавек наш воцатароб. Ніякай навукі не праходзіў, а ведае якія толькі хочаце тонкія работы і не на жарт кумекае ва ўсялякага роду машынах. Адкуль гэта ў яго бярэцца? „Трэба ўцяміць розумам, кажа ён, што воцаторобства мае тую самую лінію, што і бровар, а бровар, кажа ён, мае сваяцтва з заводам. А ўжо завод мае ў сябе бадай тую самую машынэрыю, што і цягнік. Завод, кажа ён, свішча і цягнік свішча. У чым між імі розніца? Галоўнае—тлумачыць Берл і пры гэтым размахвае рукамі—галоўная моц ад топкі. Ад топкі абаграваецца кацёл, кажа ён. Вада пачынае кіпець. Гэта самае штурхае вал. Калёсы пачынаюць вярцецца, кажа ён, на які бок хочаш. Хочаш направа—круці рэгулятар управа. Хочаш налева—круці рэгулятар улева. Гэта, кажа ён, прасцей простага!..“

Цяпер, калі я вас крыху пазнаёміў з гэтай Собалеўскай знакамітасцю, вы ўжо, здаецца мне, знаходзіце адказ на шмат запытанняў, і мы можам зноў вярнуцца да катастрофы.

Ці павінен я вам расказаць, якую трывогу і якое „гу-га“ ўзнялі пасажыры ў Собалеўцы на станцыі, калі запрыкмецілі, што распрэжаны паравоз шугануў удаль адзін адным, не ведаючы якая нячыстая сіла яго пагнала з месца стаянкі? Думаю, што вы гэта самі добра ўяўляеце. А які перапалох і якая завіруха пачалася ў „брыгадзе“. У першую хвіліну „брыгада“, уявіце сабе, нават уздагон пагналася за паравозам. Мабыць хацелі цапнуць яго ззаду. Але хутка агледзіліся, што лягчэй вецер злавіць. А на гэты раз паравоз, як наўмысна, пусціўся ў гон з небывалым імпэтам. Ад самага пачатку хаджэння „Пустапашніка“ па нашых гарадах і сёлах, яшчэ не было выпадку, каб паравоз так шпарка імчаўся. Брыгада, бедная, павінна была вярнуцца з пустымі рукамі і разам з жандарам і начальнікам яна склала пратакол, а пасля разаслала дэпешы па ўсім лініям: *„Пайшоў паравоз без машыніста. Прыміце меры. Тэлеграфуйце“.*

Якую паніку гэта дэпеша выклікала па ўсёй лініі—лёгка сабе ўявіць. Па-першае, не разумелі значэння самой дэпешы. Што гэта азначае: „Пайшоў паравоз без машыніста“? Як гэта паравоз можа пайсці без машыніста? А, па-другое, што азначаюць словы: „Прыміце меры“? Якія меры яшчэ можна прыняць, апрача дэпеш? І дэ-

пешы ляцелі без перапынку ва ўсе канцы. Тэлеграф працаваў пачартоўску. Усе станцыі перагаварваліся між сабой і страшная вестка хутка распаўсюдзілася, увяіце сабе, па ўсіх гарадах і мястэчках. І па ўсім краі, як вам сказаць, і начальства і насельніцтва пазгублялі галовы!

Напрыклад, у нас у Гайсіне падлічвалі ўжо колькі людзей загінула ад катастрофы. „Суджана бедным гэткая страхотная смерць! І калі? Як раз у вербны дзень, пасля падпісання на небе цэтлікаў на ўвесь будучы год!.. Мабыць, так было прызначана самім госпадам богам...“

Так гаварылі ў нас у Гайсіне, так гаварылі і па ўсіх кутках навокал Гайсіна. І не паддаюцца апісанню пакуты і страхі, якія мы ўсе перажылі! Аднак куды большыя былі пакуты і страхі няшчасных збянтэжаных пасажыраў, якія засталіся ў Собалеўцы на станцыі, нібы „атара авец без пастыра“. Пасярод дарогі раптам астацца без паравоза! Што-ж яны будуць рабіць? Вербны дзень... свята надыходзіць... Дзе-ж яны падзенуцца? Хіба святкаваць гэткае вялікае свята тут на станцыі? Горкі здзек над святам... І ўсе збянтэжаныя пасажыры збіліся ў адну кучу і давай абмазгоўваць сваё ўласнае становішча і становішча „беглеца“ (так яны паспелі ўжо назваць уцёкшы паравоз). Бог святы ведае, што яшчэ можа здарыцца з такім шлімазарнікам? Гэта-ж не хаханкі—ляціць на ўзвей-вецер па лініі такая махіна адна-адзінютка! Ці-ж можа быць, каб „бяглец“ не сустрэўся-б дзе-небудзь на рэйках лоб у лоб з „пустапашнікам“, які прэцца яму насустрач з Гайсіна праз Затковічы ў Собалеўку? Што будзе з тымі беднымі пасажырамі. І яркае выабражэнне ўжо нарысавала карціну сутычкі, жудаснай чыгуначнай катастрофы з усімі яе падрабязгамі. Людзі жыва бачылі перад сабой усё вялікае няшчасце: перавернутыя вагоны, раздрузганыя колы, сцятыя галовы, зламаныя ногі, адарваныя рукі і сплюшчаныя чамаданы, забрызганыя крывёй!.. Раптам дэпеша! Яна была атрымана з Заткавічаў. Што напісана ў дэпешы? У дэпешы напісана:

„*Толькі што з жудаснай шпаркасцю міма Затковіч праімчаўся паравоз з двума пасажырамі. Адзін з іх, здаецца, яўрэй, другі свяшчэннік. Абодвы размахвалі рукамі—не зразумела чаму. Паравоз накіраваўся ў Гайсін*“.

Тут толькі і пачалося галоўнае безгалоўе. Як-жа гэта так вышла? Яўрэй і свяшчэннік на ўцёкшым паравозе! Куды-ж гэта яны уцякалі? І дзеля чаго? І што за чалавек гэты яўрэй? Туды-сюды, адзін ад аднаго—даведаліся, разнюхалі, што яўрэй гэты якраз тутэйшы з Собалеўкі. „Хто?“ „Вы яго ведаеце?“ „Што за пытанне? Берл воцатароб з Собалеўкі!“ „Адкуль вядома, што гэта ён?“ „Вядома!“ Собалеўцы зямлю грызуць, што бачылі здалёк, як ён стаяў з папом ля распрэжанага паравоза і размахваў рукамі... Але што тут такое дзеецца? Якая цікавасць яўрэю воцатаробу стаяць з папом каля распрэжанага паравоза ды размахваць рукамі?..

Так доўга гутарылі, так доўга языкамі малацілі, аж пакуль гэта даўная вестка пра воцатароба, урэшце, даплыла увяіце сабе, да мястэчка, да Собалеўкі, значыцца. Хаця мястэчка Собалеўка

знаходзіцца не на такой ужо далёкай адлегласці ад станцыі Собалеўка, але пакуль падзея перадавалася ад аднаго да другога з вуснаў у вусны, у мястэчка, яна з кожнай хвілінай прымала ўсё новы воблік. Кожны дадаваў тое-сёе ад сябе, і пакуль яна дайшла да хаты воцатароба, гісторыя з папом атрымала такую дзікую форму, ажна бедная воцатаробіха мо' дзесяць разоў траціла прытомнасць. Прышлося нават выклікаць доктара. На станцыю сыпнула гэтулькі собалеўцаў, уявіце сабе, нібы зоркі ў небе. Яны ўзнялі такі гвалт, што начальнік станцыі вымушан быў аддаць распараджэнне жандару: ачысціць станцыю ад собалеўскіх яўрэяў... А ежэлі так, дык што нам тут рабіць? Хіба лепш пойдзем і зірнем, як жывуць і пражываюць яўрэй і поп на „беглецы", гэта значыць, на ўцёкшым паравозе?

Хаханькі сказаць—зірнуць, як яны жывуць на ўцёкшым паравозе! Хто можа знаць, што там адбылося? Нам прыходзіцца верыць собалеўскаму воцатаробу на слова гонару. А ён расказвае пра сваю вандроўку дзівы дзіўныя. Калі нават згадзімся з тым, што праўды ў яго словах толькі на палавіну, дык і гэтага хопіць. А паколькі я ведаю гэтага воцатароба з Собалеўкі, ён, здаецца мне, не такі чалавек, які любіць вочы туманіць.

— У першыя хвіліны пасля таго, як паравоз рушыў з месца,— апавядае Берл воцатароб,—ён бадай і не памятае, што з ім рабілася. Не так ад страху, як ад таго, кажа ён, што ён ніяк не мог зразумець, чаму гэта паравоз яго не слухаецца. Паводле чыстага розуму, кажа ён, пры другім павароце рэгулятара, паравоз павінен быў адразу спыніцца. А між тым ён яшчэ шпарчэй разагнаўся. Нібы дзесяць тысяч нячысцікаў падпіхвалі яго ззаду. Паравоз імчаўся, кажа Берл, з такім імпэтам, што тэлеграфныя кіі мітусіліся перад яго вачыма, як мухі. Закружылася галава. Падкашваліся ногі... Ужо крыху пазней, расказвае воцатароб, калі да яго вярнулася прытомнасць, ён успомніў, што паравоз мае тормаз, рычаг—стрымальнік такі, для спынення машыны пры патрэбе. Ёсць,—тлумачыць воцатароб рукамі,—ручны тормаз і ёсць паветраны тормаз. Такое невялічкае кола. Калі крутнеш кола як трэба, яно націскае на ручку, гата значыць на рычаг, і колы, самі сабой перастаюць круціцца. Ён зусім не разумее, кажа Берл, як такая простая рэч магла выслізнуцца з яго памяці. Дык вось ён кідаецца да кола і хоча крутануць яго, кажа ён, направа. Ажна раптам хтосьці цап яго за руку: „Стоп!"

Хто такі? Уявіце сабе—поп! Белы, як палатно. Ледзь-ледзь слова праказаць можа. „Што ты хочаш рабіць?"—пытаецца ў яго поп і ў таго дрыжаць жылкі і паджылкі. „Нічога! Хачу,—кажа воцатароб,—спыніць машыну"... „Сцеражы цябе бог-гасподзь,—перасцерагае яго поп.—Не смей больш дакранацца да машыны! А не паслухаешся—вазьму за каршэнь і так вышвыргну з паравоза, ажна ты забудзеш, што цябе звалі Мошка!"... „Я не Мошка, а Берка"— кажа Берл і хоча яму растлумачыць мудрае прызначэнне таго кола, што завецца тормаз. А той гаварыць не дае—заядлы поп! „Даволі табе круціць!—лемантуе поп.—Ты ўжо і так круціў і накручваў, каб цябе ўюном закруціла, распракляты сякі ды такі! Няхай-бы ты

лепш карак зламаў яшчэ да таго, як цябе віхрам нанясло на маё жыццё!“ Берл на гэта не мог змаўчаць: „Хіба, думаеш, бацюхна, што маё жыццё мне не так дорага, як табе тваё?“ „Тваё жыццё?—звяртаецца да яго поп з пампезай.—Якую цану мае сабачае жыццё?..“

Гэта ўжо ўзяло воцатароба за жывое, і ён задаў, кажа ён, папу гэтулькі дыхту, што той век памятаць будзе. „Па-першае,—кажа яму Берл,—і сабаку таксама трэба шкадаваць. Паводле нашага закону нельга, кажа ён, крыўдзіць і сабаку. Бо напісана: „Усё жывое любіць трэба“. Па-другое, ставіць яму Берл запытанне рубам: „Чым-жа, бацюхна, маё жыццё горшае ва ўладара неба і зямлі за жыццё другога? Ці мы, кажа ён, усе не паходзім ад адных бацькоў—ад Адама і Евы? І ці не вяртаемся мы ўсе ў адно месца, у тую-ж самую зямлю?..“ Гэта нумар два. І яшчэ вось што даводзіць яму Берл: „вось глядзі, бацюхна, розніцу між мною і табою. Я раблю ўсё, што ў маёй сіле, каб спыніць паравоз. Гэта значыць, што я дбаю пра нас абодвух. А ты да таго страціў чалавечую годнасць, што нават здолен узяць мяне ды скінуць з лакаматыва. Гэта значыць—забіць чалавека!..“ Ды яшчэ шмат такіх разумных слоў ён цвікамі ўбіваў у яго—у папа значыцца—і нагаварыў яму гэтулькі казанняў і страдзедаўскіх мудрых прымовак, кажа ён, ажна таго папа ледзь не схапіў паляруш.

Вось так гамонячы, яны пабачылі, кажа воцатароб, перад сабою станцыю Затковічы з начальнікам станцыі, з жандармам ды іншым людам. Вось тады яны абодва ўзяліся, ён і поп, значыцца, махаць рукамі. Але ніхто, мабыць, не зразумеў чаго яны хочуць. І яны вымушаны былі, кажа ён, ехаць далей—у Гайсін, значыцца. Едучы далей поп, кажа ён, шмат памякчэў. Але дакрануцца да машыны ўсёроўна не дазваляў. Ён яму толькі сказаў, поп значыцца: „Скажы мне, Лейбка, што я ў цябе запытаюся?“ А Берл яму напомніў: „Я не Лейбка, а Берка.“ „Няхай сабе Берка!—кажа поп.—Скажы мне, Берка, ці меў-бы ты ахвоту разам са мною скокнуць з паравоза ўніз на зямлю?“ Тады Берл у яго запытаўся: „Навошта. Каб мы абодва, крый божа, забіліся на смерць?“ На гэта поп робіць заўвагу: „Усёроўна заб'емся на смерць.“ Але Берл з ім не згодзен: „Адкуль гэта даведзена? Гэта зусім не доказ. Калі бог хоча—ой-ой-ой, што ён яшчэ можа з намі зрабіць!“ А поп да яго: „Напрыклад?“ Берл ахвотна адказвае: „А вось я скажу табе, бацюхна! У нас, яўрэяў, сёння дзень, які завецца „гошайна раба“—вербны дзень. У гэты дзень, кажа ён, на небе пастанаўляецца пра кожнага чалавека і пра кожнае жывое стварэнне на зямлі: каму жыць, а каму памерці. А калі хто памрэ—дык якой смерцю памрэ. Адно з двух, кажа ён: калі бог мне прызначыў, каб я памёр, дык, усёроўна пішы: „прапала“. Якая мне тады розніца—ці заб'юся выскокваючы з паравоза, ці мяне заб'е маланка? А, скажам, працягвае Берл, ідучы па роўнай і гладкай дарозе, нельга пасклізгнуцца, упасці ды памерці, калі толькі на гэта будзе божая воля? Аб што-ж тут ідзе? Сёння прызначана нам з неба, каб мы засталіся жыць. Дык навошта нам яшчэ скакаць уніз з паравоза?“

— Ды што вам сказаць?—апавядае далей Берл воцатароб з Собалеўкі—і пры гэтым божыцца такімі словамі, што паверыш і

бязбожніку.—Не памятаю, як гэта здарылася, але калі яны былі ўжо пад самым Гайсінам, здалёк паказаліся коміны Гайсінскага завода, паравоз раптам пачаў рухацца цішэй і цішэй, потым—зусім павольна, ледзь-ледзь, а урэшце заартачыўся, паравоз значыцца, і зусім спыніўся. У чым справа? Відаць, апал вышаў. А паравоз, кажа Бэрл воцатароб, калі выходзіць апал, тады вада ў ім перастае бурбоціць, колы перастаюць круціцца і—капут. Акурат, кажа ён, не раўнуючы, як чалавек, якому, скажам, перасталі-б даваць есці... Воцатароб, канешне, не стрымаўся і адразу сказаў папу: „Ну, бацюхна? А што я табе гаварыў? Калі-б бог гасподзь не прызначыў нам сягоння звышку жыць на свеце, хто яго ведае колькі часу яшчэ хапіла-б апалу і дзе мы апынуліся-б цяпер?“ Так сказаў яму Берл, а той стаяў, апусціўшы вочы ўніз і маўчаў. А што яму, беднаму, было гаварыць?..

Пазней ужо, кажа Берл, пры развітанні поп працягнуў яму руку з такімі словамі: „Бывай, Іцка.“

Берл выправіў яго памылку: „Я не Іцка, а Берка...“ Поп шчыра згадзіўся: „Няхай сабе Берка! Чуеш, Берка? Я зусім не ведаў, сказаў ён, што ты такі...“ Больш Берл ад яго ні слова не пачуў. Бо поп задраў у гару полы сваёй расы і давай бог ногі, назад, дамоў, мабыць, у Галаванеўск. А ён, Берл значыцца, адразу шугануў да нас у Гайсін. У нас ён, уявіце сабе, адсвяткаваў свята, праказаў малітву пра збаўленне ад пагібелі, пасля чаго можа тысячу разоў паўтарыў усю гісторыю ад пачатку да канца, кожны раз з новымі прыгодамі і новымі цудамі...

Кожны гаспадар паасобку стараўся зацягнуць собалеўскага воцатароба да сябе, імкнуўся мець яго гасцём пры святочным стале, каб з яго ўласных вуснаў пачуць цуд вербнага дня. І было ў нас, трэба вам сказаць, у нас у мястэчку, свята! Пэўна і нашы прадзеды ніколі так не святкавалі—свята над святамі!

*Канец гісторыі нумар восем*

1909

## ГІСТОРЫЯ НУМАР ДЗЕВЯЦЬ

### Вяселле без музыкаў

Здаецца, я вам абяцаўся апавядаць яшчэ пра адзін цуд, які здарыўся, уявіце сабе, зноў-ткі з нашым „пустапашнікам“. Пра тое, як, дзякуючы гэтаму-ж самаму „пустапашніку“, мы былі выратаваны ад вялікага няшчасця. Калі хочаце паслухаць гэту гісторыю, кладзіцеся, будзьце ласкавы, вось на гэтай лаве, а я лягу, значыцца, на той лаве. На гэтай лаве мне не зусім зручна гаварыць.

Так аднойчы звярнуўся да мяне ўсё той самы гайсінскі купец, з якім я зноў сустрэўся ў цягніку вузкакалейкі, што імянуецца ў нас „пустапашнікам“. А таму, што і на гэты раз, як заўсёды, мы былі ўсяго-на-ўсяго дзве персоны на ўвесь вагон, і было даволі цёпла, мы, перапрашаю, знялі пінжакі, расшпілілі камізэлькі і разлегліся, як пад дзедаўскай яблыняй. Ён на адной лаве і я— на другой. Ён павольна і разгорнута, як заўсёды, расказваў, а я

ўважліва слухаў, запісваючы ў памяці кожнае слова, каб пасля мець магчымасць перадаць гэтую гісторыю яго ўласнымі выразамі.

— І адбылося гэта ў тыя дні...—і было гэта, не тут кажучы пры канстытуцыі, калі пачаліся, значыцца, „высачайшыя міласці" для яўрэяў... Хаця ў нас у Гайсіне, трэба праўду сказаць, мы ніколі не баяліся пагромаў... чаму, думаеце, мы не баяліся? Проста таму, што ў нас не было каму біць. Уявіце сабе, добра пашукаўшы, і ў нас таксама знайшліся-б такія ахвотнікі, якія не адмовіліся-б крыху праветрыць нас, гэта значыць, добра паламаць нам косці. Вось вам доказ. Калі пайшлі чуткі па ўсёй ваколіцы пра гэтыя мілыя вестачкі, некалькі нашых-жа паганцаў-паноў напісалі пад строгім сакрэтам туды, куды трэба: „Так, как" было-б вельмі слаўна, каб, значыцца, і ў Гайсіне нешта падобнае ўчыніць, але няма з кім, „поэтому" яны „покорнейше" просяць, каб ім, на міласць божую, як найхутчэй выслалі „людзей"... І, уявіце сабе, не мінула і дваццаці чатырох гадзін, як прышло тэлеграфнае паведамленне, таксама ў вялікім сакрэце, што „людзі" высланы. Адкуль? З Жмерынкі, з Казаціна, з Раздзельнай, Папельнай і з іншых такіх мясцін, якія вызначаліся сваімі баявікамі... Вы запыталіся: якім гэта чынам мы даведаліся пра гэту святую таямніцу? На гэта ў нас, уявіце сабе, ёсць свая „крыніца". Ноях Тонканог яго імя. Што-ж гэта за асоба? Вы часта ездзіце па нашых мясцінах, дык трэба яго абрысаваць перад вамі так, каб вы былі з ім знаёмы.

Ноях Тонканог—чалавек, які рос больш у даўжыню, чым у шырыню. Бог адарыў яго парай ног, дык ён імі карыстаецца як мага. Ён заўсёды ў руху. Ніколі яго няма дома. У яго тысячы спраў—больш чужых чым сваіх. Яго ўласная справа—друкарня. Ён з'яўляецца ўласнікам адзінай друкарні ў Гайсіне. Таму ён знаём з „начальствам", мае справы з памешчыкамі, трымае сувязь з усімі чыноўнікамі і ведае ўсе іхнія сакрэты.

Вось з гэтай „крыніцы" мы даведаліся пра добрую вестачку. Гэта значыць, сама „крыніца" раструбіла пра гэта па ўсім горадзе. Разумеецца, кожнаму паасобку, ён шаптаў „сакрэт" на вуха: „Гэта я гавару толькі вам, другому не сказаў-бы..." Такім-жа чынам увесь горад з аднаго канца ў другі канец даведаўся, што сюды едуць хуліганы, што ўжо распрацавалі план, як біць яўрэяў. Ужо нават вядома, у які дзень і ў якую гадзіну будуць біць, і па якіх вуліцах пойдуць. Усё акуратна падлічана—як у календары.

На горад, уявіце сабе, апусцілася цёмная хмара. Людзей агарнула смяртэльнае страхоцце. А, думаеце, хто баяўся? Галоўным чынам—наша бедната. Дзіўныя людзі, чуеце, нашы беднякі! Дапусцім, багаты, калі баіцца такіх турбацый, дык гэта даступна для розума. Ён дрыжыць, каб яго, не дай бог, паміж альбо-рыбка, альбо-піпка, не пакінулі з торбай. Але-ж вы, патомственныя жабракі, чаго на вас так скура дрыжыць? Чым вы рызыкуеце? Дык не—баяцца! Каб вы толькі бачылі, як яны схапілі жанок і дзетак, кінулі-рынулі бэбахі на ўзвей-вецер і давай хавацца! Дзе звычайна, хаваюцца яўрэі? Хто ў чэснага рускага ў склепе. Хто ў натарыуса на гарэ. А хто ў дырэктара завода. Кожны знаходзіць

свайго знаёмага. Толькі я адзін, як бачыце мяне жывога, і не думаў хавацца. Я зусім не хачу перад вамі выхваляцца. Вось я вам растлумачу толкам, і вы тады самі ўцяміце, што я не цалкам памыляюся. Па-першае, дазвольце у вас запытацца: у чым загваздка пагромабоязні? Альбо—альбо... Адно з двух... А па-другое—я не ручаюся. Зусім магчыма, што і я схаваўся-б у гарачую страшную хвіліну. Толькі справа вось у чым: дзе схавацца? Чым я, напрыклад, упэўнены, што той-жа натарыус, альбо дырэктар завода ў самую трывожную гадзіну... Вы мяне разумееце?.. Апрача таго, як гэта наогул можна пакідаць цэлы горад на ўзвей-вецер? Уцячы—не фокус. Трэба-ж старацца як-небудзь бараніцца. Але, уласна кажучы—як могуць бараніцца яўрэі? К начальству!.. Пэўна і ў вас у горадзе таксама ёсць адна ўплывовая асоба, якая карыстаецца пашанай у начальства? У нас у Гайсіне ёсць адзін такі. Яго завуць Нахмен Касой. Ён—падрадчык, у яго падстрыжаная барада, аксамітная камізэлька. І свой уласны дом. А таму, што ён падрадчык і мае долю ў будаванні шашы, ён свой чалавек у іспраўніка. Яны часта п'юць чай за адным сталом. А іспраўнік быў у нас тады, уявіце сабе, якраз лагодны чалавек. Залаты чалавек! Напрыклад? Ён любіў хапу ў лапу. Але браў толькі з рук Нахмена Касога. Гэта значыць, браць дык ён браў у кожнага. Чаму не? Але ў Нахмена браў заўсёды з нейкай большай ахвотай. Усё-ж ткі рука падрадчыка... Разумееце?

Словам, пабачыліся мы з Нахменам, склалі спіс—і з'явіліся рублікі. Уявіце сабе, нішто сабе манета. Бо ў такі час як-жа можна прыйсці к пану, не сыпнуўшы ў руку так, каб аж пальцам горача стала?... Зразумела, што пан супакоіў нас адразу. Ён нам ясна заявіў, што можам спакойна спаць. Нічога благога не будзе... Здаецца, лепш і быць не можа? Але ў нас у Гайсіне ёсць „крыніца“, перад якой таямніц не існуе. Не доўга чакаючы, ён, Ноях Танканог, значыцца, пускае чутку па ўсім горадзе, як звычайна, кожнаму гаворыць па сакрэту, што ад цёплай кампаніі ўжо прыбыла дэпеша. Ён сам сваімі вачыма бачыў яе, божкаецца Танканог. Каб ён так бачыў на свеце ўсё добрае! Што ў гэтай дэпешы напісана? Напісана адно толькі слова: „Едзем!“ Прыкрае слова! Мы тады зноў—на паратунак да іспраўніка: „Кепска, панок!“ „Чаму кепска?“—пытаецца ён. „Ёсць дэпеша!“—адказваем яму. „Што напісана ў дэпешы?“—пытаецца ён. „Едзем,“—адказваем яму. Засмяяўся іспраўнік ды і кажа: „Вы—вялікія дурні, кажа ён. Я яшчэ ўчора, кажа ён, вытрабаваў з Тульчына сотню казакаў“... Пачуўшы „казакаў“—мы нібы нанова на свет нарадзіліся. Калі ёсць казакі, яўрэй робіцца адважнікам і гатоў усяму свету кукіш паказаць. Жартачкі—гэткая абарона!.. Уся справа толькі ў тым: якая з гэтых двух сіл з'явіцца раней—казакі з Тульчына, ці галаварэзы з Жмерынкі? Паводле чыстага розуму, раней павінны былі прыбыць галаварэзы, бо яны едуць цягніком, а казакі—на конях. Мы паклалі ўсе нашы надзеі на свайго „пустапашніка“. Яўрэі маюць вялікага бога. Ён у сілах учыніць такі цуд, каб „пустапашнік“ спазніўся хоць на некалькі гадзін! А гэта ў яго лічыцца звычайным здарэннем... бадай штодзённым з'яўшчам... Будзьце спакойны! На гэты раз з ім не зда-

рылася ніякага цуда. „Пустапашнік“, як наўмысне, імчаўся акуратна ад станцыі да станцыі—проста як гадзіннік. Можаце сабе ўявіць, колькі гэта ў нас адняло здароўя і якое страхоцце напала на горад, калі ўсе даведаліся, як заўсёды, ад „крыніцы“, што ўжо прыбыла дэпеша з апошняй станцыі, з Крыштапоўкі: „Едзем!“ І не адно толькі „едзем“, але „едзем“ з „ура“... Ясна, што гэта вестка была адразу перададзена ісправўніку. Усе кінуліся яму ў ногі, малілі-прасілі, каб ён не пакладаўся на тых казакаў, якія яшчэ віламі па вадзе пісана, калі прыедуць з Тульчына, а каб ён выслаў на станцыю хоць-бы паліцыю—купіў не купіў. Хоць-бы для блізіра. Няхай тыя не думаюць, што мы—безбацькоўцы, што ніякай абароны не маем. А калі ісправўнік не злітуецца, нам усім прыдзецца кідацца проста з моста... На гэты раз пана ісправўніка доўга прасіць не прышлося. Ён зрабіў гораду гэту ласку ды яшчэ з дармовым дадаткам. Напрыклад? Ён апрануўся ў поўную парадную форму і пры ўсіх ордэнах сваёй уласнай персонай выправіўся на чале ўсёй паліцыі на вакзал „встречать поезд“.

Аднак памешчыкі-паганцы са свайго боку таксама, уявіце сабе, не спалі ў шапку. І яны адзеліся ў парадныя формы таксама з ордэнамі, захапілі з сабою пару свяшчэннікаў і таксама выправіліся „встречать поезд“... Ісправўнік, праўда, запытаўся ў іх: „Што вы тут робіце?“ І яны адказалі яму гэтым-жа запытаннем: „А што ты тут робіш?“ Слова за слова, ісправўнік даў ім знаць, што іхнія турботы дарэмныя. Пакуль ён тут, кажа ён, ісправўнік у Гайсіне—пагрома не будзе. Так ён ім сказаў ісправўніцкім строгім голасам. Яны выслухалі яго з усмешачкаю і заявілі яму даволі нахабна: „Вось зараз мы гэта пабачым“... І як толькі яны гэта прамовілі, з аддалі пачуўся свісток паравоза. Ад гэтага свістка у нас усіх, уявіце сабе, мурашкі па спіне заёрзалі. Пасля першага свістка мы чакалі другога свістка, ужо з „ура“. А якія ўчынкі пачынаюцца пасля гэтага „ура“—мы ўжо чулі ад жыхароў іншых гарадоў... Аднак, што гэта за катавасія? Свістаць—ужо свісталі. Але чаму не чуваць гучнага „ура“?.. Анямелі яны там ці што? Што з імі там здарылася? Здарылася вельмі цікавая гісторыя. Толькі з нашым „пустапашнікам“ можа так здарыцца. Варта паслухаць!

Прыбыўшы на станцыю Гайсін, машыніст спыніў паравоз і пазаліхвацку злез на пляцформу і накіраваўся, як заўсёды, проста к буфету. Яго спыняюць, у яго пытаюцца: „Дзе, малайчына, вагоны?“—„Якія вагоны?“ „Ці не бачыш, што ты прыехаў толькі з паравозам без аніводнага вагона?“ Машыніст лупіць на іх п‘яныя бельмы і спакойна адказвае: „Ці гэта мая справа? Вагоны—справа брыгады!“— „А дзе-ж брыгада?“ Машыніст зноў па слова за пазуху не лезе: „А мне якія тут каўрыжкі? Кандуктар дае мне знаць свістком, кажа ён, што ён гатоў! А я яму то-ж свішчу, што і я гатоў! Вось і даю ход машыне. Двух пар вачэй, кажа ён, не маю, каб глядзець, што робіцца за маім азадкам“. Так ім адказаў машыніст. Паводле яго слоў, ён правільна зрабіў. Словам, шукай вінаватага ці не шукай, а блін вышаў комам. Ёсць „пустапашнік“, а няма пасажыраў. Вяселле, як той кажа, без музыкаў...

Як потым высветлілася, да нас ездзіла, можаце сабе ўявіць, даволі цёплая кампанія, адборныя малойчыкі, адзін у адзін, з вялікім наборам інструментаў: з даўбежкамі, з гумоўкамі ды з розным іншым баявым начыннем. Было ім усім мора па калена. Гарэлку бухалі ўсю дарогу і ад вялікай харобрасці, на апошняй станцыі, у Крыштапоўцы, нахлёбаліся ў дошку. Ды яшчэ напаілі ўсю брыгаду: і кандуктара, і качагара, і жандара, і нават сцэпшчыка. Забылі ўсе пра адну дробязь: прычапіць вагоны да паравоза. Паравоз, мабыць, пайшоў у свой звычайны час у Гайсін, а ўсе вагоны „пустапашніка“, уявіце сабе, засталіся на адпачынак у Крыштапоўцы. А дзіўна больш за ўсё тое, што ні цёплая кампанія, ні „брыгада“ не заўважылі, што яны стаяць на адным месцы. Яны ўсе, уявіце сабе, апаражнівалі бутэльку за бутэлькай да тых часоў, аж пакуль начальнік станцыі не агледзіўся, што паравоз пайшоў, а вагоны засталіся, як сіроты. Ён падняў трывогу! Толькі тут усе заўважылі памылку. Тады паднялася такая шура-бура, ажно адны адным ледзь галовы не паскручвалі. Хаўрузія галаварэзаў накідвалася на „брыгаду“, а „брыгада“—на хаўрузію. Доўгі час перастрэльваліся адборнымі лаянкамі. Урэшце парашылі ўзяць ногі ў ахапку, а бельмы ў храпку і махнуць у Гайсін, прабачайце пехтурою. Быў у іх іншы выбар? Так і зрабілі. Набраліся адвагі і рушылі паломнікамі па рэйках у Гайсін.

Уявіце сабе, яны чын-чынам шчасліва прыбылі ў Гайсін. Былі і заліхвацкія песні і „ура“,—усё па-людску. Але... Яны крыху спазніліся. Па вуліцах ужо гарцавалі на коніках казакі з Тульчына з дырыжорскімі лясачкамі ў пальчыках. Гэта значыць, з канчукамі ў руках. Ад усёй ганні хуліганаў у працягу некалькіх хвілін не засталося, уявіце сабе, ні звання. Паразбегліся, як мышы ў галодны год, растаялі, як снег вясною...

Ну, як вам здаецца: ці не зарабіў ён, наш „пустапашнік“, каб яго абсыпалі золатам з галавы да ног, альбо, прынамсі, увекавечылі яго ў апісанні?

*Канец гісторыі нумар дзевяць.*

1909

Пераклад з яўрэйскай мовы

**З. БЯДУЛІ.**

---

*Ів. Чымбург*

# ПАЭТ-РЭВОЛЮЦЫЯНЕР

*(Да 125-годдзя з дня нараджэння Н. П. Огарэва)*

Разам з вялікім рускім рэволюцыянерам А. І. Герцэнам, яшчэ юнаком, Огарэў у Маскве, на Вараб'ёвых гарах, даў клятву прысвяціць усё сваё жыццё барацьбе з прыгонніцкім рабствам, царскім самавольствам і дэспатызмам.

„Садзілася сонца,—піша Герцэн у сваім славутым творы „Былое і думы",—купалы зіхацелі, горад слаўся на неабсяжныя прасторы, пад гарой свежы вецярок павяваў на нас; пастаялі мы, пастаялі, абаперліся адзін на другога і, раптам абняўшыся, прысягнулі, на вачах усёй Масквы, афяраваць нашым жыццём на абраную намі барацьбу."

Гэтую клятву Огарэў разам з Герцэнам выканаў з гонарам. Жыццё Огарэва прыпадае на эпоху цёмнай ночы нікалаеўскай рэакцыі, якая наступіла пасля падаўлення дзекабрыстаў. „На паверхні афіцыйнай Расіі, „фасаднай імперыі" відаць былі толькі страты, лютая рэакцыя, бесчалавечныя праследванні, усугубленне дэспатызма" (Герцэн). Але пад гэтай дымавой заслонай чорнай рэакцыі, трапна названай Герцэнам „моравой паласой", дзе ўсякі акалотачны надзірацель—вярхоўны ўладыка, а вярхоўны ўладыка—каранаваны акалотачны надзірацель, паступова, але ўпэўнена ўздымалася сонца маладой Расіі. Нікалай І, жорстка распраўляючыся з рэволюцыйнай мысляй, дзекабрыстамі, думаў, што ён раз і назаўсёды пакончыў з рэволюцыйнымі ідэямі, з „звездой пленительного счастья". Але ён глыбока памыліўся. Дзекабрысты з вышынь сваіх шыбеніц разбудзілі „ребяческий сон души" новага пакалення, адкрылі новую фазу ў развіцці рэволюцыйнага руху ў Расіі, яшчэ больш прабудзілі нянавісць да самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу. З'явіліся новыя мужныя барацьбіты ў асобе Чаадаева, Белінскага, Герцэна, „якія ўмелі ламаць старое і ствараць новае, нягледзячы ні на якія перашкоды, наўпракі ўсяму" (Сталін, прамова на нарадзе работнікаў вышэйшай школы).

Да ліку гэтых новых барацьбітоў належаў і Нікалай Платонавіч Огарэў. Перадавая рэволюцыйная мысль у той час аб'ядналася ў гуртках Станкевіча і Герцэна-Огарэва. Хоць гурткі гэтыя былі розныя, але іх мысль была аднаго напрамку—напрамку барацьбы з царызмам і прыгонніцтвам. Але ў адрозненне ад гуртка Станкевіча,

дзе панаваў дух абстрактнай тэорыі, навеяны нямецкай класічнай ідэалістычнай філасофіяй, гурток Герцэна-Огарэва займаўся не толькі абмеркаваннем тэарэтычных і філасофскіх праблем, але, і ў гэтым галоўнае, абмеркаваннем жыццёвых пытанняў барацьбы з прыгонніцтвам, самадзяржаўем, на першы план высоўваючы пытанні жыцця, палітыкі. Чым займаліся ў гуртку? На гэтае пытанне дае адказ Герцэн. „Што мы, уласна кажучы, прапаведвалі, цяжка сказаць. Ідэі былі цьмяныя: мы прапаведвалі французскую рэвалюцыю, потым прапаведвалі—сен-сімонізм і тую-ж рэвалюцыю; мы прапаведвалі канстытуцыю і рэспубліку, чытанне палітычных кніг і сканцэнтраванне сіл у адным грамадстве. Але больш за ўсё прапаведвалі нянавісць да ўсякага насілля, да ўсякага самавольства".

Огарэў, як і яго друг Герцэн, ненавідзеў прыгонніцтва ўсім сэрцам, усёй душой. Барацьба супроць прыгонніцтва і самадзяржаўя, насілля і самавольства была яго стыхіяй. Огарэў належаў да той плеяды вялікіх людзей, якія напаўняюць нашы пачуцці нацыянальнай гордасцю. З'яўляючыся сынам буйнага памешчыка, Н. П. Огарэў змог парваць з інтарэсамі свайго класа, знайшоў шлях да разбурэння сцяны, якая аддзяляла яго ад народа, стаў на яго абарону ў імя яго вызвалення ад векавога прыгнёту.

Огарэў не толькі вёў прапаганду супроць прыгонніцтва, але і практычна ажыццявіў вызваленне сялян у сваім маёнтку пасля смерці бацькі. 18 сакавіка 1839 года ў вёсцы Верхні Белаомут, был. Разанскай губ., адбылася падзея, якая моцна ўсхвалявала прыгонных сялян. Прыехаў „сам" памешчык і склікаў сход. Гэта быў малады Нікалай Платонавіч Огарэў, які толькі што ўступіў ва ўладанне памесцямі бацькі. Сабраўшы сялян, Огарэў абвясціў ім аб сваім намеры вызваліць іх ад прыгоннай залежнасці. І гэты намер ён выканаў. Ён аддаў ва ўласнасць сялян усю зямлю. Белаомуцкія сяляне да гэтага часу шануюць з удзячнасцю памяць Н. П. Огарэва. У 1900 годзе па іх хадайніцтву было дазволена адкрыць у Белаомуце бібліятэку імя Н. П. Огарэва.

За прапаганду вызваленчых ідэй Огарэў падвяргаўся арышту і высылцы. У 1856 годзе яму ўдаецца вырвацца з нікалаеўскай імперыі, гэтай турмы народаў, названай Бялінскім „царствам матэрыяльнага жывёльнага жыцця". Ён паехаў за граніцу да свайго друга Герцэна. Там яны шырока разгарнулі рэвалюцыйную агітацыю. Разам з Герцэнам Огарэў выдае „Полярную звезду" і „Колокол", якія адыгралі вялікае значэнне ў гісторыі вызваленчага руху ў Расіі. У „Полярной звезде" Огарэў прадаўжае традыцыі дзекабрыстаў. „Колокол",—піша Ленін,—стаў гарой за вызваленне сялян. Рабскае маўчанне было парушана".

Разгорнутая Герцэнам і Огарэвым у „Колоколе" праграма дзеяння ў сваёй аснове была праграмай барацьбы за амерыканскі шлях развіцця, за рэвалюцыйна-дэмакратычны ў процівагу прускаму, згодніцкаму ліберальнаму шляху. Ленін указвае, што пытанне аб рознасці інтарэсаў ліберальнай буржуазіі і рэвалюцыйнага сялянства ў рускай буржуазнай рэвалюцыі, г. зн. пытанне аб ліберальнай, згодніцкай і рэвалюцыйна-дэмакратычнай тэндэнцыі было пастаўлена „Колоколом" Герцэна.

Ненавідзячы самадзяржаўна-прыгонніцкі лад, Огарэў з усёй уласцівай яму страснасцю любіў народ. Гэту нянавісць да рабства і любоў да народа Огарэў асабліва ярка выказаў у сваёй вядомай паэме „Юмор“.

Змагаючыся за інтарэсы народа, за новую Расію, ён глыбока верыў у сілы рускага народа. Гэтую веру ў сілу народа Огарэў выказаў у сваіх „Письмах к отечественнику“: „Ваш выходны пункт погляду—роспач, мой—надзея. Вы не верыце ў сілы рускага народа, таму што вы іх не бачыце, я ў іх веру, таму што бачу іх“.

Але ў Огарэва былі хістанні, адступленні ад дэмакратызма да лібералізма. Аднак, пры ўсіх хістаннях, пры ўсіх зігзагах, у ім усё-ж перамагаў дэмакратызм. Да яго цалкам адносяцца словы Леніна, сказаныя аб Герцэне, „дэмакрат усё-ж браў у ім верх“. Огарэў падобна Герцэну „змагаўся за перамогу народа над царызмам, а не за зделку ліберальнай буржуазіі з памешчычым царом“ (Ленін, том XV, „Памяці Герцэна“).

Трэба лічыць вялікай заслугай Огарэва тое, што ён змог у царскім маніфесце 19 лютага 1861 года разглядзець яго палітычную сутнасць. Ніякіх ілюзій адносна „вызвалення сялян“ у яго не было. Наадварот. У гэтым „вызваленні“ ён убачыў далейшае закабаленне сялянства пры падтрыманні „вярхоў“, ліберала ў. Огарэў ясна бачыў, што ўрад і „вярхі“ нікольві не зацікаўлены ў сапраўдным вызваленні сялянства ад прыгоннага права.

„Ці спадзявацца на меншасць дваранства і адукаваных людзей. Але іх такая непрыкметная жменя, што іх уплыў нікчэмны і не выходзіць з межаў маленькай літаратуры, г. зн. палепетаўшы пра што-небудзь, сціхае на старонках непрачытаных журналаў. А большасць дваранства—гэта зноў тая-ж неадукаваная, вычасаная і невычасаная, умытая і неўмытая маса, сякучая, грабячая, абманваючая, з поўнай адсутнасцю этычных пачаткаў і годнасці. Урад. Але ўрад не больш як прадстаўнікі чыноўніцтва, значыць натуральны заступнік усяго б'ючага, грабячага, усякай няпраўды, усякага насілля“.

Такім чынам, ніякіх надзей на вызваленне сялян „зверху“ у Огарэва не было. Напярэдадні „рэформы“, у артыкуле „На новый год 1861“ ён пісаў: „Як будзе прынята народам гэтае вызваленне?.. Якое-б яно ні было—у першы дзень яно прымецца з захапленнем. Не адзін шкалік адкупнога віна разап'ецца ў гонар свабоды... Але дзень пройдзе—усе азірнуцца і ўбачаць, што і віно падробленае, і свабода падробленая. Настане час страшэннага маўчання... Сяляне ўбачаць, што яны такія-ж прыгонныя як былі... А між тым, слова свабода—выляцела з клеткі, і яго зноў у клетку не схаваеш“.

Пасля рэформы Огарэў самым катэгарычным чынам сцвярджае, што абвешчаная свабода мае фармальны характар, што прыгоннае права не адменена, што замест рэальнага вызвалення сялян абвешчана фікцыя, „статут новага рабства“.

„Старое прыгоннае права заменена новым. Наогул прыгоннае права не адменена. Народ царом ашукан“.

Калі раней Огарэў ускладаў некаторыя надзеі на ўрад, дык пасля рэформы, у сувязі з хваляваннем сялян і жорсткім падаў-

леннем іх царскім урадам—гэта надзея на ўрад рухнула канчаткова і ён заклікае да разрыва з урадам, бо „ад урада чакаць няма чаго; станемце на свае ногі“.

„Перамены зверху аказаліся хлуснёй; застаецца толькі рабіць перамены знізу“—такі вывад Огарэва.

„Перамену, ці, лепш сказаць, пераварот можа зрабіць толькі той, хто яго сапраўды хоча, каму ён сапраўды складае патрэбу, г. зн. народ, большасць, маса. Інакш—гэта выйдзе зман“.

У сувязі з гэтым Огарэў змяняе свой погляд і на пытанне рэволюцыі.

Калі раней, да рэформы ён развіваў мысль аб мірным пераўтварэнні грамадства, дык цяпер ён прыходзіць да вываду, што толькі рэволюцыя можа прынесці вызваленне сялянству, даць яму рэальную свабоду. Ён заклікае народ да рэволюцыі.

„Сільнае самадзяржаўе,—пісаў Огарэў у ліпені 1863 года,— ніякай вызваленчай рэформы ствараць не захоча, а бяссільнае самадзяржаўе ніякай вызваленчай рэформы ствараць не можа... Яно павінна адмовіцца ад свайго існавання альбо загінуць пад націскам грамадскіх сіл“.

Для Огарэва было ясна, што ўрад на шлях самаліквідацыі не пойдзе і таму ён павінен быць змецены народным паўстаннем, народнай рэволюцыяй.

Такім чынам рэформа канчаткова развеяла ліберальныя ілюзіі Огарэва, ён стаў на пункт погляду рэволюцыйнай сялянскай дэмакратыі.

Огарэў з Герцэнам не толькі заклікалі да барацьбы супроць самадзяржаўнага прыгонніцкага ладу, яны самі змагаліся з ім „шляхам звароту да мас з вольным рускім словам“ (Ленін, „Памяці Герцэна“). Слова гэтае прагучала як заклік трубы і са старонак публіцыстыкі і са старонак паэзіі Огарэва.

Аднак, змагаючыся за дэмакратычны шлях развіцця, Огарэў падобна Герцэну, не пакідае надзеі на ролю сельскай абшчыны ў Расіі, у якой ён бачыў асноўную форму пераходу сялянства да соцыялізма, мінаючы шлях капіталістычнага развіцця. Ва ўсім гэтым вучэнні Огарэва аб „рускім сельскім соцыялізме“, аб самабытным шляху развіцця Расіі, з'явіўшымся заснаваннем народніцтва—няма ні аднаго грана соцыялізма, як і ва ўсім народніцтве. Але ў форме гэтага „рускага сельскага соцыялізма“ ён абвясціў барацьбу прыгонніцтву, за поўнае знішчэнне царска-памешчыцкай улады.

Шлях філасофскага развіцця Огарэва ішоў ад ідэалістычнай філасофіі Гегеля да матэрыялізма Фейербаха. Огарэў стаяў на ўзроўні перадавой філасофскай мыслі Заходняй Еўропы. Ні хто-ж іншы, як ён, у 1842 годзе перадаў Герцэну, які знаходзіўся тады ў Ноўгарадскай ссылцы, кнігу Фейербаха „Сутнасць сялянства“, прачытаўшы якую, Герцэн адразу стаў на пункт гледжання матэрыялізма.

Н. П. Огарэў увайшоў у гісторыю рускага рэволюцыйнага вызваленчага руху не толькі як рэволюцыянер, друг і саратнік Герцэна,

але як і паэт. Сваю радаслоўную Огарэў, як паэт, вядзе ад рэвалюцыйнай паэзіі Пушкіна, Рылеева і Лермантава.

Огарэў называе Пушкіна родапачынальнікам і вышэйшым прадстаўніком рускай літаратуры XIX стагоддзя. Ён высока цэніць рэвалюцыйную паэзію Пушкіна, Рылеева і Лермантава як паэзію, насычаную палітычным зместам і заклікаючую да барацьбы з самадзяржаўна-прыгонніцкім ладам, апяваючую свабоду.

Мы были отроки. В то время
Шло стройной поступью бойцов—
Могучих деятелей племя,
И сеяло благое семя
На почву юную умов.

Везде шепталися. Тетради
Ходили в списках по рукам:
Мы, дети, с робостью во взгляде,
Звучащий стих, свободы ради,
Таясь, твердили по ночам.

Бунт, вспыхнув, замер. Казнь проснулась.
Вот пять повешенных людей...
В нас сердце молча содрогнулось
И путь означен жизни всей.

Рылеев мне был первым светом...
Отец! По духу мне родной—
Твое названье в мире этом
Мне стало доблестным заветом
И путеводною звездой.

Мы стих твой вырвем из забвенья
И в первый русский вольный день,
В виду младога поколенья,
Восстановим для поклоненья
Твою страдальческую тень.

Гэтак характарызуе вобраз і ролю Рылеева ў развіцці рэвалюцыйных ідэй у Расіі Огарэў у сваім вершы „Памяти Рылеева“.

Огарэва цкавалі ўсе рэакцыйныя сілы, скажаючы і зацямняючы яго значэнне як рэвалюцыянера, як змагара за свабоду. Буржуазныя гісторыкі літаратуры—Айхенвальды, Катлярэўскія і Гершэнзоны выключалі Огарэва са спісаў прадстаўнікоў рускай паэзіі, залічаючы яго паэзію ў „чыста суб'ектыўную“, пазбаўленую канкрэтнасці, „паэзію сэрца“, у паэзію „лятуценнай“, сумна настроенай душы. Уся гэтая ацэнка буржуазных гісторыкаў нічога агульнага не мае з сапраўдным зместам паэзіі Огарэва.

Вялікі рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, ідэолаг сялянскай рэвалюцыі Н. Г. Чэрнышэўскі горача вітаў паэзію Огарэва. „Холадна будуць тады (праз 20—30 год) успамінаць, ці наогул не будуць успамінаць пра многіх з паэтаў, якія здаюцца нам цяпер вартымі панегірыкаў, але з любоўю будуць вымаўляць імя Огарэва і пазабыта яно будзе можа тады, калі забудзецца наша мова“ (Современник“, 1856 г., т. IX, стар. 2).

Станоўчую ацэнку паэзіі даваў і Дабралюбаў.

Огарэў выступае для Чэрнышэўскага і Дабралюбава не як пявец безнадзейнага смутку, роспачы, суму, а як баец-рэвалюцыянер,

з „найбадзёрай, разам найспакойнай і рашучай мовай, у якой чуецца не палахлівасць тэорыі перад жыццём, а доказ, што розум можа ўладарыць над жыццём, і чалавек можа сваё жыццё пагадзіць з сваімі пераконаннямі“ („Современник“, стар. 8).

Нягледзячы на нáлічча ў паэзіі Огарэва, асабліва першага перыяду, „пакут унутранай барацьбы“ (Чэрнышэўскі), яна займае ганаровае месца ў развіцці рэволюцыйнай паэзіі ў Расіі. Огарэў пісаў, што свой „робкий стих“ ён „чертил тревожною рукою“. Але гэты „робкий стих“ не быў вершам роспачы. У жыццё Огарэў увайшоў з мужнай душой (гл. яго верш „Друзьям“).

Огарэў—лірычны паэт. Але яго лірыка насычана рэволюцыйным зместам, канкрэтная. Усе вершы Огарэва поўны нянавісцю да самадзяржаўя і прыгонніцтва. Яго паэзія насычана заклікам да свабоды, да мужнасці, да рэволюцыі, верай у сілы мас. Узяць хаця-б такія лірычныя вершы, як „Старый дом“ і „Памяти друга“, звернутыя да Герцэна, як вершы, прысвечаныя дзекабрыстам „Я видел вас, пришельцы дальних стран“—усе яны напоўнены мысляй паэтаграмадзяніна.

У вершы „Совершеннолетие“, прысвечаным Граноўскаму, Огарэў заяўляе, што ён, покуль жывы, будзе з гарачым пачуццём падкапваць свет прыгнятальнікаў, ашуканства і рабоў.

Іменна за ажыццяўленне свабоды Огарэў заклікаў да барацьбы з самадзяржаўем, прыгонніцтвам.

У сваім выдатным вершы „Свобода“ Огарэў гаворыць:

И все то мне грезится—снег и равнина,
Знакомое вижу лицо селянина,
Лицо бородатое, мощь исполина,
И он говорит мне, снимая оковы,
Мое неизменное. вечное слово:
Свобода! Свобода!
Но если-б грозила беда и невзгода,
И рук для борьбы захотела свобода,—
Сейчас полечу на защиту народа,
И если паду я средь битвы суровой,
Скажу, умирая, могучее слово:
Свобода! Свобода!

Калі царскі ўрад асудзіў паэта-рэволюцыянера М. Л. Міхайлава на катаргу, то Огарэў, пасылаючы яму словы прывітання і салідарнасці, разам з тым заклікае яго да бадзёрасці і мужнасці. Гэты заклік быў не толькі звернуты да Міхайлава, але і да ўсіх рэволюцыянераў таго часу.

У сваім выдатным вершы „Сон“ Огарэў з рэволюцыйнай страсцю выказвае мару аб хуткім крушэнні самадзяржаўя:



Я бросился к царю и дланью дерзновенной
С его главы сорвал златой венец
И бросил в прах, и растоптал на части.
„Довольно“—я вскричал,—погибни наконец
Вся эта ветошь ненавистной власти“.

У вядомай паэме „Юмор“ Огарэў са здзіўляючай сілай выражае ўпэўненасць ва ўрачыстасці праўды і свабоды.

У першых раздзелах гэтай паэмы Огарэў падобна Лермантаву праклінае забойцаў вялікага паэта А. С. Пушкіна:

... Паэта мучить и терзать,
Губить со злобою холодной,
На тело мертвое не дать
Пролить слезу любви народной,—
Что-ж можно вам еще сказать,
Что-б было хуже? Благородный,
Священный гнев в душе моей
Кипит—чем скрытей, тем сильней.

Тут, як у вершы „На смерць паэта", Огарэў выказаў агульны смутак усёй перадавой Расіі, страціўшай свайго вялікага паэта, і пачуццё ненавісці да забойцаў паэта.

Уся паэтычная дзейнасць Огарэва падпарадкавана палітычнай. Па меры вызвалення ад лібералізма ў палітыцы і пераходу на пазіцыі дэмакратызма, у Огарэва адбываецца ідэйная эвалюцыя і ў паэзіі. Яна ўсё больш і больш набывае завойстраны палітычны, рэвалюцыйны характар, усё менш прыкметнымі становяцца элементы „гамлетызма" і рысы „лішняга чалавека".

Баявая палітычная паэзія Огарэва насычана верай у перамогу народа, ва ўрачыстасць рэвалюцыі.

Огарэў адыграў вялікую ролю ў падрыхтоўцы рускай рэвалюцыі. Ён разам з Герцэнам прысвяціў усё сваё жыццё справе вызвалення народа ад векавой кабалы, эксплаатацыі.

Нягледзячы на дзесяцігоддзі, якія аддзяляюць нас ад Огарэва, яго рэвалюцыйная прапаганда не можа быць забытай. На рэвалюцыйнай паэзіі Огарэва наша моладзь будзе вывучаць мінулае Расіі, будзе вучыцца нянавісці да ворагаў народа і любіць сваю цудоўную краіну.

„Ушаноўваючы Герцэна,—пісаў Ленін,—пролетарыят вучыцца на яго прыкладзе вялікаму значэнню рэвалюцыйнай тэорыі; вучыцца разумець, што беззаветная адданасць да рэвалюцыі і зварот з рэвалюцыйнай пропаведдзю да народа не прападае нават тады, калі цэлае дзесяцігоддзе аддзяляе пасеў ад жатвы" („Памяці Герцэна", том XV).

Гэтыя словы Леніна цалкам стасуюцца і да рэвалюцыйнай прапаганды Огарэва, які змагаўся за вызваленне народа ад прыгнёту і аддаў сваё жыццё за яго шчасце.

---

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 22-792.**

# ЗМЕСТ







Рэдактар М. Лынькоў

Здана ў набор 1?/XII—38 г. Падпісана да друку 25/I—39 г. Аб'ём 11 друк. арк.
Знакаў у друк. арк. 52.000. Папера 62×94$^{1}/_{16}$. Тыраж 4.000+200 экз.
Зак. № 4483 Уп. Галоўліта БССР № Ш 36.

Друкарня імя Сталіна. Менск, Дом Друку.

